ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАРТЫЙНЫ
ШТОМЕСЯЧНІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ XI

№ 6
Чэрвень 1937 г.





ЗМЕСТ



Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.,
ЦК КП(б)Б, пакой 7.
Тэлефон рэдакцыі па камутатару
20000, даб. 50.

# ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ПАВЕДАМЛЕННЕ АБ ЧАРГОВЫМ ПЛЕНУМЕ ЦК ВКП(б)

Днями закончыўся чарговы Пленум ЦК ВКП(б). Пленум разгледзеў праект «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР» і ўхваліў яго.

Далей Пленум разгледзеў пытанні: а) аб паляпшэнні насення зернавых культур, б) аб увядзенні правільных севазваротаў і в) аб мерах паляпшэння работы МТС.

Пленум ухваліў праект пастановы СНК СССР аб мерах па паляпшэнню насення зернавых культур.

Унесены камісіяй Наркамзема СССР і Наркомсоўгасаў СССР праект увядзення правільных севазваротаў Пленум ухваліў у асноўным для апублікавання ў друку і ўсебаковага яго абмеркавання з тым, каб пытанне разгледзець паўторна на наступным Пленуме ЦК.

Прапановы НКЗ СССР аб паляпшэнні работы МТС Пленум перадаў, як матэрыял, на абмеркаванне мясцовых партыйных і совецкіх арганізацый.

---

# ЦК ВКП(б)

## *Таварышу СТАЛІНУ*

XVI з'езд комуністычнай партыі большэвікоў Беларусі шле Вам, нашаму любімаму правадыру, настаўніку і другу, сваё палкае большэвіцкае прывітанне.

Пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і асабіста Вашым, дарагі таварыш **Сталін**, большэвікі Беларусі прышлі да свайго XVI з'езда яшчэ больш згуртаванымі вакол ленінска-сталінскага ЦК ВКП(б).

Беларуская Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка дабілася новых велізарных перамог у соцыялістычным будаўніцтве.

Разам з ўсім Савецкім Саюзам, сваімі велізарнымі поспехамі Беларуская Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка дэманструе трыумф ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, несакрушымае брацтва народаў Савецкага Саюза, гарачую любоў і беззаветную адданасць свайму вялікаму правадыру, сваёй большэвіцкай партыі, сваёй соцыялістычнай радзіме—Саюзу Савецкіх Соцыялістычных рэспублік.

Заклятыя ворагі народу—контррэволюцыйныя трацкісты, правыя, нацыяналісты ўсіх масцей, агенты япона-нямецка-польскага фашызма, прабавалі адарваць Савецкую Беларусь ад СССР, рэстаўраваць капіталізм, ператварыць нашу багатую, квітнеючую і шчаслівую краіну ў калонію польскага фашызма.

Мы, большэвікі Беларусі, да канца адданыя справе Леніна—Сталіна, прыкладзем усе свае сілы, каб да канца выкрыць і дабіць трацкісцка-правых і нацыянал-фашысцкіх бандытаў—гэтых агентаў замежных разведак і ліквідаваць вынікі іх шкодніцтва.

Узброеныя рашэннямі гістарычнага лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б) і Вашымі ўказаннямі, таварыш **Сталін**, мы, большэвікі Беларусі, прыкладзем усе намаганні да таго, каб у найкарацейшы тэрмін перамагчы недахопы ў партыйна-палітычнай рабоце, ліквідаваць да канца ідыёцкую хваробу—бясклопатнасць, умацаваць сувязь з масамі, падняць яшчэ вышэй іх рэволюцыйную пільнасць, палітычна загартаваць і выхаваць у духу большэвізма нашы кадры і яшчэ цясней і мацней згуртаваць рады КП(б)Б і працоўных БССР вакол ленінска-сталінскага Цэнтральнага Камітэта партыі для далейшай барацьбы за комунізм.

Мы запэўніваем Вас, дарагі Іосіф Вісарыёнавіч, што БССР, як неадлучная, састаўная частка вялікага Совецкага Саюза, была, ёсць і будзе непрыступнай крэпасцю на заходніх рубяжах нашай вялікай соцыялістычнай радзімы—Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Няхай жыве вялікая комуністычная партыя, якая прывяла нас да поўнай перамогі соцыялізма і забяспечыла трыумф вялікага вучэння Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна!

Няхай жыве Сталінскі ЦК ВКП(б)!

Няхай жыве правадыр народаў, друг, настаўнік і натхніцель вялікіх перамог соцыялізма—таварыш **Сталін!**

---

# Па-большэвіцку праводзіць у жыццё рашэнні XVI з'езда КП(б)Б

Гэтымі днямі закончыў сваю работу XVI з'езд Комуністычнай Партыі (большэвікоў) Беларусі.

XVI з'езд партыі—гістарычны з'езд у КП(б)Б—з'езд, які на аснове разгорнутай большэвіцкай крытыкі і рэволюцыйнай пільнасці выкрыў ворагаў партыі і народу, з'езд, які ўмацаваў мабілізаванасць комуністаў на непрымірымую барацьбу з ворагамі, з'езд, які большэвізуе нашы рады, з'езд, які як ніколі згуртаваў усю КП(б)Б вакол ленінска-сталінскага ЦК ВКП(б), вакол таварыша Сталіна.

З'езд сабраўся ў той час, калі ўся наша партыя, уся наша краіна рыхтуецца да выбараў у советы на аснове новай Сталінскай Канстытуцыі. У святле пастаноў лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б) і гістарычных указанняў таварыша Сталіна, на аснове шырока разгорнутай крытыкі і самакрытыкі з'езд перагледзеў усю работу, прароблену большэвікамі Беларусі за справаздачны перыяд, і вызначыў далейшыя задачы.

XVI з'езд партыі праходзіў на высокім палітычна-ідэйным узроўні, у абстаноўцы выключнай палітычнай актыўнасці, завостранай рэволюцыйнай пільнасці і большэвіцкай крытыкі.

Сакратар ЦК КП(б)Б таварыш Шаранговіч даў у сваім дакладзе аналіз дасягнутым поспехам, ускрыў недахопы і прарывы ў рабоце партыйных арганізацый КП(б)Б і намеціў канкрэтныя мерапрыемствы па ажыццяўленню рашэнняў лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б) і указанняў таварыша Сталіна.

Уся работа з'езда, спачатку да канца, з'явілася яркай дэманстрацыяй стальной маналітнасці радоў КП(б)Б, яе цеснай згуртаванасці вакол ЦК ВКП(б), вакол вялікага правадыра партыі—таварыша Сталіна.

XVI з'езд праводзіў сваю работу так, як гэтага патрабавалі лютаўскі Пленум ЦК ВКП(б) і таварыш Сталін у сваім дакладзе і заключным слове на Пленуме ЦК, і таму гэты з'езд з'яўляецца для ўсіх большэвікоў Беларусі вялікай школай сапраўднай большэвіцкай загартаванасці.

Рэзалюцыя XVI з'езда КП(б)Б—баявая канкрэтная праграма рэалізацыі рашэнняў лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б) і мудрых указанняў таварыша Сталіна. Задача ўсёй КП(б)Б, кожнай партарганізацыі і кожнага комуніста, узброіўшыся гэтымі рашэннямі, па-большэвіцку іх ажыццяўляць.

XVI з'езд КП(б)Б—з'езд далейшай большэвізацыі нашых радоў—увойдзе ў гісторыю, як з'езд, які мабілізуе большэвікоў Беларусі на ачыстку сваіх радоў ад усякіх двурушнікаў, трацкісцка-зіноўеўскіх

і бухарынска-рыкаўскіх бандытаў, нацыянал-фашыстаў і агентаў германа-япона-польскага фашызма і ўсякай іншай сволачы.

«XVI з'езд КП(б)Б увойдзе ў гісторыю КП(б)Б, як з'езд небывалага згуртавання КП(б)Б вакол ЦК ВКП(б), вакол таварыша Сталіна».

Глыбока вывучаць матэрыялы і рашэнні гэтага гістарычнага партыйнага з'езда, неадкладна праводзіць іх у жыццё—свяшчэнны абавязак усёй КП(б)Б, кожнай партарганізацыі, кожнага яе члена.

* * *

За гады другой пяцігодкі Савецкая Беларусь і беларускі народ у цеснай дружбе і пры дапамозе народаў СССР пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) дабіўся буйных поспехаў у справе сацыялістычнага будаўніцтва, у павышэнні матэрыяльна-культурнага ўзроўню працоўных.

У рашэннях XVII з'езда ВКП(б) запісана:

> «Асноўнай і рашаючай гаспадарчай задачай другой пяцігодкі з'яўляецца завяршэнне рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі. Рашаючай-жа ўмовай завяршэння тэхнічнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі ў другой пяцігодцы павінна з'явіцца асваенне новай тэхнікі і новых вытворчасцей».

КП(б)Б, як адзін з атрадаў вялікай партыі Леніна—Сталіна, працавала над большэвіцкім выкананнем рашэнняў XVII з'езда. Гэтыя рашэнні і ўказанні таварыша Сталіна на з'ездзе з'явіліся праграмай дзеянняў для КП(б)Б, для Савецкай Беларусі.

За гэтыя гады вырасла ўдзельная вага прамысловасці БССР ва ўсёй прамысловасці Савецкага Саюза. Калі ў 1928 годзе яна складала 1,34 проц., то ў 1937 годзе дасягнула ўжо 2,13 проц. Планы пачалі выконваць усе галіны прамысловасці. У 1935 годзе план выканан на 108,1 проц. У 1936 годзе—на 107,9 проц. Вялікі рост мы маем і ў галіне сельскай гаспадаркі.

Пастаўленая XVII з'ездам ВКП(б) і XV з'ездам КП(б)Б задача завяршэння калектывізацыі сельскай гаспадаркі Беларусі ў асноўным выканана. Калгасны сектар у 1937 годзе засявае ўжо 94,9 проц. усёй пасеўнай плошчы калгасна-сялянскага сектара Беларусі.

Вялікія поспехі мае БССР і ў іншых галінах гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. За гэты час выраслі новыя кадры інжынераў, тэхнікаў, гаспадарнікаў з рабочых і сялян карэнных нацыянальнасцей Беларусі. На прадпрыемствах і ў калгасах Рэспублікі выраслі тысячы стаханаўцаў, якія паказваюць узоры сацыялістычных адносін да працы.

Перамогі, атрыманыя ў сацыялістычным будаўніцтве і ажыццяўленні ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, запісаны ў новай Сталінскай Канстытуцыі БССР.

Шырокія масы працоўных гарадоў і мястэчак, вёсак і сёл, калгасаў і соўгасаў нашай Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі ў цесным садружастве з усімі народамі вялікага Савецкага Саюза, з велізарным уздымам сустрэлі і аднадушна прынялі новую Сталінскую Канстытуцыю.

* * *

Нашы поспехі былі-б значна большымі, калі-б ЦК КП(б)Б і мясцовыя—акруговыя, гарадскія і раённыя—партарганізацыі разгарнулі сапраўды большэвіцкую барацьбу з благадушшам, палітычнай бесклапотнасцю і зазнайствам.

Ускрытыя таварышом Сталіным на Пленуме ЦК памылкі і недахопы ў партыйна-палітычнай рабоце мелі шырокае распаўсюджванне і ў партарганізацыях Беларусі. Прытупленне рэволюцыйнай пільнасці, палітычная бесклапотнасць, благадушша і ратазейства—усё гэта было ўласціва і партарганізацыям КП(б)Б, што выкарысталі для контррэволюцыйнай, шкодніцкай, шпіёнска-дыверсійнай работы агенты з лагеру трацкістаў, правых, беларускіх нацфашыстаў і іншыя ворагі народу.

Нізкі ўзровень ідэйна-палітычнага выхавання комуністаў, захапленне гаспадарчымі поспехамі, парушэнне партыйнага статута, адсутнасць да апошняга часу разгорнутай большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі ў КП(б)Б і яе ЦК, наяўнасць элементаў сямейственасці і групаўшчыны ў кіраўніцтве КП(б)Б—вось прычыны несвоечасовага выкрыцця фашысцкіх шпіёнаў, дыверсантаў і шкоднікаў, якія займалі нават кіруючыя пасты (Бенек, Дзякаў, Убарэвіч, Шастакоў, Кучынскі, Пятровіч і інш.).

Зараз нам усім вядома, што Галадзед, выкрыты, як правы, разам з Чарвяковым насаджаў у Беларусі прышчэпаўшчыну, увесь час працаваў заадно з фашыстам-шпіёнам Убарэвічам, па сутнасці групуючы вакол сябе шкоднікаў, дыверсантаў, усіх ворагаў народу.

Як ужо вядома, Чарвякоў, пакончыўшы жыццё самагубствам на асабістай сямейнай глебе, ніколі не быў шчырым і ва ўвесь час барацьбы КП(б)Б супроць яго памылак заўсёды двурушнічаў. Таму зусім зразумела, што ўся КП(б)Б, увесь народ Совецкай Беларусі сустрэлі самагубства Чарвякова, як яго варожы акт супроць партыі, супроць совецкай улады, супроць совецкага народу. І няхай ведаюць ворагі, што «ні самагубствы, ні змяінае шыпенне ўсёй гэтай сволачы з-за вугла не могуць пахіснуць нашых радоў. Усіх гэтых гадаў мы зніштожым. Няхай нашы ворагі пішуць аб нас, што хочуць, паклёпнічаюць і робяць правакацыі, мы ведаем толькі адно: што, ачышчаючы свае рады ад усёй гэтай гнілі і падалі, мы ўзмацняем нашы большэвіцкія рады. Выкрыццё ворагаў гаворыць аб нашай сіле, а не аб нашай слабасці» *). І няхай ведаюць ворагі, што ў далейшым мы будзем выкурваць іх з усіх нор, дзе-б яны ні хаваліся, як-бы ні маскаваліся, і знішчым іх, як шалёных сабак.

Але было-б зусім няверна думаць, што мы пакончылі ўжо з палітычнай бесклапотнасцю, благадушшам і самасупакоенасцю, што ўжо ўсе комуністы ўзброены большэвіцкай пільнасцю. Яшчэ многія партарганізацыі не вынеслі для сябе ўрокаў з контррэволюцыйнай дзейнасці трацкісцка-зіноўеўскіх, бухарынска-рыкаўскіх, японa-нямецка-польскіх фашысцкіх агентаў. Аб гэтым гавораць факты выкрыцця ворагаў народу ў час справаздачна-выбарчых сходаў, выкрыццё на менскай партканферэнцыі двурушніка, дэзерціра з радоў Чырвонай Арміі Хадасевіча, выкрыццё на з'ездзе ворага народу Дубіны, і інш.

У нас яшчэ ёсць, на жаль, такія кіраўнікі, якія недаацэньваюць небяспеку капіталістычнага акружэння, не разумеюць новых форм класавай барацьбы, контррэволюцыйнай сутнасці трацкізма—гэтай злейшай бандыцкай шайкі азвярэлых забойц і шпіёнаў фашысцкай контрразведкі.

---

*) З прамовы тав. Шаранговіча на заключным пасяджэнні XVI з'езда КП(б)Б.

Яшчэ не ўсе ворагі **ўскрыты і выкарчаваны.**

Выкрыццё ваенна-фашысцкай васьмёркі шпіёнаў і змоўшчыкаў (Тухачэўскага, Гамарніка, Убарэвіча, Якіра і інш.), звіўшых сабе гняздо ў Чырвонай Арміі, яшчэ і яшчэ раз напамінае нам аб неабходнасці заўсёды быць пільнымі. Але нельга забываць, што пільнасць сама сабою не прыходзіць, яе трэба арганізаваць.

Пільнасць—гэта перш за ўсё ідэйная ўзброенасць комуністаў, авалодванне вучэннем Леніна—Сталіна, уменне лавіць і зніштажаць лазутчыкаў германскага фашызма—трацкісцка-бухарынскую падаль. Пільнасць—гэта ўменне распазнаваць і выкрываць ворага, як-бы ён ні маскаваўся, гэта ўменне правяраць людзей не па іх дэкларацыях, а па рэзультатах іх работы. Пільнасць—гэта кіпучае партыйнае жыццё, высокі ўзровень крытыкі і самакрытыкі, не гледзячы на асобы.

* * *

Перад КП(б)Б стаіць адказнейшая задача—у найкарацейшы тэрмін ліквідаваць вынікі шкодніцтва трацкісцкіх, правых і нацыянал-фашысцкіх бандытаў ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі. Для гэтага трэба ўмацаваць партыйнае кіраўніцтва гаспадарчымі арганізацыямі і прамысловасцю, палепшыць палітычнае выхаванне гаспадарчых і прамысловых кадраў, арганізаваць і палепшыць работу вытворчых нарад на прадпрыемствах, рэгулярна склікаючы актывы наркаматаў, трэстаў, прадпрыемстваў, узмацніць кіраўніцтва стаханаўскім рухам, зжыць арганізацыйную распушчанасць і ўмацаваць соцыялістычную працоўную дысцыпліну.

Для ліквідацыі вынікаў шкодніцтва ў сельскай гаспадарцы трэба неадкладна на аснове рашэнняў з'езда забяспечыць рашучае палепшанне палітычна-выхаваўчай работы ў МТС, соўгасах і калгасах, сярод аднаасобнікаў, умацаваць зямельныя органы лепшымі, праверанымі на практычнай рабоце большэвіцкімі кадрамі, звярнуўшы ўвагу на вывучэнне растучых работнікаў і асабліва жанчын (старшыні калгасаў, брыгадзіры, трактарысты і т. д.), увесці правільныя севазвароты, заняцца палепшаннем насеннаводства, на падставе пастановы СНК СССР, ухваленай чэрвеньскім пленумам ЦК ВКП(б), спыніць захворванне і падзеж буйнай рагатай жывёлы, свінога і конскага пагалоўя, не дапускаць парушэнняў сталінскага статута сельскагаспадарчай арцелі, узняць вагу і кошт працадня, павысіць працоўную дысцыпліну ў калгасе.

Ліквідацыя вынікаў шкодніцтва ў сельскай гаспадарцы—адна з асноўных задач КП(б)Б у сучасны момант. Уся работа ў сельскай гаспадарцы павінна быць накіравана на большэвіцкае выкананне ўказанняў таварыша Сталіна аб вытворчасці 7—8 мільярдаў пудоў хлеба.

* * *

XVI з'езд КП(б)Б прыняў рашэнні, якія выцякаюць з пастаноў лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б) і ўказанняў таварыша Сталіна. Наперадзе—вялікая і адказная работа. Уся КП(б)Б, кожны большэвік, увесь беларускі народ павінны энергічна ўзяцца за правядзенне рашэнняў з'езда ў жыццё.

Адной з важнейшых задач з'яўляецца аўладанне большэвізмам. Неабходна ўзмацніць кіраўніцтва ідэйна-партыйным выхаваннем кому-

ністаў, забяспечыць іх ідэалагічную і палітычную загартоўку, дапамагчы свабодна арыентавацца ва ўнутранай і міжнароднай абстаноўцы, выкрываць ворагаў народу і па-баявому выконваць рашэнні партыі. Справа ідзе аб сістэматычнай вучобе партыйных кадраў, аб добрай пастаноўцы партыйнай прапаганды і палітычнай агітацыі.

З'езд даў нездавальняючую ацэнку становішчу партпрапаганды і палітагітацыі ў КП(б)Б. Марксісцка-ленінская прапаганда нярэдка перадаваяраецца другарадным, а ў радзе выпадкаў няпэўным у партыйных адносінах людзям. Кіруючыя партыйныя работнікі ЦК КП(б)Б, гаркомаў, акругкомаў, райкомаў зусім мала ўвагі ўдзяляюць гэтай рабоце, большая частка іх непасрэдна не кіруе партыйнымі гурткамі і школамі. Прапаганда марксізма-ленінізма адарвана ад злободзенных бягучых пытанняў унутранай і міжнароднай палітыкі. Гісторыя большэвіцкай партыі выкладаецца без сувязі з гісторыяй краіны, зусім нездавальняюча пастаўлена вывучэнне гісторыі КП(б)Б і рэвалюцыйнага руху ў БССР.

Палітычная агітацыя да апошняга часу не адпавядае патрабаванням сённешняга дня, тым задачам, якія выцякаюць з падрыхтоўкі да выбараў у советы і палітычнага павароту ў жыцці краіны ў сувязі з прыняццем новай Сталінскай Канстытуцыі.

З'езд абавязаў ЦК, акругкомы, гаркомы і райкомы КП(б)Б так арганізаваць партпрапаганду і палітагітацыю, каб сакратары гаркомаў, райкомаў і парткомаў самі займаліся інструктажам прапагандыстаў і агітатараў, арганізоўвалі для партактыва кансультацыі і даклады па асноўных пытаннях міжнароднага і ўнутранага становішча краіны.

У агітацыйнай рабоце неабходна шырока практыкаваць правядзенне палітдзён, мітынгаў, сходаў. Не павінна быць ні аднаго прадпрыемства, установы, калгаса, соўгаса, населенага пункта, школы, арцелі, куды-б рэгулярна не прыязджалі партыйныя агітатары для растлумачэння міжнароднага і ўнутранага становішча СССР, з дакладамі на антырэлігійныя тэмы, аб чарговых задачах партыі і совецкай улады.

* * *

XVI з'езд КП(б)Б намеціў рад канкрэтных мер і даручыў партарганізацыям узмацніць кіраўніцтва фронтам нацыянальна-культурнага будаўніцтва: палепшыць партыйна-палітычную работу сярод настаўніцтва, поўнасцю ліквідаваць вынікі шкодніцтва ў органах Наркомасветы, у школах, навесці большэвіцкі парадак у выдавецкіх арганізацыях, у Саюзе пісьменнікаў, наладзіць работу друку, узяўшы яго пад сістэматычнае кіраўніцтва, асудзіўшы практыку недаацэнкі друкаванага слова.

З'езд абавязаў ЦК КП(б)Б у бліжэйшы час умацаваць усе ўчасткі нацыянальна-культурнага будаўніцтва—органы асветы, літаратуры, мастацтва, навуковыя і вышэйшыя навучальныя ўстановы, выдавецтвы, рэдакцыі газет і т. д.—праверанымі большэвіцкамі кадрамі, смела вылучаючы растучых маладых работнікаў, асабліва з беларусаў.

* * *

XVI з'езд КП(б)Б абавязаў усе партыйныя арганізацыі «аказваць усямерную дапамогу партыйным арганізацыям Чырвонай Арміі і пагранічнай ахове ў справе выканання ўскладзеных на іх задач па выха-

ванню чырвонаармейцаў і каманднa-палітычнага складу Чырвонай Арміі ў духу савецкага патрыятызма, непрымірымасці да ўсіх ворагаў народу, умацоўвання боездольнасці Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і беззаветнай адданасці комуністычнай партыі і таварышу Сталіну».

Доўг і абавязак усіх партарганізацый КП(б)Б—з гонарам выканаць гэта ўказанне з'езда, а таксама арганізаваць работу важнейшых абаронных арганізацый (Асоавіяхім, «Чырвоны крыж» і т. д.), ачышчаючы іх кіраўніцтва ад чуждых і варожых элементаў, камплектуючы гэтыя арганізацыі праверанымі працаздольнымі большэвіцкімі кадрамі.

* * *

Паварот у палітычным жыцці краіны на аснове ўвядзення Сталінскай Канстытуцыі патрабуе ад усіх партарганізацый і кожнага комуніста яшчэ больш мацаваць нашу сувязь з шырокімі масамі працоўных, моцна памятаючы, што гэта магчыма толькі на аснове сталінскага стылю кіраўніцтва і работы, няўхільна ажыццяўляючы рашэнні лютаўскагаПленума ЦК ВКП(б) і ўказанні таварыша Сталіна аб сувязі з шырокімі масамі працоўных.

Усе сілы на ўмацаванне сувязі з масамі, на выкананне рашэнняў лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б) і XVI з'езда КП(б)Б!

Апублікаваны ў адпаведнасці са Сталінскай Канстытуцыяй праект «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР», які гэтымі днямі будзе разглядацца сесіяй ЦВК СССР,—стане непахісным выбарчым законам нашай соцыялістычнай дзяржавы.

Баявая першачарговая задача ўсіх партарганізацый, кожнага комуніста—прапагандыста і агітатара—растлумачваць шырокім масам працоўных сутнасць «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР» і тыя правы, якія дае совецкаму народу Сталінская Канстытуцыя.

Працаваць па-новаму, працаваць па-сталінску—баявая задача большэвікоў Беларусі. Няма сумнення ў тым, што ўзброеная рашэннямі лютаўскага Пленума ЦК і ўказаннямі таварыша Сталіна, згуртаваная вакол ленінска-сталінскага ЦК ВКП(б) Комуністычная Партыя (большэвікоў) Беларусі прыдзе да выбараў у вярхоўныя органы краіны падрыхтаванай, маналітнай, здольнай весці за сабою шырокія масы да новых перамог комунізма.

XVI з'езд ад імя ўсёй КП(б)Б запэўніў ЦК ВКП(б) у тым, што большэвікі Беларусі даб'юцца поўнага зніштажэння ворагаў партыі і народу з трацкісцка-бухарынскага, японa-германа-польскага і нацдэмаўска-фашысцкага лагера.

XVI з'езд ад імя ўсіх комуністаў КП(б)Б даў клятву ЦК ВКП(б) і таварышу Сталіну ў тым, што большэвікі Беларусі, працуючы на граніцы з капіталістычным Захадам і цвёрда памятаючы ўказанні вялікага Сталіна аб капіталістычным акружэнні, аддадуць усе свае сілы, усю сваю энергію, а калі патрэбна будзе,—і жыццё за нашу любімую радзіму, за справу Леніна—Сталіна.

КП(б)Б яшчэ цясней згуртавалася вакол ленінска-сталінскага ЦК ВКП(б) і будзе змагацца за выкананне рашэнняў XVI з'езда, за ажыццяўленне задач, пастаўленых таварышом Сталіным. Увесь беларускі совецкі народ сваёй барацьбой за справу Леніна—Сталіна дакажа нашай партыі і таварышу Сталіну, што мы—дастойныя сыны сваёй вялікай радзімы, здольныя змагацца за выкананне прынятых рашэнняў, за трыумф комунізма.

# Справаздача Цэнтральнага Камітэта КП(б) Беларусі XVI З'езду КП(б)Б

### Даклад сакратара ЦК КП(б)Б тав. В. Ф. ШАРАНГОВІЧА

Таварыш Сталін у сваім дакладзе «Аб праекце Канстытуцыі Саюза ССР» на Надзвычайным VIII Усесаюзным з'ездзе Советаў падагуліў вынікі соцыялістычных заваяванняў рабочых і сялян, вызначыў гістарычны сэнс і значэнне перамог соцыялістычнага ладу ў Совецкім Саюзе. Ён сказаў аб тым, што ў СССР соцыялізм перамог канчаткова і беспаваротна. Пад кіраўніцтвам нашай партыі рабочы клас, калгаснае сялянства, наша інтэлігенцыя, увесь народ вялікага Совецкага Саюза дабіўся сусветна-гістарычных перамог.

У нас ужо ажыццёўлена ў асноўным першая фаза комунізма—соцыялізм. Ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі поўнасцю перамагла соцыялістычная сістэма. Удзельная вага соцыялістычных форм гаспадаркі ў народным даходзе Саюза ССР складае ўжо 99,5 проц. Поўнасцю ліквідаваны эксплаататарскія класы, сціраецца грань паміж двума прыязнымі класамі Саюза, развіваючыміся ў бок комунізма,—паміж рабочым класам і сялянствам. Новая соцыялістычная эканоміка не ведае ні крызісаў, ні беспрацоўя. Новая соцыялістычная эканоміка дае грамадзянам нашай выдатнай радзімы ўсе магчымасці для заможнага і культурнага жыцця.

Усе народы шматнацыянальнага Совецкага Саюза дружна ідуць па вялікай дарозе комунізма, развіваюць сваю народную гаспадарку, развіваюць сваю культуру, нацыянальную па форме і соцыялістычную па зместу, паказваючы ўсяму свету ўзоры вялікага, непахіснага садружаства народаў, якое магчыма толькі на аснове пролетарскай рэволюцыі, на аснове совецкага ладу, на базе соцыялізма.

1937 год з'яўляецца дваццатым годам Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі. У параўнанні з мінулым яшчэ больш ярка, больш відавочна ўся веліч перамог, заваяваных народамі Совецкага Саюза і запісаных у Сталінскай Канстытуцыі.

У 1913 годзе валавая прадукцыя буйнай прамысловасці нашай краіны выражалася ў 10,25 мільярда рублёў. Да пачатку сталінскіх пяцігодак, у 1928 г., яна складала 15,74 мільярда рублёў; у 1936 годзе яна дасягнула гіганцкай сумы ў 80 з лішнім мільярдаў рублёў.

Па плану 1937 года, валавая прадукцыя буйнай прамысловасці павінна складаць не менш, чым 97,5 мільярда руб. Інакш кажучы, прадукцыя буйнай прамысловасці ў параўнанні з 1913 г. вырасла больш, чым у 9 раз, а за годы двух сталінскіх пяцігодак—больш чым у 6 раз.

У рэзультаце па агульнаму ўздыму прамысловай прадукцыі СССР ужо ў мінулым годзе заняў другое месца ў свеце.

Велізарных поспехаў мы дабіліся таксама ў галіне падняцця прадукцыйнасці працы. Яшчэ ў 1932 годзе мы мелі рост прадукцыйнасці працы толькі на 2,6 проц. у параўнанні з папярэднім годам, а ў 1935 годзе—на 15,6 проц. і, нарэшце, у 1936 годзе—на 22,4 проц.—рэкордны тэмп росту прадукцыйнасці працы за ўсе гады пяцігодак.

Рашучыя зрухі ў росце прадукцыйнасці працы, дасягнутыя ў 1935—36 г., ярка сведчаць аб велізарнай ролі стаханаўскага руху, які, як гаварыў таварыш Сталін, увойдзе ў гісторыю нашага соцыялістычнага будаўніцтва, як адна з самых слаўных яе старонак. Дзякуючы стаханаўскаму руху, кошт прыросту прадукцыі за адзін толькі 1936 год амаль у два разы перавысіў кошт усёй прадукцыі прамысловасці ў царскай Расіі.

Гады сталінскіх пяцігодак карэнным чынам змянілі твар вёскі. На 1 студзеня 1937 г. калектывізацыя па Саюзу ахапіла 92 проц. сялянскіх гаспадарак. Калгасныя пасевы складалі ў 1936 годзе 98,2 проц. усіх сялянскіх пасеваў, а пасевы аднаасобніка—толькі 1,8 проц.

Тэхнічная ўзброенасць сельскай гаспадаркі гіганцкі шагнула наперад. Механічныя рухавікі складалі ў 1936 г. без малога 60 проц. усіх сілавых рэсурсаў сельскай гаспадаркі. Колькасць машынатрактарных станцый дайшла ў 1936 г. да 5.000. Сельская гаспадарка мела к канцу мінулага года 438.500 трактароў і 93.200 камбайнаў.

Быстрымі тэмпамі аднаўляецца жывёлагадоўля, расце прадукцыйнасць соцыялістычных палёў. У 1936 г. прадукцыя паляводства была ў паўтара раза вышэй, чым у 1913 г.

Велізарныя зрухі мы маем за апошнія гады і ў рабоце чыгуначнага транспарту. Сярэднесутачная пагрузка чыгуначнага транспарту ў 1936 г. вырасла да 86,2 тыс. вагонаў, супроць 27,3 тыс. у 1913 г. Сярэдняя сіла цягі аднаго грузавога таварнага паравоза ў 1936 г у паўтара раза перавышала сілу паравоза ў 1913 г.

За адзін толькі 1936 год вытворчасць прадметаў спажывання павялічылася на 27 з лішнім процантаў у параўнанні з папярэднім годам. Абарот гандлёвай сеткі ў 1936 г. дасягнуў 98,4 мільярда рублёў, супроць 35,5 мільярда руб. у 1932 г.

Велізарны нашы поспехі ў галіне народнай асветы. У царскай Расіі ў 1914 г. пачатковай і сярэдняй школай ахватвалася толькі 7 з лішнім мільёнаў чалавек. У 1928 г. у ёй навучалася 12 мільёнаў чалавек, а ў 1936 г.—27.400 тыс. Колькасць вучняў школы ў гэтым годзе павінна перавысіць 30 мільёнаў чалавек. Прыкладна ў 4 разы вырасла колькасць студэнтаў у вышэйшых навучальных установах. Калі ў 1914 г. навучалася 125 тыс., то ў 1936 г. у вышэйшых навучальных установах навучалася 495 тыс. чалавек, а ў 1937 г.—509 тысяч. Асабліва рэзкі рост дае колькасць студэнтаў тэхнікумаў. У царскай Расіі налічвалася толькі 48 тысяч студэнтаў тэхнікумаў, тады як у мінулым годзе ў нашых тэхнікумах было 819 тыс. чал., а па плану 1937 г. будзе 984 тыс.

Аб росце матэрыяльнага добрабыту працоўных Краіны соцыялізма сведчыць рост народнага даходу ў СССР. Калі ў 1913 г. увесь народны даход царскай Расіі складаў 21 мільярд рублёў, прычым ільвіная доля яго пападала эксплаататарскім класам,—то ў 1936 г. мы маем 84 мільярды 900 мільёнаў рублёў народнага даходу, прычым уся гэта сума паступіла ў распараджэнне народу.

Совецкі народ авалодвае вышынямі культуры, мастацтва, тэхнікі.

Няспынныя клопаты партыі аб развіцці народнай асветы, аховы здароўя, аб роскvіце навукі і мастацтва прыносяць багатыя плады. Савецкія людзі кожны дзень атрымліваюць усё новыя і новыя перамогі на самых рознастайных участках культуры. Да прац савецкіх вучоных прыкавана ўвага ўсяго свету. Савецкія лётчыкі заваёўваюць адзін міжнародны рэкорд за другім. Савецкія піяністы і скрыпачы займаюць першыя месцы на міжнародных конкурсах. Усё гэта неабвержна сведчыць аб тым, якія багацейшыя магчымасці раскрываюцца ў Савецкай краіне для развіцця і росквіту талентаў, якія капіталізм мяў, давіў і душыў у старой Расіі, якія ён душыць і мне зараз ва ўсіх капіталістычных краінах.

Права на працу, права на асвету, права на забяспечаную і спакойную старасць—усе гэтыя на справе гарантаваныя вялікія правы, заваяваныя савецкім народам, на чале з рабочым класам пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна і запісаныя ў Сталінскай Канстытуцыі, даюць поўную магчымасць кожнаму савецкаму грамадзяніну з захапленнем аддавацца ўлюбёнай ім справе, удасканальвацца ў сваёй кваліфікацыі, расці культурна, быць поўнапраўным гаспадаром сваёй цудоўнай радзімы.

## I. НАШЫ ПОСПЕХІ

### У галіне прамысловасці

Таварышы, за тры з паловай гады, якія аддзяляюць нас ад XV з'езда КП(б)Б, Комуністычная партыя большэвікоў Беларусі разам з усёй партыяй прайшла вялікі шлях соцыялістычнага будаўніцтва. Цяжкасці былі велізарныя. Ворагаў было не мала. Але ў цеснай дружбе і згуртаванасці народаў усяго Савецкага Саюза, пры дапамозе ЦК ВКП(б) і асабіста таварыша Сталіна, большэвікі Беларусі, перамагаючы ўсе перашкоды і варожае супраціўленне на сваім шляху, дабіліся велізарных поспехаў у соцыялістычным будаўніцтве, у правядзенні ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі.

КП(б)Б, як адзін з атрадаў вялікай партыі Леніна—Сталіна, працавала над большэвіцкім выкананнем рашэнняў XVII з'езда ВКП(б), у якіх запісана, што:

«Асноўнай і рашаючай гаспадарчай задачай другой пяцігодкі з'яўляецца завяршэнне рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі. Рашаючай-жа ўмовай завяршэння тэхнічнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі ў другой пяцігодцы павінна з'явіцца асваенне новай тэхнікі і новых вытворчасцей».

Рашэнні XVII з'езда ВКП(б) і ўказанні таварыша Сталіна на з'ездзе з'явіліся праграмай нашых дзеянняў, нашай работы, нашай большэвіцкай барацьбы.

Якія нашы поспехі ў галіне выканання прамысловага плана?

Вырасла ўдзельная вага прамысловасці БССР ва ўсёй прамысловасці Савецкага Саюза. Так, напрыклад, калі ў 1928 г. яна складала 1,34 проц., то ў 1937 г. яна ўжо складае 2,13 проц. Мы дабіліся таго, што планы пачалі выконваць усе галіны прамысловасці. У 1935 г. план выканан на 108,1 проц., у 1936 годзе—на 107,9 проц. Прамысловасць кааперацыі, выканаўшая план у 1933 г. на 54,6 проц., у 1936 г. выканала яго на 119 проц. Лёгкая прамысловасць, якая выканала свой план у 1933 годзе на 78 проц., у 1936 годзе выканала яго на 107,2 проц.

З выкананнем і перавыкананнем планаў прамысловасць БССР атрымала за гады справаздачнага перыяда вялікі рост валавой прадукцыі. Аб'ём валавой прадукцыі прамысловасці, які складаў у 1932 г. 979,5 мільёна рублёў, дасягае па плану 1937 г. 2 мільярдаў 200 мільёнаў або амаль у два з паловай раза больш аб'ёма прадукцыі прамысловасці 1932 г., аб'ём прадукцыі прамысловасці 1937 г. у 22 разы больш аб'ёма прадукцыі прамысловасці Беларусі 1913 г.

Калі ўдзельная вага ўсёй прадукцыі прамысловасці Беларусі ў агульным аб'ёме прадукцыі народнай гаспадаркі ў 1926—27 гг. складала толькі 24,4 проц., то ў 1937 г. яна ўжо складае 73 процанты.

За гады першай і другой пяцігодак у БССР пабудавана больш тысячы буйных і дробных прадпрыемстваў, пашырана і рэканструявана 88 буйных прадпрыемстваў.

За гады другой пяцігодкі пабудаваны і ўступілі ў строй наступныя асноўныя прадпрыемствы: сілікатны завод у Оршы, трубаліцейны завод у Магілеве, ацэтонавы завод у Быхаве, шклозавод у Касцюкоўцы, аўтарамонтны завод у Магілеве, тлушчакамбінат, завод ізапліт, дрэваапрацоўчы камбінат у Новабеліцы, другая менская ДЭС, другая кацельная, Дом друку ў Менску, халадзільнік у Віцебску, ільнакамбінат у Оршы, які заканчваецца ў 1937 г., цэментны завод у Крычаве, ЦЭЦ у Барысаве і т. д.

Таварыш Сталін на XVII партыйным з'ездзе ўказаў на неабходнасць:

«Развязаць мясцовую совецкую прамысловасць, даць ёй магчымасць праявіць ініцыятыву ў справе вытворчасці тавараў шырспажыву і аказаць ёй магчымую дапамогу сыравінай і сродкамі».

Выкананне гэтых указанняў таварыша Сталіна характарызуецца вялікім развіццём асноўных галін прамысловасці, якія адносяцца, галоўным чынам, да мясцовай прамысловасці (торф, цэгла, метал).

У 1932 г. мы выпрацоўвалі 930 тыс. тон торфу, а па плану 1937 г. выпрацоўваем 2.805 тыс. тон; цэглы ў 1932 г. выпрацавана 202 млн. шт., па плану 1937 г. павінны выпрацаваць 585 млн. штук.

Металарэжучыя станкі ў 1932 г. зусім не выпрацоўваліся, а ў 1937 г. будзе выпрацавана 4815 шт. Значна павялічан выпуск прадукцыі шырспажыву. Выпуск прадукцыі шырспажыву па металапрамысловасці ўзрос у 1936 г., супроць 1932 г., амаль у тры разы, па галантарэі—у 2,6 раза, па саматужна-прамысловай кааперацыі выпуск прадметаў шырокага спажывання павялічыўся ў 2,5 раза супроць 1933 года, і т. д.

Узрасла за справаздачны перыяд энергаўзброенасць рабочых, занятых на вытворчасці. Выдатак электраэнергіі (рухавой і тэхналагічнай) на аднаго рабочага ў 1933 г. па металапрамысловасці Наркаммясцпрома складаў 957 кіловат-гадзін, а ў 1936 годзе—1333 клв. гадзін, гэта значыць рост на 40 проц.

## У галіне сельскай гаспадаркі

Задача, пастаўленая XVII з'ездам ВКП(б) і XV з'ездам КП(б)Б у галіне завяршэння калектывізацыі сельскай гаспадаркі, намі ў асноўным у Беларусі таксама выканана. У 9.642 калгасах аб'ядналася ў нас, у Беларусі, 680 тыс. сялянскіх гаспадарак, што складае 87,1 проц. усіх сялянскіх двароў, якія засяваюць ужо ў 1937 г. 94,9 проц. усіх пасеўных плошчаў калгасна-сялянскага сектара.

Астаўшыяся яшчэ пры старых формах землекарыстання, прыкладна, каля 100 тысяч аднаасобніцкіх гаспадарак у Беларусі, складаюць 12,9 проц. усіх сялянскіх двароў; удзельная вага ў сельскай гаспадарцы па пасевах—4,7 проц., па конях—7,2 проц., па буйнай рагатай жывёле—4,1 проц., па свіннях—5,4 проц. і па авечках—3,8 проц.

Аб чым гавораць гэтыя даныя? Яны гавораць аб тым, што калгасы і соўгасы разам сталі такой сілай, якая вырашае лёс сельскай гаспадаркі і ўсіх яе галін, бо сіла калгасаў і соўгасаў заключаецца не толькі ў тым, што яны сканцэнтравалі ў сваёй вытворчасці абсалютную большасць усіх плошчаў і пагалоўя жывёлы,—сіла калгасаў і соўгасаў заключаецца таксама ў тым, што яны насычаны велізарнай тэхнікай. Наша соцыялістычная гаспадарка Беларусі будзе мець у 1937 г. амаль 10.000 трактароў. Калі ў 1933 годзе ў сельскай гаспадарцы Беларусі налічвалася 64 МТС з трактарным паркам у 1 700 трактароў, то на вясну гэтага года мы маем ужо 140 МТС, якія будуць абслугоўваць да 75 проц. пасеўнай плошчы калгасаў, у той час, як у 1933 годзе абслугоўванне пасеўных плошчаў калгасаў складала ўсяго толькі 40 проц. Прычым трэба сказаць, што ў сувязі са зменамі, якія адбыліся ў трактарным парку, у прычэпным інвентары, у кадрах МТС,—у корані змяніўся характар і аб'ём самога абслугоўвання. У 1933 г. мы не мелі магутных гусенічных трактароў у МТС, цяпер мы іх маем, і колькасць іх к канцу 1937 года вырасце ў 3 разы ў параўнанні з 1936 г.

Калі да 1936 г. мы не мелі камбайнаў, то цяпер ужо на калгасных палях працуе 156 камбайнаў, а на ўборцы ў гэтым годзе будзе працаваць 626 камбайнаў, з іх 300 «Комунараў».

Да 1936 г. у МТС налічваліся ўсяго 43 ільнаўборачныя машыны «ВНІЛ-5», на 1 студзеня г. г. мы ўжо мелі гэтых машын 947 шт., а да ўборкі гэтага года будзем мець 1.333 шт.

Аналагічнае становішча з радковымі 24-дыскавымі сеялкамі і малатарнямі. Першых было ў 1933 г. 569 шт., у пачатку 1937 г.—935, а да пасеўнай 1937 г.—1.932. Другіх—было 1.123, у 1937 г.—2.139.

Характэрныя змены адбыліся ў аўтамашынным парку калгасаў і соўгасаў Беларусі. Калі ў 1933 г. у МТС было ўсяго 85 аўтамашын, з іх 44 легкавых, то на 1 студзеня 1937 г. у МТС налічвалася 461 аўтамашына, з іх 100 легкавых, а да канца 1937 г. мы будзем мець 680 аўтамашын.

У калгасах у 1933 г. налічвалася ўсяго толькі 8 аўтамашын, цяпер нашы калгасы маюць ужо 589 аўтамашын.

Гэта гаворыць аб тым, што наша буйная соцыялістычная гаспадарка ў асобе МТС, соўгасаў і калгасаў мае зараз такую вялікую тэхнічную ўзброенасць, якая можа і павінна даць цуды ў росце вытворчасці сельскай гаспадаркі.

Па плану ў 1937 г. МТС сваім трактарным паркам у абслугоўваемых імі калгасах праводзяць работу па ворыве—37,3 проц., пасеваў яравых—27,6 проц., па ўборцы зернавых—5,7 проц., па малацьбе—44,4 проц. усяго аб'ёма работ.

Паказальным у адносінах механізацыі вытворчых працэсаў па такой працаёмкай культуры, як лён, ужо ў 1936 г. мы мелі такое становішча, калі 18,2 проц. усёй уборкі ільну было праведзена машынамі.

Удзельная вага механізаванай апрацоўкі ільну ў 1936 г. дасягнула 80,2 проц., у тым ліку заводская апрацоўка—57,2 проц.

Наша пролетарская дзяржава ўкладвае ў справу меліярацыі таксама вялікія сродкі. На другую пяцігодку гэтыя ўкладанні склалі 20.661,8 тыс. рублёў; апрача таго, самімі калгаснікамі ўкладзена ў справу меліярацыі за гэты час з сваіх уласных сродкаў 20.737,3 тыс. рублёў.

Вялікую дапамогу сельскай гаспадарцы аказвае дзяржава мінеральнымі ўгнаеннямі. Ужыванне мінеральных угнаенняў павялічылася за гады другой пяцігодкі ў 2,3 раза. Больш чым у два разы ўзрасло ворыва пад зябліва, прычым якасць значна лепшая, чым у 1932—33 г.

Таварышы, у галіне жывёлагадоўлі работа КП(б)Б і ўсіх партыйных арганізацый праходзіла пад кутом гледжання выканання ўказанняў таварыша Сталіна аб тым, што справу жывёлагадоўлі павінна ўзяць у свае рукі ўся партыя, усе работнікі—партыйныя і беспартыйныя, маючы на ўвазе, што праблема жывёлагадоўлі з'яўляецца такой-жа праблемай, якой была ўчора, паспяхова ўжо вырашаная, зернавая праблема. У рэзультаце правядзення ў жыццё ўказанняў таварыша Сталіна мы ўжо ў 1934 годзе прыпынілі змяншэнне пагалоўя жывёлы.

З 1935 года жывёлагадоўля Беларусі, як і ва ўсім Совецкім Саюзе, стала на шлях уздыму. Аб гэтым сведчаць наступныя даныя. Так, на вясну 1934 г. мы мелі прырост стада буйнай рагатай жывёлы на 2 проц., у 1935 г. на 25 проц., у 1936 годзе на 17,5 проц. Гэты пералом у галіне развіцця жывёлагадоўлі быў дасягнут у рэзультаце перамогі соцыялістычных форм гаспадарання, на аснове калгаснага і соўгаснага ладу.

Калгасы і соўгасы, пачынаючы з 1934 г., даюць нам няўхільны рост пагалоўя жывёлы. Соцыялістычны сектар ужо ў чэрвені 1936 года сканцэнтраваў у сябе: коней 90 проц., буйнай рагатай жывёлы 88,6 проц., свіней 84,3 проц., авечак 91,5 проц.

Гэтыя лічбы гавораць таксама і аб тым, што справа жывёлагадоўлі ў нас цяпер знаходзіцца на моцным соцыялістычным шляху і што для яе далейшага росту і росквіту створана непахісная соцыялістычная аснова.

## У галіне нацыянальна-культурнага будаўніцтва БССР

Таварышы, на аснове гэтых велізарных поспехаў соцыялістычнага будаўніцтва КП(б)Б і пад яе кіраўніцтвам працоўныя Беларусі дабіліся вялікіх перамог у справе нацыянальна-культурнага будаўніцтва і палепшання матэрыяльна-бытавога становішча працоўных.

За гэтыя гады яшчэ больш умацавалася беларуская дзяржаўнасць. Гэта знайшло яркае адлюстраванне ў новай Канстытуцыі БССР. Дзяржаўны апарат яшчэ больш наблізіўся да карэннага насельніцтва рэспублікі, стаў па мове і нацыянальнаму складу народным, беларускім.

Нацыянальныя кадры складаюць вялікую частку цэнтральнага і раённага апаратаў. Значна павялічыўся процант беларусаў сярод рабочых. Вырасла беларускае насельніцтва ў гарадах, дзе асабліва адчуваліся вынікі русіфікатарскай палітыкі царскага ўрада.

Сярод студэнцтва пераважаюць беларусы. Вялікая праслойка беларусаў ёсць сярод навуковых работнікаў, аспірантаў, дацэнтаў, прафесараў.

Узняліся новыя пласты народу, выраслі новыя пласты совецкай інтэлігенцыі з рабочых і сялян: аграномы, мастакі, пісьменнікі, дзеячы навукі і мастацтва, кіруючыя работнікі. Мы маем у Беларусі росквіт культуры, нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу.

Найбольш яркае адлюстраванне гэтых перамог мы бачым у росце школьнага будаўніцтва па Беларусі. Вось некалькі лічб.

Колькасць вучняў у 1914 годзе складала 294.000, у 1937 г.— 1.001.000; колькасць настаўнікаў у 1914 г. складала 6.998, у 1937 г.— 29.780.

Выдаткі на асвету за апошнія гады выражаюцца ў наступных лічбах.

Усяго выдаткавана на асвету ў 1933 г. 150 мільёнаў руб., у 1937 г. будзе выдаткавана 479 мільёнаў руб.

У прыватнасці, на школы будзе выдаткавана ў 1937 г. 224 мільёны руб. супроць 82 мільёнаў руб. у 1934 г.

На дзіцячыя дамы будзе выдаткавана 25 мільёнаў руб., на падрыхтоўку кадраў выдаткавана 134 мільёны руб., на дашкольнае выхаванне выдаткавана 27 мільёнаў руб., на навуку—15 мільёнаў руб.

У 1936 г. пабудаваны 83 новыя сталінскія школы на 30.240 вучняў, з іх у гарадах 27 школ на 17.520 вучняў. Будаўніцтва школ дало магчымасць у гарадах ліквідаваць трэцюю змену і скараціць двухзменнасць.

Таварышы, Беларусь, не маючы да рэволюцыі ні адной вышэйшай навучальнай установы, цяпер мае 21 ВНУ, 75 тэхнікумаў, 20 рабфакаў, у якіх абучаецца 49.736 чалавек. На ўтрыманне навучальных устаноў асігнавана ў 1937 г. 46 мільёнаў руб.

За перыяд ад XV да XVI з'ездаў КП(б)Б у Беларусі выпушчана спецыялістаў: урачоў 1.029 чал., інжынераў 1.243, настаўнікаў 1.343, медыцынскіх кадраў сярэдняй кваліфікацыі 1.385, прамысловых кадраў сярэдняй кваліфікацыі 980 чал., сельскагаспадарчых кадраў 1.518 і т. д.

У Беларусі ў 1913 г. навукова-даследчых інстытутаў не было зусім. У 1937 г. іх налічваецца 41.

Навуковых работнікаў у 1913 годзе зусім не было. У 1937 г. мы маем 1.035 чал. навуковых работнікаў. З 1.035 навуковых работнікаў мы маем акадэмікаў 21, прафесараў 85, дацэнтаў 191, старэйшых навуковых работнікаў 314, асістэнтаў і малодшых навуковых работнікаў 496.

За справаздачны перыяд вырасла колькасць і ўзрос ідэйны ўзровень работнікаў навукі і мастацтва. Рад пісьменнікаў і паэтаў, якія мелі ў мінулым нацыяналістычныя памылкі, становяцца на шлях перабудовы ў творчай рабоце. Вырас рад новых пісьменнікаў пасля Кастрычніцкай рэволюцыі. Буйным дасягненнем пісьменнікаў з'яўляецца апрацоўка пісьма таварышу Сталіну і «12 песень», прысвечаных Сталіну і Варашылаву, а таксама матэрыялы па гісторыі грамадзянскай вайны ў Беларусі.

Перакладаюцца на беларускую мову творы класікаў літаратуры, як Пушкіна, Горкага і інш.

Рад пісьменнікаў, як Якуб Колас, Бядуля, Глебка, Броўка, Крапіва, працуюць над лібрэто для беларускай оперы і кіно.

Справаздачны перыяд характарызуецца таксама ростам усіх відаў мастацтва. Так, Тэатр оперы і балета асвоіў рад класічных тво-

раў опернага мастацтва, як «Евгений Онегин», «Пиковая дама», «Кармен», «Флория То́ска» і інш.

Растуць і ўдасканальваюцца новыя здольныя кадры з карэнных нацыянальнасцей Беларусі: Александроўская, Млодэк, Балоцін, Чэмірысава і інш. Апошнія 2—3 гады паказваюць новы творчы рост тэатраў Беларусі.

Беларускі Першы дзяржаўны тэатр у апошнія гады асвоіў і паставіў такія п'есы, як «Ваўкі і авечкі» Астроўскага, «Скупы» Мальера, «Жыццё кліча», «Платон Крэчэт» і рад іншых.

Партыя і ўрад, бесперапынна клапоцячыся аб росквіце беларускага мастацтва, асігнавалі велізарныя сродкі на будаўніцтва тэатраў. У Менску да 20-годдзя Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэвалюцыі будзе закончан Вялікі тэатр оперы і балета, на будаўніцтва якога асігнавана 10 мільёнаў рублёў.

Буйных поспехаў дабілася Беларусь у справе кінофікацыі гарадоў, раёнаў і вёсак. Сетка кіноўстановак па гарадах БССР павялічылася. Калі на 1 студзеня 1936 года яна складала 193 кіноўстаноўкі, то на 1 студзеня 1937 года яна складае ўжо 240 кіноўстановак, у тым ліку гукавых кіноўстановак было на 1 студзеня 1934 года 15, на 1 студзеня 1937 года—86. Ва ўсіх гарадах і амаль ва ўсіх раёнах Беларусі ўстаноўлены гукавыя кіно. Апрача таго, гукавыя кіноўстаноўкі ёсць у 34 буйных соўгасах, калгасах, торфазаводах. У 1936 годзе на вёску накіравана было 50 гукавых кіноперасовак на аўтамашынах і 10 без аўтамашын. У 18 пагранічных раёнаў у пачатку 1937 года накіравана па дзве кіноўстаноўкі. У цяперашні час будуецца вялікая кінофабрыка, якая з'явіцца буйным укладам у нацыянальна-культурнае будаўніцтва нашай рэспублікі.

У галіне развіцця музыкальнага мастацтва буйным дасягненнем Беларусі трэба прызнаць арганізацыю Беларускай дзяржаўнай філармоніі ў складзе хору, аркестра і ансамбля народных інструментаў. Расшырана Менская кансерваторыя, і ў ёй зараз навучаецца 98 чалавек, замест 62-х у 1934 годзе. Адкрыта музыкальнае вучылішча ў Віцебску на 138 чалавек. Павялічан кантынгент абучаемых у гомельскім, менскім музыкальным вучылішчах з 219 да 325. Апрача таго, навучаецца ў музшколах 2.136 дзяцей.

Паказальнікам росту культурнага і заможнага жыцця з'яўляецца шырокае развіццё мастацкай самадзейнасці Беларусі. У 1936-37 годзе было праведзена 14 усебеларускіх алімпіяд самадзейнага мастацтва, у якіх прымала ўдзел да 3.000 чалавек. У Беларусі ў канцы 1936 года было 14.000 розных гурткоў, з якіх драматычных 6.000, харавых 5.000, музыкальных 2.400.

Дэманстрацыяй росту самадзейнага мастацтва з'яўляецца тое, што рад самадзейных калектываў Менска, Магілева ў 1936 годзе выступаў у Крэмлі, у прысутнасці таварыша Сталіна і членаў Палітбюро, а таксама ў тэатры народнай творчасці. Яны атрымалі высокую ацэнку сваіх творчых якасцей.

У гарадах і рабочых пасёлках у 1937 годзе налічваецца 176 клубаў і 2.023 чырвоныя куткі. У калгасах мы маем 1.427 хат-чытальняў.

Бібліятэк у 1937 годзе налічваецца да 10.000 з кніжным фондам да 5 мільёнаў экзэмпляраў кніг. Асаблівае становішча займае Беларуская дзяржаўная бібліятэка, якая налічвае 1.638.000 кніг. Гэта бібліятэка мае 15.000 пастаянных чытачоў. За 1936 год бібліятэку наведала 405.000 чалавек і было выдана на рукі 740.000 кніг.

Мы маем велізарнае павелічэнне колькасці газет і іх тыража. Калі на 1 студзеня 1934 года выдавалася 75 гарадскіх і раённых друкаваных газет пры тыражы ў 298 тысяч экземпляраў, то на 1 студзеня 1937 года выдаецца 4 акруговыя і 86 гарадскіх і раённых друкаваных газет, тыраж якіх складае 374.500 экземпляраў. Апрача таго, на прадпрыемствах, будоўлях, транспарце, у соўгасах у 1937 годзе выдаецца 96 шматтыражак, тыраж якіх складае 103.410 экземпляраў.

Аб велізарным росце культурнай і палітычнай актыўнасці мас працоўных Беларусі сведчаць наступныя лічбы выдання твораў класікаў марксізма-ленінізма. За 10 год, гэта значыць з 1924 па 1933 год, творы Маркса—Энгельса выданы на беларускай мове толькі ў 14 назвах з колькасцю 98.000 экземпляраў. Творы Леніна ў 52 назвах з колькасцю 473.000 экземпляраў; творы таварыша Сталіна ў 14 назвах з колькасцю 645.000 экземпляраў. За тры гады з 1933, уключаючы 1936 год, адпаведна выдана твораў Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна ў колькасці 2.013.360 экземпляраў. За гэты перыяд творы Сталіна выданы ў 28 назвах з тыражом 392 тыс. экземпляраў.

Таварышы, мы маем велізарны рост і нашага радыё і іншых відаў культуры.

## У галіне матэрыяльнага становішча рабочага класа і калгаснага сялянства

З ростам прамысловасці БССР вырасла і колькасць рабочых. Так, напрыклад, калі на 1 ліпеня 1932 года колькасць рабочых у нашай прамысловасці складала 99.216 чалавек, то на 1 ліпеня 1936 года мы мелі 136.089 чалавек.

Яркім паказальнікам росту добрабыту рабочага класа з'яўляюцца даныя павелічэння сярэдняй месячнай зарплаты рабочых. Так, напрыклад, ва ўсёй прамысловасці сярэдняя зарплата раўнялася ў 1932 годзе—105 рублёў у месяц, у 1934 годзе—122 руб., у 1935 годзе—152 руб., у 1936 годзе—178 руб. Бюджэт соцстраха ў 1933 годзе складаў 78 мільёнаў рублёў, у 1935 годзе—100.740.000 руб. У 1933 годзе было прапушчана праз рэспубліканскія дамы адпачынку Беларусі 25.000 чалавек рабочых і служачых, у 1936 годзе прапушчана 48,5 тыс. чалавек, або рост на 93,8 проц.

На выплату пенсій, дапамогу пенсіянерам і перакваліфікацыю выдаткавана толькі ў 1936 годзе 20 млн. руб.

Рост тавараабароту, які характарызуе таксама паляпшэнне матэрыяльнага становішча працоўных, вызначаецца ў наступных лічбах: калі ў 1934 годзе тавараабарот складаў 1.195 млн. руб., то па плану 1937 года складзе 2.807 млн. руб., або рост на 135 проц.

Расходная частка бюджэта нашай рэспублікі вырасла з 333 з паловай мільёнаў рублёў у 1933 годзе да 939 з паловай мільёнаў рублёў па плану 1937 года.

Значна ўзрасло спажыванне прадуктаў харчавання рабочай сям'і. Па даных учоту нашага статыстычнага кіраўніцтва, праведзенага па буйнай прамысловасці Беларусі, відаць, што спажыванне мукі пшанічнай павялічылася ў 1936 годзе ў параўнанні з 1933 годам на 510 проц.; крупы ўсякай—на 204 проц., мяса—174 проц., сала—222 з лішнім процанта, масла кароўяга—212 проц.

Аб росце матэрыяльнага добрабыту калгаснага сялянства гавораць факты росту забяспечанасці калгаснікаў жывёлай індывідуальнага карыстання: амаль поўнасцю ліквідавана бескароўнасць калгаснікаў,

толькі 5,7 проц. усіх двароў калгасных і адзіночак у 1936 годзе не мела буйнай рагатай жывёлы.

На базе калгасаў рэзка падняліся і другія віды матэрыяльна-культурнага становішча калгаснага сялянства. Так, па даных бюджэтнага абследвання, грашовыя даходы калгасаў у 1936 годзе ўзраслі параўнальна з 1933 годам больш чым у тры разы, або дакладней на 322,6 проц. Узрасло спажыванне зернавых прадуктаў за гэты час на 32 проц. і па пшанічнаму хлебу больш чым у два разы. Спажыванне цукру павялічылася больш чым у 9 разоў у параўнанні з 1933 годам; мыла гаспадарчага ў 4 разы, рыбных прадуктаў—у 2 разы; спажыванне сала—на 22 проц., мяса—28 проц., малочных прадуктаў—22 проц., яек—на 44 проц.

Характэрна, што пры агульным росце расходнай часткі бюджэта калгасаў на 71,9 проц. расходы на культтавары павялічыліся амаль у 4 з паловаю разы і на пакупку мэблі і іншай абстаноўкі больш чым у 6 з паловаю раз.

Гэтыя даныя гавораць аб росце культурнасці нашага соцыялістычнага сяла.

Усе гэтыя перамогі нашага соцыялістычнага будаўніцтва і ажыццяўленне ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі запісаны і замацаваны новай Канстытуцыяй Беларусі, прынятай на аснове Сталінскай Канстытуцыі.

Наша беларуская соцыялістычная рэспубліка ў цесным садружастве з усімі народамі вялікага Савецкага Саюза сустрэла і прыняла Сталінскую Канстытуцыю з велізарным уздымам і ўсеагульным ухваленнем шырокіх працоўных мас гарадоў, мястэчак, сёл і раёнаў.

## II. ПАРТЫЙНА-ПАЛІТЫЧНАЯ РАБОТА КП(б)Б

### I. Недахопы партыйна-палітычнай работы

#### Забыццё капіталістычнага акружэння

Таварыш Сталін у сваім дакладзе і заключным слове на Пленуме ЦК ВКП(б) з усёй большэвіцкай рэзкасцю ўскрыў памылкі і недахопы, якія меліся ў нашай рабоце.

«Партыйныя таварышы,—гаварыў таварыш Сталін,—забылі аб тым, што савецкая ўлада перамагла толькі на адной шостай частцы свету, што пяць шостых свету складаюць уладанні капіталістычных дзяржаў, яны забылі, што Савецкі Саюз знаходзіцца ў абстаноўцы капіталістычнага акружэння. У нас прынята балбатаць аб капіталістычным акружэнні, але не хочуць удумацца, што гэта за штука капіталістычнае акружэнне. Капіталістычнае акружэнне гэта не пустая фраза, гэта вельмі рэальная і непрыемная з'ява...»

І далей:

«...Ці не ясна, што пакуль існуе капіталістычнае акружэнне, будуць існаваць у нас шкоднікі, шпіёны, дыверсанты і забойцы, засылаемыя ў нашы тылы агентамі замежных дзяржаў?»

«...Будучы захоплены гаспадарчымі поспехамі, яны сталі бачыць у гэтай справе пачатак і канец усяго, а на такія справы, як міжнароднае становішча Савецкага Саюза, як капіталістычнае акружэнне, узмацненне палітычнай работы партыі, барацьба са шкодніцтвам і т. п.—не сталі проста звярачаць увагу, лічачы, што ўсе гэтыя пытанні прадстаўляюць другарадную і нават трэцерадную справу».

Таварышы, гэтыя памылкі і недахопы ў партыйна-палітычнай рабоце, ускрытыя таварышом Сталіным у дакладзе і заключным слове на Пленуме ЦК ВКП(б), мелі месца поўнасцю і цалкам і ў КП(б)Б і ў першую чаргу ў рабоце самога ЦК КП(б)Б.

Нашы дасягненні ў Беларусі ва ўсіх галінах гаспадарчага і культурнага будаўніцтва былі-б значна большыя, калі-б кіруючыя нашы партыйныя органы і ў першую чаргу ЦК КП(б)Б не прагледзелі-б шкодніцкую работу контррэвалюцыйных трацкістаў, правых і нацыяналфашысцкіх шпіёнаў, дыверсантаў, шкоднікаў.

Таварышы, не гледзячы на агульныя неаднаразовыя папярэджанні ЦК ВКП(б) і асабіста таварыша Сталіна і непасрэдныя папярэджанні нам—ЦК КП(б)Б і ўсёй КП(б)Б—аб павышэнні большэвіцкай пільнасці, патрэбна прама сказаць, што ў рабоце ЦК КП(б)Б і ў кіруючых партыйных органах КП(б)Б за апошні час мелі месца палітычная бесклапотнасць, дабрадушнасць, прытупленне большэвіцкай пільнасці, неразуменне таго, што трацкісты ператварыліся ў банду шпіёнаў, забойц і дыверсантаў. Карыстаючыся гэтым, ворагі народу—трацкісты, правыя, нацыяналісты—гэтыя агенты германа-японскага і польскага фашызма—у нямалай колькасці пралезлі на адказныя пасты ў совецкім, гаспадарчым і партыйным апаратах Беларусі. Выкрыць многіх з іх удалося з вялікім спазненнем і толькі зараз.

Дастаткова ўказаць на такіх мацёрых ворагаў, якіх мы выкрылі ў апошні час, як Убарэвіч, Бенек, Дзякаў, Арабей, Чарот і цэлая плеяда яшчэ такіх бандытаў.

Не гледзячы на тое, што за апошнія гады ў КП(б)Б, несумненна, праароблена вялікая работа, якая садзейнічала павышэнню пільнасці ў арганізацыі і ўмацаванню партыйных радоў (я маю на ўвазе праведзеную работу па праверцы і абмену партдакументаў, у рэзультаце якой выкрыта нямала ворагаў народу—трацкістаў, зіноўеўцаў, правых, нацыяналістаў і іншых варожых элементаў), аднак асноўныя парокі, буйныя памылкі, недахопы, якія ўскрыты Пленумам ЦК ВКП(б), не былі своечасова ліквідаваны ЦК КП(б)Б.

Як магло здарыцца, што ў нас пад бокам злейшыя ворагі народу, якія прабраліся на адказныя пасты, прабраліся нават у склад ЦК і бюро ЦК КП(б)Б, на працягу доўтага часу не былі выкрыты? Гэта можна, таварышы, вытлумачыць толькі тым, што ў партарганізацыі і ў першую чаргу ў ЦК КП(б)Б не была разгорнута большэвіцкая крытыка і самакрытыка, была прытуплена рэволюцыйная пільнасць, квітнела ў значных размерах падхалімства і ўгодніцтва, якія глыбока ўкараніліся ў арганізацыі, якія ў першую чаргу культываваліся і патураліся з боку бюро ЦК КП(б)Б, з боку ЦК. Бюро ЦК прызнала гэтыя памылкі ў сувязі з заметкай, апублікаванай нядаўна ў «Правде».

ЦК КП(б)Б не выкрыў і не ўдарыў своечасова па антыпартыйнай групаўшчыне, якой асабліва былі захоплены такія людзі, як Галадзед і іншыя. Прыкладам небольшэвіцкіх, непартыйных адносін да справы могуць служыць таксама паводзіны былога старшыні мазырскага акрвыканкома Дубіны, які арганізаваў склоку супроць акругкома. Бюро мазырскага акругкома сядзела і сямейным парадкам «утрасала» гэтыя справы, угаварваючы Дубіну.

Гэта антыпартыйная групаўшчына нанесла вялікую шкоду КП(б)Б ва ўсёй яе рабоце, дапамагала ворагам тварыць сваю подлую справу.

Я хачу падкрэсліць адзін бок пытання гэтай групаўшчыны. Вось

некаторыя групоўшчыкі, а зараз выкрытыя ворагі—Бенек, Дзякаў і іншыя, як быццам знешне былі незадаволены і змагаліся супроць Галадзеда. На самой справе, як гэта цяпер зусім ясна, гэта была толькі маскіроўка і прыкрыццё для сваёй падрыўной, шкодніцкай работы супроць партыі і совецкага ўрада. Манеўранасць і хітрасць ворагаў аказаліся больш складанымі, чым можна было меркаваць. Не заўважыўшы гэтага, мы своечасова не перабудаваліся, каб паставіць барацьбу з гэтымі шпіёнамі і шкоднікамі. Вось чаму мы сталі як перад нечаканасцю, калі нам сталі вядомы факты многагадовай шпіёнскай і дыверсійнай работы Убарэвіча, Бенека, Дзякава, Арабея і цэлага раду іншых.

Гэтыя факты сведчаць аб тым, што мы толькі зараз дакапаліся да карэнняў шкодніцкіх шпіёнскіх груповак у Беларусі. Але было-б няправільна сказаць, што ўсе іх кадры выкрыты і выгнаны. У нас яшчэ прадстаіць вялікая і сур'ёзная работа па выкрыццю гэтых ворагаў, па выяўленню вынікаў іх падрыўной работы. Ці былі сігналы і даволі сур'ёзныя ў ЦК адносна Бенека, Дзякава, Хадасевіча і іншых? Так. У ЦК КП(б)Б і Менскім гаркоме КП(б)Б былі сігналы, але па іх ніякіх сур'ёзных мер не было прынята.

Ці былі, напрыклад, сігналы адносна Хадасевіча ў Менскім гаркоме партыі, аб яго мінулым і аб яго двурушніцтве? Былі, але, на жаль, своечасова зноў-такі па гэтых сігналах не былі прыняты своечасовыя меры.

Таварышы, мы павінны памятаць аб тым, што вораг глыбока канспіруецца, што ён надзявае на сябе часта лічыну друга, што ён сям-там нават «добра» працуе, ствараючы відзімасць сваёй аддансці партыі і совецкай уладзе для таго, каб разгарнуць сваю дзейнасць у момант абвяшчэння вайны супроць Совецкага Саюза. Зусім ясна, што гэтыя ворагі, асабліва зараз, калі рад іх гнёздаў выкрыты і ліквідаваны, будуць прымаць меры там, дзе яны захаваліся для таго, каб яшчэ больш канспіравацца.

Вось чаму ад нас, асабліва большэвікоў Беларусі, працуючых на граніцы з фашысцкай Польшчай, патрабуецца выключная астрата і пільнасць да кожнага факта—ці то паломка машыны, ці іншая вылазка.

Павышэнню большэвіцкай пільнасці, мабілізаванасці радоў КП(б)Б на выкрыццё ворагаў перашкаджала тое, што ў партыйнай арганізацыі крытыка і самакрытыка былі разгорнуты нездавальняюча, а ў радзе выпадкаў мелі месца факты прамога заціску. На сігналы радавых комуністаў з боку кіруючых органаў партыі, у тым ліку і ЦК, увагі не звярачалася.

Прайшоўшыя справаздачна-выбарчыя сходы, канферэнцыі ўскрылі многа такіх фактаў.

Я вазьму, напрыклад, Менскую партыйную арганізацыю. Трэба прама сказаць, што Менскі гарком партыі на працягу раду год не падвяргаўся сур'ёзнай крытыцы ні з боку гарадской партыйнай арганізацыі, ні з боку ЦК. Разам з тым, гэта абсалютна не азначае, што Менскі гарком партыі працаваў лепш, чым іншыя, што ў яго не было прарываў у рабоце. Наадварот, прарываў было вельмі многа.

У рэзультаце гэтага, як вы ведаеце ўжо з друку, у рэдакцыі газеты «Звязда» быў выкрыт актыўны трацкіст-тэрарыст Розенблюм. І хоць за год да яго арышту партыйная арганізацыя «Звязды» аб-

мяркоўвала пытанне аб Розенблюме і змазала яго, гарком у гэту справу не ўмяшаўся, прайшоў міма гэтага факту і ў перыяд праверкі партдакументаў. Толькі пасля арышту Розенблюма з вялікім спазненнем была выкрыта група ворагаў, атрымаўшых новыя партыйныя білеты ў гэтай партыйнай арганізацыі.

Менскі гарком партыі меў таксама нямала сігналаў аб трацкісцкай дзейнасці ў Белдзяржвыдавецтве. Разам з тым, злейшыя ворагі народу, якія праводзілі актыўную шкодніцкую, шпіёнскую работу—Жукаў і Мілоў—у перыяд абмену партдакументаў атрымалі новыя партыйныя білеты.

І, нарэшце, як я ўжо ўказваў, факт аб Хадасевічу. Я мог-бы расшырыць гэтыя факты па Менску, хоць-бы па партарганізацыі Наркамзема, Наркомасветы і інш. Аднак і гэтых, відаць, дастаткова.

Але Менскі гарком не з'яўляецца выключэннем; рад падобных-жа фактаў ускрыты і ў Віцебскай, і ў Гомельскай партыйных арганізацыях. Так, напрыклад, у віцебскім чыгуначным дэпо арудвала трацкісцкая контррэволюцыйная група над зруйнаваннем чыгуначнага вузла, паравознай і вагоннай гаспадаркі. Не гледзячы на тое, што палітаддзел і гарком партыі мелі рад сігналаў адносна іх падрыўной работы, аднак своечасова яны не былі выкрыты. Можна прывесці і факт падрыўной, шкодніцкай работы ворагаў з партыйнымі білетамі ў кішэні ў Віцебскім ветзооінстытуце і інш.

У Гомельскай партыйнай арганізацыі мелі месца факты шкодніцкай шпіёнскай работы ў кіраўніцтве Беларускай чыгункі, узначальваемай трацкістам Владзімірскім, на заводзе імя Ланцуцкага, на параходстве, у гандлёвых арганізацыях.

Не лепш справа абстаяла ў Барысаўскай партыйнай арганізацыі. На барысаўскім камбінаце «Комінтэрн» на працягу доўгага часу квітнела п'янства, раскрадванне дзяржаўных сродкаў у велізарных размерах, грубы заціск самакрытыкі з боку кіраўніцтва камбіната. Ці былі аб гэтым сігналы ў райкоме? Але, таварышы, былі. Разам з тым райком астаўся глухім да гэтых сігналаў. На гэтым камбінаце з вялікім спазненнем была раскрыта ўся гэта гнусная панама, якая на працягу доўгага часу тварылася на вачах райкома.

Своечасоваму выкрыццю ворагаў народу і іх падрыўной работы перашкаджала і тая акалічнасць, што ў партарганізацыях, як ужо адзначалі, мелі месца падхалімства і правадырызм і не было сапраўднай барацьбы супроць гэтага падхалімства. Вось некалькі прыкладаў і фактаў, якія характарызуюць гэта падхалімства.

Аршанская раённая газета «Ленінскі прызыў» апісвае на сваіх старонках сустрэчу райкома КП(б)Б з ударніцамі-комсамолкамі ільначасальнай фабрыкі такім чынам: «Сакратара райкома т. Соскіна, члена бюро, намесніка старшыні райвыканкома т. Вараб'ёва, сакратара райкома комсамола т. Шапіра дзяўчаты сустрэлі дружнымі апладысментамі. Закончыўшы сваю прамову, т. Сапрынава ад імя 10 ударніц-комсамолак ільначасальнай фабрыкі прыпаднесла сакратару райкома т. Соскіну прыгожы букет жывых кветак. З паўтарагадзіннай, насычанай цікавымі фактамі прамовай выступіў сустрэты дружнымі апладысментамі т. Соскін».

У Бягомльскім раёне пры ўручэнні актаў на вечнае карыстанне зямлёй арганізавалі сустрэчу з кветкамі раённых «правадыроў»—сакратара райкома Дэйча, старшыню райвыканкома Шэмпеля. У тым-жа раёне на вечары па адрасу дырэктара леспрамгаса выкід-

ваўся такі лозунг: «Няхай жыве прадаўжальнік справы Маркса—Энгельса—Леніна наш баявы кіраўнік тав. Кац» **(Смех).**

У Віцебску нават у праграму школ уключан такі прадмет, як вывучэнне мясцовых правадыроў. Так, напрыклад, у ФЗВ пры фабрыцы «КІМ» выкладчык-комуніст праводзіў дыктоўку з вучнямі на тэму: «Нашы правадыры». Запісаўшы па чарзе прозвішчы членаў Палітбюро ЦК ВКП(б), яны пераходзілі да прозвішчаў рэспубліканскіх правадыроў. У вучнёўскіх сшытках адно за другім красуюцца як правадыроў прозвішчы Чарвякова, Галадзеда і інш. Не абыйдзены ў дыктоўцы і мясцовыя «правадыры». Так, у сшытках асобнай графой запісаны ў Віцебску «правадыры» тт. Жураўлёў, Рагожкін—сакратар гаркома комсамола **(Смех).**

У Менску 1 мая па Совецкай вуліцы ў вітрыне магазіна «Танная кніга» быў вывешан велізарны партрэт Галадзеда, а вакол яго невялікія партрэты членаў Палітбюро ЦК ВКП(б).

Не мала фактаў падхалімства і ўгодніцтва, а таксама некаторая сямейственасць мелі месца ў Бабруйскай партарганізацыі. Рэспубліканскі друк не толькі не змагаўся супроць гэтага падхалімства, а наадварот, сам у шырокіх размерах культываваў яго. Яркім прыкладам гэтага з'яўляецца перадавы артыкул «Звязды» ад 8 лютага 1937 года, якая ў пылу падхалімства і ўгодніцтва ўзвяла паклёп на беларускі і яўрэйскі народы.

Падхалімства і ўгодніцтва мірна ўжываліся з заціскам крытыкі і самакрытыкі. Адно дапаўняла другое. Як правіла, там, дзе працвітала падхалімства і ўгодніцтва, не было большэвіцкай крытыкі. Наадварот, там крытыка і самакрытыка заглушаліся. Гэта дастаткова поўна і з усёй рэзкасцю ўскрылі выбарчыя партыйныя сходы і партыйныя канферэнцыі. Факты паказваюць, што там-сям кіраўнікі яшчэ да апошняга часу не зрабілі ўрокаў для сябе з рашэнняў Пленума ЦК ВКП(б), з даклада і заключнага слова таварыша Сталіна. Так, напрыклад, былы старшыня чэрыкаўскага райвыканкома Кучаравы пасля таго, як яго на партыйным сходзе пакрытыкавалі, выступіў з такой прамовай: «Я паслан у ваш раён ЦК КП(б)Б як палітычна пісьменны чалавек, а вы думаеце мяне выпраўляць. Калі вы яшчэ будзеце крытыкаваць, то я на сябе рукі накладу». На бюро райкома Кучаравы заявіў: «У нас крытыка лье праз край, трэба крытыкаў здорава адзёрнуць, а крытыку рэгуляваць і ўкласці ў пэўнае русло».

**Валковіч.** Яго ўжо адрэгулявалі.

— Яго, вядома, знялі з работы. Але я думаю, таварышы, што, мабыць, ёсць яшчэ не адзін такі Кучаравы.

### Парушэнне асноў дэмакратычнага цэнтралізма

Таварышы, статут партыі ў партыйных арганізацыях Беларусі грубейшым чынам парушаўся. Важнейшы прынцып арганізацыйнага будаўніцтва нашай партыі—дэмакратычны цэнтралізм, які мае на мэце выбарнасць усіх кіруючых партыйных органаў знізу даверху, быў у нас падменен небольшэвіцкай практыкай кааптацыі і прамога назначэнства, як гэта мела месца ў Гомельскай, Бабруйскай, Барысаўскай, Слуцкай і інш. арганізацыях КП(б)Б. Зусім натуральна, што ў такой шырока распаўсюджанай практыцы кааптацыі партыйных органаў, якая ўжывалася ў КП(б)Б, перш за ўсё віновен ЦК КП(б)Б.

ЦК КП(б)Б не толькі не павёў барацьбы з гэтай небольшэвіцкай практыкай, але і сам у масавым маштабе ўжываў яе. Вы ведаеце з даклада тав. Жданава на Пленуме ЦК ВКП(б), што ЦК КП(б)Б заняў «першае» месца ў параўнанні з другімі абкомамі і ЦК нацкомпартый у справе кааптацыі. За справаздачны перыяд было кааптавана ў склад ЦК КП(б)Б 28 чалавек. Такая небольшэвіцкая практыка аблягчыла класаваму ворагу пранікненне ў кіруючыя партыйныя органы не толькі пярвічных, раённых і гарадскіх арганізацый, але і ў склад ЦК КП(б)Б. Вы ведаеце, што ў склад ЦК КП(б)Б былі кааптаваны такія ворагі народу, як Арабей, Дзякаў, Уладзімірскі і інш.

У КП(б)Б быў таксама глыбока парушан важнейшы пункт статута партыі—аб перыядычнай справаздачнасці партыйных органаў перад сваімі партыйнымі арганізацыямі. Парушаны таксама тэрміны выбарнасці партыйных органаў. Даволі ўспомніць аб самым нашым з'ездзе, які збіраецца праз тры з паловай года. Але апрача гэтага вы можаце ўзяць і такія факты, як, напрыклад, тое, што Менскі гарадскі камітэт пасля выбрання яго не адчытваўся перад партыйнай арганізацыяй зусім. Усё гэта прывяло да таго, што партыйныя органы адышлі ад кантролю партыйных мас, ад прамой адказнасці перад партыйнымі масамі. Гэта прывяло да таго, што партыйныя органы страцілі густ да большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі, аслабілі сувязь з масамі.

Выключна яркім пацвярджэннем запушчанасці партыйна-палітычнай работы, якая мела месца ў КП(б)Б, з'яўляецца лепельская справа. Я не буду на ёй падрабязна спыняцца, бо гэта справа шырока асветлена як у партыйных арганізацыях, так і ў нашым друку. Я толькі хачу падкрэсліць, што падобныя факты, якія былі ўскрыты ў Лепельскім раёне, пасля спецыяльнай праверкі з боку ЦК КП(б)Б, выяўлены былі амаль ва ўсіх пагранічных раёнах. І таму мы павінны сказаць і на нашым з'ездзе яшчэ раз аб абсалютнай правільнасці пастановы ЦК ВКП(б), у якой указана т. Гікало, т. Валковічу і Галадзеду на тое, што толькі адсутнасць грамадска-палітычнай работы і палітычная слепата ў адносінах органаў, працуючых пад іх кіраўніцтвам, зрабілі магчымымі факты масавай незаконнай канфіскацыі маемасці ў сялян у Лепельскім раёне.

Трэба, таварышы, сказаць на нашым з'ездзе, што рад рашэнняў ЦК ВКП(б) і ўрада Саюза па гэтай справе і па лепельскай справе, якія датычаць паляпшэння партыйна-палітычнай і ўсёй гаспадарчай і культурнай работы ў пагранічных раёнах, мы выконваем пакуль яшчэ нездавальняюча. Нам тут трэба падкрэсліць, бо значэнне граніцы для ўсіх нас зразумела, і далейшае прамаруджанне ў знішчэнні ўсіх недахопаў, якія ёсць у рабоце пагранічных раёнаў і акруг, для нас будзе недаравальным.

### Недаацэнка справы прапаганды марксізма-ленінізма

Таварыш Сталін у сваім дакладзе і заключным слове на Пленуме ЦК ВКП(б) завастрыў увагу партыі на тое, што нашы партыйныя кіраўнікі сталі губляць густ да ідэалагічнай работы, да работы па партыйна-палітычнаму выхаванню партыйных і беспартыйных мас. Прапаганда марксізма-ленінізма, палітычнае выхаванне мас праз друк, кіраўніцтва газетамі—гэтыя важнейшыя пытанні былі ў нас другарадным, закінутым участкам. Таварыш Сталін указваў, што

большэвікі заўсёды высока цанілі друк, яны асабліва высока цанілі прапаганду і наогул друкаванае слова.

На справаздачна-выбарчых партыйных сходах і канферэнцыях, пасля Пленума ЦК ВКП(б) і ўказанняў таварыша Сталіна, былі ўскрыты буйнейшыя недахопы і памылкі ў пастаноўцы прапаганды, у пастаноўцы справы марксізма-ленінізма, палітычнай агітацыі ў масах.

ЦК КП(б)Б, гаркомы, акругкомы і райкомы партыі былі падвергнуты жорсткай крытыцы за недаацэнку кіруючымі партыйнымі органамі справы прапаганды марксізма-ленінізма, палітычнага выхавання і ідэйнай загартоўкі комуністаў. Інтарэс да павышэння ідэалагічнага ўзроўню ў членаў партыі каласальна вырас. Комуністы вельмі добра разумеюць, што не можа быць паспяховай барацьбы з ворагамі, калі яны не авалодаюць большэвізмам, калі вывучэнне гісторыі нашай партыі не будзе пастаўлена на належную вышыню.

Аднак нашы партыйныя органы пытаннямі партыйнай прапаганды і палітычнай агітацыяй у масах не кіруюць да гэтага часу і нездавальняюча перабудоўваюць сваю работу. Становішча партыйнай прапаганды застаецца яшчэ і зараз на нізкім узроўні.

Нядаўна было апублікавана пісьмо таварыша Сталіна ўкладальнікам падручніка па гісторыі ВКП(б). У гэтым пісьме былі дадзены ўказанні, якія маюць дачыненне не толькі да ўкладальнікаў падручніка, але і да ўсёй партыі: яны, гэтыя ўказанні, узбройваюць усю партыю, даюць ключ да авалодання большэвізмам. Ажыццяўленне ўказанняў таварыша Сталіна і рашэнняў Пленума ЦК ВКП(б) павінна з'явіцца асноўнай задачай усёй КП(б)Б.

Галоўныя і асноўныя недахопы прапагандысцкай работы заключаюцца ў тым, што ў большасці партыйных школ і гурткоў вывучэнне гісторыі партыі пастаўлена на нізкім ідэйным узроўні. Пераважае яшчэ верхаглядства. Гістарычная абстаноўка, у якой партыі прыходзілася працаваць, весці барацьбу з ворагамі ленінізма, не высвятляецца. У гэтым святле не лішне прывесці асобныя прыклады, як выкладаецца гісторыя ВКП(б) у сетцы партыйнай асветы.

У гуртку па вывучэнню гісторыі партыі бабруйскага ільнакамбіната прапагандыст тав. Новікава пачынае гутарку з наступнага пытання:

— Па колькіх пунктах партыя вяла барацьбу з новай апазіцыяй?

— Па сямі пунктах,—адказвае слухач Гелер.

Якія гэта пункты—так і засталося невысветленым. Важна, як відаць, каб слухач запомніў лічбу 7.

Прапагандыст, задаволіўшыся, відаць, адказам, задае наступнае пытанне:

— Па якіх пытаннях вяла партыя барацьбу з апазіцыяй?

І, не атрымаўшы адказу на пытанне, не знайшла часу растлумачыць гэтае важнае пытанне слухачам і пераходзіць да разбору тэмы аб магчымасці перамогі комунізма ў адной краіне. І гэтае пытанне разбіраецца ў прымітыўнай форме. Прапагандыст пытае:

— Ліквідаваць розніцу паміж горадам і вёскай можам?

— Можам,—хорам адказваюць слухачы.

— Ліквідаваць розніцу паміж разумовай і фізічнай працай можам?

— Можам,—таксама хорам адказваюць слухачы.

Так адарвана ад жыцця, рэчаіснасці выкладаецца гісторыя партыі.

Наўрад ці трэба даказваць, што такая прапаганда нічога карыснага не дае.

Гэты гурток не з'яўляецца выключэннем. У радзе райкомаў не ліквідавана яшчэ сезоннасць у партыйнай прапагандзе. Многія кіраўнікі, спасылаючыся на «пазачарговыя» мерапрыемствы, зрываюць ці згортваюць партыйную прапаганду. Яркім прыкладам можа служыць Кіраўскі раён. Там партыйная вучоба зрывалася пад рознымі повадамі. Тут—і мясапастаўкі, і падрыхтоўка да веснавой сяўбы, распаўсюджанне пазыкі і т. д. А з жніўня 1936 г. па люты 1937 г. зусім спынілася партыйная вучоба ў раёне. І патрабавалася спецыяльнае ўмяшанне ЦК партыі, каб аднавіць гурткі партыйнай асветы ў гэтым раёне.

Такое-ж становішча мы маем і ў радзе іншых раёнаў. У Чырвонапольскім раёне партыйнай вучобай ахоплены тыя комуністы, якія знаходзяцца ў раённым цэнтры. Комуністы-ж вёскі прапагандай не ахоплены.

Выключна дрэнна пастаўлена ў нас вывучэнне гісторыі КП(б)Б. Інстытут гісторыі партыі падрыхтаваў некаторыя матэрыялы для вывучэння гісторыі КП(б)Б, але, аднак, мы яшчэ не змаглі выдаць гэтыя матэрыялы. Тут вінават і ЦК КП(б)Б.

Работа па вырошчванню, абучэнню прапагандысцкіх кадраў у нас пастаўлена пакуль яшчэ нездавальняюча. Семінары прапагандыстаў працуюць у большасці сваёй бессістэмна. Сакратары райкомаў і гаркомаў самаўхіліліся ад работы з прапагандыстамі. Рэдкая з'ява, калі сакратар гаркома ці райкома праводзіў-бы заняткі з прапагандыстамі. Кіраўнікі партыйных арганізацый рэдка выступаюць з дакладамі перад масамі аб міжнародным і ўнутраным становішчы, аб палітычных задачах і мерапрыемствах партыі і ўрада.

Да з'езда партыі мы маем ўсяго 2.584 прапагандысты, з іх: беларусаў 1.397 чалавек, яўрэяў 703, рускіх 316, палякаў 63 і іншых нацыянальнасцей 105.

Па роду сваёй работы прапагандысты размяркоўваюцца такім чынам: сакратароў парткомаў і парторгаў—525 чал., сакратароў райкомаў і гаркомаў—53, партработнікаў (сюды ўваходзяць інструктары райкомаў, прапагандысты, загадчыкі парткабінетамі, палітработнікі МТС і т. д.)—461 чал., рабочых—76, калгаснікаў—23, працуючых на гаспадарчай, совецкай, кааператыўнай і іншых работах—1.030 чал.

Па адукацыі і палітычнай падрыхтоўцы склад прапагандыстаў такі: скончыўшых інстытут чырвонай прафесуры—7 чал., комвузы і курсы марксізма-ленінізма—101 чал., СПШ—479 чал., 3- і 6-месячныя курсы прапагандыстаў—633 чал., нідзе не вучыліся 864 чал.

Станоўчым з'яўляецца тое, што ў складзе прапагандыстаў 60 проц. беларусаў. Трэба ўсё-ж адзначыць, што па агульна-палітычнай падрыхтоўцы склад прапагандыстаў яўна нездавальняючы.

Перад намі задача—пераглядзець склад прапагандыстаў, вылучыць лепшых большэвікоў прапагандыстамі вучэння Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна. Трэба дабіцца, каб нашы сакратары райкомаў і гаркомаў асабіста ўзначалілі гэту работу, прынялі ўдзел у пераглядзе прапагандыстаў. Калі-б самі кіраўнікі ўзначальвалі справу партыйнай прапаганды і палітычнай агітацыі, мы не мелі-б такіх фактаў, калі пасля ўжо праверкі партыйных дакументаў у 1937 г. са складу прапагандыстаў выключана з партыі, як трацкістаў і працягваўшых трацкісцкую кантрабанду,—31 чал., у тым ліку: у Магілеве— 14, у Гомелі—

12 чал. У Гомелі выкрыт як трацкіст таксама і загадчык культпропам гаркома.

Трэба сказаць, што ЦК КП(б)Б не зрабіў для сябе неабходных урокаў з спецыяльнага рашэння ЦК ВКП(б) ад верасня 1936 г. аб становішчы падрыхтоўкі прапагандысцкіх кадраў у Беларусі. Гэтым-жа рашэннем быў знят загадчык аддзелам партыйнай прапаганды тав. Конік.

Не лепш у нас і з пастаноўкаю справы палітычнай агітацыі ў масах. Пытанні міжнароднага і ўнутранага становішча, рад іншых пытанняў, якія цікавяць шырокія масы працоўных, намі сістэматычна не растлумачваюцца. Шырокія масы працоўных не атрымліваюць своечасова адказу на гэтыя пытанні.

Падборам кадраў агітатараў, а таксама кіраўніцтвам іх работай нашы гаркомы, райкомы і парткомы, у тым ліку і ЦК, займаюцца бессістэмна, не вядуць з імі штодзённай работы. Асабліва ў запушчаным становішчы знаходзіцца антырэлігійная прапаганда, выкрыццё контррэволюцыйнай работы царкоўнікаў. Тут нашы кадры настолькі дрэнна падкаваны, што ў некаторых раёнах мы не здолелі проціпаставіць контррэволюцыйнай рабоце царкоўнікаў, не маглі арганізаваць правільнае растлумачэнне ў масах задач, пастаўленых у сувязі з новай Сталінскай Канстытуцыяй і падрыхтоўкай да выбараў у Советы.

Нам неабходна перш за ўсё павярнуць увагу нашых партыйных таварышоў, якія ўвязлі ў бягучай рабоце па лініі таго ці іншага ведамства, у старану вялікіх палітычных пытанняў міжнароднага і ўнутранага характару. Неабходна ўзняць справу прапаганды і палітычнай агітацыі ў масах на ўзровень, які ад нас патрабуе таварыш Сталін.

Неабходна ўзняць справу прапаганды марксізма-ленінізма, палітычнага выхавання мас на такую вышыню, каб яна адказвала ўсім патрабаванням і ўмовам перажываемага перыяда.

Мы маем вялікі рост тыража нашых газет. Усім вядома, якую велізарную ролю і значэнне мае большэвіцкі друк. Усё гэта бясспрэчна. Аднак, партыйнае кіраўніцтва друкам з боку ЦК КП(б)Б і кіруючых партыйных органаў пастаўлена дрэнна.

Падборам, вырошчваннем газетных кадраў, пачынаючы ад ЦК КП(б)Б і канчаючы раённымі арганізацыямі, займаліся нездавальняюча. Не выпадкова ў газеты пранікді ворагі народу, якія, карыстаючыся бясклопатнасцю кіраўнікоў партыйнай арганізацыі, выкарысталі друк для контррэволюцыйных мэт.

Аддзел друку ЦК КП(б)Б доўгі час узначальваў трацкіст Мінкін. Пад відам апячатак, прапускоў, у газеты працягваліся контррэволюцыйныя справы.

Замест разгортвання большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі, замест барацьбы з бясклопатнасцю, самасупакоенасцю, дабрадушнасцю, рад газет займаўся падхалімствам, абвалакваннем паасобных кіраўнікоў, угодніцтвам і т. д. І не выпадкова рад газет, замест большэвіцкага выкрыцця ворагаў, замест штодзеннага павышэння большэвіцкай пільнасці,—прытупляў гэту вострую зброю. Усё гэта з'яўляецца прамым рэзультатам недаацэнкі друку партыйнымі арганізацыямі.

Прайшоўшыя выбары парторганаў паказалі, што з кіруючымі кадрамі друку справа абстаіць выключна дрэнна.

Гэта-ж факт, што ў 24-х раёнах кандыдатуры рэдактароў газет былі адведзены са спісаў тайнага галасавання, не выбраны ў склад райкомаў. Гэты факт нямалаважны. Ён яшчэ раз паказвае, што мы

не прыступілі яшчэ да выканання ўказанняў таварыша Сталіна, да выканання рашэнняў Пленума ЦК ВКП(б) у адносінах друку.

Друку мы павінны практычна дапамагчы. Дапамагчы кіраўніцтвам, узняць значэнне друку, умацаваць яго кадрамі, узняць значэнне друку на такую вышыню, як гэтага патрабуе ад нас таварыш Сталін.

### Забыццё ленінска-сталінскага прынцыпа падбору партыйных кадраў

Лютаўска-сакавіцкі Пленум ЦК ВКП(б) указаў, што пры падборы і размеркаванні кадраў трэба падыходзіць не фармальна-бюракратычна, а па сутнасці, г. зн., па-першае, з пункту гледжання палітычнага, ці заслугоўваюць яны палітычнага давер'я, і па-другое, з пункту гледжання дзелавой прыгоднасці да гэтай работы.

Выхаванне кадраў, іх ідэйна-палітычная загартаванасць з'яўляюцца адной з важнейшых задач нашай партыі.

Падрыхтаваць іх ідэалагічна, зрабіць іх ленінцамі-сталінцамі, здольнымі арыентавацца ва ўнутранай і міжнароднай абстаноўцы— гэта значыць вырашыць дзевяць дзесятых нашых задач.

Таварышы, сталінскае правіла падбору і выхавання кадраў у нас, у КП(б)Б, скрозь і ўсюды парушалася. Былі ў нас і элементы сямейнасці, і факты падбору кадраў па прызнаку «сваіх».

Адсюль зусім не выпадковым з'яўляецца той факт, што ў перыяд праверкі і абмену партыйных дакументаў была ўскрыта вялікая засмечанасць нашых арганізацый варожымі людзьмі.

У час праверкі і абмену партыйных дакументаў выкрыты, як ворагі народу, прабраўшыяся ў апараты гаркомаў і райкомаў 50 чалавек, парторгі і сакратары парткомаў—74.

У раённым і цэнтральным кіруючым апараце выключан з партыі 421 чал.; па сельскагаспадарчых трэстах, соўгасах і машынатрактарных станцыях выкрыта 367 чал.; дырэктароў трэстаў, дырэктароў прадпрыемстваў прамысловасці і іх намеснікаў—150 чал. Пасля ўжо абмену партыйных дакументаў знята з работы сакратароў парткомаў і парторгаў 140 чал, з іх выключана з партыі 60 чал. Работнікаў раённага апарата знята з работы 31 чал., з іх 17 знята як ворагі народу.

Неабходна ўказаць, што мы маем надзвычайна вялікую цякучасць кадраў. Гэта не дае магчымасці па-сапраўднаму вывучаць людзей. Не паспее чалавек асвоіцца з работай, увайсці ў курс справы, як яго перакідаюць на работу ў другі раён. Напрыклад, па некаторых раёнах, асабліва пагранічных, змяняемасць была выключна частая.

У Дзержынскім раёне змяніліся: два першыя сакратары, чатыры другія сакратары, два пракуроры, сем дырэктароў МТС, два старшыні РВК, тры рэдактары газеты; у Лепельскім раёне—тры першыя сакратары, чатыры другія сакратары; у Даманавіцкім раёне—тры першыя сакратары, чатыры другія сакратары; у Дубровенскім раёне—тры пракуроры, чатыры старшыні РВК; у Лагойскім раёне—два пракуроры, чатыры дырэктары МТС, два старшыні РВК.

Колькасць прыведзеных фактаў можна было-б яшчэ павялічыць.

Таварышы, Пленум ЦК ВКП(б) намеціў канкрэтныя мерапрыемствы па падрыхтоўцы партыйных кадраў, пачынаючы ад сакратароў партыйных камітэтаў пярвічных партыйных арганізацый і канчаючы сакратарамі ЦК нацкомпартый, абкомаў і крайкомаў. Рашэнні партыі ўскладаюць на нас вялікую задачу ў справе падбору партыйных кіруючых кадраў.

Мы прыступілі да арганізацыі курсаў сакратароў парткомаў і парторгаў. Гэтыя курсы павінны адыграць вялікую ролю ў справе павышэння ідэйна-палітычнага ўзроўню нашых, як сказаў таварыш Сталін, унтэр-афіцэраў.

Разам з тым, мы яшчэ дрэнна выконваем рашэнні Пленума ЦК ВКП(б) аб падборы на працягу месяца намеснікаў сакратароў партыйных камітэтаў і парторгаў і на працягу чатырох месяцаў па два намеснікі сакратароў райкомаў.

Мала ў нас такіх сакратароў райкомаў і сакратароў партыйных камітэтаў, якія могуць пахваліцца выкананнем гэтай дырэктывы ЦК ВКП(б).

Адсюль наша задача—падабраць правераных большэвікоў у якасці намеснікаў сакратароў партыйных камітэтаў, сакратароў райкомаў, правесці работу па іх выхаванню. Зусім па-новаму мы павінны арганізаваць нашу работу з актывам, членамі райкомаў і партыйных камітэтаў. Мы павінны дабіцца таго, каб усе гэтыя прадстаўнікі кіруючых партыйных органаў паслядоўна праводзілі калектыўнасць у рабоце і накіравалі ўвагу на ўцягненне ў актыўнае палітычнае жыццё ўсіх членаў партыі для выканання тых вялікіх адказных задач, якія перад намі стаяць.

Таварыш Сталін на Пленуме ЦК ВКП(б) гаварыў аб фактах бяздушна-бюракратычных адносін некаторых нашых партыйных кіраўнікоў да лёсу паасобных членаў партыі. Трэба сказаць, што бяздушна-бюракратычныя адносіны былі і ў нашай рабоце.

У перыяд праверкі і абмену партыйных дакументаў з КП(б)Б была выключана значная група людзей, як пасіўных. Дзе-ні-дзе супроць комуніста выстаўлялі такія абвінавачванні, у якіх ён несумненна не быў віновен.

Калі-б нашы райкомы, гаркомы КП(б)Б, ды і ЦК КП(б)Б праявілі вялікую ўважлівасць да гэтых людзей, да разбору іх спраў,—значная частка гэтых людзей не была-б выключана з партыі.

Трэба сказаць, што выпраўленне памылак, якія мы дапусцілі ў гэтых адносінах, у нас ідзе павольна. Па сутнасці справы, нашы райкомы не прыступілі да выпраўлення гэтых памылак.

Такія адносіны да людзей, да членаў партыі нельга расцэньваць проста як памылкі. Гаворка ідзе аб няправільным палітычным падыходзе, гаворка ідзе аб скажэнні лініі партыі. Трацкісты, дыверсанты, шпіёны свядома ўводзілі ў заблуджэнне нашы кіруючыя партыйныя органы, каб адвесці агонь ад сапраўдных ворагаў і выключаць з партыі чэсных людзей.

Таму нам трэба і ў ЦК, і гаркомах, і райкомах сур'ёзна падыйсці, зварачацца да гэтага пытання і выправіць рад памылак, якія мы дапусцілі ў гэтым пытанні.

## 2. Узняць партыйна-палітычную работу

### Вынікі справаздачна-выбарчых сходаў у КП(б)Б

Таварышы, да моманту выбараў парторганаў і да нашага XVI з'езда КП(б)Б налічвае ў сваіх радах 33.828 членаў і кандыдатаў партыі. Справаздачна-выбарчыя сходы парторганаў у партарганізацыях Беларусі, праведзеныя на аснове рашэння Пленума ЦК ВКП(б) і ўказанняў таварыша Сталіна, прайшлі на высокім ідэйна-палітычным узроўні. Поўнае і няўхільнае выкананне рашэнняў Пленума ЦК

ВКП(б), строгае кіраўніцтва ўказаннямі ЦК ВКП(б) аб выбарах парторганаў закрытым (тайным) галасаваннем забяспечыла небывалае разгортванне бальшэвіцкай крытыкі і самакрытыкі ў партарганізацыях, забяспечыла выключна высокую актыўнасць усіх членаў і кандыдатаў партыі ў час правадзімых справаздачна-выбарчых сходаў.

У 1.704 партарганізацыях з колькасцю 13.692 чал. прымалі ўдзел у выбарах 12.705 чал. або 92,8 проц. Узровень партыйна-палітычнай работы у пярвічных партарганізацыях характарызуецца ацэнкамі, дадзенымі комуністамі на справаздачна-выбарчых сходах. КП(б)Б налічвае 2506 пярвічных партарганізацый. На справаздачна-выбарчых сходах у 1.291 пярвічных партарганізацыях, гэта значыць у палове арганізацый, работа парткомаў і парторгаў прызнана нездавальняючай. Калі ў сярэднім работа парторганаў прызнана нездавальняючай у 50 проц. пярвічных партарганізацыях, то ў паасобных гарадах і раёнах гэты процант значна павышаецца.

Вось, напрыклад, ацэнка работы кіруючых партыйных органаў па асобных арганізацыях. У Віцебску ўсяго пярвічных партарганізацый 191, работа прызнана нездавальняючай у 188; у Гомелі пярвічных партарганізацый 143, работа прызнана нездавальняючай у 109; у Добрушы з 15 пярвічных партарганізацый работа нездавальняючай прызнана ў 14; у Плешчаніцах з 19 работа прызнана нездавальняючай у 17 і т. д.

Гэтыя лічбы паказваюць, па-першае, што, відаць, у гэтых арганізацыях некалькі больш крытычна адносіліся да пытанняў работы і ацэнкі работы партарганізацый, парткомаў. Аднак, яны паказваюць і на тое, што работа пярвічных партарганізацый у гэтых арганізацыях была на нізкім узроўні, і не толькі ў гэтых арганізацыях, але і ў гарадскіх і раённых.

Справаздачна-выбарчыя сходы і партыйныя канферэнцыі з'явіліся паваротным пунктам у жыцці КП(б)Б. Разгорнутая на сходах бальшэвіцкая крытыка дапамагла нашым партарганізацыям ускрыць буйнейшыя прарывы ў пастаноўцы партыйна-масавай і палітычнай работы. Партыйныя арганізацыі, узброеныя рашэннямі Пленума ЦК ВКП(б), дакладам і заключным словам таварыша Сталіна, на сваіх сходах ускрывалі парочны стыль работы, выкрывалі ворагаў, якія, прытаіўшыся, прадаўжалі шкодзіць, прыкрываючыся партыйным білетам.

Справаздачна-выбарчыя сходы з відавочнасцю паказалі, што рад кіраўнікоў партарганізацый аказаліся няздольнымі стаць на чале палітычнага павароту ў жыцці краіны ў сувязі з прыняццем новай Сталінскай Канстытуцыі. Яны прадаўжалі працаваць бюракратычнымі метадамі, адарваліся ад партыйных мас. І не выпадкова кандыдатуры гэтых кіраўнікоў у час выбараў у парторганы былі адведзены са спісу тайнага галасавання.

Разам з тым, трэба прызнаць, што вынікі справаздачна-выбарчых партыйных сходаў, раённых партыйных сходаў і канферэнцый паказалі, што асноўны касцяк партыйных кадраў вытрымаў сур'ёзную праверку. Пераважная большасць старых партыйных работнікаў нанава выбраны ў парторганы. Гэты факт сведчыць аб тым, што партыйны апарат карыстаецца давер'ем шырокіх партыйных мас.

Вось некаторыя лічбы, якія пацвярджаюць гэта. У 284 (з 456) пярвічных партарганізацыях, дзе ёсць парткомы, выбраны сакратарамі

парткомаў таварышы, якія з'яўляліся сакратарамі да новых выбараў. З 2.033 парторгаў выбрана раней працаваўшых парторгамі 1321 чал.

Побач з гэтым трэба звярнуць асаблівую ўвагу на той факт, што ў працэсе выбараў вылучаны новыя, праверапыя, вырасшыя за апошнія гады большэвіцкія кадры. Склад парткомаў пярвічных партарганізацый аднавіўся амаль на 50 проц. З 2.061 члена парткома, выбраных на справаздачна-выбарчых сходах, уваходзіла ў папярэдні склад парткомаў 1.034 чал. З 1.627 членаў парткомаў 386 чал. упершыню выбрана членамі парткомаў. Сярод сакратароў парткомаў упершыню выбрана сакратарамі 59 чал. Сярод парторгаў пярвічных партарганізацый упершыню выбрана 352 чал. Пры абнаўленні складу парторгаў—714 з колькасці 2.033 чал.

Гэтыя лічбы яшчэ раз сведчаць аб тым, што ў партарганізацыі выраслі новыя кадры, што партыя выхавала тысячы новых выдатных большэвікоў.

Склад членаў гаркомаў і райкомаў, па папярэдніх даных, рысуецца ў наступным выглядзе. Усяго выбрана членаў гаркомаў і райкомаў 1.442 чал. Уваходзіла ў ранейшы склад райкомаў і гаркомаў 668 чал.—46,3 проц. Не выбіраліся раней у камітэты 361 чал.—25 проц.

Выбрана жанчын у склад гаркомаў і райкомаў 90 чал., членаў комсамола—92 чал.

Беларусаў у складзе членаў гаркомаў і райкомаў 760 чал.—52,7 проц.

Склад членаў гаркомаў і райкомаў па социяльнаму становішчу: рабочых 760—52,7 проц., сялян 414—28,7 проц., служачых і іншых 268—18,5 проц.

Склад сакратароў парткомаў і парторгаў па соцыяльнаму становішчу: рабочых 1445—58 проц., сялян 679—27,3 проц., служачых і іншых 365—14,7 проц.

Склад членаў парткомаў па соцыяльнаму становішчу: усяго 2.061 чал., рабочых 1379—66,9 проц., сялян 326—15,8 проц., служачых і інш. 356—17,3 проц.

Вынікі выбараў, аналіз складу новых партыйных органаў несумненна паказвае, што па нацыянальнаму складу, па соцыяльнаму становішчу і партыйнаму стажу мы маем здавальняючы склад нашых членаў парткомаў, сакратароў парткомаў, парторгаў, райкомаў і гаркомаў і кіруючых нашых партыйных органаў.

У склад нашых парторганаў улілася вялікая колькасць новых таварышоў. Гэта абавязвае нас, работнікаў райкомаў, гаркомаў, акругкомаў і ЦК КП(б)Б, арганізаваць работу па выхаванню гэтых кадраў і аказанню ім штодзеннай практычнай дапамогі.

Трэба мець на ўвазе, таварышы, што без належнай дапамогі, без штодзеннай увагі гэтым новым кадрам мы не зможам забяспечыць перабудову ўсёй партыйна-палітычнай работы ў духу тых патрабаванняў, якія нам прад'яўляе ЦК ВКП(б).

Мы яшчэ не зразумелі глыбіні ўсіх задач, звязаных з выхаваннем кадраў, звязаных з выкананнем указанняў таварыша Сталіна аб неабходнасці ўдумлівых, сур'ёзных адносін да кадраў, іх ідэйнага выхавання, клопатаў аб росце іх палітычнага і культурнага ўзроўню. І вось гэта, таварышы, трэба сказаць, з'яўляецца рашаючай, асноўнай умовай у справе далейшага росту нашых кадраў, у справе далейшага павышэння іх палітычнага і культурнага ўзроўню.

Мы не навучыліся яшчэ практычна ажыццяўляць указанні таварыша Сталіна аб неабходнасці ўважлівых адносін да кадраў. Мы яшчэ не ўсвоілі таго, што самы добры работнік не справіцца з работай, калі своечасова яму не дапаможам, не праінструктуем яго, своечасова не паправім яго.

На справаздачна-выбарчых сходах і ў выступленнях комуністаў і ў прынятых рашэннях была высунута вялікая колькасць прапаноў, забяспечваючых рашучае паляпшэнне арганізацыйна-партыйнай і палітычнай работы. Разам з тым, нашы партыйныя арганізацыі яшчэ не ўзяліся як след за абагуленне велізарнейшага вопыту і тых каштоўных прапаноў, якія былі высунуты комуністамі на справаздачна-выбарчых сходах.

Трэба нам з самага пачатку паставіць на належную вышыню справаздачнасць партыйных органаў, адказнасць за выкананне гэтых рашэнняў. Гэта несумненна забяспечыць яшчэ большае павышэнне актыўнасці на партыйных сходах; актыўнасць кожнага комуніста значна павысіцца, калі ён будзе бачыць выкананне сваіх прапаноў, унесеных ім на сходах.

Гаркомы і райкомы абавязаны так пабудаваць сістэму кіраўніцтва пярвічнымі партыйнымі арганізацыямі, каб асноўны ўпор і асноўную ўвагу сканцэнтраваць на праверцы ажыццяўлення прынятых рашэнняў. Роля райкомаў і гаркомаў тут не павінна зводзіцца толькі да таго, каб правяраць: яны абавязаны сістэматычна аказваць канкрэтную дапамогу пярвічным партыйным арганізацыям, інструктаваць іх, абагульняць вопыт работы, арганізоўваць абмен вопытам і павышаць на гэтым узровень партыйнай работы і пільнасць партыйнай арганізацыі.

Таварышы! Аддзелы ЦК КП(б)Б яшчэ не перабудавалі работу ў адпаведнасці з патрабаваннямі Пленума ЦК ВКП(б) і ўказаннямі таварыша Сталіна. Партыйна-палітычнай работай большасць аддзелаў не займаецца, яны яшчэ працуюць па-старому, а некаторыя работнікі з аддзелаў усё яшчэ захапляюцца гаспадарчымі пытаннямі, замест таго каб пераключыцца на пытанні партыйна-палітычнай работы.

## Партыйнае кіраўніцтва комсамолам

Таварышы, на 1 студзеня 1937 года комсамол Беларусі налічвае 73.527 чал., з іх дзяўчат 22.731 або 30 проц. За 1936 год комсамольская арганізацыя вырасла на 24 тыс. членаў комсамола. Трэба падкрэсліць, што мы ў ЦК КП(б)Б, як і ЦК комсамола, мала займаліся пытаннямі росту комсамольскіх радоў. У выніку—мы маем нездавальняючы рост комсамола і слабы ахоп несаюзнай моладзі палітычным выхаваннем.

Няма патрэбы даказваць, што комсамольская арганізацыя Беларусі з'яўляецца актыўным памочнікам партыі. У радах комсамола выхаваліся сотні, тысячы выдатных стаханаўцаў, паказваючых узоры соцыялістычных адносін да працы. Аб гэтым сведчыць хоць-бы той факт, што сярод моладзі мы маем 16 ордэнаносцаў, што комсамол падрыхтаваў толькі за 1936 год 341 пілота, 468 парашутыстаў; планерыстаў 1-й ступені 2.100, «варашылаўскіх стралкоў» 1-й ступені 21.317 чал. Аднак для нас зусім відавочна, што комсамольская арганізацыя Беларусі далёка яшчэ не спраўляецца з тымі задачамі, якія пастаўлены перад комсамолам нашым ЦК ВКП(б) і таварышом Сталіным.

Зусім слаба пастаўлена работа камсамольскіх арганізацый па выхаванню несаюзнай моладзі,—асабліва гэта адносіцца да выхавання несаюзнай моладзі,—ў калгасах, вёсках. Такое становішча скарыстоўваюць ворагі народу: яны прабуюць пашырыць свой уплыў на моладзь. Усё гэта—рэзультат таго, што з боку партыйных арганізацый, у першую чаргу з боку ЦК КП(б)Б, гаркомаў і райкомаў, кіраўніцтва камсамолам пастаўлена яшчэ слаба. Партыйныя арганізацыі не займаліся канкрэтна аператыўным кіраўніцтвам і дапамогаю камсамольскім арганізацыям, абмяжоўваючыся фармальным вылучэннем партпрымацаваных да камсамола, якія ў большасці сваёй ніякай дапамогі камсамолу не аказваюць. Нават тыя сакратары райкомаў і гаркомаў, якія з'яўляюцца членамі райкомаў камсамола, ніякай дапамогі камсамолу не аказваюць, з камсамольскім актывам не вядуць гутаркі і не бываюць на пасяджэннях райкомаў камсамола.

Буйныя недахопы ў рабоце партыйных арганізацый, адзначаныя ў рашэннях Пленума ЦК ВКП(б), маючыяся ў рабоце КП(б)Б, маюць месца ў камсамоле. Гэта пацвярджаюць і рашэнні апошняга пленума ЦК камсамола. Задача партыйных арганізацый—рашуча палепшыць кіраўніцтва камсамолам. Неабходна ўзмацніць ахоп моладзі камсамолам. Лозунг, пастаўлены таварышом Сталіным, аб авалоданні большэвізмам абавязвае партыйныя арганізацыі рашуча палепшыць выхаваўчую, прапагандысцкую і палітычную работу ў камсамоле і сярод несаюзнай моладзі горада і вёскі.

Асабліва вялікае значэнне набывае работа сярод дзяцей, бо выхаванне ў комуністычным духу падрастаючага нашага пакалення з'яўляецца неадрыўнай задачай. Трэба сказаць, што камсамол асабліва на гэтым участку вядзе работу дрэнна. Партыйныя арганізацыі выхаванню дзяцей аддаюць зусім мала ўвагі. Гэта пацвярджаецца хоць-бы тым, што ў нашых школах палітыка-выхаваўчая работа сярод дзяцей пастаўлена выключна дрэнна.

Камсамольскія арганізацыі прыступаюць да правядзення выбараў кіруючых камсамольскіх органаў на аснове закрытага (тайнага) галасавання. Партыйныя арганізацыі абавязаны забяспечыць, каб той багаты вопыт, які накоплен у партыйнай арганізацыі, поўнасцю перадаць камсамолу з тым, каб забяспечыць правядзенне справаздачна-выбарчых сходаў на высокім ідэйным узроўні, забяспечыць разгортванне большэвіцкай крытыкі ў арганізацыях камсамола, выявіць новыя кадры камсамольскага актыва, вырасшыя за апошнія гады ў камсамоле, асабліва з беларусаў.

## Партыйнае кіраўніцтва профарганізацыямі

Таварышы, трэба сказаць, што нашы профсаюзы ў сваёй рабоце зараз перажываюць своеасаблівы крызіс, характэрнымі рысамі якога з'яўляюцца: адрыў кіраўніцтва ад мас, грубае парушэнне ўнутрысаюзнай дэмакратыі, камандванне, адміністраванне, назначэнства, бюракратычныя адносіны да патрэб працоўных. Гэтыя памылкі і недахопы ў рабоце профсаюзаў, ускрытыя на пленуме ВЦСПС, цалкам і поўнасцю адносяцца і да работы профсаюзаў Беларусі. Бясклопатнасць, прытупленне пільнасці, меўшыя месца ў профсаюзах Беларусі, вядома сказаліся на нездавальняючым становішчы профсаюзаў. І гэта не выпадкова, таварышы, бо на чале профсаюзаў Беларусі на працягу

чатырох год знаходзіўся Кавальчук, які маскіраваўся, абманваў партыю, утойваючы сваю прыналежнасць да трацкізма.

Можна было-б прывесці цэлы рад фактаў засмечанасці прафсаюзаў—саюза швейнікаў, зямельных органаў, саюза работнікаў вышэйшай школы і т. д.—ворагамі народу і двурушнікамі.

Мелі месца ў нашых прафсаюзах і вялікія растраты сродкаў. Практыку кіраўніцтва прафсаюзнай работай трэба ў корані змяніць.

Надыходзячыя выбары ў Советы прад'яўляюць нашым прафсаюзным органам павышаныя патрабаванні. Прагрма іх работы дастаткова дакладна вызначана ў рашэннях апошняга пленума ВЦСПС. Яны ў асноўным зводзяцца да наступнага. Аднавіць унутрысаюзную дэмакратыю, заняцца шчыльна пытаннямі бытавога абслугоўвання прафсаюзных мас (дамы адпачынку, соцстрах, дзіцячыя яслі і інш.). Узначаліць справу культурна-асветнай работы сярод членаў прафсаюзаў; арганізаваць кіраўніцтва стаханаўскім рухам.

Нашы партарганізацыі, якія ў значнай ступені адказваюць за тое становішча, якое мы маем у прафсаюзах, павінны канкрэтна дапамагчы прафсаюзам перабудаваць сваю работу, узначаліць і арганізаваць правядзенне выбараў прафсаюзных органаў на высокім ідэйна-палітычным узроўні. Гэтая задача павінна быць найпершым абавязкам нашых партыйных арганізацый.

Шкодны, таварышы, і нічога агульнага з нашай лініяй не маюць факты пагардлівых адносін некаторых комуністаў і паасобных партарганізацый да прафсаюзнай работы. Комуністы нашай партыйнай арганізацыі цалкам і поўнасцю адказваюць за работу прафсаюзаў. Мы нікому не дазволім адносіцца да гэтай важнейшай работы з пагардай, з недаацэнкай.

### Партыйнае кіраўніцтва советамі

Таварышы, прайшоў год з часу ўсенароднага абмеркавання праекта Сталінскай Канстытуцыі. Аднак работа советаў за прайшоўшы час сведчыць аб тым, што мы яшчэ не здолелі перабудаваць работу ў духу патрабаванняў Сталінскай Канстытуцыі. Практыка кааптацыі ў советы, як вы ўсе ведаеце, была вельмі пашырана. Яна ў нас не спынена і пасля зацверджання Сталінскай Канстытуцыі. Так, у першым квартале 1937 года пасля надзвычайнага з'езда Советаў па 13 раёнах Беларусі каантован 31 член пленума і 16 членаў прэзідыумаў райвыканкомаў.

Дэмакратызацыя выбарчай сістэмы патрабуе карэннай змены работы советаў, яна патрабуе больш гласнасці ў рабоце совецкіх арганізацый. Адказнасць перад масамі павінна быць поўная. Іх дзейнасць павінна праходзіць на вачах мас.

Трэба найхутчэй з совецкіх арганізацый вытравіць бюракратызм, практыку кабінетнага вырашэння пытанняў. Трэба пакончыць з той практыкай, калі прэзідыум гомельскага горсовета з прынятых у 1936 годзе 1249 рашэнняў—больш паловы—729 прыняў апытаннем. Трэба пакончыць з антыпартыйнымі фанабэрнымі адносінамі некаторых комуністаў да работы ў советах, у секцыях. Зусім нецярпіма становішча, што нават на пасяджэннях прэзідыумаў менскага і гомельскага советаў, як правіла, прысутнічала менш паловы ўсіх членаў прэзідыума. Неабходна цяпер перад выбарамі разгарнуць масавую работу советаў. Неабходна рашуча палепшыць абслугоўванне імі запросаў працоўных.

Рашэнне ўрада аб аслабаненні сельсоветаў ад абавязкаў па вылічэнню і спагнанню грашовых падаткаў, страхавых плацяжоў і натурпаставак дае для гэтага ўсе магчымасці і па-новаму ставіць работу ў сельсоветах.

Наша партыйная арганізацыя павінна стаць на чале павароту палітычнага жыцця нашай рэспублікі, забяспечыць кіруючую ролю ў выбарах у вярхоўныя органы краіны і нашай рэспублікі і поўнае правядзенне ў жыццё новай выбарчай сістэмы.

Трэба памятаць, што ворагі захочуць скарыстаць выбарчую кампанію ў сваіх мэтах. Мы маем ужо зараз, у сувязі з надыходзячымі выбарамі, ажыўленне антысовецкіх элементаў і ў першую чаргу—царкоўнікаў. Гэта абавязвае нас павысіць ролю, адказнасць комуністаў-дэпутатаў, каб іх дзейнасць была добра вядома ўсім выбаршчыкам. Партыйныя арганізацыі павінны цяпер забяспечыць шляхам свайго кіраўніцтва рашучую перабудову работы советаў.

Таварышы, нашы задачы ў галіне перабудовы партыйна-палітычнай работы дакладна, ясна вызначаны ў рашэннях Пленума ЦК ВКП(б), у дакладзе і заключным слове таварыша Сталіна.

Трэба сказаць, што пасля выбараў дзе-ні-дзе наступіла самасупакоенасць і дабрадушнасць. Трэба разбіць гэту самасупакоенасць і выканаць з усёй большэвіцкай напорыстасцю задачы, якія стаяць перад намі ў галіне перабудовы партыйна-палітычнай работы. Трэба да канца выкарчаваць усіх ворагаў.

Таварышы, мы за апошні час правялі значную работу і ў ЦК КП(б)Б, і ў партарганізацыі па выкрыццю гэтых ворагаў. Мы зараз маем такое становішча, калі дзякуючы партыйнай арганізацыі, дзякуючы безумоўна палепшанай рабоце органаў НКВД Беларусі мы ізалявалі вялікую колькасць гэтай сволачы. Усе гэтыя арыштаваныя, у тым ліку Бенек і Дзякаў, прызналіся ў тым, што яны з'яўляліся польскімі шпіёнамі і шкоднікамі.

Я павінен вам сказаць, таварышы, што, мяркуючы па ўсіх даных, якія мы маем у выніку прызнанняў і паказанняў гэтых шпіёнаў і шкоднікаў, справа ідзе некалькі глыбей і далей. У нас, у Беларусі, шпіёнская, шкодніцкая, дыверсійная работа ўзначальвалася некаторымі вельмі «ганаровымі» людзьмі.

## III. СТАНОВІШЧА І ЗАДАЧЫ Ў ГАЛІНЕ ПРАМЫСЛОВАСЦІ

### Ліквідаваць вынікі шкодніцтва, пакончыць з дзяляцтвам

Пераходжу, таварышы, да пытанняў прамысловасці. Якія мы тут маем палітычныя прарывы і недахопы ў кіраўніцтве прамысловасцю? Як я ўжо гаварыў, дасягненні ў нас вялікія і бясспрэчныя. Мы з'яўляемся рэспублікай, атрымаўшай высокую ўзнагароду—ордэн Леніна, кіраўнікі якой у свой час таксама атрымалі ўзнагароду. Але поспехі, як указваў таварыш Сталін, як і ўсё на свеце, маюць і свае ценявыя бакі. У людзей, малавопытных у палітыцы, вялікія поспехі і вялікія дасягненні нярэдка параджаюць бясклопатнасць, дабрадушнасць, самаздаволенне, надзвычайную самаўпэўненасць, зазнайства і бахвальства. Гэта, бясспрэчна, мела месца і ў нас, у Беларусі, у галіне гаспадаркі.

Тыя матэрыялы, якія мы маем па лініі прамысловасці, з усёй яснасцю сцвярджаюць гэта ўказанне таварыша Сталіна і для Беларусі.

Некаторыя гаспадарчыя кіраўнікі думалі, і, відавочна, частка з іх і зараз, быць можа, думаюць, што ўскрытае шкодніцтва трацкісцка-правых агентаў фашызма адносіцца толькі да саюзных наркаматаў. Яны не разумеюць і не бачаць, што ў іх-жа пад носам шкодніцтва таксама ёсць, і ў досыць разгорнутым выглядзе. Я не буду зачытваць падрабязна паказанняў выкрытых ворагаў. Я толькі хачу спаслацца на паказанні некаторых людзей. Як я ўжо гаварыў, мы маем паказанні аб шкодніцтве з боку Бенека і ўсёй астатняй чорнай кампаніі з Наркамзема. Маюцца разгорнутыя паказанні Дзякава. Павінен сказаць, што многія з нас уяўлялі сабе Дзякава нейкім апосталам, ціхім і скромным чалавекам. Аднак гэты «ціхі апостал» і «скромны чалавек» аказаўся выключна пладавітым ворагам. Тое, што ён расказвае ў сваіх паказаннях адносна шкодніцтва на культурным участку—і не толькі на культурным, а і на іншых участках, і адносна сваіх сувязей з буйнымі шкоднікамі-дыверсантамі, стварае ясную карціну, якая паказвае, наколькі гэты вораг умела дзейнічаў адкрыта пад носам у нас. Або вось, напрыклад, паказанне Пятровіча, які працаваў доўгі час у Дзяржплане і Соўнаркоме. Ён падрабязна расказвае аб сваёй шкодніцкай рабоце па лініі прамысловасці і на другіх участках. Я прывяду факты шкодніцтва па некаторых паасобных прадпрыемствах.

На бабруйскім заводзе № 4 ускрыта шкодніцтва ў праектаванні і мантажы гэтага завода. Усё абсталяванне завода такім чынам скампанавана, што пры неабходнасці рамонту амаль немагчыма прыступіцца да агрэгатаў. Тэхналагічны працэс спраектован з разлікам на тое, каб абавязкова мелі месца няшчасныя выпадкі. Шкодніцтвам на гэтым заводзе, як гэта зараз устаноўлена, кіраваў дыверсант Сакольнікаў з Наркомлеса. У сістэме Наркомлеса выключана з партыі 14 дырэктароў і 16 намеснікаў дырэктароў леспрамгасаў, як контррэволюцыйныя трацкісцкія і чуждыя людзі. У апараце трэста Лесбел выключана 10 чал. Праведзеная праверка апарата трэста Лесбела і яго сістэмы на перыферыі выявіла, што контррэволюцыянеры—трацкісцкія, дыверсанцкія элементы—на працягу раду год перакідваліся з аднаго леспрамгаса ў другі, але захоўваліся ў сістэме Лесбела. Вялікую ролю адыграў у гэтай справе дырэктар Лесбела Шапіра і ўпаўнаважаны Наркомлеса Розін.

Ворагамі партыі і народу аказаўся былы начальнік Беларускай чыгункі Уладзімірскі, які арганізаваў рад шкодніцкіх дыверсійных актаў: крушэнне воінскага састава на ст. Гомель, шкодніцтва на жлобінскім вузле і т. д. Дастаткова сказаць, што амаль на ўсіх службах чыгункі доўгі час сядзелі заклятыя ворагі народу—трацкісты, а палітаддзел чыгункі нават не паспрабаваў глыбока праверыць прычыны такіх частых аварый і крушэнняў, якія мелі месца. Тав. Цвяткоў тут, відаць, будзе выступаць і больш падрабязна раскажа аб становішчы на Беларускай чыгунцы.

Калі спецыяльная камісія ЦК КП(б)Б выязджала на месца для расследвання прычын крушэння воінскага поезда на ст. Гомель, то яна дрэнна арганізавала сваю работу, дапусціла самога Уладзімірскага, ворага народу і віноўнага ў гэтай справе, весці допыты. Уладзімірскі скарыстаў палітычную слепату выехаўшай камісіі і звёў усю гэту справу крушэння поезда да простых тэхнічных непаладкаў на дарозе, і камісія згадзілася з гэтым вывадам.

У 1936 г. ускрыта контррэволюцыйная шкодніцкая група на

торфзаводзе «Большэвік» у Гомелі. У склад гэтай групы ўваходзілі людзі, звязаныя з замежнымі контрразведкамі. Група арудвала, асабліва ў 1934 г., зусім беспакарана. Яна імкнулася выклікаць палітычнае незадавальненне сярод рабочых. У мэтах гэтага група пашкодніцку арганізоўвала электрагаспадарку на торфзаводзе, што выклікала рад аварый на машынах, прывёўшых да забойства рабочага-токара.

На заводах па пярвічнай апрацоўцы ільну таксама выяўлена шкодніцтва. Напрыклад, на круглянскім ільназаводзе ўсё абсталяванне змантыравана такім чынам, што работніцам і рабочым прыходзіцца працаваць не з правай рукі на левую, а наадварот, з левай рукі на правую. У апошні час выкрыта група дыверсантаў-шкоднікаў, якія займаліся падпалам ільназаводаў.

На магілеўскай шаўковай фабрыцы загадчык вытворчасці Дуброўскі аказаўся фашыстам. Ён арганізаваў атручванне рабочых хлорам. Аднак, калі стала вядома аб масавым атручванні рабочых фабрыкі, то ЦСПСБ і камісія ЦК КП(б)Б, якія выязджалі, угледзелі ў гэтым шкодніцкім акце толькі нядбайнасць, прывёўшую да няшчаснага выпадку.

Трэба вам сказаць, што і былы сакратар парткома, які пазней быў вылучан другім сакратаром Гомельскага гаркома партыі (цяпер знят з работы), тав. Драбінскі па сутнасці справы не толькі не выкрыў, а заахвочваў і некаторых з гэтых ворагаў абараняў.

Раскрыта таксама шкодніцтва і дыверсійна-шкодніцкая група на водным транспарце на чале з былым начальнікам, шкоднікам Галаванавым. Ён вёў справу да таго, каб знішчыць водны транспарт у Беларусі, па-шкодніцку рамантаваў судны, у выніку былі частыя аварыі, затапленне параходаў.

Я думаю, што нашы наркаматы і нашы наркомы, нашы дырэктары трэстаў і дырэктары прадпрыемстваў, усе мы павінны ўлічыць, што справа не толькі ва ўскрытым шкодніцтве ў Саюзных наркаматах. Мы маем і ў сябе таксама, як вы бачыце, даволі вялікую колькасць фактаў гэтага шкодніцтва. І ўбаюкваць сябе, супакойваць будзе злачынна.

Прайшло з лішнім тры месяцы пасля Лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б). Аднак мы яшчэ не бачым сур'ёзнай перабудовы ў нашых наркаматах, трэстах і прадпрыемствах. Матэрыялы праведзеных актываў па выніках Пленума ЦК ВКП(б) наркаматамі рэалізуюцца нездавальняюча. Нашы наркаматы яшчэ не зрабілі патрэбных вывадаў з усёй гэтай крытыкі, якая была разгорнута на сходах актываў. Мы павінны з усёй рашучасцю заявіць, што нашы гаспадарчыя кіраўнікі яшчэ не прыступілі, як належыць, да большэвіцкай рэалізацыі рашэнняў Лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б). Няма яшчэ дастаткова разгорнутай работы па ліквідацыі вынікаў шкодніцтва і па далейшаму выкараненню ўсіх і ўсякіх шкоднікаў.

У выніку самацёку ў рабоце, дабрадушнасці і палітычнай бясклопатнасці раду нашых гаспадарчых кіраўнікоў мы зараз маем такую ганебную з'яву, як яўны правал плана прамысловасці першага паўгоддзя 1937 г. На працягу ўсіх год ёсць у нас вялікая колькасць прадпрыемстваў, якія сістэматычна не выконваюць план. У 1936 годзе толькі па аднаму Наркаммясцпрому былі 53 такія прадпрыемствы. Дрэнна справа абстаіць і з выкананнем плана па торфу.

З года ў год гэтыя прадпрыемствы як з боку дырэктароў трэстаў, так і наркаматаў належнай увагі і дапамогі не мелі.

Аднак, не гледзячы на гэта, мы яшчэ не чулі дастаткова поўных і абгрунтаваных заяў з боку нашых наркаматаў, з боку нашых наркомаў, як т. Балціна, т. Геаргадзе, т. Крылова і т. Рыжыкава (які, праўда, нядаўна працуе ў Наркомлесе) аб тым, якія меры яны намецілі і прымаюць у адносінах ліквідацыі вынікаў шкодніцтва.

У выніку такіх вялікіх палітычных прарываў у нашай рабоце ў прамысловасці, у выніку недастаткова глыбокага і ўсебаковага кіраўніцтва прамысловасцю з боку наркаматаў, наркомаў, дырэктароў трэстаў і прадпрыемстваў мы маем яшчэ цэлы рад буйнейшых недахопаў у рабоце ўсіх галін нашай прамысловасці, на якіх трэба таксама крыху спыніцца.

### Якасныя паказальнікі работы прамысловасці

Возьмем у першую чаргу пытанні якасных паказальнікаў. Калі ў галіне колькасных паказальнікаў прамысловасць за тры справаздачныя гады мае значныя поспехі, то ў галіне якасных паказальнікаў у нас справа абстаіць яўна дрэнна. Факт-жа, што з усёй выпрацаванай у 1935 годзе цэглы—першага гатунку аказалася ў нас толькі 68 проц., а ў 1936 годзе яшчэ менш—толькі 54 проц. Выпрацоўваемыя заводам ланцугоў Галя ланцугі не ўладаюць дастатковай моцнасцю; на менскай фабрыцы імя Кагановіча выпускаецца абутак выключна дрэннай якасці, не лепш і на віцебскай фабрыцы «Сцяг індустрыялізацыі». З якасцю прадукцыі на гэтых фабрыках было так дрэнна, што Камісія Савецкага Кантролю пры СНК Саюза настойліва ставіла пытанне аб аддачы пад суд дырэктароў фабрык Кліорына і Калабкова.

Такое-ж становішча і ў іншых галінах прамысловасці рэспублікі: шкляной, тарфяной і т. д.

Мы з года ў год не выконваем запраектаванага па плану зніжэння сабекошту. Наркамхарчпром Беларусі ў 1936 годзе замест зніжэння меў павышэнне сабекошту прадукцыі на 8,9 проц. Наркаммясцпром у сувязі з тым, што зніжэння сабекошту не выканаў, мае перавыдатак супроць планавага сабекошту за 3 справаздачныя гады на 7.521 тыс. рублёў.

Прадукцыйнасць працы, тэхвучоба і выкананне норм,—таксама трэба сказаць з усёй рэзкасцю,—яўна нездавальняючыя. Толькі па аднаму Наркаммясцпрому план прадукцыйнасці працы недавыканан у 1936 годдзе на 3,5 проц. У выніку нізкай прадукцыйнасці працы і адбыўся значны разрыў паміж ростам зарплаты і прадукцыйнасцю працы ў бок адставання прадукцыйнасці працы ад росту зарплаты.

У выніку гэтага толькі па аднаму Наркаммясцпрому быў перавыдатак фонда зарплаты ў 1936 годзе ў колькасці 4.366 тыс. рублёў.

Па іншых наркаматах справа абстаіць не лепш.

Праведзены па лініі кіраўніцтва народна-гаспадарчага ўчоту ўчот становішча тэхнічнай вучобы паказвае, што на 584 улічаных прадпрыемствах з агульнай колькасцю рабочых у 127.788 чалавек ахоплена ўсімі відамі тэхнічнай вучобы на 1 кастрычніка 1936 года 35.540 чалавек або толькі 27,7 проц.

Дрэннае становішча тэхнічнай вучобы паслужыла адной з прычын нездавальняючага выканання норм. Па даных гэтага-ж учоту новыя нормы ў жніўні 1936 г. выконвалі толькі 67 проц. рабочых.

## Капітальнае будаўніцтва

У галіне капітальнага будаўніцтва ў нас таксама справа абстаіць яўна нездавальняюча. Рашэнне ЦК ВКП(б) і СНК Саюза аб будаўніцтве мы выконваем з вялікімі перабоямі і недахопамі. Як пагражаючае з'явішча, трэба адзначыць той факт, што рад гаспадарчых арганізацый, наркаматаў, трэстаў і прадпрыемстваў не выкарыстоўваюць адпускаемых урадам сродкаў на капітальнае будаўніцтва. У прыватнасці, у 1936 г. засталося нявыкарыстанымі 29 мільёнаў рублёў. Асабліва дрэнна выкарыстоўваюцца сродкі, адпускаемыя на жыллёва-комунальнае будаўніцтва.

Наркамлегпром у 1936 годзе выкарыстаў толькі 67,6 проц. з гэтых сродкаў. У нас па сутнасці справы дзесяткі мільёнаў рублёў замаражваюцца. Будаўніцтва пачынаецца, сродкі ў гэтыя аб'екты ўкладваюцца, але таму, што будоўля зацягваецца на некалькі год, звыш усякіх урадавых тэрмінаў, то затрачаныя сродкі ляжаць мёртвым капіталам. Такое становішча мы маем са сканчэннем корпуса на швейнай фабрыцы «Кастрычнік» у Менску, на работах па рэканструкцыі фабрыкі імя Кагановіча і т. д.

Здавалася-б, што пытанню жыллёвага будаўніцтва мы павінны былі аддаць максімум увагі, асабліва ўлічваючы жыллёвы крызіс у гарадах. А што мы маем у сапраўднасці? Выкананне плана жыллёвага будаўніцтва складае 80 проц. Толькі па лініі горсоветаў і выканкомаў недадана гарадам 22.000 квадратных метраў жыллёвай плошчы.

Такіх прыкладаў, якія сведчаць аб нашай нездавальняючай рабоце, магчыма было-б прывесці некалькі дзесяткаў.

У чым справа? Чаму мы так ганебна адстаем у выкананні плана першага паўгоддзя і выкананні якасных паказальнікаў прамысловасці? Чаму мы маем сістэматычна адстаючыя прадпрыемствы, і ў чым прычына дрэннай работы?

Прычыны, відавочна, крыюцца ў тым, што нашы гаспадарчыя кіраўнікі, ад наркомаў і да дырэктароў прадпрыемстваў уключна, не бачылі, што крыецца за стопроцантным выкананнем плана. Яны думалі, што пры такім выкананні ўсё ніпачым. На справе за гэтымі процантамі за лік перавыконваючых план скрывалася невыкананне плана па астатніх прадпрыемствах, дрэнная якасць работы, перавыдаткаванне фонда зарплаты і т. д.

Прыходзіцца, таварышы, здзіўляцца, з якім спакоем адносяцца да гэтай справы нашы наркаматы і Дзяржплан, які павінен быў рашуча змагацца за знішчэнне гэтых агідных фактаў. Аднак, па пытанню выканання якасных паказальнікаў мы не бачым рашучых мер ні ад т. Балціна, ні ад тт. Гееаргадзе, Крылова, Катаводава, Любовіча і раду іншых гаспадарчых работнікаў і кіраўнікоў.

Час пакончыць з такім становішчам, калі стаханаўскі рух пушчан на самацёк, калі наркаматы па сутнасці не займаюцца кіраўніцтвам стаханаўскім рухам, а дырэктары трэстаў і наркомы перадавяраюць гэту вялікую справу другарадным людзям.

На прадпрыемствах Беларусі выраслі сотні выдатных людзей, рабочых—ініцыятараў стаханаўскага руху, якія сталі вядомы сваімі рэкордамі па выкананню плана не толькі ў Беларусі, але і ў Совецкім Саюзе.

Даволі назваць такія імёны, як тт. Розенберг, Скабло на абутко-

вай фабрыцы (Менск), Рушко (лесапільны камбінат), Лучкоўскі, Харнас (завод імя Варашылава), Семянідава (фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі») і рад іншых вядомых людзей нашай рэспублікі.

Але мы не мелі права і не можам забываць указанне таварыша Сталіна аб тым, што «сам стаханаўскі рух мае патрэбу ў рэальнай дапамозе з нашага боку супроць усіх і ўсякіх махінацый шкоднікаў, для таго, каб рушыць наперад справу і выканаць сваю вялікую місію».

У гэтых адносінах выключна цікавым з'яўляецца выступленне стаханаўца барысаўскага шклозавода Стэфановіча (беспартыйны) на нарадзе актыва ў Наркамлегпроме.

— У нас,—гаварыў т. Стэфановіч,—часта прэміравалі, і кіраўніцтва наша высока ўзняло галовы, пачало наладжваць выпіўкі, крычаць «ура». Прыязджаў начальнік кіраўніцтва Кандрашук, таксама крычаў «ура». А на заводзе аказалася многа ворагаў-трацкістаў, якія хацелі ўзарваць паравую гаспадарку. Гэта ў той час, калі на заводзе пілі і крычалі «ура». Вораг маскіруецца, імкнецца паказаць, што ён працуе добра і ў той-жа час шкодзіць нам.

Калі мы будзем працаваць так, як вучыць нас вялікі Сталін, мы будзем ведаць, ад чаго непаладкі і дзе наступае трацкісцкая гадзюка.

— Я звярачаю ўвагу,—гаворыць беспартыйны таварыш Стэфановіч,—што на прадпрыемствах бяруцца за што-небудзь, а пасля астываюць. Спачатку ўзяліся за стаханаўскі рух, пасля праз месяц пачалося ахаладжэнне. Віноўны ў гэтым не стаханаўцы, а тыя таварышы, якія не дапамагаюць, не кіруюць.

Хачу сказаць аб Геаргадзе і яго намесніку Рыбалтоўскім. Іх на заводзе не ведаюць. Нават начальніка кіраўніцтва Кандрашука дрэнна ведаюць. Вось факт: я ішоў з механікам, які 12 год працуе на заводзе, і сустрэўся з Кандрашуком. Я прывітаўся, ён не адказаў. Механік мяне запытаў: «Хто гэта такі»? Я сказаў, што гэта начальнік нашага кіраўніцтва.

Чаму-б таварышу Кандрашуку не з'явіцца на завод і не пагаварыць з рабочымі? На жаль, гэтага няма.

Бачыце, якое высокасвядомае разуменне справы з боку Стэфановіча—беспартыйнага рабочага новабарысаўскага шклозавода.

Як нам ужо вядома, у нас яўна нядобра з капітальным жыллёва-комунальным будаўніцтвам і энергетыкай. У чым справа, дзе прычыны дрэннай работы?

Я ўжо ўказваў, што мы нездавальняюча выконваем рашэнне ЦК ВКП(б) і СНК Саюза аб патаненні будаўніцтва. Гэта пастанова абавязвала нас рашуча механізаваць будаўнічыя работы, стварыць пастаянныя кадры на будаўніцтве і патаніць будаўніцтва ў 1936 г. на 14,5 проц., шырока разгарнуўшы стаханаўскі рух на будоўлях.

Не арганізаваўшы як след бальшэвіцкае выкананне гэтай пастановы партыі і ўрада, мы аказаліся ў палоне старых метадаў работы на будаўніцтве з усімі выцякаючымі адсюль рэзультатамі.

Таварышы, мы маем яўную недаацэнку горада з боку раду таварышоў. Наяўнасць такога шкоднага фактара дала магчымасць некаторым кіраўнікам рэспубліканскіх арганізацый Дзяржплана, наркаматаў распыляць сродкі, не канцэнтруючы іх на жыллёва-бытавым будаўніцтве горада. Мы маем вялікі разрыў паміж адпускаемымі сродкамі на будаўнічыя аб'екты і плануемымі матэрыяламі.

Ёсць цэлы рад такіх выпадкаў, калі зацвярджаюцца аб'екты будаўніцтва, адпускаюцца сродкі, а матэрыялы «забываюць» вызначыць. Такія прыклады можна прывесці ў адносінах мазырскай ДЭС, 72-кватэрнага дома ў Менску. Дзіўнасці такога планавання невыпадковы. Практыка гэтай работы такава, што аб'екты будаўніцтва праглядаюцца і рэвізуюцца ў Дзяржплане адным сектарам, а фондавыя матэрыялы размяркоўваюцца другім сектарам без усякага ўзаемнага ўзгаднення. Такім чынам, планаванне будаўнічых аб'ектаў ідзе само па сабе, а размеркаванне фондавых матэрыялаў само па сабе. Пара паканчваць з гэтай агіднасцю!

### Аб прамысловых кадрах

Таварышы! У нас выраслі нядрэнныя большэвіцкія гаспадарчыя кадры: дырэктары, інжынеры, тэхнікі і т. д., але, мне думаецца, што ў гэтым пытанні неабходна ўсё-ж падкрэсліць асноўныя недахопы.

Як ужо было ўказана мной вышэй, падбор кадраў быў часта павярхоўны, неглыбокі. Далёка не заўсёды ўлічваліся, як указвае таварыш Сталін, і палітычны, і дзелавы бок назначаемага таварыша, у выніку гэтага, як вы ведаеце, у нас на радзе гаспадарчых участкаў аказаліся яўныя ворагі партыі і народу. Гэта першы буйнейшы палітычны недахоп.

Другі недахоп—гэта слабае, зусім недастатковае вылучэнне новых выраснных кадраў у прамысловасці, на вытворчасці за апошнія гады. Я павінен вам прама сказаць, што нашы прамыслоўцы, нашы гаспадарчыя кіраўнікі вельмі нясмела падыходзяць да вылучэння гэтых новых кадраў, горш чым у іншых нашых арганізацыях.

Трэці недахоп заключаецца ў тым, што мы недастаткова рашуча вылучаем беларускія кадры ў прамысловасці. Аб гэтым ярка гавораць наступныя лічбы: са 104 дырэктароў трэстаў і прадпрыемстваў па мясцовай прамысловасці беларусаў толькі 36; па Наркомлесу з 79 чалавек—толькі 27 чалавек; па Наркамлегпрому са 119 чалавек—52 чалавекі; па Наркамхарчпрому са 101 чалавека—36 чалавек.

Як бачыце, лічбы самі за сябе гавораць, і гэтаму пытанню трэба будзе нашым гаспадарчым кіраўнікам надаць больш увагі.

І, нарэшце, чацвертым недахопам трэба лічыць адсутнасць у нас якой-небудзь работы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы прамысловых кадраў. Мне здаецца, што асабліва зараз, калі перад нашымі кадрамі пастаўлена вялікая палітычная задача—авалодаць большэвізмам, мы абавязаны ў гэтым напрамку правесці рад канкрэтных мерапрыемстваў, якія забяспечваюць сапраўднае выкананне задачы па павышэнню палітычнага ўзроўню нашых гаспадарчых кадраў.

«Што патрабуецца ад нашых гаспадарчых кадраў?—гаварыў тав. Молатаў у сваім дакладзе на Пленуме ЦК ВКП(б).—Веданне сваёй справы, здольнасць да самакрытыкі, чэснасць у адносінах да дзяржавы і асабліва пільнасць да ворага і авалоданне большэвізмам».

Неабходна рэгулярна, таварышы, склікаць гаспадарчыя актывы, палітычна выхоўваць на іх гаспадарчыя кадры. Трэба, каб на актывах ставіліся вострыя пытанні, каб якасць актываў вымяралася не колькасцю людзей, пасяджэнняў, не колькасцю прамоў, а якасцю прапаноў і тым, як рэалізуюцца гэтыя прапановы, які эфект яны ўносяць у гаспадарку. Трэба дабіцца таго, каб кожны інжынер, кожны рабочы адчуваў свой палітычны рост на гэтых актывах. На

жаль, у нас актывы пакуль, асабліва на прадпрыемствах, не сталі яшчэ пастаянным сродкам выхавання нашых гаспадарчых кадраў.

* * *

У галіне чыгуначнага транспарту наша задача зводзіцца ў першую чаргу да таго, каб да канца выкарчаваць японa-германскіх фашысцкіх агентаў—трацкістаў, правых, шпіёнаў, шкоднікаў, якія нанеслі нашаму транспарту велізарную шкоду і якія дастаткова моцна папрацавалі і ў нас на Беларускай і на Заходняй чыгунках. Тэрытарыяльныя партарганізацыі павінны дапамагчы чыгуначным партыйным арганізацыям у іх рабоце па ліквідацыі вынікаў шкодніцтва і ўзмацніць сваю ўвагу да ўсіх канкрэтных пытанняў, звязаных з паляпшэннем палітычнай работы на транспарце, з паляпшэннем усёй работы транспарту.

Калі мы па-сур'ёзнаму возьмемся за палітычнае выхаванне нашых гаспадарчых кадраў, калі мы, таварышы, па-большэвіцку возьмемся за рэалізацыю ўсіх указанняў таварыша Сталіна і рашэнняў Лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б), а гэта мы зробім, то няма сумнення, што надалей мы будзем быстрэй выкрываць і бязлітасна біць ворага ў самым яго зародышы, не даючы яму магчымасці працягнуць подлую фашысцкую руку да нашых соцыялістычных прадпрыемстваў, станкоў і агрэгатаў.

А гэта зарука таго, што вялікія задачы, якія стаяць перад намі ў галіне прамысловасці, у трэцюю пяцігодку мы выканаем з яшчэ большымі поспехамі, так, як гэта падабае большэвікам, выхаваным вялікімі геніямі марксізма—Леніным і Сталіным.

## IV. СТАНОВІШЧА І ЗАДАЧЫ Ў ГАЛІНЕ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ

Таварышы! Я гаварыў аб нашых поспехах у сельскай гаспадарцы. Аднак, я павінен ускрыць памылкі ў кіраўніцтве сельскай гаспадаркай, прарывы і недахопы на гэтым участку.

За 4 гады другой пяцігодкі ўся валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі БССР (у нязменных цэнах 1926—27 г.г.) вырасла менш чым на 20 проц. Планам другой пяцігодкі па Саюзу ССР і рашэннем XV з'езда КП(б)Б па Беларусі намячалася падваенне валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі. Такім чынам, не гледзячы на высокія паказальнікі развіцця сельскай гаспадаркі рэспублікі, прадугледжаныя планам 1937 года, пяцігадовы план па валавой прадукцыі будзе далёка не выканан. Асабліва адстаючым участкам у выкананні плана ў нас аказалася паляводства і ў прыватнасці зернавыя культуры. Даныя ў гэтай галіне паказваюць, што па зернавых культурах у другую пяцігодку валавая прадукцыя не толькі не вырасла, але на 7 проц. скарацілася, і толькі па плану 1937 г. намячаецца рост валавой прадукцыі зернавых на 49 проц. у адносінах да 1932 года.

Трэба адзначыць, што ў структуры валавой прадукцыі зернавых культур адбыліся несумненна вялікія змены ў бок павелічэння больш чым у два разы прадукцыі такой высокакаштоўнай культуры, як пшаніца. Па прадукцыі ільнавалакна мы за ўсе гэтыя чатыры гады другой пяцігодкі топчамся па сутнасці на месцы і толькі па валавой прадукцыі бульбы за гады другой пяцігодкі мы выраслі на 25 проц.

Гэтыя факты гавораць аб тым, што ў нас ёсць няўвага да зернавых культур і там-сям іх недаацэнка. Мы дрэнна рэалізуем указанне

таварыша Сталіна абператварэнні так званай спажываючай нячорназемнай паласы ў раён, вытвараючы хлеб. Ясна, што асноўным і рашаючым пытаннем у справе павелічэння выпуску прадукцыі з'яўляецца пытанне павышэння ўраджайнасці ўсіх без выключэння сельскагаспадарчых культур. У выкананні гэтай задачы мы таксама маем неўцяшальныя вынікі.

Вось вам некаторыя даныя па гадах: у 1932 годзе мы атрымалі ўраджайнасць па зернавых—6,4 цэнтнера, у 1936 годзе—6,8 цэнтнера і намецілі па плану на 1937 год—11 цэнтнераў з гектара. Па льну мы мелі ў 1932 годзе—2,1 цэнтнера, у 1936 годзе—2,6 цэнтнера і намецілі па плану на 1937 год—4 цэнтнеры. Па бульбе ў 1932 годзе мы мелі 81,6, у 1936 г.—95,8 і намецілі па плану на 1937 г.—145 цэнтнераў.

Чым вытлумачыць такое становішча, калі ўраджай у 1936 годзе па зернавых фактычна не перавышае ўраджайнасці 1932 года? Зразумела, 1936 год па ўраджайнасці нельга лічыць нармальным годам, бо ён у метэаралагічных адносінах быў самым цяжкім годам, якія толькі былі за апошняе пяцідзесяцігоддзе. І калі-б не было нашых соўгасаў, калгасаў, калі-б не было новай соцыялістычнай тэхнікі буйнай вытворчасці, калі-б не было тых людзей, якія стварылі соцыялістычны лад у вёсцы, калі-б не было стаханаўцаў, без сумнення мы-б не мелі і гэтага і ўраджайнасць была-б сапраўды катастрафічнай.

Але апраўдваць нізкую ўраджайнасць 1936 года толькі спасыланнямі на дрэнныя метэаралагічныя ўмовы нельга, гэта будзе няправільна, бо вялікая доля віны падае на нас, на кіраўніцтва. Дастаткова ўказаць, што цэлы рад калгасаў і стаханаўцаў у 1936 годзе дабіліся высокай ураджайнасці. Так, напрыклад, калгаснік Будак Кузьма з калгаса «Прамень», Слуцкага раёна, у 1936 годзе атрымаў 35 цэнтнераў аўса з гектара, калгаснік Стругач С. з калгаса «1-е Мая», Слуцкага раёна, і калгаснік Старавойтаў з калгаса «Чырвоны змагар», Даманавіцкага раёна дабіліся па 25 цэнтнераў ячменю і па 32 цэнтнеры пшаніцы з гектара. Калгасніца Мініна К. Ф. з калгаса «1-е Мая», Чачэрскага раёна, і калгасніца Рыбакова з калгаса імя Чарвякова, Мсціслаўскага раёна, дабіліся па 12—13 цэнтнераў ільнавалакна з гектара.

Мы маем усе магчымасці не толькі выканаць, але і перавыканаць пастаўленыя перад намі задачы ў рашэнні Соўнаркома Саюза і ЦК ВКП(б) ад 19 снежня 1935 года па пытанню «Аб арганізацыйна-гаспадарчым умацаванні калгасаў і ўздыме сельскай гаспадаркі ў абласцях, краях і рэспубліках нячорназемнай паласы», дзе гаворыцца:

«Абавязаць партыйныя і совецкія арганізацыі нячорназемнай паласы забяспечыць на працягу бліжэйшых 3—4 год павышэнне ўраджайнасці: па зернавых культурах—90—100 пудоў у сярэднім з гектара, па льну—4—5 цэнтнераў ільнавалакна ў сярэднім з гектара і каноплях— 5—6 цэнтнераў валакна з гектара, па бульбе—900—1 100 пуд. у сярэднім з гектара».

Што для гэтага патрабуецца ад нас?

Па-першае, увесці правільныя севазвароты. Якое становішча мы маем тут? Севазваротаў у калгасах і нават у соўгасах Беларусі фактычна няма. Па даных правядзення землеўпарадчых работ на 1 студзеня 1937 года нарэзана севазваротаў у 1099 калгасах з агульнай плошчаю 787,6 тыс. гектараў. Аднак, наразаць севазвароты далёка яшчэ не значыць увесці гэтыя севазвароты. Увядзенне севазвароту

мае на мэце правільнае размяшчэнне дзяржаўных заданняў у поўнай адпаведнасці з усім комплексам агратэхнічнай вытворчасці кожнай паасобнай культуры, а гэтага-ж у нас у калгасах яшчэ няма. Значыць, севазвароты не адпавядаюць даводзімым планавым заданням, і ў радзе выпадкаў па гэтых севазваротах не распрацавана сістэма агратэхнікі. Зямельныя органы і Наркамзем, у першую чаргу, не кіруюць увядзеннем севазваротаў. Больш таго, яны нават не ведаюць сапраўднага становішча рэчаў у гэтай справе. Устаноўленыя схемы севазваротаў да гэтага часу не правераны ў вытворчых умовах, няма ўвязкі вытворчых заданняў са спускаемымі схемамі севазвароту, а гэта ўжо гаворыць аб тым, як Наркамзем і зямельныя органы нагогул укаранялі ў калгасы вытворчую сістэму агратэхнічных мерапрыемстваў.

Наркамзем гэту вялікую справу перадаручыў землеўпарадчыкам, а аграперсанал Наркамзема і раёнаў севазваротамі ў калгасах не займаецца. Ёсць у Наркамземе рэспубліканскі аграном комуніст Беркоўскі, які, здавалася-б, павінен несці персанальную адказнасць за ўвядзенне севазваротаў. На справе-ж атрымліваецца другое. Тав. Беркоўскі займаецца чым толькі хочаце, але не ўвядзеннем севазваротаў.

Патрэбна раз назаўсёды пакончыць з такой агіднасцю, якую мы маем у справе ўвядзення севазваротаў, і паставіць сабе задачу пераглядзець існуючыя схемы севазваротаў, прывесці іх у поўную адпаведнасць з інтарэсамі развіцця народнай гаспадаркі рэспублікі. У бліжэйшыя 1—2 гады патрэбна дабіцца, каб не было ні аднаго калгаса без правільнага севазвароту.

Зараз пытанне ўвядзення правільных севазваротаў з'яўляецца цэнтральным пытаннем барацьбы за ўраджайнасць.

Наш Наркамзем распрацаваў новы праект севазвароту. Тут тав. Нізоўцаў будзе, відаць, выступаць і скажа аб іх падрабязна. Я думаю, што нам трэба будзе гэта абмеркаваць дасканала з нізавымі работнікамі сельскай гаспадаркі, з партыйнымі і совецкімі работнікамі і канчаткова ў бліжэйшы час зацвердзіць з тым, каб забяспечыць правільнае чаргаванне культур, неабходную колькасць зялёных і чыстых папараў, каб разблытаць тую вакханалію, якую мы маем з пасеўнымі плошчамі.

Другое пытанне—насенаводства. У БССР насенаводствам пачалі займацца толькі з 1933 года. Але і за гэты перыяд часу можна было-б мець усе нашы пасевы зернавых і іншых культур поўнасцю гатунковымі. На справе-ж мы маем толькі каля 30 проц. гатунковых пасеваў зернавых, 29 проц. бульбы і 32,5 проц. ільну, прычым планы гатунковых пасеваў з года ў год не выконваюцца. Чаму стварылася такое становішча? Яно стварылася ў рэзультаце таго, што насенаводства ў рэспубліцы даручана другарадным, неправераным людзям, а ў радзе выпадкаў—ворагам народу. Наркамзем гэтай справай не займаўся, гэта было нявыгадна контррэволюцыянеру Бенеку і К°. Яны прынялі ўсе меры, каб сарваць увядзенне гатунковых пасеваў, парушыць усхожасць гатунковага насення шляхам змешвання з беспароднымі, шляхам зрыву выканання плана міжкалгаснага і другога абмену негатунковых на гатунковыя. Гэта прывяло к таму, што мы да гэтага часу фактычна не маем раёнавання гатунковых пасеваў. Справа з выпрабаваннем, з апрабацыяй гатунковых пасеваў пастаўлена так, што мы да гэтага часу не маем ні аднаго гатунку, выведзенага ў Беларусі на аснове мясцовых гатункаў, якія несум-

ненна ёсць у нашых калгасах і соўгасах. Выпрабаванне гатункаў праходзіць ва ўмовах бескультурнасці і безгаспадарчасці, ва ўмовах адсталай агратэхнікі. У рэзультаце гэтага ўраджайнасць на выпрабаваных участках, асабліва соўгасаў Насентрэста, было значна ніжэй, чым у радзе нашых перадавых калгасаў і соўгасаў.

Ёсць у нас, у БССР, такая станцыя Зазер'е, якая фактычна працуе ўпустую і нічога да гэтага часу карыснага ў адносінах насенаводства нам не дала. Там працуе вялікая колькасць спецыялістаў, якія разумеюць справу і займаюцца ёю, аднак, пры існуючым становішчы з насенаводствам, патрэбна праверыць іх, у чым тут справа, чаму не атрымліваецца патрэбных рэзультатаў.

Зараз дзяржава насенную справу па зярну ўзяла ў свае рукі. Безумоўна, гэта справа ў самы кароткі час будзе разблытана. Задача заключаецца ў тым, каб падабраць на насенаводчы ўчастак работы стойкіх, палітычна вытрыманых людзей. Патрэбна дапамагчы зямельным органам быстра перабудаваць гатунка-выпрабавальную справу і такім чынам арганізаваць насенаводства, каб у бліжэйшыя два гады не было ні аднаго гектара, засеянага негатунковым насеннем.

У справе павышэння ўраджайнасці, зразумела, усе разумеюць— адно з цэнтральных месц павінна заняць узмацненне завозу і лепшае выкарыстанне мінеральных угнаенняў. Асаблівую ўвагу патрэбна звярнуць на поўнае выкарыстанне мясцовага ўгнаення (гною, попелу, торфу, вапны і інш.), а таксама на пашырэнне пасеваў лубіну на ўгнаенне.

Па-трэцяе, неабходна асвоіць і ўвесці ў абарот новыя землі. У зямельным балансе Беларусі налічваецца да 230 тысяч гектараў хмызнякоў, 850 тысяч гектараў забалочаных зямель і 550 тысяч гектараў балот, якія можна і патрэбна ператварыць у культурныя, высокапрадукцыйныя землі.

Зразумела, падымаць цаліну зараз стала значна цяжэй, чым 2—3 гады таму назад. Зразумела, што мы павінны будзем дабіцца перад нашымі цэнтральнымі арганізацыямі ўзмацнення механізацыі гэтых работ. Але і пры той тэхніцы, якую мы маем, пры больш поўным і правільным яе выкарыстанні мы маглі-б больш зрабіць, чым да гэтага часу. З года ў год у нас зрываецца выкананне плана асваення і ўвядзення ў выкарыстанне новых зямель, пад пагрозай зрыву і план 1937 года.

Як відаць, нашы партыйныя, савецкія работнікі зямельнай сістэмы яшчэ недаацэньваюць найвялікшую гаспадарчую важнасць асваення новых зямель. Патрэбна, нарэшце, памятаць, што асваенне цаліны азначае пашырэнне раллі, пашырэнне пасеваў, і гэта павялічыць харчовыя рэсурсы нашай краіны.

Чацвертае пытанне ў галіне сельскай гаспадаркі—гэта поўнасцю і да канца выціснуць усё з той велізарнай тэхнікі, якая ёсць у нашых соўгасах і калгасах. Колькасць машын з кожным годам будзе ўзрастаць. Але выкарыстанне іх у нас пакуль выключна нездавальняючае. Так, напрыклад, пры планавым заданні выпрацоўкі на адзін 15-сільны трактар 380 гектараў, у 1935 годзе выпрацавана толькі 246, а ў 1936 годзе—365 гектараў.

Не лепш справа стаіць і з выкарыстаннем ільнацерабілак і коннамалацілак. У гэтых адносінах работу нашых МТС патрэбна прызнаць яўна нездавальняючай. У бліжэйшы час нам прыдзецца рас-

працаваць цэлы рад карэнных мер, звязаных з паляпшэннем работы МТС, звязаных з паляпшэннем работы і выкарыстаннем механізацыі ў сельскай гаспадарцы.

Таварышы, я ўжо прыводзіў некаторыя даныя аб стане жывёлагадоўлі. У нас адзначаўся рост жывёлагадоўлі на чэрвень 1936 года, але другая палова 1936 года нам прынесла некаторыя змены ў бок пагаршэння. Адбылося скарачэнне на 3,6 проц. коней, на 19,5 проц. свіней і ў значнай ступені больш павольным стаў рост па буйнай рагатай жывёле і авечках. Па першых прырост складае ўсяго 6,8 проц., па другіх—2,8 проц. Пры гэтым у нас ёсць такія раёны, як Мехаўскі, Дрысенскі, Расонскі, Мсціслаўскі, Асвейскі і некаторыя іншыя, якія ў 1936 годзе далі скарачэнне пагалоўя жывёлы па ўсіх відах. Асабліва дрэнна з захаваннем пагалоўя свіней і авечак у соўгасах Наркомсоўгасаў. За 1936 год стада свіней у соўгасах Наркомсоўгасаў скарацілася на 29,5 проц., стада авечак—на 26 з лішнім процантаў.

У чым прычыны таго, што ў 1936 годзе мы маем больш павольны тэмп росту буйнай рагатай жывёлы і авечак, а па конях і свіннях нават скарачэнне пагалоўя? Гэта тлумачыцца перш за ўсё тым, што поспехі развіцця жывёлагадоўлі за 1935 год ускружылі галовы некаторым нашым таварышам. У радзе партарганізацый самасупакоенасць і дабрадушнасць дайшлі да такіх размераў, што была зусім закінута барацьба за выкананне дзяржаўных планаў развіцця жывёлагадоўлі. Яны супакоіліся, прытупілі класавую пільнасць, заразіліся ідыёцкай хваробай—бясклопатнасцю, а гэта выкарыстаў вораг, гэта выкарысталі контррэвалюцыянеры, шкоднікі, дыверсанты і шпіёны з Наркамзема і нанеслі велізарныя страты справе развіцця жывёлагадоўлі.

Як зараз устаноўлена следчымі органамі, контррэвалюцыянеры, шкоднікі, засеўшыя ў Наркамземе, праводзілі стаўку на знішчэнне пагалоўя жывёлы, на падрыў базы для яго аднаўлення. Асноўны ўдар контррэвалюцыянеры, шкоднікі ў сваёй дыверсійнай рабоце накіравалі на конегадоўлю, якая мае вялікае гаспадарчае значэнне, а таксама выключна важнае абароннае значэнне.

У рэзультаце падрыўной дзейнасці ворагаў народу і дрэннага нашага кіраўніцтва жывёлагадоўляй, толькі за 1936 год адыход коней складае 87 тысяч галоў, або 12,5 проц., ад ўсяго пагалоўя. Гэта быў самы высокі адыход коней, які толькі мы маем з 1931 года. Контррэвалюцыйныя шкоднікі з Наркамзема распаўсюджвалі заразныя хваробы, не гаворачы аб тым, што яны наогул не вялі ніякай барацьбы з захворваннямі жывёлы. Партыйныя і савецкія арганізацыі не здолелі па-большэвіцку ўзяць справу конегадоўлі ў свае рукі, не здолелі своечасова раскрыць класавага ворага і ў корані прасекчы яго шкодніцкую дзейнасць.

Патрэбна сказаць, што прадукцыйнасць нашай жывёлагадоўлі знаходзіцца таксама на выключна нізкім узроўні. Так, па даных выбарачнага абследвання калгасных ферм Кіраўніцтвам Наргасучота, сярэдняя жывая вага буйнай рагатай жывёлы, здаваемай дзяржаве на мяса, роўна 202 кілограмам, па свіннях—81 кілограму, па авечках—23 кілограмам. Сярэдні ўдой каровы на ферме роўны ўсяго толькі 896,6 літра.

У чым прычына такой нізкай прадукцыйнасці жывёлы? Яна ў першую чаргу заключаецца ў тым, што ў нас з кармавой базай з яе пашырэннем, з забеспячэннем жывёлы грубымі і сакавітымі

кармамі справа абстаіць яўна нездавальняюча. І гэта, па сутнасці справы, з'яўляецца зараз для нас цэнтральным пытаннем у сэнсе падняцця нашай жывёлагадоўлі, побач, зразумела, з пытаннямі, звязанымі з павышэннем прадукцыйнасці нашай жывёлы, побач, зразумела, з пытаннямі паляпшэння догляду за жывёлай.

Зусім відавочна, што ў адносінах жывёлагадоўлі мы дапусцілі рад памылак, звязаных асабліва з камплектаваннем ферм. І тут таксама шкоднікі нямала папрацавалі над тым, каб разлагаць нашы жывёлагадоўчыя фермы. Я маю на ўвазе тое адміністрацыйнае насаджэнне зверху ўсіх відаў ферм у кожным калгасе. Зразумела, як быццам-бы не дрэнная справа мець рад ферм у кожным калгасе, але на практыцы атрымліваецца, што з прычыны гэтага рад нават магутных нашых калгасаў аказаліся ў вельмі цяжкім становішчы. Фермы насаджаліся ў калгасах у адміністрацыйным парадку, зверху, ўказвалі калгасам, што патрэбна мець і конскую ферму, і ферму буйнай рагатай жывёлы, і свінаферму, і аўцаводчую ферму і т. д. Для таго, каб пракарміць усё гэта пагалоўе жывёлы, калгаснікі і калгасы павінны былі аддаваць ў фермы ўсе фуражныя фонды. Калгаснікі і калгасы павінны былі аддаваць на будаўніцтва ферм усю грашовую частку даходаў. На працадзень калгасніку па сутнасці справы нічога не аставалася, або аставалася вельмі невялікая доля. Гэту справу мы таксама павінны выправіць. Недахопы і прарывы, якія мы маем у галіне жывёлагадоўлі, павінны быць ліквідаваны так, каб у нас пагалоўе расло не толькі колькасна, але каб адначасова павышалася яго прадукцыйнасць.

Так, таварышы, абстаіць справа з некаторымі карэннымі пытаннямі, звязанымі з павышэннем ураджайнасці і развіццём жывёлагадоўлі. Адставанне сельскай гаспадаркі нашай рэспублікі атрымлівалася ў рэзультаце таго, што партарганізацыя і ў першую чаргу ЦК КП(б)Б не забяспечылі сапраўднага большэвіцкага кіраўніцтва арганізацыйна-гаспадарчым умацаваннем калгасаў і соўгасаў. ЦК КП(б)Б прахлопаў шкодніцкую работу Бенека і іншых у сельскай гаспадарцы, не забяспечыў неабходнай мабілізацыі мас калгаснікаў і рабочых соўгасаў, чэсных совецкіх спецыялістаў і гаспадарнікаў на барацьбу за выкананне ўказанняў таварыша Сталіна, за захаванне статута сельгасарцелі, за поўную рэалізацыю пастаноў ЦК ВКП(б) і Соўнаркома Саюза аб развіцці сельскай гаспадаркі нячорназемнай паласы. ЦК КП(б)Б, даручыўшы Наркамзему распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы па ажыццяўленню пастановы ЦК ВКП(б) і Соўнаркома СССР аб нячорназемнай паласе, больш гэтай справай амаль не займаўся. Наркамзем мерапрыемствы быццам-бы распрацаваў, але потым схаваў іх падалей ад людзей, так яны да гэтага часу і не ўбачылі свету.

Усім вядома, якое выключна вялікае значэнне ў справе арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў, у справе барацьбы за большэвіцкія калгасы і заможнае жыццё калгаснікаў мае сталінскі статут сельгасарцелі. Статут у нас вельмі часта і бязбожна парушаецца. Вазьміце такі пункт статута сельгасарцелі, як пытанне аб учоце працадня, пытанне аб павышэнні каштоўнасці працадня, пытанне аб поўным захаванні працадня. Ён часта парушаўся ў радзе нашых раёнаў, прычым па ўсякаму поваду і па ўсякіх відах, якія не прадугледжваліся статутам і ішлі ў разрэз са статутам сельгасарцелі і рашэннямі агульнага сходу калгаснікаў. У рэзультаце такога парушэння

статута сельгасарцелі і слабай барацьбы за ураджайнасць, працадзень за апошнія гады не толькі не павышаўся, але аставаўся на адным ўзроўні, а ў 1936 годзе быў нават даволі значна зніжан.

Як бачыце, таварышы, мы маем выключна нізкі кошт працадня, і мы павінны паставіць сабе задачу ў барацьбе за ўраджай гэтага года, ажыццяўляючы ўсе нашы абавязацельствы перад дзяржавай, выконваючы статут сельскагаспадарчай арцелі,—ва што-б там ні стала дабіцца прыкладна 3—4 кілаграмаў у натуральным выражэнні на працадзень калгасніка.

Вазьміце такі пункт статута сельскагаспадарчай арцелі, як тэрміны выбараў праўленняў і старшынь калгасаў. За 1936 год па розных прычынах знята да 1500 старшынь калгасаў. У паасобных калгасах, як «Авангард», Сенненскага раёна, за пяць гадоў змянілася 7 старшынь калгасаў; у калгасе «Прасветак», таго-ж раёна, змянілася тры старшыні. Парушэнне калгаснай дэмакратыі і статута сельскагаспадарчай арцелі ідуць таксама і па лініі выбарнасці і справаздачнасці старшынь праўленняў калгасаў і па лініі размераў прысядзібных участкаў калгаснікаў. Вазьміце такое становішча, калі ў Слуцкай акрузе мы маем 23 тысячы калгасных двароў, якія не атрымалі прысядзібных участкаў, што належаць ім згодна статута сельскагаспадарчай арцелі. Мы маем у практыцы калгасаў вельмі многа незаконных штрафаў, парушэнняў закона аб водпусках па цяжарнасці жанчынам і т. д.

З гэтымі парушэннямі статута сельскагаспадарчай арцелі трэба пакончыць раз назаўсёды! Мы не маем права, з аднаго боку, на сходах калгаснікаў агітаваць і растлумачваць, што сталінскі статут сельскагаспадарчай арцелі павінен быць асноўным законам калгаснага жыцця, а, з другога боку, адначасова дапускаць такія грубейшыя парушэнні статута сельскагаспадарчай арцелі, якія мы мелі.

Таварышы, мы адначасова не можам скідваць з рахункаў тую колькасць аднаасобнікаў, якія ёсць у нашай рэспубліцы. Іх налічваецца 100 тыс. двароў. Мы абавязаны разгарнуць сярод іх вялікую масава-палітычную работу па ўцягненню ў калгасы. Ва ўсякім выпадку мы не павінны ў адносінах іх паступаць так, як паступаў былы старшыня Соўнаркома Галадзед, які на адным з калгасных сходаў ў Старобінскім раёне, а таксама ў Чырвонаслабодскім раёне, заявіў: «Калі ты аднаасобнік, то ты вораг народу і з табой трэба і паступаць як з ворагам». Відавочна такія паводзіны былога старшыні Соўнаркома Галадзеда не ў малой ступені сказваліся на зусім недапушчальных, няправільных, палітычна шкодных адносінах, якія мелі месца ў радзе раёнаў рэспублікі да аднаасобніка, калі ў яго забіралі ўсё дачыста, азлаблялі супроць партыі і совецкай улады.

* * *

Каб скончыць гэты раздзел, я павінен некалькі слоў сказаць адносна нашых пагранічных раёнаў.

Як вы ведаеце, у мэтах умацавання палітычна-гаспадарчага кіраўніцтва раёнамі і наогул пагранічнай паласы, набліжэння кіраўніцтва да мас у нас у 1935 годзе былі створаны 4 акругі. Аднак, гэтыя новастворыныя акругі не сталі яшчэ сапраўднымі цэнтрамі палітычнага і гаспадарчага жыцця пагранічных раёнаў. Зачастую акруговыя арганізацыі ведаюць менш, чым ЦК КП(б)Б аб тым, што ў іх робіцца ў раёнах і да апошняга часу былі адарваны ад жыцця пагранічных

раёнаў. Аб гэтым сведчаць ускрытыя ў сувязі з лепельскай справай факты па Тураўскаму, Лельчыцкаму, Слуцкаму і іншых раёнах.

І ЦК КП(б)Б не дапамог належным чынам акругкомам партыі і ўсім акруговым арганізацыям узняцца на ўзровень пастаўленых перад імі задач. У выніку гэтага мы маем у радзе пагранічных раёнаў такое становішча, калі ў культурных адносінах і па гаспадарчых справах пагранічныя раёны адстаюць ад некаторых тылавых раёнаў.

А нікому-ж не сакрэт, што партыя і ўрад накіроўваюць у пагранічныя раёны харчовую і ўсякую іншую ссуду ў вялікіх размерах, не гаворачы ўжо аб другой дапамозе пагранічным раёнам.

Над існуючым становішчам пагранічных раёнаў мы павінны моцна задумацца. Трэба праявіць большэвіцкую ўвагу і клопаты аб іх.

* * *

Справа арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў, соўгасаў і ўсёй сельскай гаспадаркі павінна быць пастаўлена так, каб кожны соўгас, кожная МТС, калгас, кожная гаспадарка былі моцным, надзейным фарпостам абароны нашай вялікай радзімы на граніцы.

Нядаўна, у сувязі з паведамленнем, якое рабіў ЦК КП(б)Б у ЦК ВКП(б) аб становішчы з сельскай гаспадаркай у Беларусі, мы атрымалі ад ЦК ВКП(б) і Саюзнага ўрада велізарную дапамогу, ільготы сельскай гаспадарцы, ільготы калгасам, калгаснікам, аднаасобнікам.

Гэтыя ільготы былі ўжо апублікаваны, а частка, якая датычыць фінансавых спраў, будзе апублікавана ў бліжэйшыя дні.

Гэтыя рашэнні і дапамога ЦК ВКП(б) і Саюзнага ўрада паказваюць, якія выключныя клопаты праяўляе ЦК ВКП(б) і Саюзны ўрад і асабіста таварыш Сталін аб нашай рэспубліцы.

Мы павінны выкарыстаць гэту дапамогу і ільготы для таго, каб мабілізаваць калгасы, калгаснікаў на вырашэнне чарговых сельскагаспадарчых задач. Мы павінны ў гэтым годзе ўзорна правесці сельскагаспадарчы год, і ў першую чаргу зараз праполку і ўборку нашых збожжавых культур, забяспечыць поўнае і своечасовае выкананне абавязацельстваў перад дзяржавай, рашуча ўзняць аплату працы калгасніка.

Мы маем усе сродкі і неабходныя сілы для таго, каб тыя буйныя памылкі і прарывы, якія ёсць у сельскай гаспадарцы, быстра ліквідаваць.

Асноўнымі задачамі тут павінны быць: узняцце ўраджайнасці зернавых, ільну і бульбы, увядзенне правільных севазваротаў, усямернае паляпшэнне справы з насеннем зернавых, ільну і бульбы, правільнае і найбольш поўнае выкарыстанне тэхнікі, данай нам дзяржавай для сельскай гаспадаркі, барацьбы за далейшае павелічэнне пагалоўя жывёлы, асабліва яе прадукцыйнасці, барацьба за ўмацаванне жывёлагадоўчых соўгасаў і ферм, стварэнне моцнай кармовай базы для нашай жывёлагадоўлі, няўхільнае правядзенне статута сельскагаспадарчай арцелі, быстрая ліквідацыя вынікаў шкодніцтва па лініі сельскай гаспадаркі, ачышчэнне зямельных органаў ад варожых элементаў, умацаванне зямельных органаў лепшымі большэвіцкімі кадрамі.

# V. СТАНОВІШЧА І ЗАДАЧЫ Ў ГАЛІНЕ НАЦЫЯНАЛЬНА-КУЛЬТУРНАГА БУДАЎНІЦТВА

У галіне нацыянальна-культурнага будаўніцтва мы, комуністы Беларусі, працуючы над правядзеннем ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, ганарымся тым, што іменна таварышу Сталіну належыць ідэя арганізацыі ў 1919 г. комуністычнай партыі Беларусі і стварэння Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі.

Ажыццяўленне ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі неразрыўна звязана з лютай барацьбой нашай партыі супроць вялікадзяржаўнага шавінізма і мясцовых нацыяналістаў усіх масцей.

Мяняючы тактыку, шырока скарыстоўваючы двурушніцтва, як асноўны метад барацьбы, старанна маскіруючыся, пралазячы на паасобныя ўчасткі будаўніцтва і нават у партыю, нацыяналісты, бундаўцы, эсэры ў саюзе з трацкістамі і правымі шкодзілі і шкодзяць справе партыі, справе рабочага класа. Яны займаюцца шпіянажам, шкодніцтвам, тэрорам. І цяжка назваць такую пакасць, на якую яны не былі-б здольны, якую яны не прыстасоўвалі-б у сваёй барацьбе супроць нас.

КП(б)Б, ведучы барацьбу супроць усіх гэтых злейшых ворагаў працоўнага народу, заўсёды была верна справе большэвізма, няўхільна адстойвала і адстаяла перамогу ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі ва ўмовах БССР.

КП(б)Б не толькі дашчэнту разграміла нацыяналістычны ўхіл, контррэволюцыйныя нацыяналістычныя партыі і арганізацыі, але і згуртавала працоўныя масы Беларусі, працоўны народ вакол генеральнай лініі партыі, вакол правадыра народу таварыша Сталіна.

Канчатковая і беспаваротная перамога соцыялізма ў нашай краіне выбіла глебу з-пад ног нацыяналістаў. Аднак гэта не дае нам права на супакой, бо рэшткі разгромленай нацыяналістычнай контррэволюцыі і да сённешняга дня прабуюць усякімі шляхамі змагацца супроць совецкай улады і справы соцыялізма, супроць ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, стараючыся ў гэтай барацьбе цалкам скарыстаць усякія перажыткі капіталізма ў свядомасці людзей у галіне нацыянальнага пытання.

Распазнаваць ворага тым больш замаскаванага ў нацыянальны касцюм,—адна з важнейшых задач большэвікоў Беларусі. Мы павінны ўлічыць, што ў нас, у Беларусі, рад нацыяналістычных тэорый застаўся нявыкрытым да канца, і ў радзе месц нацыяналісты за іх чапляюцца, стараючыся іх нават адрадзіць.

Так, не ўскрыта да канца тэорыя аб тым, што беларуская дзяржаўнасць быццам пачала стварацца ў XIII і XIV стагоддзях у форме літоўска-беларускай дзяржавы.

Не выкрыта тэорыя аб тым, што росквіт беларускай дзяржаўнасці і росквіт Беларусі быццам адносіцца да таго перыяда, калі Беларусь і Літва былі звязаны з Польшчаю так званай Люблінскай уніяй.

Між тым, XIII і XIV стагоддзі былі перыядам, калі беларускае сялянства тамілася пад гнётам літоўскіх і беларускіх феадалаў, вяло барацьбу з імі, а за так званай уніяй хаваўся прыгнёт Беларусі Польшчай, хавалася бязлітасная эксплаатацыя беларусаў польскаю шляхтай.

Зусім відавочна, што такая фальсіфікацыя гісторыі мела на мэце

адчужэнне беларускага народу ад рускага. Беларускія нацыяналісты паставілі сваёй мэтай даказаць, што быццам у мінулым беларускі народ, блакіруючыся з Літвой і Польшчай, жыў лепш, дабіўся свайго росквіту.

Не меншае значэнне мае так званая тэорыя двухкарэннасці ў стварэнні КП(б)Б.

Вораг, стараючыся пранікнуць у партыю, ствараў наскрозь шкодную канцэпцыю двухкарэннасці, якая прама разлічана на пранікненне ў рады партыі людзей з нацыяналістычным контррэволюцыйным багажом, ворагаў пролетарскай рэволюцыі, ворагаў справы комунізма, шпіёнаў, дыверсантаў-тэрарыстаў.

У гэтых адносінах мы правялі вялікую выкрываўчую работу. Мы зараз ведаем, напрыклад, аб тым, што так званая беларуская комуністычная арганізацыя, якая ўзначальвалася Ігнатоўскім і ўлілася ў 1920 годзе ў КП(б)Б, была створана па заданню другога аддзела польскага генеральнага штаба і ўлілася ў КП(б)Б па заданню палякаў для правядзення падрыўной контррэволюцыйнай работы.

*Вось што гаворыць у сваіх паказаннях арыштаваны вораг Чарот аб так званай беларускай комуністычнай арганізацыі:*

«У часе белапольскай акупацыі польскае ваеннае камандванне выходзіла з таго, што польскім акупацыйным войскам прыдзецца пакінуць беларускую тэрыторыю, і таму праз начальніка 2-га аддзялення польскага генеральнага штаба Баявіцкага прапанавалі загадзя стварыць беларускую комуністычную арганізацыю, якая пасля адступлення палякаў павінна ўліцца .ў рады РКП і паступова захапіць у свае рукі кіраўніцтва беларускай комуністычнай арганізацыяй.

Беларуская комуністычная арганізацыя Ігнатоўскім была створана. Я асабіста ўвайшоў у беларускую арганізацыю Педагагічнага інстытута, якую ўзначальваў рэктар інстытута Ігнатоўскі. Такім чынам, паўтараю, што беларуская комуністычная арганізацыя была створана па прамому даручэнню польскага ўрада і дзейнічала па заданню апошняга.

Многія ўдзельнікі арганізацыі па ўказанню свайго цэнтра знаходзіліся ў РКП, з цвёрдым намерам прадаўжаць сваю работу ўнутры партыі.

Пачаткам такога арганізаванага ўваходжання ў КП(б)Б была пісьмовая заява групы комуністаў, у 1920 годзе, аб арганізацыі беларускай секцыі пры Цэнтральным бюро КП(б)Б. Зрабілі мы гэта па ўказанню польскага генеральнага штаба.

Арганізацыяй беларускай секцыі мы спадзяваліся ўнесці раскол ў рады КП(б)Б, захапіць партыйнае кіраўніцтва і праводзіць сваю лінію».

Таварышы, не менш сур'ёзнай і неадкладнай з'яўляецца задача выкрыцця тэорыі бунда, якая ў нас слабавата выкрываецца. Трэба выкрыць тэорыю бундаўцаў, якую яны выстаўляюць як быццам маючую рэволюцыйнае мінулае, тэорыю, якая давала ім магчымасць прыкрываць сваю падрыўную работу.

Нацыяналісты ўсіх масцей у сваёй падрыўной рабоце блакіруюцца з шавіністычнымі элементамі. Гэта выяўляецца часта ў нежаданні некаторых людзей вывучаць беларускую мову, развіваць беларускую творчасць ва ўсёй яе рознастайнасці (літаратура, мастацтва, кіно), а таксама часта ў некаторым пагарджэнні гэтымі пытаннямі, у недаўліку асаблівасцей быту і т. д. Сюды-ж адносіцца

недастатковая ўвага да ўжо вылучаных работнікаў, у першую чаргу да беларусаў.

КП(б)Б у свой час разграміла ўсе гэтыя тэорыі, даказала масам іх негрунтоўнасць і контррэволюцыйнасць. Аднак у апошнія часы КП(б)Б, захапіўшыся гаспадарчымі пытаннямі, закінула далейшую барацьбу з нацыяналістычнымі контррэволюцыйнымі тэорыямі. Скарыстаўшы гэта, вораг змог нанесці сур'ёзную шкоду нашаму соцыялістычнаму будаўніцтву.

Вось чаму нам трэба да канца выкрыць нацыяналістычных контррэволюцыянераў і іх тэорыі, усямерна ўмацаваць пролетарскі інтэрнацыяналізм, арганізаваць паказ герояў беларускага народу, арганізаваць паказ іх барацьбы з акупантамі, арганізаваць паказ герояў грамадзянскай вайны, паказ герояў соцыялістычных палёў, і герояў соцыялістычнай прамысловасці, усямерна ўмацоўваючы дружбу паміж народамі Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, памятаючы ўказанне таварыша Сталіна аб тым, што «дружба паміж народамі СССР—вялікае і сур'ёзнае заваяванне. Бо пакуль гэта дружба існуе, народы нашай краіны будуць свабодны і непераможны, ніхто не страшны нам, ні ўнутраныя, ні знешнія ворагі, пакуль гэта дружба жыве і здравствуе».

XVII з'езд ВКП(б), а роўна і наступныя ўказанні таварыша Сталіна ясна вызначаюць палітыку КП(б)Б у галіне нацыянальнай палітыкі.

У рашэннях XV з'езда КП(б)Б і ў наступных рашэннях пленумаў ЦК КП(б)Б зусім правільна вызначаецца палітыка КП(б)Б у галіне нацыянальна-культурнага будаўніцтва і разгрому нацыяналістаў усіх масцей і адценняў.

Аднак, у нашай рабоце мы ўсё-ж дапусцілі рад палітычных прарываў.

Так, напрыклад, у сваім рашэнні ад 24 ліпеня 1936 г. ЦК ВКП(б) прама ўказаў на факт недаацэнкі палітычнай работы ў Беларусі.

У гэтым-жа рашэнні запісана: «... у асаблівасці ЦК ВКП(б) адзначае няправільную палітыку і практыку насаджэння ў раёнах і вёсках з большасцю беларускага насельніцтва—польскіх школ і прымусовага абучэння беларускіх дзяцей на польскай мове».

Ясна, што, дапусціўшы ў КП(б)Б падобную практыку, мы забылі ўказанне таварыша Сталіна аб тым, што вораг у сваёй барацьбе супроць нас прыкрываецца нацыянальным касцюмам, што наша партарганізацыя абавязана перш за ўсё біць па крыніцах адыходу ад пролетарскага інтэрнацыяналізма.

Нашы памылкі ў гэтай галіне заключаюцца яшчэ і ў тым, што паасобныя партарганізацыі і іх кіраўнікі не зразумелі таго ўказання таварыша Сталіна, што з ростам нашых поспехаў, з нашым прасоўваннем наперад класавая барацьба на паасобных участках будзе абвастрацца і што формы супраціўлення класавага ворага будуць, натуральна, змяняцца. Неразумна было-б цяпер шукаць нацдэмаў, бундаўцаў, эсэраў, меншавікоў, а роўна трацкістаў, правых рэстаўратараў, прама і адкрыта выступаючых супроць соцыялізма са сваімі тэорыямі, «тэорыйкамі», даўно разбітымі і адкінутымі працоўнымі. Вораг сёння не гаворыць аб немагчымасці перамогі соцыялізма, бо соцыялізм—гэта наша рэальнасць. Ён не гаворыць аб калгасах, як аб неажыццявімым эксперыменце, бо калгасы выраслі і ўмацаваліся і вывелі сялянства ў светлае, заможнае жыццё. Цяпер ім значна цяжэй

прыкрывацца і фальшыва-нацыянальным сцягам, бо кожнаму вядома, што ворагі беларускага народу—нацыяналісты—ніколі не былі носьбітамі нацыянальна-вызваленчых ідэй, а заўсёды з'яўляліся агентураю польскага, нямецкага фашызма і злейшымі ворагамі беларускай дзяржаўнасці. Страціўшы ўсякую глебу, страціўшы соцыяльную глебу ў асобе беларускага кулацтва ў сувязі з ліквідацыяй яго на аснове калектывізацыі, беларускія нацыяналісты перайшлі цяпер на шлях тэрору, шпіянажу, шкодніцтва, дыверсіі, служачы фашысцкім сілам любой капіталістычнай краіны, рыхтуючы крывавую расправу з беларускім народам.

Вось што гаворыць аб гэтым факце Чарот. На пытанне, заданае яму пры следстве, ён гаворыць наступнае:

«Перш чым адказаць на ваша пытанне па сутнасці, я хацеў-бы ўнесці яснасць у гэту назву нашай арганізацыі. Мы называліся нацыянал-дэмакратамі. Гэта назва не адпавядае ўжо даўно як нашай праграме, якую я выклаў у сваёй заяве, так і метадам барацьбы з ВКП(б) і совецкім урадам за ажыццяўленне гэтай праграмы. Каб было больш дакладна, трэба гаварыць не аб нацыянал-дэмакратызме, а трэба гаварыць аб самым горшым відзе фашызма, горшым таму, што калі польскія і нямецкія фашысты змагаюцца за захоп Беларусі, Украіны, гэта значыць змагаюцца за захаванне сваёй дзяржавы, захоп чужых зямель шляхам ваеннага нападу,—то мы былі фашысцкімі правакатарамі, бо імкнуліся свой народ і сваю дзяржаву аддаць пад уладу польскіх і нямецкіх фашыстаў, шляхам страшэннай здрады і прадажніцтва».

Тыя факты і матэрыялы, якія мы маем, з усёй яснасцю пацвярджаюць гэтае паказанне, асабліва ў сувязі з арыштам такіх заядлых ворагаў, якія замаскаваліся ў нашых радах, як Дзякаў, Пятровіч, Бенек, Чарот, Жылуновіч, Арабей і інш. Гэтыя ворагі беларускага народу, блакіруючыся з трацкістамі і правымі, сталі агентамі японагермана-польскага фашызма.

Неабходна з'езду ведаць аб здрадніцкай іх рабоце, аб формах і метадах сувязі з правымі, з трацкісцка-зіноўеўскім цэнтрам, з ксяндзамі і ўсякім іншым збродам, які зараз у нас скрываецца.

Памылкі нашых партарганізацый заключаюцца ў тым, што мы не зразумелі да канца таго факта, што ўся гэта зграя стала ні чым іншым як бандай забойц, шпіёнаў, дыверсантаў, наймітаў разведчых польскіх органаў і іншых капіталістычных дзяржаў, прагнучых вайны з СССР і БССР; не зразумелі да канца, будучы захопленымі велізарным ростам соцыялістычнай эканомікі і культурнага будаўніцтва.

Мы дапусцілі рад сур'ёзнейшых памылак у галіне нацыянальна-культурнага будаўніцтва. Памылкі гэтыя ідуць галоўным чынам па лініі забыцця нашых задач па кіраўніцтву гэтым участкам. Вораг захапіў рад участкаў ідэалагічнага фронта і тварыў свае падрыўныя справы. Гэта мела месца ў Белдзяржвыдавецтве, у літаратуры, у Наркамаце асветы, у Белдзяржуніверсітэце, у друку і т. д. Ён праводзіў там адкрыта сваю падрыўную работу супроць нас. Той факт, што на працягу значнага перыяда часу гэтыя арганізацыі ўзначальвалі нацыяналісты—ворагі народу, сведчыць аб тым, што ЦК КП(б)Б і Соўнарком недаацэньвалі ўсяго значэння ідэалагічнага ўчастка работы, праяўлялі палітычную слепату і дапусцілі рад буйнейшых палітычных прарываў у гэтай справе.

Таварышы, у святле ўскрытых фактаў контррэвалюцыйнай, здрадніцкай ролі БКА, нацдэмаў, правых, якую яны адыгрывалі на ўсім працягу часу ў нас, у Беларусі, у святле апошніх іх спраў нядрэнна будзе, калі тав. Чарвякоў, які з усімі імі ў свой час салідарызаваўся і падтрымліваў (хоць ён ужо і крытыкаваў сябе за гэтыя свае памылкі), раскажа нам на XVI з'ездзе, як ён глядзіць на ўсё гэта зараз. Я думаю, што гэта будзе карысна і для нашай партарганізацыі і для тав. Чарвякова.

Таварышы, пяройдзем да некаторых недахопаў на паасобных участках нацыянальна-культурнага ідэалагічнага фронта. За апошнія гады ЦК ВКП(б) і СНК Саюза, а ў адпаведнасці з гэтым ЦК КП(б)Б і СНК Беларусі, прынялі цэлы рад рашэнняў і мер у адносінах палянпшэння работы школ і становішча настаўніцтва. Аднак мы павінны сказаць, што гэтыя рашэнні ў нас, у Беларусі, рэалізуюцца нездавальняюча, у выніку чаго пастаноўка і якасць вучобы ў вялікай колькасці школ усё яшчэ застаецца нізкай.

Вось некаторыя прыклады. У 1934—35 навучальным годзе па школах Беларусі было пакінута на другі год 66.000 вучняў. У 1935—36 г. колькасць другагоднікаў узрасла на 110.000. Апрача таго, 88.000 вучням былі даны паўторныя іспыты на восень, з якіх значная частка іспытаў не вытрымала і пакінута на другі год. Вялікая колькасць дзяцей адсейваецца са школ, не даходзячы да 7-га, а часам і да 6-га класа. У 1935—36 г. адсеў са школ складаў 33.000 дзяцей.

Да гэтага часу няма поўнага ўчоту дзяцей, належачых ахопу ўсеагульным абучэннем. У нас у 1936—37 г. не хапае яшчэ 1.500 настаўнікаў, галоўным чынам па мовах і літаратуры. Яўна нездавальняюча пастаўлена справа па падрыхтоўцы педагагічных кадраў. 62 проц. настаўнікаў 1—4 класаў не маюць сярэдняй асветы, а з 10.000 настаўнікаў 5—10 класаў толькі 25 проц. настаўнікаў маюць вышэйшую асвету.

Нарэшце, грубейшай палітычнай памылкай (а зараз гэта мала кваліфікаваць памылкай, а—шкодніцтвам, работай ворага) у рабоце Наркомасветы з'яўляюцца недаацэнка выкладання рускай мовы ў школах, якая ідзе на становішчы замежнай мовы. На «замежную» рускую мову па вучэбнаму плану адпушчана аднолькавая з замежнымі мовамі колькасць гадзін.

Палітыка-выхаваўчая работа сярод настаўнікаў запушчана ў радзе нашых арганізацый і знаходзіцца на нізкім узроўні.

Партыйныя арганізацыі аддаюць вельмі малую ўвагу рабоце з настаўнікамі. А гэта часта прыводзіць да засмечанасці настаўніцтва класава-варожымі элементамі, да прытуплення пільнасці, бытавога разлажэння.

Таварышы, мы надаем сур'ёзную ўвагу,—і неабходна, каб нашы партыйныя арганізацыі на месцах надалі таксама сур'ёзнае значэнне,—будучаму восеннію з'езду настаўнікаў. Гэты з'езд павінен будзе адыграць вялікую ролю як у павароце ўвагі да настаўніцкіх кадраў, так і ў справе ўзняцця ролі, аўтарытэту і палітычнага выхавання настаўнікаў.

Такое становішча ў школе тлумачыцца ў першую чаргу, вядома, адсутнасцю належнай увагі і кіраўніцтва школамі з боку партыйных і савецкіх арганізацый. Вядома, гэтым тлумачыцца і тое, што ЦК праглядзеў шкодніцкую работу ў Наркомасветы Дзякава і некаторых іншых. Я думаю, што нам вельмі многа прыдзецца, судзячы па ўсіх

фактах, якія расказвае Дзякаў адносна свайго шкодніцтва ў Наркомасветы, папрацаваць над ліквідацыяй вынікаў гэтага шкодніцтва не толькі ў самым Наркомасветы, але і ва ўсёй сістэме народнай асветы ў школах. Бо Дзякаў у вялікай колькасці школ праз сваю агентуру шкодзіў у справе народнай асветы.

Зараз па лініі ЦК КП(б)Б мы прынялі рад мер да ўмацавання кадраў Наркомасветы і паляпшэння яго работы. Трэба, каб на месцах нашы партыйныя арганізацыі прарабілі такую-ж работу.

Сур'ёзны недахоп маюць і нашы вышэйшыя навучальныя і навуковыя ўстановы. На гэтым участку нямала таксама аказалася ворагаў, тут таксама не было неабходнай большэвіцкай пільнасці.

Адначасова мы павінны адзначыць, што прафесарска-выкладчыцкі склад у нашых вышэйшых навучальных установах слаба працуе над павышэннем сваёй кваліфікацыі. Сярод прафесараў і дацэнтаў вельмі нізкі яшчэ процант абараніўшых дысертацыі на навуковую ступень; шырока практыкуецца сумяшчэнне працы, з-за чаго прафесары і дацэнты не паспяваюць рыхтавацца да лекцый. Узровень лекцый таму не заўсёды высокі.

Трэба, каб наркаматы асветы, земляробства, аховы здароўя і іншыя ведамствы як належыць заняліся пытаннямі ідэйна-палітычнага ўзроўню прафесарска-лектарскага і педагагічнага персанала як сярэдніх, так і вышэйшых навучальных устаноў. Кожны-ж настаўнік, кожны наш навуковы работнік зараз павінен быць не толькі добрым выхавальнікам, навучаючым моладзь, але і добрым агітатарам, прапагандыстам, здольным растлумачваць працоўным палітыку нашай партыі і ўрада.

Трэба, каб нашы партыйныя арганізацыі больш сур'ёзную ўвагу звярнулі на паляпшэнне масава-палітычнай работы сярод студэнцтва, а таксама якасці вучобы.

Наша Акадэмія навук, якая мае несумненна поспехі, працуе ўсё яшчэ нездавальняюча, адстае ад растучых культурных запросаў народных мас Беларусі.

Трэба, каб яна сваю работу значна палепшыла, каб кіраўнікі Акадэміі навук і ўсе чэсныя работнікі гэтай установы не тапталіся на месцы, а перабудавалі сваю работу.

Выключнае значэнне ў культурным абслугоўванні мас, у задавальванні іх запросаў, у паляпшэнні нашай работы па ліквідацыі непісьменнасці маюць хаты-чытальні і бібліятэкі. Арганізацыя і паляпшэнне іх работы—важнейшая задача ўсіх партыйных арганізацый. Перамога сацыялізма ў нашай краіне стварыла ўсе неабходныя прадпасылкі для буйнага росту і росквіту совецкай літаратуры і мастацтва. Велізарная работа праведзена нашай партыяй па асваенню багацейшай спадчыны нашых класікаў літаратуры. Усе культурныя каштоўнасці мінулага, якія раней трымаліся пад спудам, цяпер пастаўлены на службу працоўным Краіны Советаў.

Я раней адзначаў рад поспехаў, якія ёсць у нас, у Беларусі, па лініі літаратуры. Намаганні нашы на гэтым участку былі накіраваны на ажыццяўленне рашэння ЦК ВКП(б) аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый, на згуртаванне вакол партыі асноўных кадраў беларускіх пісьменнікаў і стварэнне ўмоў для іх росту і творчай актыўнасці, на рашучае ачышчэнне пісьменніцкага асяроддзя ад нацыяналістычных і іншых контррэвалюцыйных элементаў.

Неабходна адзначыць, што ў літаратурных арганізацыях Беларусі

ў мінулым панавала групаўшчына, якая разлагала пісьменніцкія кадры і тармазіла развіццё беларускай літаратуры. Асаблівую ролю адыгрывала ў гэтым так званая Беларуская асацыяцыя пролетарскіх пісьменнікаў (БелАПП), уяўляўшая сабою філіял РАПП, сярод якой аказаўся зараз рад выкрытых ворагаў. Кіраўніцтва БелАПП распальвала ў пісьменніцкім асяроддзі групавую варожасць, адкідаючы ўсіх непакорлівых і інакшмыслячых.

Пасля рашэння ЦК ВКП(б) аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый гэтаму быў пакладзен канец, хаця адрыжка гэтай групаўшчыны яшчэ і зараз мае месца ў нашых пісьменніцкіх арганізацыях.

Апрача таго ў рабоце Саюза совецкіх пісьменнікаў Беларусі ёсць рад буйных недахопаў: ён дрэнна яшчэ кірue творчым працэсам пісьменнікаў; нездавальняюча разгорнута самакрытыка і творчая работа сярод пісьменнікаў. Тут мы за апошні час выкрылі такіх ворагаў, як Чарот, Зарэцкі, Жылуновіч, Сташэўскі і рад іншых.

Таварышы, адзначаючы заслугі ў галіне развіцця беларускай літаратуры, трэба сказаць, што наша гераічная рэчаіснасць пакуль яшчэ не знайшла ў ёй вартага поўнацэннага адлюстравання. Буйнейшым прабелам у рабоце Саюза совецкіх пісьменнікаў з'яўляецца і той факт, што да гэтага часу мы не маем ні адной беларускай оперы, ні адной сур'ёзнай драматычнай пастаноўкі, ні адной сур'ёзнай кінокарціны, адлюстроўваючай героіку социялістычнага будаўніцтва Беларусі.

Наша літаратура павінна быць народнай, выражаючай перадавыя ідэі чалавецтва, ідэі партыі Леніна—Сталіна. Трэба арганізаваць барацьбу за павышэнне ідэйна-палітычнага ўзроўню нашых пісьменнікаў, барацьбу за авалоданне імі большэвізмам.

Некаторыя беларускія пісьменнікі, паэты, якія ў мінулым былі настроены антысовецкі, групавалі вакол сябе нездаволеных, зараз актыўна працуюць над совецкай тэматыкай, далі добрыя творы, частка якіх перакладзена на мовы народаў Совецкага Саюза. Але ёсць сярод беларускіх пісьменнікаў, работнікаў мастацтва паасобныя людзі, якім трэба сур'ёзна падумаць і зрабіць усе неабходныя вывады са сваіх паводзін. Бо мы нікому не дазволім двурушнічаць, абманваць беларускі народ і, прыкрываючыся высокім званнем совецкага пісьменніка ці мастака, рабіць сваю чорную шкодную справу супроць нашага Совецкага Саюза.

Совецкі пісьменнік павінен быць чалавекам, перш за ўсё, адданым совецкай уладзе, соцыялістычнай радзіме, партыі Леніна—Сталіна. Ён павінен любіць совецкі народ, сваю совецкую радзіму, глыбока верыць у яе сілы і магутнасць. Гэтага мы павінны патрабаваць ад усіх нашых беларускіх пісьменнікаў. Наш пісьменнік павінен быць шчырым і праўдзівым у сваіх творах; ён павінен умацоўваць, расшыраць сваю сувязь з шырокімі масамі працоўных. Некаторыя з нашых пісьменнікаў павінны ведаць, што ад іх далейшых паводзін, ад таго, як яны будуць перабудоўвацца і асудзяць свае ранейшыя справы і сувязі, залежаць адносіны да іх нашай партыі і совецкай улады.

У рабоце тэатраў і нашага мастацтва ёсць таксама буйныя прабелы, як і ў літаратурных арганізацыях. Не гледзячы на велізарныя запросы з боку працоўных да нашага мастацтва, яно адстае яшчэ ад растучых культурных патрэб насельніцтва. На сцэне тэатра, у оперы да гэтага часу яшчэ дрэнна адлюстравана жыццё, роля беларускага рабочага, селяніна ў барацьбе за сваё вызваленне, за соцыялістыч-

нае будаўніцтва. Мы з'яўляемся сведкамі таго, як адна за адной саюзныя рэспублікі паказваюць у нашай пролетарскай сталіцы—у Маскве—сваю растучую народную творчасць і атрымліваюць высокую ацэнку з боку нашай партыі і ўрада. Мы павінны, на-жаль, сказаць на нашым з'ездзе, што, не гледзячы на ўсе магчымасці для таго, каб разгарнуць нашае беларускае мастацтва, з прычыны нашай недастатковай увагі, яно ўсё яшчэ застаецца ў нездавальняючым становішчы, і мы не падрыхтаваны да таго, каб зараз выступіць і паказаць яго ў нашай пролетарскай сталіцы—Маскве. Справа гонару ўсіх нас, у першую чаргу работнікаў мастацтваў, у бліжэйшы час, па крайняй меры, не пазней будучага года, падрыхтаваць рад опер на мясцовай тэматыцы, падрыхтаваць народную творчасць так, каб з поспехам паказаць яе ў нашай пролетарскай сталіцы—Маскве.

Трэба рашуча пакончыць з недаацэнкаю ідэалагічнага фронта. Трэба паставіць на чале гэтага ўчастка правераных, адданых справе партыі большэвікоў. Трэба ва што-б там ні стала ў корані спыніць якую-б там ні было магчымасць пранікнення сюды ворагаў партыі, трэба прывіць нашым партыйным арганізацыям і кіраўнікам густ да гэтай работы.

КП(б)Б за гэтыя гады соцыялістычнага будаўніцтва вырасла і выхавала сотні і тысячы выдатных, стойкіх большэвікоў—беларусаў, яўрэяў, палякаў. Гэтыя таварышы выраслі і загартаваліся ў барацьбе з нацыяналістычнай і іншай контррэволюцыяй. Яны выхаваліся ў барацьбе за большэвіцкае правядзенне ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі нашай партыі. Трэба ўзяць пад асаблівы кантроль і непасрэднае кіраўніцтва ЦК КП(б)Б, гаркомаў, акругкомаў, райкомаў справу вядзення падрыхтоўкі і выхавання на рабоце новых беларускіх кадраў, асабліва партыйных работнікаў і кадраў для тэарэтычнага і культурнага фронта. Трэба ўзмацніць таксама вылучэнне беларускіх кадраў на совецкую, гаспадарчую, профсаюзную і комсамольскую работу.

КП(б)Б мае ўсё неабходнае для канчатковага разгрому контррэволюцыі, для поўнай ліквідацыі якой-бы ні было магчымасці шкодніцкай работы ворагаў на ўчастку ідэалагічнага фронта, каб забяспечыць далейшы росквіт нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу беларускай культуры.

## VI. ВЫШЭЙ РЭВОЛЮЦЫЙНУЮ ПІЛЬНАСЦЬ

Таварышы, абслугоўванне матэрыяльна-бытавых патрэб працоўных заўсёды стаяла ў цэнтры ўвагі нашай партыі. Я ўжо прыводзіў даныя нашых поспехаў у гэтай галіне. Нашай рашаючай задачай і надалей павінны быць клопаты аб паляпшэнні матэрыяльна-бытавога становішча насельніцтва нашай рэспублікі.

Не гледзячы на велізарныя рэсурсы і магчымасці, якія мы маем, і з прычыны нездавальняючай, часта бюракратычнай, работы нашых апаратаў і ўстаноў, звязаных з абслугоўваннем бытавых патрэб працоўных, усе гэтыя магчымасці і рэсурсы скарыстоўваюцца часта кепска і нерацыянальна. Задача наша тут заключаецца ў тым, каб расшырыць колькасць і палепшыць якасць тавараў шырокага спажывання. І мы павінны патрабаваць ад нашых наркаматаў, якія вырабляюць тавары шырокага спажывання,—ад НКХарчпрома, НКЛегпрома, НКМясцпрома, промкааперацыі,—павялічваючы тавараабарот,

вытворчасць тавараў і прадметаў шырокага спажывання, павышаць якасць і павышаць культуру абслугоўвання працоўных мас. У гэтых адносінах работа нашых наркаматаў і ўстаноў, у першую чаргу такіх, як Народны камісарыят аховы здароўя, Наркомасветы, Наркомунутгандаль, кааперацыя і т. д. яўна нездавальняюча. Мы павінны патрабаваць і забяспечыць карэнную перабудову, паляпшэнне работы гэтых наркаматаў і ўстаноў, рашуча знішчаючы бюракратызм, нячулыя адносіны да абслугоўвання патрэб і запросаў працоўных.

Таварышы, як вы ведаеце, Галадзед вызвален ад паста старшыні Соўнаркома Беларусі. Некаторыя таварышы думаюць, што гэта адбылася простая перастаноўка. Не ў гэтым справа, таварышы. Галадзед вельмі дрэнна працаваў, ён не хацеў перабудаваць работу Соўнаркома ў духу патрабаванняў партыі і новай Сталінскай Канстытуцыі. Галадзед па ўсіх сваіх дзеяннях, па ўсіх сваіх паводзінах адлюстроўвае лінію правых. Ён з'яўляецца правым. Ён двурушнічаў перад партыяй і да апошняга часу двурушнічае. Ён быў у цеснай сувязі са злейшымі ворагамі партыі і народу,—з гэтым-жа агідным здраднікам, шпіёнам Убарэвічам і з радам іншых асоб. Ён быў цесна звязан і абараняў Пятровіча і рад іншых ворагаў. Ён быў цесна звязан з Дзякавым,—мы гэта зараз ведаем, хоць ён прадстаўляў сябе быццам ён быў у нядобрых адносінах з Дзякавым, а па сутнасці справы, змыкаўся з ім ва ўсёй яго рабоце.

У гэтым святле, зразумела, чаму Галадзеда вызвалілі ад паста старшыні Соўнаркома.

Я не буду прыводзіць тут факты і прыклады мінулага Галадзеда, які, пачынаючы з 1922 года, у радзе сваіх выступленняў выступаў з правымі тэорыямі. Магчыма, таварышы, якія будуць выступаць, прывядуць канкрэтны матэрыял па гэтаму поваду. Можна было-б прывесці рад яго выступленняў, якія адносяцца да 1922, 1927 і 1929 гадоў. Яны праліваюць святло на «дзейнасць» Галадзеда. Апрача таго, зараз высвятляецца, што Галадзед, аказваецца, быў у мінулым эсэрам; ён гэта ўтойвае. Ён выключаўся ў свой час з партыі, і гэта таксама ўтойваў. Ва ўсякім выпадку, мы маем справу з чалавекам, да якога мы павінны добра прыглядзецца. Гэты чалавек мае смеласць, пасля рэзкай і зусім недастатковай яшчэ крытыкі яго дэлегатамі менскай гарадской партыйнай канферэнцыі, заяўляць аб тым, што ён, бачыце, ні ў чым не вінават, што яго дарэмна ганьбяць у КП(б)Б, і ён скардзіцца на тых таварышоў і, як відаць, на менскую гарадскую партканферэнцыю, што яна ў адносінах яго моцна запісала.

Таварышы, перабудова ўсёй работы, узмацненне апаратыўнасці Соўнаркома Беларусі для нас зараз мае вялікае значэнне. Вырашэнне ўсіх тых гаспадарчых пытанняў, якія я тут закранаў, у вялікай меры залежыць ад добрай работы нашага Соўнаркома, нашых наркаматаў і нашых совецкага і гаспадарчага апаратаў. Мы павінны будзем вытрасці ў рабоце нашага Соўнаркома ўсё тое апартуністычнае, антыпартыйнае, што на працягу многіх год насаджалася Галадзедам. Гэта—абавязак усіх нас. Трэба пакончыць з той антыпартыйнай з'явай, калі Галадзед не толькі культываваў, але актыўна процістаўляў совецкі апарат партыйнаму. Трэба пакончыць з тым становішчам, калі ў Соўнаркоме часта знаходзілі сабе прытулак такія людзі, якія выганяліся з іншых апаратаў, як не вартыя давер'я.

Мы зараз вылучылі на пост старшыні Соўнаркома тав. Валковіча, якога вы ведаеце. Працуючы другім сакратаром ЦК КП(б)Б, ён не дрэнна паказаў сябе на партыйнай рабоце ў Беларусі. Бясспрэчна, што пры дапамозе ЦК КП(б)Б, пры дапамозе ўсёй партыйнай арганізацыі, ён карэнным чынам перабудуе і палепшыць работу Соўнаркома, умацуе дысцыпліну, умацуе аператыўнасць у рабоце савецкага апарата і выганіць усё тое нягоднае, што мела месца ў рабоце Соўнаркома.

Зараз мы прыступілі да складання трэцяй пяцігодкі і ўжо намецілі першую канву. Мы павінны прыцягнуць шырокія масы працоўных і наш актыў да абмеркавання праблем трэцяй пяцігодкі; мы павінны мабілізаваць масы на ажыццяўленне адказных задач трэцяй пяцігодкі.

Савецкая Беларусь знаходзіцца на стыку з капіталістычным светам. Яна займае адно з першых месц у заваявальных планах і падкопах імперыялістаў. Заядлыя ворагі беларускага народу, германскія і польскія фашысты, пры дапамозе сваёй трацкісцкай, правай і беларускай нацыяналістычнай агентуры, адкрыта рыхтуюць новы ўзброены напад на СССР і БССР. Небяспека ваеннага нападу фашысцкіх дзяржаў на СССР і БССР ставіць перад усімі партыйнымі арганізацыямі Беларусі задачу ўзмацніць клопаты і ўвагу нашай Чырвонай арміі, узмацніць партыйна-палітычную работу ў Чырвонай арміі і ўмацаваць абаронную работу ў масах працоўных.

Мы павінны на нашым з'ездзе зрабіць усе неабходныя палітычныя і практычныя вывады з тых фактаў, якія адбыліся за апошні час у Чырвонай арміі і ў нашай Беларускай ваеннай акрузе. Мы павінны на нашым з'ездзе заявіць ваенным таварышам, што мы ўсё зробім для таго, каб дапамагчы нашым ваенным таварышам выправіць тыя буйныя памылкі і прарывы, якія выявіліся. Мы павінны заявіць на нашым з'ездзе ўсім нашым ваенным таварышам, што мы надалей акружым іх яшчэ большымі клопатамі ў іх вялікай адказнай рабоце па ўмацаванню абараназдольнасці нашай краіны.

Таварышы, вы ўжо чыталі з сённешняга паведамлення Пракуратуры аб тым, што НКВД ускрыта банда шпіёнаў і шкоднікаў, здраднікаў нашай радзіме, звіўшых сабе гняздо ў Чырвонай арміі. Да іх адносіцца былы намеснік народнага камісара абароны Гамарнік, здраднік і прадажнік, які ў свой час быў сакратаром ЦК КП(б)Б; да іх адносіцца Тухачэўскі, былыя камандуючыя ваеннымі акругамі Якір, Убарэвіч, былы начальнік Акадэміі імя Фрунзе Корк і рад іншых мярзотнікаў і бандытаў. Як вы бачыце, ворагі, трацкісцка-правыя, японa-нямецка-польскія фашысты не пакінулі ў спакоі і гэты наш важнейшы ўчастак, звязаны з аховай нашай радзімы, звязаны з аховай заваяванняў нашай пролетарскай рэволюцыі. Мы з'яўляемся сведкамі таго, што Убарэвіч, які доўгі час камандаваў Беларускай ваеннай акругай, аказаўся таксама агентам фашызма, змоўшчыкам супроць нашай радзімы. Гэты вораг доўга маскаваўся і не быў выкрыт, і за гэта нясем адказнасць мы, КП(б)Б, і ў першую чаргу— ЦК КП(б)Б, членам якога ён быў аж да арышту. Зараз для нас ясна, што гэты агідны вырадак нямала нашкодзіў у часцях Беларускай ваеннай акругі. Трэба дапамагчы нашым ваенным таварышам з БВА зжыць памылкі і недахопы, дапушчаныя імі ў рабоце. Трэба ліквідаваць вынікі ўсёй той шкоднай работы, якую праводзіў Убарэвіч.

Мы зусім правільна паставілі пытанне аб недапушчальным разрыве ў рабоце грамадзянскіх партыйных арганізацый і ваенных у Беларусі. Зараз тэтыя факты перад намі ў зусім іншым святле. Цяпер зусім ясна, што бандыт Убарэвіч рабіў усё для таго, каб пасварыць ваенныя партыйныя арганізацыі з грамадзянскімі, каб адарваць ваенную арганізацыю ад грамадзянскай, адыйсці ад кантролю, каб палегчыць сабе подлую контррэволюцыйную работу. Мы зусім правільна паставілі пытанне адносна антыпартыйных сувязей Галадзеда з Убарэвічам. Цяпер для нас ясна, што гэтыя сувязі мелі пэўную мэту,—весці падрыўную работу супроць нас.

Таму, таварышы, нашым партыйным работнікам грамадзянскіх і ваенных арганізацый, якія не зрабілі яшчэ неабходных вывадаў у адносінах узмацнення гэтай сувязі, трэба хутчэй перабудавацца, бо толькі разам, толькі сумеснай работай мы зможам выправіць і ліквідаваць тыя недахопы, якія мы маем.

Мы прадпрынялі ўжо зараз рад мер для таго, каб ліквідаваць існаваўшы разрыў паміж ваеннымі і грамадзянскімі арганізацыямі. Нам трэба будзе яшчэ папрацаваць над гэтым практычна для таго, каб у нас устанавілася цяснейшая сувязь і ўзаемная дапамога ў рабоце, бо інтарэсы нашы як грамадзянскай арганізацыі, так і інтарэсы ваеннай партыйнай арганізацыі—адны і тыя-ж. Яны заключаюцца ў тым, каб беззаветна і аддана працаваць над умацаваннем абароназдольнасці нашай краіны, над узмацненнем магутнасці нашай Чырвонай арміі, над умацаваннем абароназдольнасці нашай пагранічнай рэспублікі.

Мы павінны ўмацаваць работу такіх абаронных арганізацый, як Асоавіяхім, «Чырвоны крыж», проціпаветраная абарона і т. д.

Трэба адзначыць выключную нездавальняючасць работы нашага Асоавіяхіма і няздольнасць таго складу людзей, якія ўзначальваюць яго, перабудаваць работу ў духу прад'яўленых да гэтай установы патрабаванняў.

Для нас ясны факт адносна цеснай сувязі Мілонава, старшыні ЦС Асоавіяхіма, са здраднікам, ворагам народу Эйдэманам, былым старшынёю ЦС Асоавіяхіма. Трэба, каб на месцах па лініі асоавіяхімаўскіх арганізацый бліжэй і дакладней прагледзелі ўсю работу Асоавіяхіма.

Таварышы, у Беларусі за апошні час ускрыт рад буйных контррэволюцыйных арганізацый—трацкістаў, правых, нацыяналістаў, польская ваенная арганізацыя і т. д. Усе яны працавалі па заданнях трацкісцка-зіноўеўскага цэнтра і правых, па заданнях польскіх фашыстаў. Гэтыя ворагі выкрыты і раздушаны нашымі органамі пролетарскай дыктатуры. Усё гэта паказвае не слабасць нашу, а рост наш, уздым, умацаванне ВКП(б), Совецкага Саюза, у тым ліку КП(б) Совецкай Беларусі.

Няма ніякага сумнення, што мы ўсю гэту сволач, гэтых шалёных сабак выкрыем і сатром у парашок, як-бы яны ні маскаваліся, у якую нару яны ні хаваліся-б.

Мы павінны яшчэ раз на нашым з'ездзе заявіць, што ўсім гэтым гадам, здраднікам, мярзотнікам нічога другога не павінна быць, як смерць і знішчэнне. **(Гучныя працяжныя апладысменты).**

Таварышы, прайшоўшыя выбары і партыйныя канферэнцыі паказалі, што КП(б)Б згуртавана і маналітна, як ніколі, і аддана ЦК ВКП(б) і вялікаму Сталіну. Мы ўпэўнены, што і наш XVI з'езд па-

кажа сваю маналітнасць і адданасць ЦК ВКП(б) і таварышу Сталіну. **(Гучныя, доўга не змаўкаючыя апладысменты).**

Таварышы, па ініцыятыве таварыша Сталіна створана БССР. Таварыш Сталін выпеставаў КП(б)Б у магутную сілу. Няма той галіны ў жыцці Беларусі, у жыцці КП(б)Б, у нашай рабоце, у якой таварыш Сталін не праявіў-бы выключную любоў і клопаты.

Беларусь згуртавана і бязмежна аддана нашай партыі, нашаму ЦК ВКП(б), нашаму таварышу **Сталіну. (Гучныя працяжныя апладысменты).** Совецкая Беларусь апраўдае тую вялікую ацэнку правадыра і настаўніка таварыша Сталіна, якую ён даў беларускаму народу.

Таварышы, ЦК КП(б)Б зрабіў немалую работу. Але, як бачыце, ёсць многа памылак і недахопаў. Нам трэба на нашым з'ездзе па-большэвіцку разгарнуць крытыку і самакрытыку. Большэвікі, выхаваныя партыяй Леніна—Сталіна, ніколі не баяліся ўскрываць недахопы, ніколі не баяліся крытыкі.

Крытыка і самакрытыка—вялікая сіла. Яны дапамагаюць выпраўленню памылак і недахопаў, яны дапамагаюць расці нашым кадрам, яны дапамагаюць узнімаць боездольнасць нашых кадраў, яны дапамагаюць яшчэ больш умацоўваць работу нашых партыйных арганізацый, яны павышаюць аўтарытэт і ўплыў у масах.

Я заклікаю вас на XVI партыйным з'ездзе смела і рашуча ўскрываць усе нашы недахопы і памылкі ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва і ў асаблівасці ў пастаноўцы партыйна-палітычнай работы. Ускрыць канкрэтных носьбітаў гэтых недахопаў і памылак, узняць партыйна-палітычную работу, нястомна павышаць большэвіцкую пільнасць, якая вучыць кожнага комуніста ўмець распазнаваць ворага, выхоўваць у кожным партыйным і непартыйным большэвіку любоў да нашай партыі, да нашай радзімы і нянавісць да нашых ворагаў, трацкістаў, правых, нацыяналістаў, двурушнікаў, выхоўваць нянавісць да злейшага ворага прагрэса чалавецтва—да фашызма.

Няхай ведаюць нашы ворагі, што рабочы клас, калгаснае сялянства нашай краіны, вучоныя і служачыя—усе бязмежна адданы нашай партыі, нашаму ЦК, нашаму правадыру таварышу **Сталіну. (Гучныя працяжныя апладысменты).**

Мы, большэвікі Беларусі і ўвесь беларускі народ, яшчэ з большай любоўю акружым наш ленінска-сталінскі ЦК партыі, яшчэ з большай любоўю акружым правадыра партыі і аддадзім усе сілы, а калі патрэбна будзе—і жыццё, на тое, каб вучэнне Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна, якое перамагло на адной шостай частцы земнага шара, перамагло ва ўсім свеце. **(Доўгія апладысменты).**

Няхай жыве вялікая магутная ВКП(б)!

Няхай жыве Цэнтральны Камітэт партыі!

Няхай жыве наш правадыр і настаўнік таварыш Сталін!

**(Бурныя, доўга незмаўкаючыя апладысменты, пераходзячыя ў авацыю. Усе ўстаюць.** Воклічы: **«Няхай жыве таварыш Сталін! Ура!» Усе пяюць «Інтэрнацыянал».** Воклічы: **«Няхай жыве таварыш Сталін! Ура!» Доўга незмаўкаючыя апладысменты).**

---

# Заключнае слова сакратара ЦК КП(б)Б тав. В. Ф. Шаранговіча па справаздачы Цэнтральнага Камітэта на XVI з'ездзе КП(б)Б

Таварышы, наш з'езд і спрэчкі на нашым з'ездзе яшчэ раз прадэманстравалі і пацвердзілі выключную правільнасць даклада і заключнага слова таварыша Сталіна, які ўскрыў у нашай рабоце і ва ўсёй пастаноўцы партыйна-палітычнай работы буйнейшыя памылкі і недахопы. Спрэчкі на нашым з'ездзе праходзілі безумоўна на высокім палітычным узроўні. Гэта паказвае, што большэвіцкая пільнасць у нашай партыйнай арганізацыі павышаецца, і асабліва наглядна гэта дэманструе велізарнае згуртаванне КП(б)Б вакол ЦК ВКП(б), вакол таварыша Сталіна.

Спрэчкі на нашым з'ездзе паказваюць, што большэвікі Беларусі разумеюць складанасць і адказнасць задач, якія стаяць перад намі і гатовы ва ўсеўзбраенні выканаць гэтыя задачы і гэтым самым апраўдаць тую адказнасць і давер'е, якія ўскладаюцца на нас з боку ЦК ВКП(б), з боку таварыша Сталіна.

Недахопам нашых спрэчак з'яўляецца тое, што таварышы мала гаварылі па канкрэтных пытаннях перабудовы партыйнай работы і асабліва па канкрэтных пытаннях работы і задач, звязаных з гаспадаркай, з культурай. Зразумела, тое завастрэнне большэвіцкай пільнасці, якое выявілася на з'ездзе, з'яўляецца несумненна вялікім плюсам. Аднак, мы ніяк не можам упускаць пытанняў, звязаных з канкрэтнай перабудовай нашай работы, звязаных з гаспадарчым і культурным будаўніцтвам. Вы разумееце, таварышы, што тыя вялікія задачы, якія перад намі стаяць і ў галіне прамысловасці, і ў галіне сельскай гаспадаркі, і ў галіне культуры, і ў першую чаргу ў галіне перабудовы партыйна-палітычнай работы—не могуць быць выкананы самацёкам. Мы за іх павінны змагацца і мабілізаваць усю нашу партыйную арганізацыю, усіх членаў партыі, усіх непартыйных большэвікоў на выкананне гэтых задач.

Зразумела, таварышы, выкананне гэтых задач, якія стаяць перад намі, яшчэ ўскладняецца тым, што мы, як бачыце, раскрываем у Беларусі і раскрылі вялікую шкодніцкую работу, якую праводзілі ворагі партыі, ворагі савецкай улады. І само сабой зразумела, што ліквідацыя вынікаў шкодніцтва і ў галіне гаспадарчай, і ў галіне культуры ёсць вялікая, адказная справа. Было-б небяспечным, таварышы, недаацаніць гэтыя вынікі шкодніцтва. Было-б вельмі небяспечным перапаменшыць значэнне той вялікай шкодніцкай работы, якую тут праводзілі ворагі, засеўшыя на адказных участках нашай савецкай і гаспадарчай работы. Калі мы хоць крыху недаацэнім гэтыя вынікі і

не прымем меры да ліквідацыі шкодніцтва, мы, зразумела, не зможам выканаць усіх задач, якія стаяць перад намі, мы акажамся простымі балбатунамі, а не большэвікамі, якія павінны рабіць з усіх тых падзей, якія ў нас адбываліся і адбываюцца, неабходныя і агульна-палітычныя і канкрэтныя практычныя вывады для сваёй работы.

Мы павінны папярэдзіць усіх нашых комуністаў, кіруючыя нашы партыйныя органы і ўсю партыйную арганізацыю ад такога настрою, які сям-там можа праяўляцца, што мы, моў, пасамакрытыкаваліся, на з'ездзе крытыку разгарнулі, а зараз можам быць ужо спакойны. Па гэтых настроях і па такіх адносінах да справы мы павінны самым рашучым чынам біць і выкрываць канкрэтных носьбітаў гэтых настрояў.

Я думаю, што мы ўсе павінны зразумець, наколькі складаны і адказны задачы, якія перад намі стаяць, аб якіх усе таварышы гаварылі і якія мы, выходзячы з рашэнняў Пленума ЦК ВКП(б), даклада і заключнага слова таварыша Сталіна, запішам у сваю рэзалюцыю, якую будзем прымаць па справаздачы Цэнтральнага Камітэта партыі. Нам патрэбна зараз мабілізавацца і вельмі многа, добрасумленна, з усёй большэвіцкай гарачынёй, не шкадуючы сябе і часу, працаваць для таго, каб у самы найкарацейшы тэрмін гэтыя вынікі ў нас, у рэспубліцы, ліквідаваць і даказаць ЦК нашай партыі, таварышу Сталіну, што мы, большэвікі Беларусі, не толькі ўмеем выкрываць ворагаў, але ўмеем быстра выпраўляць свае памылкі і недахопы, даказаць, што мы гэтыя памылкі і недахопы на справе выпраўляем.

Мы таксама, таварышы, не можам шарахацца і ў другі бок, як гэта могуць рабіць некаторыя людзі ў нашых радах. Мы павінны ад гэтага вельмі строга перасцерагчы. Можа стварыцца ўражанне, асабліва ў людзей малаўстойлівых, якія не разбіраюцца яшчэ да канца ва ўсёй гэтай абстаноўцы і ўсіх падзеях, якія адбываюцца ў сувязі з выкрыццём агентаў японa-германскага фашызма, трацкістаў, правых, нацыянал-фашыстаў, шпіёнаў, дыверсантаў,—у паасобных нашых комуністаў і асабліва ў паасобных беспартыйных рабочых, калгаснікаў і наогул працоўных, што ў нас наогул усё дрэнна, што ў нас усюды сядзяць ворагі і т. д.

Не так абстаіць справа. Мы маем велізарныя поспехі, мы маем вялікія перамогі, і тое, што мы зараз выкрываем усю гэту сволач, паказвае не слабасць нашу, а нашу сілу, паказвае нашу згуртаванасць, наш рост, паказвае, што наша партыйная арганізацыя, павышаючы большэвіцкую пільнасць, разгортваючы самакрытыку ў партыйнай арганізацыі на аснове рашэнняў Пленума ЦК ВКП(б), прымяняючы ўказанні таварыша Сталіна, змагла і зможа выкрыць да канца ворагаў, якія праводзілі сваю падрыўную работу, засеўшы на адказных пастах у нашай рэспубліцы. Іменна так трэба разумець і расцэньваць усе падзеі—як нашу сілу, а не як нашу слабасць. Чым хутчэй і мацней мы ачысцімся, чым хутчэй выкрыем ворагаў, якія зацясаліся на той ці іншы пост, у тую ці іншую ўстанову, якія, маскуючыся, цішком праводзяць падрыўную работу супроць нас,—тым быстрэй мы забяспечым новы ўздым мас на выкананне тых задач, якія перад намі стаяць.

Няправільным будзе настрой, які можа выходзіць ад малаўстойлівых людзей, гэта настрой недавер'я да кадраў. Нельга ўсе кадры браць пад сумненне. Гэта было-б проста злачынствам, калі-б мы зараз, у сувязі з тым, што раскрываецца рад ворагаў, засеўшых на адказных участках, пачалі распаўсюджваць і патуралі-б гэтым настроям,

якія могуць зыходзіць ад паасобных людзей. Вы павінны ўлічыць, таварышы, што вораг працуе і вядзе барацьбу з намі рознымі спосабамі і што вораг можа сеяць і ўсякія правакацыі, у тым ліку і сярод нас, правакацыі, якія заключаюцца і ў тым, каб стварыць недавер'е да кадраў і ў тым ліку да кіруючых кадраў.

Таварышы, наша партыя, наш рабочы клас на ўсім сваім шляху ва ўмовах совецкай рэчаіснасці прайшлі праз вельмі цяжкія этапы. У нас быў перыяд грамадзянскай вайны, у нас быў і перыяд вельмі цяжкі ў соцыялістычным будаўніцтве. На ўсім гэтым шляху мы беззаветна, у тым ліку КП(б)Б, былі адданы нашай партыі, нашаму Цэнтральнаму Камітэту, нашаму таварышу Сталіну. На гэтым-жа шляху мы выкрылі нямала ворагаў, здраднікаў, прадажнікаў, шпіёнаў, дыверсантаў супроць нашай радзімы.

Зразумела, таварышы, на такім вострым этапе, які мы перажываем зараз, асабліва ў сувязі з міжнароднай абстаноўкай, было-б дзіўна, як гэта вучыць нас таварыш Сталін, каб ворагі нас пакінулі ў спакоі. І мы на прыкладзе ў сябе, тут у Беларусі, у КП(б)Б бачым, што несумненна ворагі нас не пакідаюць у спакоі, што яны засылаюць сваіх агентаў для таго, каб пакасціць, шкодзіць, шпіёніць, ашукваць, маскавацца, усякімі спосабамі весці падрыўную работу супроць нас.

Але, таварышы, няма такой сілы, якая-б магла пахістаць нашу магутнасць, нашу згуртаванасць, нашу маналітнасць, якая магла-б у якой-небудзь меры прыпыніць паспяховы ход нашага соцыялістычнага будаўніцтва. Усе гэтыя мярзотнікі, гады, зразумела, будуць выкрыты да канца.

Мы, зразумела, павінны правяраць нашых людзей, на якім-бы пасту яны ні стаялі, кантраляваць іх работу, правяраць з удзелам шырокага актыва, шырокіх партыйных і беспартыйных мас.

У гэтым сіла ўсёй нашай работы, у гэтым сутнасць зараз у адносінах праверкі кадраў, праверкі людзей, у гэтым сутнасць арганізацыі нашай работы. Калі мы забяспечым добра нашу работу, каб усе дзеянні нашых партыйных органаў і кіруючых партыйных работнікаў знаходзіліся пад штодзенным кантролем партыйных і беспартыйных мас, а мы гэта павінны зрабіць, тады, зразумела, і справа павышэння пільнасці і справа выкрыцця ворагаў, якія, магчыма, яшчэ ў тым ці іншым месцы схаваліся, зацясаліся ў нашых радах, стараюцца маскавацца для таго, каб пачакаць і ў патрэбны момант нам шкодзіць— будзе пастаўлена лепш, і мы гэтых ворагаў быстрэй будзем выкрываць.

Мы не можам стварыць такога становішча, каб кожнага работніка, які ў тым ці іншым месцы працаваў з выкрытым ворагам, неадкладна браць пад падазрэнне. Мы павінны правяраць старанна ўсё гэта.

Я лічу, таварышы, што на нашым з'ездзе былі паасобныя выступленні таварышоў, якія крышачку, злёгку, не зусім абгрунтавана часамі проста гаварылі: я бяру таго або іншага чалавека пад сумненне, пад падазрэнне. Зразумела, справа кожнага члена партыі браць пад сумненне і пад падазрэнне любога таварыша, але гэта ўсё-такі з'езд партыі, гэта вышэйшы орган нашай КП(б)Б. Для таго, каб сказаць аб тым, што той або іншы таварыш бярэцца пад сумненне або пад падазрэнне, трэба прывесці факты, даныя, абгрунтаваць усё канкрэтна, сказаць, што вось тое і тое ён зрабіў. Не ў тым заключаецца пільнасць, што я выйду і скажу, што я бяру такога вось чалавека пад падазрэнне. Пільнасць заключаецца ў канкрэтным абвінавачванні, у

канкрэтных фактах, у прад'яўленні канкрэтных абгрунтаваных матэрыялаў.

На нашым з'ездзе былі паасобныя выступленні, у якіх прыводзіліся факты аб радзе таварышоў. Зразумела, новы Цэнтральны Камітэт нашай партыі, які вы выбераце, павінен будзе праверыць гэтыя факты, узважыць іх, як належыць, таму, што мы не можам ні аднаго факта пакінуць без разгляду. Магчыма, што ў таварыша былі паасобныя памылкі, якія дапусціў, а можа быць, былі сур'ёзныя рэчы, па якіх, магчыма, патрэбна рабіць сур'ёзныя палітычныя вывады.

Таварышы, я хачу некалькі слоў сказаць аб нацыянальна-культурным фронце. Аб нашых задачах на гэтым участку я гаварыў у сваім дакладзе, дадаць тут не маю чаго, асабліва таму, што, мне здаецца, таварышы, якія выступалі, практычна ў сваіх прапановах дапоўнілі некаторыя моманты, з якімі я, несумненна, згодзен. Але я хацеў-бы адзін бок гэтага пытання закрануць. Гэта аб кадрах, якія працуюць у нас на нацыянальна-культурным фронце.

Таварышы, значэнне гэтага ўчастка работы для нас, для КП(б)Б, для ўсяго нашага соцыялістычнага будаўніцтва велізарнае. Яшчэ больш узрастае значэнне ідэалагічнага фронта для нас пасля рашэння Пленума ЦК ВКП(б) і ўказанняў таварыша Сталіна.

Усе вы ведаеце, аб гэтым гаварылася на з'ездзе, што ў нас на гэтым участку не ўсё добра. Тут ЦК КП(б)Б дапусціў вялікую колькасць памылак. Засмечанасць тут была вялікая ворагамі.

Але я думаю, таварышы, што мы ўсе павінны згадзіцца з той акалічнасцю, што асабліва на гэтым участку,—гэта цалкам вынікае з інтарэсаў партыі, правядзення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, правільнага правядзення ўказанняў і рашэнняў ЦК ВКП(б) у адносінах культурных кадраў, я ўжо не гавару аб нашых кадрах, нашых пралетарскіх, блізкіх да нас кадрах, але і да тых, якія маюць хоць-бы малейшую здольнасць і жадаюць да нас наблізіцца ў сваёй рабоце, для таго, каб прыносіць якую-небудзь карысць,—мы да гэтых кадраў павінны падыходзіць вельмі асцярожна, дапамагаць ім, выхоўваць іх з найвялікшымі клопатамі, таму што недахват кадраў тут вялікі і кожнаму чалавеку, паказваючаму, паўтараю, хоць некаторыя адзнакі, што ён стараецца перабудоўвацца, прысці да нас бліжэй, наблізіцца, мы павінны аказаць дапамогу і ўвагу.

Мы павінны добра паглядзець і праверыць, што робіцца сярод пісьменнікаў. І зусім правы выступаўшыя тут таварышы, калі гаварылі наконт таго, каб умацаваць гэты ўчастак; дапамагчы патрэбна ім, прычым не толькі рашэннямі, а, ведаеце, наблізіць іх цяплынёй нашай,—гэта-ж у нашых руках, на нашым абавязку ляжыць; нашым партыйным уплывам, нашым партыйным блізкім бацькоўскім падыходам да іх—да таварышоў, якія стараюцца чэсна працаваць, інакш мы створым нядобры настрой, і людзі, якія не з'яўляюцца ворагамі, магчыма, якія хістаюцца,—гэтым людзям мы створым абстаноўку, што яны пойдуць да ворагаў.

Так, таварышы, і на іншых участках культурнага фронта.

Мы тут да кадраў ідэалагічнага фронта павінны вельмі і вельмі сур'ёзна і ўважліва падыходзіць, адносіцца з усёй сур'ёзнасцю, не кідаць людзей, калі няма дастатковых падстаў, асабліва хістаючыхся, у лапы ворага.

Вось, таварышы, заўвагі адносна нашага культурнага ўчастка.

Я гаварыў і ў дакладзе, што мы маем і на культурным фронце ўзросшыя большэвіцкія кадры, добрыя кадры і многа гэтых кадраў.

Мы павінны ў ЦК, у гаркомах нашых, райкомах, акругкомах узяць пад асобы нагляд кадры, працуючыя на ідэалагічным фронце, на культурным фронце, у тым сэнсе, каб іх сістэматычна правяраць, дапамагаць ім выпраўляць іх памылкі, недахопы, забяспечыць гэтым кадрам магчымасць развівацца і расці.

Далей, таварышы, я лічу, што тав. Конікаў зрабіў тут не зусім правільны вывад адносна таго, што трэба ліквідаваць водападзел паміж партыйнай і совецкай работай. Таварышы, аб якім водападзеле ідзе гутарка? Я думаю, што трэба нямнога паправіць тав. Конікава і сказаць, што ніякага ў нас водападзелу няма; у нас ёсць практычныя недахопы, якія мы павінны знішчыць, узмацніць кіраўніцтва з боку ЦК, з боку гаркомаў, райкомаў, акругкомаў совецкім апаратам. Гэтага патрабуюць ад нас Пленум ЦК ВКП(б) і таварыш Сталін. І мы гэту пастанову безумоўна павінны выканаць. Партыя кіравала, кіруе і будзе кіраваць работай совецкага, гаспадарчага і ўсякага іншага апарата.

Калі гэтыя недахопы мы мелі і маем яшчэ сям-там зараз, то іх трэба знішчыць, выправіць.

Некалькі слоў аб Чырвонай Арміі. Тут выступала многа ваенных таварышоў. Яны гаварылі ў сваіх выступленнях многа і поўна і правільна адносна задач, якія выцякаюць для комуністаў Чырвонай Арміі ў сувязі з усімі падзеямі, якія адбыліся за апошні час.

Таму я тут распаўсюджвацца не збіраюся. Мы павінны памятаць адно, таварышы,—усе комуністы, што мы заўсёды павінны быць гатовы да вайны. І таму, як можна хутчэй трэба ліквідаваць усе тыя вынікі, якія нанесены выкрытымі ворагамі народу Чырвонай Арміі, і ў тым ліку і ў нашай БВА з боку выкрытага ворага народу Убарэвіча і некаторых іншых. І я думаю, таварышы, што наш Цэнтральны Камітэт, разам з ваеннай акругай, ваенным советам БВА, і ўся наша партыйная арганізацыя, грамадзянская і ваенная, прымуць усе меры да таго, каб гэтыя вынікі былі хутчэй ліквідаваны, каб наша БВА была сапраўды перадавой, баявой акругай, гатовай ва ўсякі час даць адпор ворагу.

Я ўжо гаварыў у сваім дакладзе і запэўніваў нашых ваенных таварышоў у тым, што мы, грамадзянскія работнікі, прымем усе меры, каб акружыць нашых кіруючых работнікаў Чырвонай Арміі і чырвонаармейцаў яшчэ большымі клопатамі, любоўю, увагаю і з боку партыйных арганізацый і з боку насельніцтва нашай Совецкай Беларусі.

Я думаю, што мы павінны ўсё зрабіць і для таго, каб грамадзянская партыйная арганізацыя ў гэтай дапамозе нашым ваенным таварышам усё зрабіла для падняцця яшчэ большага аўтарытэту нашых камандзіраў, палітработнікаў у часцях Чырвонай Арміі. І, таварышы, несумненна, мы павінны ўсё зрабіць для таго, каб значэнне, вага, аўтарытэт кіраўніцтва нашай Чырвонай Арміі і кіраўніка Чырвонай Арміі тав. Варашылава, як палкаводца, быў на недасяжнай вышыні. **(Апладысменты).**

Таварышы, пры ўсёй маёй пашане да КПК і да тав. Шусціна, я павінен на яго выступленні крыху спыніцца, таму што гутарка ідзе аб некаторай, я лічу прынцыповай, папраўцы, за якую, мне здаецца, не можа пакрыўдзіцца і тав. Шусцін. Я думаю, што ён не зусім правільна выступіў на з'ездзе, і вось чаму: на фоне ўсіх тых падзей, якія мы ўскрываем зараз у КП(б)Б і ў тым ліку і ў кіраўніцтве, мы, таварышы, павінны сказаць усё, што мы прахлопалі, што ў нас тут піль-

насці неабходнай не было, што мы вінаваты, і няма ў нас і не можа быць героя ў у тым сэнсе слова, што вось я—герой, я добра выкрываў ворагаў. Не, вінаваты мы ўсе, і гэта трэба прама і адкрыта сказаць, і гэта адпавядае сапраўднасці, і гэтага патрабуе, тав. Шусцін, справа разгортвання большэвіцкай самакрытыкі.

**Шусцін.**—Правільна.

І калі гэта правільна, тав. Шусцін, то як-жа можа быць тут КПК абыйдзена, упаўнаважаны КПК.

**Шусцін.**—Я і на пленуме гаварыў.

Тав. Шусцін, роля ўпаўнаважанага КПК вельмі вялікая, правы і абавязкі вельмі вялікія. Зразумела, адказнасць у першую чаргу ляжыць на ЦК КП(б)Б, на кіраўніках яго, але, зразумела, і ўпаўнаважаны КПК адказвае па сутнасці за работу.

**Шусцін.**—Я не знімаю адказнасці з сябе.

Не ў гэтым справа, але раз ускрываюцца такія рэчы і факты, то к чаму гэтыя размовы, што вы недзе пісалі? Я вам скажу—глупства ўся гэта пісаніна ў параўнанні з тым, што мы зараз ускрываем у партыйнай арганізацыі.

**Галасы.**—Правільна, правільна.

Зразумела, вы пісалі, тав. Шусцін; нельга сказаць, што вы нічога не пісалі, не сігналізавалі, але не так і не ў такой плоскасці, як гэта зараз ускрываецца. Вы-ж не сігналізатары радавыя...

**Голас.**— Рабкоры.

Не радавыя члены партыі, якія сігналізуюць, а вы, па сутнасці, адзін з кіраўнікоў, і раз мы прахлопалі такія рэчы, то вінаваты ўсе мы, у тым ліку і вы.

**Галасы.**—Правільна.

І тут, па-мойму, нам няма чаго ў кусты хавацца ад адказнасці. Я хацеў зрабіць гэту заўвагу, тым больш, я лічу, што гэта зноў-такі звязана з разгортваннем большэвіцкай самакрытыкі. Выступленне тав. Шусціна было не зусім самакрытычным.

Таварышы, пытанне аб выкрытых ворагах народу—Бенеку, Дзякаве, Убарэвічу і інш., зразумела, для нас, для партыйнай арганізацыі з'яўляецца сур'ёзным пытаннем, таму што гэтыя людзі былі на кіруючай рабоце і ўваходзілі ў склад ЦК. Я ўжо гаварыў, што раз гэтыя асобы толькі зараз ускрываюцца, то мы вінаваты. Я не згодзен з устаноўкай некаторых выступаўшых таварышоў, што хтосьці камусьці перашкаджаў. Зараз гаварыць, што хтосьці камусьці «перашкаджаў»— няправільна будзе. Зразумела, труднасці і затрудненні ў выкрыцці гэтых ворагаў былі. Але чаму няправільна, таварышы, зараз так ставіць пытанне? Таму, што, я лічу, таварышы, такая пастаноўка пытання змазвае пытанне павышэння большэвіцкай пільнасці і разгортвання большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі. Хіба можна зараз на з'ездзе гаварыць: перашкаджалі, хтосьці камусьці перашкаджаў? Мы так гаварыць не можам, бо гэтыя асобы аказаліся ворагамі, зараз выкрыты як ворагі. Мы не змаглі іх своечасова ўскрыць як ворагаў, і так мы павінны сказаць: не змаглі іх ускрыць і ў ЦК, з прычыны тых недахопаў, памылак, якія мелі месца ў КП(б)Б і ўскрыты ў дакладзе і заключным слове таварыша Сталіна на Пленуме ЦК ВКП(б). Іменна з-за гэтых недахопаў і памылак мы не змаглі своечасова іх ускрыць.

Гэта не значыць, таварышы, абсалютна, што наогул нічога не рабілася. ЦК КП(б)Б рабіў вельмі многа для таго, каб выкрыць ворагаў і ў ходзе праверкі і абмену партыйных дакументаў выкрылі многіх

ворагаў. Але гэта зусім не знімае віны з ЦК КП(б)Б, асабліва ў святле таго, што ўскрыта зараз. Размовы аб тым, што перашкаджалі і т. д. проста не к месцу. Мы павінны зноў-такі, паўтараю, сказаць, што не змаглі своечасова выкрыць гэтых ворагаў і паставіць аб іх пытанне. Гэта будзе адпавядаць поўнасцю сапраўднасці; тым больш, што аб такіх людзях, аб якіх гаварыў тав. Пасэ,—аб Бенеку, Дзякаве—быў цэлы рад матэрыялаў у ЦК, я аб гэтым гаварыў у сваім дакладзе. Але яны не былі пастаўлены як належыць, не быў пастаўлен адкрыта разгляд гэтых матэрыялаў.

Але, таварышы, я лічу, што мы не можам усё ў адну кучу валіць. Мы павінны ўсё-ж улічваць і глядзець; уся КП(б)Б ведае нашы кадры, і кіруючыя, і ведае, хто і як змагаўся супроць гэтых ворагаў—супроць трацкістаў, правых, нацыяналістаў і супроць усякай сволачы. Гэта для ўсёй КП(б)Б вядома. І многа такіх кадраў ёсць у КП(б)Б, абсалютная большасць, якія актыўна змагаліся супроць усёй гэтай сволачы. Так што зараз усё валіць у адну кучу было-б няправільна, і мы не можам скінуць з рахунку ўсяго гэтага актыва, які актыўна біўся супроць гэтых ворагаў.

Тут, таварышы, закранаўся персанальна рад людзей. У выступленні тав. Чундзерава гаварылася аб тав. Картукове. Бачыце, таварышы, зразумела, тав. Картукоў «па вушы» вінават за ўсе справы, якія зараз ускрыты ў Наркамземе. Ён штампаваў усе прапановы Бенека, ён бескантрольна праводзіў усё, што Бенек яму падсоўваў. Але я не згодзен з тав. Чундзеравым, калі ён так падыходзіць да справы: Картукоў, моў, меншавік. Перш за ўсё, Картукоў член партыі, комуніст. Калі вы хацелі сказаць, што ён быў меншавіком—гэта іншая справа, але калі вы говорыце, што ён меншавік зараз,—гэта няправільна.

**Чундзераў.**—Практыка работы яго меншавіцкая.

Гэта—іншая справа. Але вы-ж не гаварылі аб практыцы работы, вы говорыце, што ён меншавік.

Далей, адносна тав. Кудзелькі. Я не чуў выступлення Кудзелькі. Зразумела, тав. Кудзелька на рабоце ў Наркамфіне дапусціў вялікую колькасць палітычных памылак. Гэта ўскрыта і на лепельскіх прыкладах, і на цэлым радзе другіх спраў. Тав. Кудзелька павінен быў тут сказаць аб сваіх памылках і як ён глядзіць на гэтыя рэчы. Гэтыя факты адносна тав. Кудзелькі трэба праверыць, гэта правільная пастаноўка з боку тав. Чундзерава.

Я, зразумела, у сваім заключным слове намеціў цэлы раздзел адносна выступлення Чарвякова на гэтым з'ездзе, але ў сувязі з тым, што Чарвякоў, як нам зараз ужо вядома, пакончыў самагубствам на асабістай глебе, мне думаецца, ніякай патрэбы многа гаварыць аб гэтым двурушніку, які маскаваўся вельмі доўга ў КП(б)Б, які сваім актам самагубства, хоць і на асабістай глебе, зрабіў яўна варожы ўчынак. Ён нібы не вытрымаў той крытыкі, якая разгарнулася на нашым партыйным з'ездзе з боку членаў партыі, крытыкі вострай і зусім правільнай.

Мы ўсе ведаем, як Чарвякоў на ўсім працягу барацьбы КП(б)Б супроць яго памылак ніколі не быў шчырым у сваіх тлумачэннях перад партыяй. Ён заўсёды двурушнічаў. Ён заўсёды манеўраваў з адвакацкімі ўлоўкамі і вывёрткамі. Мне і многім з нас даволі часта прыходзілася крытыкаваць Чарвякова, і ніколі мы не сустракалі з яго боку шчырасці ў адказах на гэту крытыку. У нас ніколі сумнення не было, што кожны раз, калі Чарвякоў павінен быў трымаць адказ перад партыяй, ён заўсёды выступаў як адвакат, чыноўнік, які

навучыўся вельмі лоўка, па-адвакацку загладжваць, абыходзіць, дыпламатычна павярнуць і прыкінуцца нявінненькім, прыбядніцца. Ён так зрабіў і тут, на нашым з'ездзе—прыбядніўся, і вось—яму цяжка і т. д. і т. д.

Хто не ведаў Чарвякова, які яшчэ ў былыя часы на з'ездах партыі ўмеў гаварыць і ўмеў граміць тых людзей, якія выступалі супроць яго і выкрывалі яго памылкі. Ён не выступаў тады такім бедненькім, прыбядніўшыся, як тут выступаў. Ён людзей, якія мала-мальскі выступалі супроць яго, зашыбаў і вышыбаў умомант. Не такі Чарвякоў быў бедненькі.

Таварышы, вазьміце тое, што ён тут гаварыў аб Галадзедзе. Мяне проста здзівіла. Чалавек ён палітычна граматны. Чалавек бачыць, што Галадзеда на з'ездзе выкрываюць як правага па канкрэтных матэрыялах; Чарвякоў-жа ўхітрыўся, гаворачы аб Галадзедзе, пабудаваць сваю прамову так, каб самому вылезці на паверхню, пабудаваў сваю прамову на асабістых адносінах з Галадзедам, не крытыкаваў яго палітычна, не выкрываў правыя справы Галадзеда.

Каму не вядома, што Чарвякоў з Галадзедам разам насаджалі прышчэпаўшчыну; каму не вядома, што яны ўсе дакументы апрабіравалі, будучы ля ўлады, багатварылі Прышчэпава. А хіба ўсе правыя справы Галадзеда Чарвякову не вядомы лепш, чым каму? Яму вядомы лепш. Ён ухітрыўся на з'ездзе, гаворачы аб Галадзедзе, прадставіць сябе такім чынам: які я быў пакрыўджаны Галадзедам, Галадзед мне жыць не даваў. Усе гаварылі, а Чарвякоў Галадзеда не выкрываў. Так-жа. Ці не выходзіць тут па прыказцы: рыбак рыбака бачыць здаляка. Асабіста царапаліся, а работу савецкага апарата, работу, якую яны ўзначальвалі, разам правалілі.

Таварышы, ва ўсякім выпадку я абсалютна ўпэўнен, што і наш з'езд, і ўся наша КП(б)Б, і ўвесь народ Беларусі сустрэнуць, ацэняць паведамленне аб самагубстве Чарвякова як яго варожы акт, акт супроць партыі, супроць савецкай улады, супроць народу, супроць усіх нас.

**Галасы.**—Правільна.

Таварышы, я думаю, што мне няма патрэбы тут спыняцца адносна Галадзеда, таму, што аб ім дастаткова і правільна гаварылі, і да таго, што я гаварыў у сваім дакладзе, і да таго, што тут гаварылі, няма патрэбнасці рабіць дапаўненне.

XVI з'езд КП(б)Б увойдзе ў гісторыю КП(б)Б безумоўна як гістарычны з'езд. Ён увойдзе ў гісторыю КП(б)Б як з'езд згуртавання нашых радоў, як з'езд павышэння большэвіцкай мабілізаванасці і пільнасці, як з'езд, які бязлітасна, востра ставіў ва ўпор пытанне ўсім тым, хто тармазіў наша соцыялістычнае будаўніцтва, як з'езд ачысткі КП(б)Б ад ворагаў, як з'езд ачысткі КП(б)Б ад усяго нягоднага, што перашкаджае паспяховаму ходу нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Няма сумнення, таварышы, што работа і рашэнні XVI з'езда КП(б)Б дапамогуць нам і ўсёй КП(б)Б, усім працоўным Беларусі яшчэ больш рашуча ачысціць свае рады ад усіх ворагаў, дыверсантаў, шпіёнаў, агентаў япона-германскага, польскага фашызма, якія заселі ў тых ці іншых месцах нашых апаратаў, якія шкодзяць нам.

Няма ніякага сумнення ў тым, што наш з'езд, наша КП(б)Б прымуць усе меры да таго, каб рашэнні Лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б), указанні таварыша Сталіна ў яго дакладзе і заключным слове беззаветна, самааддана, з усёй энергіяй і сілай, якая ў нас ёсць, праводзіць у жыццё.

Таварышы, я думаю, што XVI з'езд КП(б)Б з'яўляецца з'ездам яшчэ большага згуртавання радоў КП(б)Б вакол Цэнтральнага Камітэта Ўсесаюзнай комуністычнай партыі, вакол любімага, дарагога нашага правадыра таварыша Сталіна. **(Бурныя, доўга незмаўкаючыя апладысменты. Усе ўстаюць. Воклічы: «Ура», «Няхай жыве таварыш Сталін», «Ура таварышу Сталіну». Бурная, доўга незмаўкаючая авацыя. «Няхай жыве ЦК ВКП(б), таварыш Сталін», «ура». Бурныя апладысменты. Усе пяюць «Інтэрнацыянал».** Воклічы: **«Таварышу Сталіну—ура». «Няхай жыве таварыш Сталін!» «Ура». Бурная авацыя. «Няхай жыве комунізм», «ура». Бурныя апладысменты. «Ура»—слаўным чэкістам». Бурныя апладысменты).**

---

## Прамова тав. Шаранговіча

### на заключным пасяджэнні XVI з'езда КП(б)Б

Таварышы, наш з'езд КП(б)Б вычарпаў павестку дня, намечаную для абмеркавання.

XVI з'езд КП(б)Б увойдзе ў гісторыю КП(б)Б як з'езд небывалага згуртавання КП(б)Б вакол ЦК ВКП(б), вакол таварыша Сталіна.

XVI з'езд КП(б)Б увойдзе ў гісторыю КП(б)Б як з'езд умацавання, мабілізаванасці і далейшай большэвізацыі нашых радоў, як з'езд ачысткі радоў КП(б)Б ад двурушнікаў, трацкістаў, правых, нацыяналістаў і ўсякіх іншых агентаў германскага, японскага і польскага фашызма.

XVI з'езд КП(б)Б праводзіў сваю работу так, як гэтага патрабаваў ад нас лютаўскі Пленум ЦК ВКП(б) і таварыш Сталін у сваім дакладзе і заключным слове на гэтым пленуме. Мы, таварышы, можам без усякага самахвальства сказаць, што наш з'езд праходзіў на высокім ідэйна-палітычным узроўні, на высокім узроўні большэвіцкай пільнасці і самакрытыкі. Для ўсіх нас XVI з'езд КП(б)Б з'явіўся велізарнай школай партыйнай загартаванасці і вучобы. Я думаю, што ён з'явіцца і для ўсёй КП(б)Б такой школай. Можна прама сказаць, што такога з'езда ў гісторыі КП(б)Б не было. Гэта пацвярджае яшчэ раз, наколькі своечасова і правільна таварыш Сталін ускрыў усе нашы памылкі і недахопы ў пастаноўцы партыйнай-палітычнай работы. Гэта адначасова пацвярджае і рост і ўмацаванне радоў КП(б)Б і яе актыва.

Таварышы, я думаю, што выкажу думку ўсяго з'езда і ўсёй КП(б)Б, калі скажу, што ўся КП(б)Б не толькі гатова, але і прымае ўсе меры да таго, каб разграміць да канца ворагаў. **(Бурныя апладысменты).**

Выцягнуць іх з усіх нор, дзе-б яны ні хаваліся, і раздавіць іх, як шалёных сабак.

Ні самагубствы, ні змяінае шыпенне ўсёй фашысцкай сволачы з-за вугла не могуць пахіснуць нашых радоў. Усіх гэтых гадаў мы знішчым. Няхай нашы ворагі пішуць пра нас што хочуць, паклёпнічаюць і робяць правакацыі. Мы ведаем толькі адно: што, ачышчаючы свае рады ад усёй гэтай гнілі і падалі, мы ўмацоўваем нашы большэвіцкія рады. Выкрыццё ворагаў гаворыць аб нашай сіле, а не аб нашай слабасці.

Мы павінны даць клятву нашаму ЦК ВКП(б), нашаму таварышу Сталіну, што большэвікі Беларусі, працуючы на граніцы з капіталістычным Захадам, памятаючы ўказанні таварыша Сталіна аб капіталістычным акружэнні, аддадуць усе свае сілы, усю сваю энергію, а калі патрэбна будзе,—і жыццё за справу нашай любімай

радзімы. **(Бурныя апладысменты).** Няхай уздрыгаюцца і трапечуць ворагі перад нашай сілай, згуртаванасцю і адданасцю радзіме, нашай партыі і правадыру таварышу Сталіну. **(Доўгія апладысменты).**

На нашым з'ездзе прыняты рашэнні, якія выцякаюць з пастаноў лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б) і ўказанняў таварыша Сталіна. Нам прадстаіць вялікая работа, трудная і адказная. Мы гэтага не павінны і не маем права перамяншаць.

Нам прадстаіць вялікая работа па ліквідацыі вынікаў шкодніцтва трацкістаў, бухарынцаў, нацыянал-фашыстаў—гэтых агентаў япона-германскага і польскага фашызма. Я заклікаю ўсіх дэлегатаў з'езда, усю КП(б)Б і ўвесь беларускі народ энергічна ўзяцца за правядзенне гэтых рашэнняў у жыццё.

Я ўпэўнен, што мы яшчэ больш згуртуемся вакол нашай партыі, правядзем у жыццё ўсе рашэнні і тым самым пакажам нашай партыі, таварышу Сталіну, што мы—вартыя сыны нашай радзімы здольны змагацца за выкананне прынятых рашэнняў, за перамогу комунізма.

Няхай жыве КП(б)Б!

Няхай жыве беларускі народ!

Няхай жыве наша магутная, згуртаваная, маналітная ВКП(б)!

Няхай жыве ЦК ВКП(б)!

Няхай жыве наш любімы, дарагі правадыр таварыш Сталін! **(У гонар таварыша Сталіна раздаюцца бурныя апладысменты, якія пераходзяць у авацыю. Усе ўстаюць. Дэлегаты пяюць «Інтэрнацыянал».** Воклічы: **«Няхай жыве таварыш Сталін!» «Ура!» «Ура таварышу Сталіну!» Доўга незмаўкаючыя апладысменты).**

Дазвольце XVI з'езд Комуністычнай Партыі большэвікоў Беларусі лічыць закрытым.

# Рэзалюцыя XVI з'езда КП(б)Б па справаздачы ЦК КП(б)Б

Заслухаўшы і абмеркаваўшы справаздачны даклад тав. Шаранговіча аб рабоце ЦК КП(б)Б, XVI з'езд КП(б) Беларусі прызнае палітычную лінію ЦК КП(б)Б правільнай і работу здавальняючай.

Адначасова з'езд адзначае, што ў рабоце ЦК КП(б) Беларусі меў месца рад палітычных памылак і недахопаў, асабліва ў пастаноўцы партыйна-палітычнай работы.

XVI з'езд КП(б)Б адзначае, што за справаздачны перыяд, пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б), у цеснай дружбе і пры дапамозе народаў СССР, беларускі народ дабіўся буйных поспехаў у справе соцыялістычнага будаўніцтва, у далейшым развіцці прамысловасці, сельскай гаспадаркі, у разгортванні стаханаўскага руху і павышэнні матэрыяльна-культурнага ўзроўню жыцця працоўных.

На гэтай аснове вырасла палітычная актыўнасць працоўных БССР. Вырасла нацыянальная па форме, соцыялістычная па зместу культура, мастацтва і літаратура народаў БССР.

Дасягнутыя поспехі з'яўляюцца рэзультатам няўхільнага ажыццяўлення генеральнай лініі партыі, ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі і знайшлі сваё яркае выражэнне ў новай Канстытуцыі БССР.

З'езд, аднак, лічыць, што дасягненні ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва Беларусі былі-б значна большымі, калі-б кіруючыя партыйныя органы і ў першую чаргу ЦК КП(б)Б не дапусцілі буйнейшых прарываў і памылак, ліквідацыя якіх з'яўляецца першачарговай і неадкладнай задачай усёй КП(б)Б.

XVI з'езд КП(б)Б адзначае, што недахопы ў партыйна-палітычнай рабоце, ускрытыя таварышом Сталіным на Лютаўскім Пленуме ЦК ВКП(б), цалкам і поўнасцю адносяцца да КП(б)Б.

У партыйных арганізацыях КП(б)Б і ў ЦК КП(б)Б мелі месца палітычная слепата і ідыёцкая хвароба—бясклопатнасць. У КП(б)Б яшчэ не зроблены ўсе вывады, выцякаючыя з неаднаразовых указанняў ЦК ВКП(б) і таварыша Сталіна аб няўхільным павышэнні рэволюцыйнай пільнасці. Аб гэтым сведчыць той факт, што ўжо пасля праверкі і абмену партыйных дакументаў у партыйных арганізацыях Беларусі ўскрыта многа ворагаў, якія шкодзілі на радзе важнейшых участкаў соцыялістычнага будаўніцтва і нават праніклі ў ЦК КП(б)Б.

З'езд падкрэслівае, што несвоечасоваму выкрыццю фашысцкіх шпіёнаў і шкоднікаў, займаўшых нават кіруючыя пасты, спрыяла адсутнасць да апошняга часу разгорнутай большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі ў КП(б)Б і ў ЦК КП(б)Б, а таксама наяўнасць элементаў сямейственасці і групаўшчыны ў кіраўніцтве КП(б)Б.

Прынцып дэмакратычнага цэнтралізма і статут партыі ў КП(б)Б

грубейшым чынам парушаліся. Самасупакоенасць, забыццё факта капіталістычнага акружэння і пагранічнасці БССР, самавыхваленне і падхалімства, ператварэнне пленумаў мясцовых партыйных камітэтаў, пленумаў ЦК КП(б)Б і пасяджэнняў актываў у арэну пустых парадаў, выхвальных маніфестацый аб поспехах—засмечвала галовы, усыпляла людзей, замазвала недахопы ў рабоце і забівала ўсякае пачуццё пільнасці.

Усё гэта з'явілася галоўнай прычынай той палітычнай слепаты, якая была праяўлена ЦК КП(б)Б і партыйнымі камітэтамі на месцах. ЦК КП(б)Б да апошняга часу яшчэ не перабудаваў сваёй практычнай работы ў адпаведнасці з рашэннямі Лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б) і ўказаннямі таварыша Сталіна.

У КП(б)Б зусім недастаткова пастаўлена палітычная і дзелавая падрыхтоўка партыйных кадраў, падбор і выхаванне якіх яшчэ не сталі асноўнай работай партыйных кіраўнікоў і партыйных арганізацый.

XVI з'езд лічыць пастаноўку партыйнай прапаганды і палітычнай агітацыі ў КП(б)Б і кіраўніцтва гэтай важнейшай справай з боку ЦК КП(б)Б вельмі нездавальняючым. Справа марксісцка-ленінскай прапаганды перадавяраецца другарадным, а ў радзе выпадкаў сумніцельным у партыйных адносінах людзям, што, у прыватнасці, пацвярджаецца выкрыццём значнай колькасці ворагаў сярод прапагандыстаў. У рабоце партыйных школ і гурткоў яшчэ далёка не зжыт адрыў прапаганды ад злобадзенных пытанняў міжнароднай і ўнутранай палітыкі. Гісторыя большэвіцкай партыі ў КП(б)Б выкладаецца і вывучаецца схаластычна, без сувязі з гісторыяй усёй краіны.

Да гэтага часу зусім нездавальняюча пастаўлена вывучэнне гісторыі КП(б)Б і рэвалюцыйнага руху, ў Беларусі.

Палітычная агітацыя ў масах па свайму зместу і ахопу далёка не адпавядае патрабаванням сённешняга дня і не адказвае задачам, якія выцякаюць з палітычнага павароту ў жыцці краіны, у сувязі з прыняццем новай Сталінскай Канстытуцыі. Агітацыя носіць павярхоўны характар, адарвана ад злобадзенных пытанняў міжнароднага і ўнутранага становішча краіны. Зусім нездавальняюча пастаўлена антырэлігійная прапаганда.

XVI з'езд КП(б)Б адзначае, што апарат Соўнаркома і ЦВК быў засмечан чуждымі, варожымі і неправеранымі людзьмі. У рабоце Соўнаркома і ЦВК мелі месца буйнейшыя прарывы і палітычныя скажэнні палітыкі партыі. СНК і ЦВК БССР тармазілі перабудову работы савецкага апарата і правільнае вырашэнне пытанняў гаспадарчага і савецкага будаўніцтва.

Перагібы ў адносінах да калгаснікаў і аднаасобнікаў, ускрытыя ў Лепельскім раёне і ў радзе іншых раёнаў і акруг Беларусі, паказваюць, што кіраўніцтва КП(б)Б праявіла палітычную слепату ў адносінах кіруемых ім органаў і недаацэньвала задачу ўмацавання пагранічнай паласы.

У сельскай гаспадарцы, і асабліва ў жывёлагадоўлі, а таксама ў прамысловасці, на транспарце і ў галіне народнай асветы было шырока разгорнута шкодніцтва.

ЦК КП(б)Б і партарганізацыі не здолелі своечасова раскрыць і папярэдзіць шкодніцкую дзейнасць у Наркамземе, Наркомасветы і ў радзе іншых галін гаспадаркі і культуры Беларусі.

З'езд КП(б)Б адзначае, што ў рабоце савецкіх, гаспадарчых орга-

наў і наркаматаў маюць месца зусім недапушчальная маруднасць і дабрадушнасць у справе ліквідацыі вынікаў шкодніцтва.

Не глядзячы на поспехі, дасягнутыя ў галіне нацыянальна-культурнага будаўніцтва за справаздачны перыяд, з'езд адзначае меўшую месца недаацэнку з боку ЦК КП(б)Б велізарнага значэння нацыянальна-культурнага будаўніцтва ў Беларусі, у выніку чаго на гэтым участку ёсць сур'ёзныя прарывы. Трацкісцкія, нацыянал-фашысцкія і бухарынскія агенты фашызма, прабраўшыся ў кіруючыя апараты культурнага фронта, свядома праводзілі лінію на зрыў і затрымку развіцця нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу культуры (Наркомасветы, Белдзяржвыдавецтва, Саюз пісьменнікаў, Акадэмія навук, педагагічны інстытут, універсітэт, тэатр і т. д.).

XVI з'езд КП(б)Б запэўнівае ЦК ВКП(б) і правадыра партыі таварыша Сталіна, што большэвікі Беларусі бязлітасна разгромяць трацкісцкіх, зіноўеўскіх, бухарынскіх, нацыянал-фашысцкіх шпіёнаў, шкоднікаў, тэрарыстаў—агентаў германа-японскага і польскага фашызма.

Злейшых ворагаў народу, прадаўшых радзіму, агентаў замежных разведак мы будзем знішчаць як шалёных сабак. Уся КП(б)Б акажа ў гэтай справе штодзенную дапамогу органам НКВД на чале з іх баявым кіраўніком тав. Ежовым.

XVI з'езд КП(б)Б абавязвае ЦК КП(б)Б і ўсе партыйныя арганізацыі ў сваёй далейшай рабоце няўхільна ажыццяўляць рашэнні Лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б) і ўказанні таварыша Сталіна, якія дадзены ў яго дакладзе і заключным слове на Пленуме, змагаючыся з усякай самасупакоенасцю і бясклопатнасцю ў рабоце. Партыйныя арганізацыі павінны карэнным чынам палепшыць пастаноўку прапаганды марксізма-ленінізма і палітычнай агітацыі, выхоўваць партыйных і непартыйных большэвікоў у духу пролетарскага інтэрнацыяналізма, беззаветнай адданасці справе Леніна—Сталіна, у духу ўсямернага ўзмацнення большэвіцкай пільнасці і непрымірымасці да ворагаў народу.

Пільнасць павінна заключацца перш за ўсё у ідэйным узбраенні комуністаў, у авалоданні вучэннем Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна, у разгортванні крытыкі і самакрытыкі, ва ўменні выкрываць і знішчаць трацкісцкіх, бухарынскіх, германа-японскіх, польскіх і нацыянал-фашысцкіх шпіёнаў, дыверсантаў і тэрарыстаў.

З'езд прапануе ЦК КП(б)Б наладзіць сістэматычную работу па азнаямленню партыйных і непартыйных большэвікоў з мэтамі, метадамі і практыкай шкодніцкай і дыверсійнай работы замежных разведчых органаў і іх трацкісцка-бухарынскай і нацыянал-фашысцкай агентуры.

З'езд КП(б)Б абавязвае ЦК КП(б)Б перабудаваць сваю работу такім чынам, каб галоўным у рабоце ЦК КП(б)Б была дапамога акругкомам, гаркомам і райкомам у выкананні рашэнняў Лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б) і ўказанняў таварыша Сталіна і ў падрыхтоўцы да выбараў у вярхоўныя органы краіны.

Справа падбору і выхавання работнікаў павінна быць асноўнай работай партыйных кіраўнікоў. У падборы работнікаў неабходна няўхільна кіравацца рашэннем Пленума ЦК ВКП(б), які абавязаў «партыйныя арганізацыі аднавіць большэвіцкую практыку палітычнага і дзелавога падыходу да пытанняў размеркавання партыйных сіл, вы-

ключаючую ўсякую сямейственасць і арцельнасць, з тым каб работнікі правяраліся сістэматычна па рэзультатах іх работы».

ЦК КП(б)Б павінен узмацніць сувязь з партыйнымі арганізацыямі, у тым ліку з пярвічнымі партарганізацыямі, забяспечыць рэгулярныя скліканні актываў, уцягненне ў работу членаў пленумаў гаркомаў, райкомаў, членаў парткомаў.

З'езд даручае ЦК КП(б)Б прыняць меры да своечасовага выканання ўсімі партарганізацыямі КП(б)Б пастановы Пленума ЦК ВКП(б) аб падборы намеснікаў сакратароў акругкомаў, гаркомаў, райкомаў і парткомаў.

Усе партыйныя арганізацыі павінны выканаць на справе ўказанне таварыша Сталіна аб чулых адносінах да членаў партыі, пераглядзеўшы рашэнні аб няправільна выключаных з партыі за пасіўнасць і скончыць разгляд апеляцый. Строга прытрымлівацца пастановы ЦК ВКП(б) аб прыёме ў партыю, падыходзячы індывідуальна да кожнага прымаемага ў члены і кандыдаты партыі і ў спачуваючыя.

З'езд даручае партыйным арганізацыям у бліжэйшы час знішчыць маючыяся ў КП(б)Б сур'ёзныя недахопы ў рабоце з кандыдатамі і спачуваючымі.

ЦК КП(б)Б павінен сур'ёзна паставіць справу партыйнай прапаганды, падабраць на гэты ўчастак у бліжэйшы час лепшыя партыйныя сілы. Сакратары гаркомаў, райкомаў і парткомаў павінны самі займацца пытаннямі пастаноўкі партыйнай прапаганды і агітацыі, сістэматычна інструктаваць прапагандыстаў і агітатараў па пытаннях палітыкі партыі, арганізоўваць для партыйнага актыва кансультацыі і даклады па асноўных пытаннях міжнароднага і ўнутранага становішча краіны.

У далейшым разгортванні партыйнай прапаганды неабходна зыходзіць з таго, каб, у адпаведнасці з указаннямі таварыша Сталіна ў яго пісьме ўкладальнікам падручніка па гісторыі ВКП(б), рашуча палепшыць вывучэнне комуністамі гісторыі і палітыкі партыі, яе барацьбы супроць небольшэвіцкіх плыней і груповак.

Неабходна карэнным чынам палепшыць палітычную агітацыю з тым, каб яна забяспечвала своечасовае давядзенне мерапрыемстваў партыі і ўрада да свядомасці кожнага працоўнага.

У агітацыйнай рабоце неабходна шырока практыкаваць правядзенне палітдзён у горадзе, на прадпрыемствах і ў калгасах з ахопам аднаасобнікаў. Не павінна быць ні аднаго прадпрыемства, установы, калгаса, населенага пункта, навучальнай установы, арцелі, куды-б рэгулярна не прыязджалі партыйныя агітатары для растлумачэння міжнароднага і ўнутранага становішча СССР і чарговых задач партыі і совецкай улады.

З'езд падкрэслівае велізарнае значэнне антырэлігійнай прапаганды ў сучасны момант і лічыць найпершым абавязкам кожнай партыйнай арганізацыі—наладжанне шырокай сістэматычнай антырэлігійнай прапаганды ў масах, выкрываючы сутнасць контррэволюцыйнай шпіёнскай работы царкоўнікаў і сектанцкіх груп.

XVI з'езд КП(б)Б даручае ЦК КП(б)Б у самы кароткі тэрмін распрацаваць і ажыццявіць суму мерапрыемстваў у галіне палітычнай падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі партыйных кадраў, актыва гаспадарчых і совецкіх работнікаў, кіруючыся рашэннямі Пленума ЦК ВКП(б) і ўказаннямі таварыша Сталіна.

ЦК КП(б)Б, гаркомы і райкомы на месцах павінны рашуча ўзмацніць кіраўніцтва друкам, узмацніць газеты і выдавецтвы кваліфіка-

ванымі праверанымі людзьмі, вышэй узняць ідэйна-палітычны ўзровень газет, забяспечыць шырокае разгортванне на іх старонках большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі, узмацніць сувязь газет з масамі.

З'езд абавязвае партыйныя арганізацыі Беларусі, наркаматы, трэсты і дырэктароў прадпрыемстваў прыняць усе меры да поўнай ліквідацыі вынікаў трацкісцка-бухарынскага і нацыянал-фашысцкага шкодніцтва ў прамысловасці, у сельскай гаспадарцы, у галіне будаўніцтва, чыгуначнага, воднага, шасейнага транспарту і гандлю Беларусі.

Партыйныя арганізацыі павінны забяспечыць безумоўнае выкананне ўсіх заданняў партыі і ўрада па выпуску прадукцыі прамысловасці, у асаблівасці якасных паказальнікаў, узмацніць кіраўніцтва стаханаўскім рухам, шырока разгарнуць яго, узмацніць працоўную дысцыпліну на прадпрыемствах, смялей вылучаць маладых, адданых партыі рабочых-стаханаўцаў, інжынерна-тэхнічных работнікаў на камандныя пасады ў прамысловасці і на транспарце.

З'езд даручае партыйным арганізацыям забяспечыць узмацненне партыйнага кіраўніцтва гаспадарчымі арганізацыямі ў прамысловасці, на транспарце, у сельскай гаспадарцы, не дапускаючы падмены гаспадарнікаў, шырока разгортваючы і падтрымліваючы іх ініцыятыву.

Забяспечыць безумоўнае выкананне рашэнняў ЦК ВКП(б) аб рэгулярным скліканні актываў наркаматаў, трэстаў, прадпрыемстваў, дарог і т. д., аднавіць і арганізаваць работу вытворчых нарад на ўсіх прадпрыемствах, разгортваючы большэвіцкую крытыку і самакрытыку ўсіх недахопаў у рабоце гаспадарнікаў, дапамагаючы ім у авалоданні большэвізмам.

З'езд лічыць цэнтральнай задачай усіх партыйных, гаспадарчых, совецкіх і прафесіянальных арганізацый Беларусі штодзенныя клопаты аб далейшым палепшанні матэрыяльна-бытавога абслугоўвання шырокіх працоўных мас БССР. Важнейшай задачай партыйных арганізацый Беларусі з'яўляецца рашучае палепшанне работы лёгкай, харчовай і мясцовай прамысловасці, значнае павелічэнне выпуску тавараў шырокага спажывання, у асаблівасці з мясцовай сыравіны.

З'езд даручае ЦК КП(б)Б і СНК Беларусі прыняць неадкладныя меры да ліквідацыі адставання энергетычнай гаспадаркі ад патрэб народнай гаспадаркі ў электраэнергіі, прыняўшы меры да палепшання работы БелДРЭС'а і іншых электрычных станцый рэспублікі.

З'езд абавязвае ЦК КП(б)Б і СНК БССР аддаць выключна сур'ёзную ўвагу складанню плана 3-й пяцігодкі і шырока прыцягнуць да яго распрацоўкі і абмеркавання партыйны актыў, стаханаўцаў прадпрыемстваў і сельскай гаспадаркі, буйных спецыялістаў, ІТР і інш.

ЦК КП(б)Б павінен рашуча зжыць існаваўшую практыку прыніжэння партыйна-палітычнай работы ў гарадах і ролі горада ў соцыялістычным будаўніцтве рэспублікі, забяспечыць ва ўсёй сваёй рабоце вядучую ролю гарадоў у партыйна-палітычнай і гаспадарчай рабоце рэспублікі і вырошчванні партыйных кадраў.

Ліквідацыя вынікаў шкодніцтва ў галіне сельскай гаспадаркі з'яўляецца адной з асноўных задач КП(б)Б на прадстаячы перыяд.

З'езд даручае ЦК КП(б)Б і СНК БССР прыняць усе меры да поўнай ліквідацыі вынікаў шкодніцтва ў галіне жывёлагадоўлі, у прыватнасці, арганізаваць рашучую барацьбу за спыненне эпізаатычных захворванняў.

З'езд асабліва падкрэслівае задачу ўздыму, вырошчвання і заха-

вання конскага пагалоўя Беларусі і папярэджвае ўсе партыйныя арганізацыі, што яны павінны адносіцца да гэтай справы, як да важнейшай дзяржаўнай, гаспадарчай, палітычнай і абароннай задачы.

Партыйныя арганізацыі КП(б)Б павінны весці рашучую барацьбу з усякімі парушэннямі Статута сельскагаспадарчай арцелі, забяспечыць сапраўдны пастаянны кантроль агульных сходаў калгаснікаў за работай праўленняў калгасаў.

З'езд вітае прынятыя па ініцыятыве таварыша Сталіна рашэнні ЦК ВКП(б) і СНК Саюза ССР аб буйных ільготах і дапамозе калгасам і аднаасобнікам БССР і звярачае ўвагу ўсіх партыйных, савецкіх і гаспадарчых арганізацый на тое, што аказаная калгаснікам і аднаасобнікам велізарная матэрыяльная дапамога павінна з'явіцца магутным рычагом арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў і ўздыму жыццёвага ўзроўню працоўных мас калгаснікаў і аднаасобнікаў Беларусі.

Партарганізацыі КП(б)Б абавязаны забяспечыць, на аснове практычнага правядзення гэтых важнейшых рашэнняў партыі і ўрада ў жыццё, яшчэ большы ўздым творчага энтузіязма калгаснікаў і аднаасобнікаў Беларусі на выкананне чарговых гаспадарчых задач (сенаўборка, уборка ўраджаю, выкананне дзяржаўных абавязацельстваў і т. д.).

Важнейшай палітычнай і гаспадарчай задачай усёй КП(б)Б з'яўляецца барацьба за ўсямернае павышэнне кошту працадня ў кожным калгасе Беларусі.

ЦК КП(б)Б, акругкомы і райкомы абавязаны забяспечыць рашучае палепшанне гаспадарчай і партыйна-палітычнай работы ў МТС і соўгасах.

ЦК КП(б)Б і ўсе партыйныя арганізацыі Беларусі, у мэтах ліквідацыі адставання раду галін сельскай гаспадаркі Беларусі і поўнай ліквідацыі вынікаў шкодніцтва, павінны неадкладна прыняць меры да ўмацавання зямельных органаў у цэнтры і на месцах моцнымі, праверанымі палітычна і прыгоднымі па дзелавой кваліфікацыі работнікамі, звярнуўшы ўвагу на вылучэнне растучых работнікаў і асабліва жанчын (старшыні калгасаў, брыгадзіры, трактарысты і т. д.).

XVI з'езд КП(б)Б даручае ЦК КП(б)Б і Соўнаркому БССР у далейшай сваёй рабоце забяспечыць правільнае ўвядзенне севазвароту, карэннае палепшанне справы насеннаводства, жывёлагадоўлі, агратэхнікі, асваенне новых зямель (меліярацыя, раскарчоўка і т. д.) з тым, каб па-большэвіцку выканаць указанні таварыша Сталіна аб вытворчасці 7—8 мільярдаў пудоў хлеба.

З'езд даручае партыйным арганізацыям КП(б)Б прыняць сур'ёзныя меры да палепшання партыйна-палітычнай работы сярод настаўніцтва, да поўнай ліквідацыі ўсіх вынікаў шкодніцтва ў органах Наркомасветы, у школе і на іншых участках нацыянальна-культурнага будаўніцтва.

Неабходна навесці большэвіцкі парадак у выдавецкіх арганізацыях і Саюзе пісьменнікаў.

ЦК КП(б)Б павінен у бліжэйшы час умацаваць органы народнай асветы і іншыя ўчасткі нацыянальна-культурнага будаўніцтва (літаратура, мастацтва, навуковыя і вышэйшыя навучальныя установы і т. д.) праверанымі большэвіцкімі кадрамі, смела вылучаючы растучых маладых работнікаў, у асаблівасці з беларусаў.

ЦК, гаркомы, акругкомы і райкомы павінны ўзяць пад свой асобы

кантроль справу дапамогі і выхавання работнікаў ідэалагічнага фронта, у асаблівасці новавылучаных маладых кадраў.

З'езд асабліва падкрэслівае, што сувязь партыйных арганізацый КП(б)Б з часцямі Чырвонай Арміі ў сучасны момант як ніколі павінна быць самай цеснай. З'езд абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі аказваць усямерную дапамогу партыйным арганізацыям Чырвонай Арміі і пагранічнай аховы ў справе выканання ўскладзеных на іх задач па выхаванню чырвонаармейцаў і камандна-палітычнага састава арміі ў духу савецкага патрыятызма, непрымірымасці да ўсіх ворагаў народу, умацавання боездольнасці Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і беззаветнай адданасці комуністычнай партыі і таварышу Сталіну.

Адзначаючы дрэнную работу масавых грамадскіх абаронных арганізацый (Асоавіяхім, «Чырвоны крыж» і т. д.), з'езд даручае ЦК КП(б)Б і ўсім партыйным арганізацыям прыняць меры да ажыўлення і палепшання работы гэтых важнейшых абаронных арганізацый, рашуча ачышчаючы кіраўніцтва іх ад чуждых і варожых элементаў.

З'езд абавязвае ЦК КП(б)Б у сваёй штодзеннай рабоце аказваць максімальную дапамогу ў наладжанні партыйна-палітычнай работы на транспарце і хутчэйшай ліквідацыі вынікаў шкодніцтва, умацаванні боездольнасці чыгуначнага, воднага і шасейнага транспарту рэспублікі, маючага вялікае абароннае значэнне.

Падрыхтоўка да выбараў у советы на аснове Сталінскай Канстытуцыі, задача ўзначаліць палітычны паварот у жыцці краіны патрабуе ад усіх партыйных арганізацый КП(б)Б выключнай увагі і клопатаў аб палепшанні работы ўсіх органаў совецкай улады ў Беларусі.

Важнейшае палітычнае рашэнне ЦК ВКП(б) і СНК Саюза ССР аб вызваленні сельскіх советаў ад збору паставак, налогавых функцый, стварае поўную магчымасць для сур'ёзнага ўздыму і палепшання работы сельсоветаў. З'езд абавязвае партыйныя арганізацыі забяспечыць перабудову работы сельскіх советаў у духу патрабаванняў Сталінскай Канстытуцыі.

З'езд прапануе ЦК КП(б)Б, акругкомам, гаркомам і райкомам партыі смялей вылучаць на кіруючую совецкую работу ў раёнах і гарадах маладых, вырасшых, якія карыстаюцца аўтарытэтам, дзелавых і палітычна праверaных работнікаў з старшынь сельсоветаў, прафсаюзнага актыва, з лепшых стаханаўцаў прамысловасці і сельскай гаспадаркі.

З'езд адзначае выключную запушчанасць прафсаюзнай работы на прадпрыемствах у гарадах і раёнах Беларусі і прапануе ЦК КП(б)Б і ўсім партыйным арганізацыям Беларусі забяспечыць штодзеннае і канкрэтнае кіраўніцтва і дапамогу прафсаюзным арганізацыям у іх перабудове на аснове рашэнняў VI пленума ВЦСПС.

Адзначаючы буйнейшыя недахопы ў рабоце ЛКСМБ, з'езд даручае ЦК КП(б)Б і партарганізацыям забяспечыць штодзённае кіраўніцтва і канкрэтную дапамогу комсамольскім арганізацыям Беларусі ў перабудове іх работы на аснове рашэнняў III пленума ЦК ВЛКСМ.

XVI з'езд КП(б)Б прапануе ЦК КП(б)Б прыняць неадкладныя меры да рашучага палепшання работы акруговых арганізацый і абавязвае ЦК КП(б)Б, Соўнарком, ЦВК БССР прыняць усе захады да ўзмацнення гаспадарчай і палітычнай работы ў акругах і пагранічных раёнах.

З'езд падкрэслівае вялікае значэнне ўсямернага ўмацавання дружбы народаў Совецкага Саюза і інтэрнацыянальнага выхавання

працоўных мас для далейшых поспехаў у барацьбе за пабудову комунізма.

Партыйныя арганізацыі КП(б)Б і ў далейшым павінны рашуча змагацца з усімі скажэннямі ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі.

XVI з'езд КП(б)Б запэўнівае ЦК ВКП(б) і таварыша Сталіна, што комуністычная партыя большэвікоў Беларусі, бязлітасна выкрываючы і знішчаючы ворагаў народу, будзе і ў далейшым надзейнай апорай Цэнтральнага Камітэта ВКП(б).

Большэвікі Беларусі, цесна згуртаваныя вакол ЦК ВКП(б) і вялікага правадыра партыі і працоўных таварыша Сталіна, узброеныя рашэннямі Лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б), ліквідуюць недахопы ў сваёй рабоце, выкарчуюць і знішчаць да канца трацкісцкіх, бухарынскіх, нацыянал-фашысцкіх бандытаў, германа-японскіх і польскіх шпіёнаў і дыверсантаў і забяспечаць ператварэнне ордэнаноснай Беларусі ў непрыступную крэпасць абароны нашага вялікага Совецкага Саюза.

---

# Новы склад Пленума ЦК КП(б)Б, абраны на XVI з'ездзе КП(б)Б

## Члены ЦК КП(б)Б,

### абраныя на XVI з'ездзе КП(б)Б

1. АЎГУСТАЙЦІС А. В.
2. АНАНЬЕЎ А. А.
3. БАЛЦІН А. Я.
4. БАЛЫЧЭНКА Р. Л.
5. БЕЛОЎ І. П.
6. БЕРМАН Б. Д.
7. БУРАЧЭЎСКІ П. П.
8. ВАЙНОВІЧ Ф. М.
9. ВАЛКОВІЧ Д. І.
10. ВАРОНЧАНКА А. І.
11. ГАРАЧОЎ Е. І.
12. ГЛІКСОН О. М.
13. ГОТФРЫД Л. А.
14. ГУРЭВІЧ Н. Г.
15. ДЗЕНІСКЕВІЧ Н. М.
16. ЕМЕЛЬЯНАЎ А. А.
17. ЖАБРЭЎ І. А.
18. ЖЭЛУДОЎ К. М.
19. ЖУКОВІЧ Е. Ф.
20. ЖУРАЎЛЁЎ І. Г.
21. ЖЫТКОЎ І. К.
22. КАЗЮК Н. В.
23. КАВАЛЁЎ Г. Б.
24. КАВАЛЁЎ З. Т.
25. КАЛЬЦОЎ В. Г.
26. КАМЕНШТЭЙН С. Д.
27. КРАПАЧОЎ А. М.
28. КУДЗЕЛЬСКІ Р. С.
29. ЛЕВІН Е. Я.
30. ЛЕХЕРЗАК Ю. М.
31. ЛІСКОВІЧ М. І.
32. ЛІТВІН Н. І.
33. ЛІХАЧОЎ І. М.
34. ЛЯХАЎ П. Д.
35. МАЙСЕЕЎ Л. А.
36. МАР'ЯНАЎ Б. Л.
37. МЕЗІС А. І.
38. НІЗАЎЦОЎ Н. Ф.
39. НОВІКАЎ М. М.
40. ПАГОДЗІН Д. Д.
41. ПАТАПЕЙКА В. Д.
42. ПЕТРОЎСКІ Л. Г.
43. ПОДЛАС К. П.
44. РАМАНЕНКА С. М.
45. РУБІНШТЭЙН Г. М.
46. РЫЖЫКАЎ І. І.
47. РЫКАЎ М. А.
48. СМІРНОЎ Г. І.
49. СМІРНОЎ І. В.
50. СТАКУН М. О.
51. СУРТА І. З.
52. СУХАНАВА О. Ф.
53. СУХАРУЧКІН І. А.
54. СЫЧОЎ І. І.
55. ТУРЛАЙ А. А.
56. ХАЙЛОЎ М. Ф.
57. ХАРХОРЫН Г. С.
58. ХІЖЫНКОЎ П. А.
59. ЦВЕТКОЎ А. Ф.
60. ЧЭРНЫШОЎ В. Я.
61. ЧЭЧЫН А. П.
62. ШАРАНГОВІЧ В. Ф.
63. ЮНГ Н. А.
64. ЮРКОЎ Д. В.

## Кандыдаты ў члены ЦК КП(б)Б,

### абраныя на XVI з'ездзе КП(б)Б

1. ХАСКІН С. Б.
2. ЧУНДЗЕРАЎ П. С.
3. ПРУСАКОВА Е. К.
4. КАЗАЧОНАК Г. С.
5. РАЗГОНАЎ В. Ф.
6. БОРТНІКАЎ М. М.

7. ЕРЭНБУРГ М. І.
8. ЮМАНАЎ Ф. С.
9. МАРХЕЛЬ Н. Ф.
10. ЦІШКЕВІЧ В. В.
11. НІКІЦІН П. Н.
12. ТКАЧЭВІЧ І. М.
13. ПІМЕНАЎ В. П.
14. АШАК І. Ю.
15. КОНІКАЎ І. М.
16. ЛЫНЬКОЎ М. Т.
17. БАРАНЧЫК І. В.
18. АНІСАЎ М. В.
19. ЛАБАДАЕЎ М. Г.
20. КАЦ М. І.
21. ПЕТРУХІН М. Ф.

## Члены рэвізійнай камісіі,

### абраныя на XVI з'ездзе КП(б)Б

1. БЫСТРОЎ Н. М.
2. КАЧЭЛІН М. М.
3. МІНЧОНАК А. Г.
4. МАЛІНІН Н. І.
5. КАГАНОЎСКІ О. Л.
6. РАЗАНАВА А. І.
7. МЕЛІХАЎ Д. Е.

# Пленум ЦК КП(б)Б

20 чэрвеня адбыўся Пленум ЦК КП(б)Б, выбранага XVI з'ездам.

Пленум закрытым (тайным) галасаваннем аднагалосна выбраў першым сакратаром ЦК КП(б)Б тав. **ШАРАНГОВІЧА В. Ф.;** другім сакратаром ЦК КП(б)Б—тав. **ДЗЕНІСКЕВІЧА Н. М.;** трэцім сакратаром ЦК КП(б)Б—тав. **ПАТАПЕЙКА В. Д.**

Пленум закрытым (тайным) галасаваннем выбраў бюро ЦК у складзе 11 членаў і 7 кандыдатаў.

## Члены бюро ЦК КП(б)Б

1. **ШАРАНГОВІЧ В. Ф.**
2. **ВАЛКОВІЧ Д. І.**
3. **ДЗЕНІСКЕВІЧ Н. М.**
4. **ПАТАПЕЙКА В. Д.**
5. **БЕЛОЎ І. П.**
6. **МЕЗІС А. І.**
7. **ЖУРАЎЛЁЎ І. Г.**
8. **СТАКУН М. О.**
9. **БЕРМАН Б. Д.**
10. **НІЗАЎЦОЎ Н. Ф.**
11. **ВАРОНЧАНКА А. А.**

## Кандыдаты ў члены бюро ЦК КП(б)Б

1. **АЎГУСТАЙЦІС А. В.**
2. **РУБІНШТЭЙН Г. М.**
3. **ВАЙНОВІЧ Ф. М.**
4. **ЛІТВІН Н. І.**
5. **СУРТА І. З.**
6. **ГОТФРЫД Л. А.**
7. **ЮРКОЎ Д. В.**

Пленум зацвердзіў загадчыкамі аддзеламі ЦК КП(б)Б —т. **Рубінштэйна Г. М.** загадчыкам Аддзелам кіруючых парторганаў, **Готфрыда Л. А.**—Аддзелам прапаганды і агітацыі, **Вайновіча Ф. М.**—Сельскагаспадарчым аддзелам, **Лехерзака Ю. М.**—Прамысловатранспартным аддзелам, Аддзелам друку і выдавецтваў—т. **Казюка Н. В.**, Культурна-асветным аддзелам—т. **Башмачнікава.** Аддзелам навукі і школ—т. **Петрова В.** Рэдактарам «Звязды» зацверджан т. **Юркоў Д. В.**

# У ДАПАМОГУ ПРАПАГАНДЫСТУ

*К ВЫВУЧЭННЮ ГІСТОРЫІ ВКП(б)*

**Аддзел партыйнай прапаганды і агітацыі ЦК ВКП(б)**

## Праграма па гісторыі ВКП(б) для партыйных гурткоў

(ПРАЕКТ)*

### Тэма I

**Барацьба за стварэнне марксісцкай, соцыял-дэмакратычнай партыі ў Расіі (ад стварэння плеханаўскай «Групы вызвалення працы»—1883 г. да з'яўлення першых нумароў «Искры»—1900—1901 гг.)**

### РАБОЧЫ РУХ У РАСІІ Ў 80—90-х ГАДАХ. ПАЧАТАК МАРКСІЗМА Ў РАСІІ

Эканамічны лад дарэволюцыйнай Расіі. Адсталасць капіталістычнага развіцця Расіі ў параўнанні з перадавымі капіталістычнымі краінамі Еўропы і Амерыкі. Наяўнасць у дарэволюцыйнай Расіі як новых, сучасных з пункту погляду капіталізма, класаў, так і старых, дакапіталістычных класаў. Дробнабуржуазны характар краіны, перавага ў вёсцы дробнай сялянскай гаспадаркі. Памешчыцкае землеўладанне і рэшткі прыгонніцтва ў вёсцы.

Развіццё ў 80—90 гг. капіталізма ў Расіі. Рост рабочага класа, рознароднасць складу рабочага класа. Расслаенне сялянства, выдзяленне беднаты і кулацтва ў вёсцы.

Палітычны лад царскай Расіі. Царскае самадзяржаўе—дыктатура прыгоннікаў-памешчыкаў—злейшы вораг народу. Дзяржаўны апарат самадзяржаўя: чыноўніцтва, паліцыя, суд, духавенства і т. д.—зброя падаўлення рабочых і сялян. Палітычнае бяспраўе, варварская эксплаатацыя рабочых і сялян у царскай Расіі. Нацыянальны гнёт: царская Расія—турма народаў.

---

*) Публікуючы дадзены праект праграмы для партыйных гурткоў па гісторыі ВКП(б), Аддзел партыйнай прапаганды і агітацыі ЦК ВКП(б) зварачаецца з просьбай да чытачоў „В помощь партийной учебе" прысылаць свае заўвагі.

Дробнабуржуазная інтэлігенцыя, распаўсюджванне ў яе асяроддзі народніцкіх тэорый. Адлюстраванне ў народніцтве стыхійнага сялянскага пратэсту супроць памешчыцкага гнёту. Рэакцыйнасць народніцкіх тэорый і народніцкай тактыкі індывідуальнага тэрору.

Палітычная рэакцыя ў Расіі ў 80-я гг. Рабочы рух. Стачкі рабочых і характар гэтых стачак. Стачка 1885 г. ў Орэхава-Зуеве і яе значэнне.

Утварэнне плеханаўскай «Групы вызвалення працы» (Жэнева, 1883 г.). Прапаганда «Групай вызвалення працы» ідэй марксізма ў Расіі. Барацьба «Групы вызвалення працы» супроць народніцтва.

Праграмы «Групы вызвалення працы» (1884 і 1887 гг.). Перажыткі народніцтва і зародкі апартунізма ў праграмах «Групы вызвалення працы» і ў работах яе кіраўнікоў (Плеханаў, Аксельрод і інш.). «Група «Вызваленне працы» толькі тэарэтычна аснавала соцыял-дэмакратыю і зрабіла першы крок насустрач рабочаму руху» **(Ленін)**.

Марксісцкія гурткі 80-х гадоў (Благоева, Бруснёва, Федасеева і інш.). Пачатак рэволюцыйнай дзейнасці Леніна (1887—1893 гг.—Казань, Самара).

## БАРАЦЬБА ЛЕНІНА ЗА РЭВОЛЮЦЫЙНЫ МАРКСІЗМ І ЗА СТВАРЭННЕ МАРКСІСЦКАЙ ПРОЛЕТАРСКАЙ ПАРТЫІ Ў РАСІІ ў 90-я гг.

Уступленне сусветнага капіталізма ў імперыялістычную стадыю. Прыток у Расію замежнага капітала, будаўніцтва буйнейшых капіталістычных прадпрыемстваў. Канцэнтрацыя рабочага класа. Расія—вузлавы пункт супярэчнасцей імперыялізма. Перамяшчэнне цэнтра сусветнага рэволюцыйнага руху ў Расію.

Прамысловы ўздым у другой палове 90-х гг. Эканамічныя стачкі рабочых.

Прыезд Леніна ў 1893 г. у Пецербург і яго барацьба за рэволюцыйны марксізм, за гегемонію пролетарыята, за стварэнне марксісцкай партыі рабочага класа ў Расіі.

Ліберальнае народніцтва 90-х гадоў (Міхайлоўскі і інш.) і яго паход супроць марксізма. Народніцтва—злейшы вораг марксізма, перашкода к развіццю масавай рэволюцыйнай барацьбы з царызмам і стварэнню масавай рэволюцыйнай партыі пролетарыята.

Барацьба Леніна супроць народніцтва. Выкрыццё Леніным рэакцыйнасці народніцкай тэорыі, сродкаў і метадаў палітычнай барацьбы народнікаў. Значэнне работы Леніна. «Што такое «прыяцелі народу» і як яны ваююць супроць соцыял-дэмакратаў?» (1894 г.). Ідэйны разгром народніцтва, перамога марксізма.

З'яўленне ў Расіі «легальнага марксізма» (Струве, Туган-Бараноўскі і інш.). «Легальны марксізм»—спроба ліберальнай буржуазіі падпарадкаваць рабочы рух інтарэсам буржуазіі. Барацьба Леніна супроць «легальнага марксізма».

Ідэйны разгром народніцтва і «легальнага марксізма», як неабходная ўмова для перамогі рэволюцыйнага марксізма і стварэння рэволюцыйнай пролетарскай партыі новага тыпу.

Барацьба Леніна за пераход ад вузкай гуртковай прапаганды да масавай агітацыі сярод рабочых. Пецербургскі «Саюз барацьбы за вызваленне рабочага класа», створаны Леніным (1895 г.)—зачатак рэ-

волюцыйнай партыі рабочага класа. Рознагалоссі з Мартавым, пачатак эканамізма.

Дзейнасць «Саюза барацьбы» сярод рабочых Пецербурга. Стачачны рух пад кіраўніцтвам «Саюза барацьбы» (1895—1897 гг.). Мясцовыя «Саюзы барацьбы» (Кіеў, Екацерынаслаў і т. д.) і іх работа.

Арышт і ссылка Леніна (1897 г.). Кіраўніцтва Леніна рабочым рухам у час турэмнага зняволення і ссылкі.

Пачатак рэволюцыйнай дзейнасці Сталіна. Барацьба Сталіна ў 90-х гг. у Закаўказзі з «легальнымі марксістамі» і нацыяналістамі за рэволюцыйны марксізм. Арганізацыйная і прапагандысцкая работа Сталіна ў рабочых гуртках. Стварэнне Сталіным, Цулукідзе, Кецховелі першых рэволюцыйных соцыял-дэмакратычных груп у Закаўказзі.

Узнікненне нацыянальных соцыял-дэмакратычных арганізацый (Польскай, Латышскай, Бунда).

Распаўсюджванне эканамізма. Яго сутнасць: адмаўленне палітычнай барацьбы рабочага класа, пропаведзь саматужніцтва ў арганізацыйных пытаннях, барацьба супроць стварэння масавай рэволюцыйнай пролетарскай партыі. Прычыны з'яўлення эканамізма: уплыў міжнароднага апартунізма (бернштэйніянцтва), уплыў дробнабуржуазных элементаў, пранікшых у рабочы рух (інтэлігенцыя), наяўнасць дробнабуржуазных элементаў у самім рабочым класе (адсталыя слаі рабочага класа, рабочая арыстакратыя). Ленін—ініцыятар барацьбы з эканамізмам. «Крэдо» эканамістаў і ленінскі «Пратэст рускіх соцыялдэмакратаў» (1897 г.).

I з'езд РСДРП (Менск, 1898 г.). Маніфест I з'езда. Значэнне I з'езда, як этапа к стварэнню партыі.

Зварот Леніна з ссылкі і ад'езд яго за мяжу (1900 г.) для кіраўніцтва справай арганізацыі партыі рабочага класа.

# Тэма II

**Утварэнне Расійскай соцыял-дэмакратычнай рабочай партыі і з'яўленне ўнутры партыі фракцый большэвікоў і меншавікоў (1901—1904 гг.).**

## ЛЕНІНСКАЯ „ИСКРА“ У БАРАЦЬБЕ ЗА РЭВОЛЮЦЫЙНУЮ ПРОЛЕТАРСКУЮ ПАРТЫЮ

Прамысловы крызіс у пачатку 900-х гадоў. Уздым стыхійнага рабочага руху. Пераход рабочага руху ад эканамічных стачак да палітычнай барацьбы з самадзяржаўем. Харкаўская маёўка 1900 г. Абухоўская абарона (май 1901 г.). Стачкі ў Тыфлісе (Тбілісі). Палітычная дэманстрацыя батумскіх рабочых, кіруемая Сталіным (сакавік 1902 г.). Растоўская стачка (лістапад 1902 г.). Усеагульная стачка на поўдні Расіі. Уплыў пролетарскай барацьбы на ўздым дэмакратычнага руху ў іншых слаях насельніцтва. Студэнцкія хваляванні. Рост сялянскага руху. Сялянскія хваляванні на Украіне (1902 г.). Рост нацыянальнага руху ў Закаўказзі, у Польшчы, на Украіне.

Барацьба царызма з рэволюцыйным рухам. «Паліцэйскі соцыялізм» (зубатаўшчына).

Становішча соцыял-дэмакратычных арганізацый у Расіі: адсутнасць адзінага цэнтра і адзінай лініі, праграмы і статута партыі. Гурткоўшчына, разброд, хістанні.

Газета «Искра» (Старая «Искра»—1900—1903 гг.). Гісторыя яе ўзнікнення. Роля Леніна ў стварэнні агульнарускай палітычнай газеты «Искры».

Барацьба «Искры» за стварэнне рэвалюцыйнай партыі рабочага класа новага тыпу ў Расіі. Арганізацыйны план «Искры». Значэнне кнігі Леніна «Што рабіць?» (1902 г.) у барацьбе за стварэнне ў Расіі рэвалюцыйнай пролетарскай партыі новага тыпу.

Барацьба Леніна і «Искры» супроць эканамізма. Выкрыццё Леніным эканамізма, як буржуазнай агентуры ў рабочым руху, як рускай рознавіднасці міжнароднага апартунізма (бернштэйніянцтва). Барацьба Леніна і «Искры» супроць хвасцісцкай тактыкі эканамістаў і іх саматужніцтва ў арганізацыйных пытаннях. Ленін аб значэнні палітычнай барацьбы рабочага класа, аб неабходнасці звяржэння самадзяржаўя і заваёвы палітычных свабод, як бліжэйшай задачы рабочага класа. Міжнароднае значэнне барацьбы Леніна супроць эканамізма—рускай рознавіднасці бернштэйніянцтва.

Узнікненне партыі соцыялістаў-рэволюцыянераў (1902 г.). Барацьба Леніна і «Искры» супроць эсэраўска-народніцкага тэрарызма ў гэты перыяд. Узнікненне палітычнай арганізацыі ліберальнай буржуазіі—групы «Вызваленне» (1902 г.) і выкрыццё «Искрой» яе антырэвалюцыйнай сутнасці.

Стварэнне іскраўскіх арганізацый у Расіі і за мяжой. Агенты «Искры»—прафесіянальныя рэволюцыянеры: Бабушкін, Бауман, Літвінаў і інш.

Сталін—праваднік і абаронца лініі ленінскай «Искры» ў Закаўказзі. Барацьба Сталіна ў Закаўказзі за ленінскі план арганізацыі партыі. Сталін—асновапаложнік першых соцыял-дэмакратычных арганізацый ленінска-іскраўскага кірунку ў Закаўказзі.

Разгром «Искрой» эканамізма і заваёва мясцовых партыйных арганізацый.

Падрыхтоўка «Искрой» II з'езда партыі. Рознагалоссі ўнутры рэдакцыі «Искры» па праграмных і тактычных пытаннях.

## II З'ЕЗД РСДРП. З'ЯЎЛЕННЕ ЎНУТРЫ ПАРТЫІ ФРАКЦЫЙ БОЛЬШЭВІКОЎ І МЕНШАВІКОЎ

II з'езд РСДРП (Брусель—Лондан, 1903 г.). Склад з'езда. Групоўкі на з'ездзе. Задачы з'езда.

Барацьба Леніна за праграму партыі супроць эканамістаў (Акімаў, Мартынаў), супроць Троцкага і інш. Выступленне на з'ездзе Троцкага супроць дыктатуры пролетарыята. Барацьба Леніна за рэзервы пролетарыята (пытанні нацыянальны і сялянскі). Пытанні тактыкі (аб адносінах да ліберальнай буржуазіі, эсэраў і інш.).

Барацьба Леніна супроць Мартава і Троцкага па пытанню аб фармуліроўцы § 1-га статута партыі. Гістарычнае значэнне барацьбы Леніна за § 1-ы статута. Пазіцыя Плеханава на з'ездзе.

Выбары цэнтральных органаў партыі і раскол на II з'ездзе. З'яўленне ўнутры партыі фракцый большэвікоў і меншавікоў.

Барацьба большэвікоў з меншавікамі і прымірэнцамі за рашэнні II з'езда РСДРП у 1903—1904 гг. Падтрымка большасцю мясцовых партыйных арганізацый рашэнняў II з'езда і пазіцыі большэвікоў. Выступленне меншавікоў супроць цэнтральных устаноў партыі і рашэнняў II з'езда. Пераход Плеханава на бок меншавікоў. Выхад Леніна з рэдакцыі «Искры» і пераход «Искры» ў рукі меншавікоў.

Прымірэнцтва часткі членаў ЦК большэвікоў (Красін, Глебаў-Наскоў і інш.). Захват прымірэнцамі Цэнтральнага Камітэта. Утварэнне бюро камітэтаў большасці.

Значэнне II з'езда ва ўтварэнні РСДРП. Сусветнае значэнне расколу партыі на II з'ездзе і з'яўленне ўнутры партыі фракцый большэвікоў і меншавікоў.

## Тэма III

### Меншавікі і большэвікі ў перыяд руска-японскай вайны і першай рускай рэволюцыі (1904—1907 гг.)

### РЭВОЛЮЦЫЙНЫ РУХ І РАССТАНОЎКА КЛАСАВЫХ СІЛ У РАСІІ НАПЯРЭДАДНІ 1905 ГОДА

Становішча рабочых і сялян у Расіі напярэдадні рэволюцыі 1905 года. Нарастанне рабочага руху. Большэвікі на чале рабочага руху. Забастоўка ў Баку ў 1904 г., кіруемая Сталіным, і яе ўплыў на развіццё стачачнага руху ў краіне. Выступленне сялян супроць памешчыкаў. Нацыянальна-вызваленчы рух на акраінах.

Барацьба імперыялістычных дзяржаў за панаванне на Ціхім акіяне, за раздзел Кітая. Захватніцкая палітыка рускага царызма і сутычка царызма з японскім імперыялізмам на Далёкім Усходзе.

Руска-японская вайна (1904—1905 гг.). Адносіны большэвікоў і меншавікоў да вайны. Паражэнне царызма ў вайне. Уплыў руска-японскай вайны на абвастрэнне класавых супярэчнасцей у Расіі. Рост рэволюцыйнага і апазіцыйнага руху ў краіне. «Земская кампанія». Адносіны да яе большэвікоў і меншавікоў.

9 студзеня 1905 г.—пачатак рэволюцыі ў Расіі. Становішча ў краіне пасля 9 студзеня: вясеннія стачкі, першамайскія дэманстрацыі, сялянскія хваляванні ў вёсцы.

Амстэрдамскі кангрэс II Інтэрнацыянала (1904 г.). Адносіны II Інтэрнацыянала да расколу ў РСДРП. Самастойная дэлегацыя большэвікоў на VI кангрэсе II Інтэрнацыянала.

### БОЛЬШЭВІЦКАЯ І МЕНШАВІЦКАЯ ЛІНІІ Ў РЭВОЛЮЦЫІ 1905—1907 гг.

Расстаноўка класавых сіл у рэволюцыі 1905 г. Звяржэнне самадзяржаўя і ліквідацыя рэштак прыгонніцтва—бліжэйшая задача рэволюцыі. Клас памешчыкаў—апора самадзяржаўна-памешчыцкага ладу.

Хістанні ліберальнай буржуазіі ў пачатку рэволюцыі. Барацьба большэвікоў за ізаляцыю ліберальнай буржуазіі. Своеасаблівасць рускай рэволюцыі—першай рэволюцыі ва ўмовах імперыялізма. Пролетарыят—галоўная рухаючая сіла рэволюцыі, яе кіраўнік. Сялянства—саюзнік рабочага класа ў барацьбе супроць самадзяржаўя.

Барацьба Леніна і Сталіна за скліканне III з'езда партыі. Барацьба Сталіна за ленінскую, большэвіцкую лінію ў партыйных арганізацыях Закаўказзя супроць меншавікоў і прымірэнцаў. Роля Бюро Камітэтаў большасці ў падрыхтоўцы III з'езда.

III з'езд партыі (Лондан, красавік—май 1905 г.). Большэвіцкі склад з'езда. Рашэнні III з'езда: аб узброеным паўстанні, аб часовым рэво-

люцыйным ўрадзе, аб адносінах да сялянскага руху, аб адносінах да іншых партый і т. д. Арганізацыйныя пытанні на III з'ездзе. Прынящце ленінскай фармуліроўкі § 1-га статута.

Дзве тактыкі ў рэвалюцыі: тактыка большэвікоў і тактыка меншавікоў.

Ленінскі план перарастання буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў соцыялістычную. Лозунг большэвікоў «Рэвалюцыйна-дэмакратычная дыктатура пролетарыята і сялянства» ў святле ленінскага плана перарастання буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў соцыялістычную.

Барацьба большэвікоў супроць меншавіцкай лініі ў рэвалюцыі. Жэнеўская канферэнцыя меншавікоў. Меншавіцкая тактыка ў рэвалюцыі: пагадненне з ліберальнай буржуазіяй, падпарадкаванне пролетарыята палітычнаму кіраўніцтву буржуазіі, адмаўленне рэвалюцыйнай ролі сялянства. Тэорыя «перманентнай рэвалюцыі» Троцкага— living разнавіднасць меншавізма.

Барацьба большэвікоў супроць астатніх дробнабуржуазных партый у рэвалюцыі 1905—1907 гг. Эсэры—за пагадненне з буржуазіяй і падпарадкаванне рэвалюцыі яе кіраўніцтву. I з'езд эсэраў (1906 г.) і адкол ад эсэраў поўкадэцкай партыі «народных соцыялістаў». Дробнабуржуазная партыя «Працоўная група» і яе хістанні паміж соцыял-дэмакратамі і кадэтамі.

Значэнне работы Леніна «Дзве тактыкі соцыял-дэмакратыі ў дэмакратычнай рэвалюцыі» (1905 г.).

Фактычна самастойнае існаванне большэвіцкай партыі ў 1905 г.

## РАЗГОРТВАННЕ РЭВОЛЮЦЫІ

Развіццё стачачнага руху і сялянскіх хваляванняў летам і восенню 1905 г. Пранікненне рэвалюцыйнага руху ў армію. Паўстанне на броненосцы «Пацёмкін» (чэрвень 1905 г.). Утварэнне канстытуцыйна-манархічнай партыі «Канстытуцыйных дэмакратаў» (кадэты)—партыі ліберальнай буржуазіі. Булыгінская дума і яе байкот большэвікамі.

Узнікненне баявых дружын. Узнікненне першых саветаў рабочых дэпутатаў у Пецербургу і Маскве і адносіны да іх большэвікоў і меншавікоў.

Усеагульная кастрычніцкая палітычная стачка (кастрычнік 1905 г.).

Маніфест 17 кастрычніка 1905 г. Ліберальная буржуазія за здзелку з царызмам.

Прыезд Леніна ў Расію з-за мяжы (лістапад 1905 г.).

Барацьба рабочых і сялян Закаўказзя пад кіраўніцтвам Сталіна супроць самадзяржаўя.

Большэвікі—арганізатары ўзброенага паўстання. Снежаньскае ўзброенае паўстанне ў Маскве. Паўстанне ў правінцыі (Растоў на-Дану, Новарасійск, Урал, Сібір, Каўказ і т. д.). Большэвіцкая і меншавіцкая ацэнка урокаў узброенага паўстання.

## ПАРТЫЯ БОЛЬШЭВІКОЎ ПАСЛЯ СНЕЖАНЬСКАГА ПАЎСТАННЯ 1905 г.

Рэвалюцыйная абстаноўка ў 1906 г. Працяг рэвалюцыйнай барацьбы рабочых і разгортванне сялянскага руху.

Арганізацыйнае будаўніцтва і баявая работа большэвікоў. Тамерфорская канферэнцыя ў снежні 1905 г.

Рашэнне канферэнцыі аб фармальным аб'яднанні з меншавікамі.

Выбары ў І Думу (сакавік 1906 г.). Тактыка большэвікоў (байкот) і меншавікоў (удзел у выбарах) у адносінах да І Дзяржаўнай думы.

IV (Аб'яднаўчы) з'езд партыі (Стакгольм, красавік —май 1906 г.) і яго асноўныя рашэнні. Барацьба Леніна і Сталіна на з'ездзе за большэвіцкую лінію ў рэволюцыі супроць меншавікоў.

Сялянскія паўстанні супроць памешчыкаў летам 1906 г. Паўстанне маракоў у Свеабаргу і Кранштаце (ліпень 1906 г.). Разгон І Думы (ліпень 1906 г.) і выбары ў ІІ Думу (люты 1907 г.). Раскол у пецербургскай арганізацыі па пытанню аб выбарчай тактыцы пры выбарах у ІІ Думу (студзень 1907 г.). Удзел большэвікоў у выбарах у ІІ Думу. Тактыка «левага блока» большэвікоў супроць меншавіцкай тактыкі пагаднення з кадэтамі.

Уступленне меншавікоў у адкрыты блок з кадэтамі і барацьба большэвікоў за скліканне V з'езда партыі. V з'езд партыі (Лондан, май 1907 г.). Асноўныя рашэнні з'езда і яго значэнне. Сталін аб лонданскім з'ездзе РСДРП—«Заметкі дэлегата». Перамога большэвікоў на з'ездзе—прынятце большэвіцкіх прапаноў.

Разгон ІІ Думы і ўрадавы пераварот 3 чэрвеня 1907 г.

Паражэнне рэволюцыі. Часовая перамога самадзяржаўя. Наступленне паласы чорнай рэакцыі. Другая эміграцыя Леніна.

Прычыны паражэння рэволюцыі 1905—1907 гг. Міжнароднае значэнне рэволюцыі 1905—1907 гг. Рэволюцыя 1905—1907 гг.—генеральная рэпетыцыя Вялікай пролетарскай рэволюцыі 1917 г.

# Тэма IV

## Меншавікі і большэвікі ў перыяд сталыпінскай рэакцыі і афармленне большэвікоў у самастойную соцыял-дэмакратычную рабочую партыю (1908—1912 гг.).

### СТАЛЫПІНСКАЯ РЭАКЦЫЯ. ТАКТЫКА БОЛЬШЭВІКОЎ У ПЕРЫЯД СТАЛЫПІНШЧЫНЫ

Сталыпіншчына—палітыка блока царызма з буржуазіяй. Сталыпінская аграрная рэформа—спроба самадзяржаўя абаперціся ў вёсцы на кулацтва. Тэрор царскага ўрада супроць рабочых і сялян. Адыход ад рэволюцыі няўстойлівых дробнабуржуазных элементаў. Росквіт у дробнабуржуазна-інтэлігенцкіх колах упадніцкіх і містычных настрояў і вучэнняў. Развал і разброд у дробнабуржуазных партыях меншавікоў, эсэраў і інш.

Тэрор царскага ўрада супроць партыі большэвікоў. Партыя большэвікоў у падполлі.

Барацьба Леніна і Сталіна за захаванне і ўмацаванне нелегальных партыйных арганізацый большэвікоў у Расіі. Большэвіцкая тактыка ў перыяд рэканструкцыі—нелегальная работа і выкарыстанне легальных магчымасцей пад кіраўніцтвам нелегальнай партыі. Работа большэвікоў у профсаюзах, больнічных касах, кааперацыйных і іншых легальных і поўлегальных рабочых арганізацыях. Выбары ў ІІІ Думу

(кастрычнік 1907 г.). Выкрыццё большэвікамі антыпартыйнай пазіцыі байкоту Дзяржаўнай думы (Каменеў і Багданаў).

Снежаньская агульнаруская канферэнцыя большэвікоў (1908 г.).

Ацэнка большэвікамі бягучага моманту і перспектыў рэвалюцыі. Паслядоўнае правядзенне большэвікамі курса на буржуазна-дэмакратычную рэвалюцыю і перарастанне яе ў рэвалюцыю соцыялістычную. Барацьба большэвікоў за няўрэзаныя лозунгі: дэмакратычная рэспубліка, васьмігадзінны рабочы дзень, канфіскацыя памешчыцкай зямлі («тры кіты»).

Барацьба большэвікоў супроць ліквідатарства і ліквідатарскіх спроб знішчыць нелегальную партыю, прыстасавацца да самадзяржаўя, стварыць «сталыпінскую рабочую партыю». Ліквідатарства— далейшы этап развіцця меншавізма.

Барацьба Леніна і Сталіна супроць трацкізма, як рознавіднасці цэнтрызма на ліквідатарскай аснове.

Барацьба супроць адзавістаў—«ліквідатараў навыварат» (група Багданава, Алексінскага, Луначарскага, Пакроўскага і інш.). Рашэнне пашыранай рэдакцыі «Пролетария» (1909 г.) аб выключэнні адзавістаў з партыі.

Барацьба супроць прымірэнцтва Зіноўева, Каменева, Рыкава і Томскага да ліквідатарства і трацкізма. Студзеньскі пленум ЦК 1910 г.

Блок большэвікоў з меншавікамі-партыйцамі (Плеханаў) супроць ліквідатарства і цэнтрызма. Ленін і Сталін аб прынцыповай аснове гэтага блока.

Барацьба Сталіна за захаванне і ўмацаванне нелегальнай большэвіцкай партыі ў Закаўказзі, супроць ліквідатараў і адзавістаў.

Бакінская арганізацыя большэвікоў на чале са Сталіным—аплот Закаўказскіх арганізацый, несакрушальная крэпасць ленінскай партыі. Ссылка Сталіна і яго пабегі з ссылкі для ўдзелу ў партыйнай рабоце.

## ПРАЖСКАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ 1912 г. І АФАРМЛЕННЕ БОЛЬШЭВІКОЎ У САМАСТОЙНУЮ СОЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЧНУЮ РАБОЧУЮ ПАРТЫЮ

Пабег Сталіна ў Пецербург з ссылкі. Кіраўніцтва Сталіным партыйнай работай у Расіі.

Падрыхтоўка большэвікамі склікання ўсерасійскай партыйнай канферэнцыі. Утварэнне Расійскай арганізацыйнай камісіі на чале з тав. Орджанікідзе. Прыезд Сталіна ў Баку і Тыфліс для падрыхтоўкі склікання Пражскай канферэнцыі большэвікоў.

Пражская канферэнцыя (студзень 1912 г.) і яе значэнне. Выключэнне з партыі ўсіх апартуністычных груп і фракцый. Афармленне большэвікоў у асобную самастойную соцыял-дэмакратычную рабочую партыю (большэвікоў). Абранне ЦК на чале з Леніным. Завочнае абранне Сталіна ў склад ЦК партыі. Утварэнне бюро ЦК на чале са Сталіным для кіраўніцтва партыйнай работай у Расіі.

Лінія большэвікоў на раскол, разрыў з апартунізмам і цэнтрызмам у II Інтэрнацыянале. Падтрымка большэвікамі левых (Р. Люксембург і інш.) пры адначасовай крытыцы іх памылак.

# Тэма V

## Партыя большэвікоў у гады ўздыму рабочага руху перад першай імперыялістычнай вайной (1912—1914 г г.)

Пачатак прамысловага ўздыму. Рост рабочых стачак і ажыўленне рабочага руху. Уздым рэволюцыйнага руху сярод сялянства. Ленскія падзеі (красавік 1912 г.). Першамайская забастоўка 1912 г. Палітычны характар стачачнага руху.

Тактыка большэвіцкай партыі ў гады ўздыму. Асноўныя лозунгі большэвікоў у барацьбе за новую рэволюцыю. Большэвіцкія «няўрэзаныя лозунгі» («тры кіты») і барацьба за частковыя патрабаванні.

Кіраўніцтва большэвікоў стачачнай барацьбой. Страхавая кампанія. Барацьба за прафесіянальныя арганізацыі. Барацьба з ліквідатарамі за кіраўніцтва рабочым класам. Супрацоўніцтва ліквідатараў і трацкістаў супроць большэвіцкай партыі. Барацьба большэвікоў супроць трацкісцка-ліквідатарскага «жнівеньскага блока»,—«блока буржуазнай інтэлігенцыі супроць рабочых» **(Ленін).**

Узнікненне газеты «Правда» (красавік 1912 г.). Роля Леніна і Сталіна ў стварэнні газеты «Правда». Работа тав. Молатава ў «Правде». Роля «Правды» ў барацьбе за згуртаванне мас вакол большэвіцкай партыі.

Выбарчая кампанія ў IV Дзяржаўную думу (верасень—кастрычнік 1912 г.). Сталінскі «Наказ Пецербургскіх рабочых свайму рабочаму дэпутату». Перамога большэвікоў на выбарах рабочых дэпутатаў у IV Думу. Партыі і групоўкі ў IV Думе. Большэвіцкая фракцыя Дзяржаўнай думы. Кіраўніцтва Леніным і Сталіным работай фракцыі IV Думы.

Базельскі кангрэс II Інтэрнацыянала (1912 г.) і яго рашэнні аб вайне.

Барацьба Леніна і Сталіна за большэвіцкую праграму ў нацыянальным пытанні. Работа Сталіна «Марксізм і нацыянальнае пытанне».

Работа бюро ЦК у Расіі (Сталін, Спандар'ян, Орджанікідзе, Свердлоў). Лютаўская нарада ЦК з партработнікамі (Кракаў, 1913 г.). Удзел Сталіна ў нарадзе. Арышт і ссылка Сталіна.

Рэволюцыйны ўздым у Расіі і палітычны крызіс у Еўропе напярэдадні сусветнай вайны. Забастоўкі, дэманстрацыі ў Пецербургу, Баку і іншых прамысловых цэнтрах Расіі летам 1914 г. Барыкадная барацьба ў Пецербургу (ліпень 1914 г.). Большэвікі на чале рэволюцыйнага ўздыму мас.

# Тэма VI

## Партыя большэвікоў у перыяд імперыялістычнай вайны і другой рускай лютаўскай рэволюцыі (1914—сакавік 1917 гг.)

## ПАРТЫЯ БОЛЬШЭВІКОЎ У ПЕРЫЯД ІМПЕРЫЯЛІСТЫЧНАЙ ВАЙНЫ

Пачатак вайны (жнівень 1914 г.). Прычыны ўзнікнення вайны 1914 г., яе імперыялістычны характар. Залежнасць рускага царызма і рускага капіталізма ад капітала заходне-еўрапейскага. Імперыялістычныя інтарэсы рускага царызма і рускіх капіталістаў у вайне. Узмацненне тэрору самадзяржаўя супроць рабочага руху.

Адносіны розных класаў да вайны. Ператварэнне кадэтаў у партыю імперыялістычнай буржуазіі, адкрыта падтрымліваючую драпежніцкую знешнюю палітыку самадзяржаўя.

Крах II Інтэрнацыянала. Пераход большасці партый II Інтэрнацыянала на пазіцыі абароны імперыялістычнай бацькаўшчыны (соцыялшавінізм). Абарончая пазіцыя расійскіх меншавікоў (Плеханаў і інш.). Цэнтрызм Каўцкага. Трацкізм—руская рознавіднасць цэнтрызма. Абарончая пазіцыя эсэраўскіх груповак (Керанскі, Чэрноў і інш.).

Маніфест ЦК партыі большэвікоў (лістапад 1914 г.). Тактыка большэвікоў у гады імперыялістычнай вайны. Лозунг ператварэння імперыялістычнай вайны ў вайну грамадзянскую, лозунг паражэння «свайго» ўрада у імперыялістычнай вайне, разрыў з соцыял-шавіністамі і цэнтрыстамі. Работа Леніна «Імперыялізм, як вышэйшая стадыя капіталізма». Ленінская тэорыя магчымасці перамогі соцыялізма ў адной, асобна ўзятай краіне (1915 г.).

Работа большэвікоў у гады вайны ў Расіі. Арышт большэвіцкай фракцыі Дзяржаўнай думы (лістапад 1914 г.). Суд над ёй. Здрадніцкая роля Каменева на судзе (люты 1915 г.).

Абстаноўка ў краіне ў 1915—1916 гг. Паражэнне царскіх армій на фронтах. Расстаноўка сіл у лагеры пануючых класаў (рэакцыянеры, «прагрэсіўны блок» і інш.). Стварэнне розных буржуазных арганізацый для дапамогі ўраду ў вядзенні вайны (Усерасійскі саюз земстваў, Усерасійскі саюз гарадоў, ваенна-прамысловыя камітэты). Падтрымка ўсіх гэтых буржуазных арганізацый меншавікамі.

Далейшая барацьба большэвікоў за рэволюцыю ў Расіі. Аднаўленне і ўмацаванне партыйных арганізацый большэвікоў. Стварэнне рускага бюро ЦК (1915 г.). Барацьба Сталіна за ленінскую лінію ў пытанні аб імперыялістычнай вайне. Пісьмы Сталіна з Туруханскай ссылкі.

Большэвіцкая арганізацыя ў арміі і ва флоце і іх прапагандыцкая і агітацыйная работа. Работа сярод ваеннапалонных. Выкарыстанне большэвікамі легальных магчымасцей (профсаюзы, страхавы рух, каапeрацыя і т. д.).

Рост стачачнага руху. Нарастанне рэволюцыйных настрояў сярод сялян. Рэволюцыйнае бражэнне і выступленне супроць царызма прыгнечаных нацыянальнасцей на акраінах. Паўстанні ў Сярэдняй Азіі (1916 г.). Большэвікі на чале мас у барацьбе супроць царызма. Роля бюро ЦК большэвікоў на чале з тав. Молатавым.

Барацьба большэвікоў за стварэнне III Інтэрнацыянала. Міжнародная Цымервальдская (1915 г.) і Кінтальская (1916 г.) канферэнцыі. Барацьба большэвікоў за правядзенне сваёй лініі на міжнародных канферэнцыях. Арганізацыя Цымервальдскай левай. Барацьба большэвікоў супроць памылак левых (Р. Люксембург, Радэка і інш.) у II Інтэрнацыянале. Большэвізм—адзіная ідэйная база Комуністычнага Інтэрнацыянала.

Барацьба Леніна супроць антыбольшэвіцкіх выступленняў Бухарына, Пятакова, Радэка і прымірэнцтва да апартунізма Каменева і Зіноўева ў перыяд імперыялістычнай вайны.

## ЛЮТАЎСКАЯ БУРЖУАЗНА-ДЭМАКРАТЫЧНАЯ РЭВОЛЮЦЫЯ

Міжнародная і ўнутраная абстаноўка напярэдадні лютаўскай рэвалюцыі. Паражэнне царызма ў вайне. Развал прамысловасці і транспарту. Заняпад сельскай гаспадаркі. Затрудненні са снабжэннем. Нарастанне нездаволенасці мас. Дзве змовы супроць рэвалюцыі.

Падрыхтоўка ўзброенага паўстання супроць царызма. Барацьба супроць спроб меншавікоў і эсэраў увесці рэвалюцыйны рух у рамкі легальнасці (хаждзенне к Дзяржаўнай думе і інш.). Работа Петраградскага камітэта бальшэвікоў сярод рабочых і салдат.

Арганізацыя бальшэвікамі дэманстрацыі ў дзень работніц 23 лютага (8 сакавіка). Стачка 25 лютага (10 сакавіка). Выпуск бальшэвіцкага маніфеста 26 лютага (11 сакавіка) з заклікам да ўзброенага звяржэння самадзяржаўя. Перарастанне стачкі ў паўстанне.

Перамога рэвалюцыі. Пераход войск на бок паўстаўшага пралетарыята. Звяржэнне самадзяржаўя рабочымі і апранутымі ў салдацкія шынелі сялянамі (27 лютага).

Стварэнне Совета рабочых і салдацкіх дэпутатаў у Петраградзе (27 лютага) і Советаў у правінцыі. Советы—органы рэвалюцыйна-дэмакратычнай дыктатуры рабочых і сялян. Утварэнне Часовага ўрада—органа дыктатуры імперыялістычнай буржуазіі (2 сакавіка).

Двоеўладства, як самая характэрная асаблівасць лютаўскай рэвалюцыі. Прычыны двоеўладства.

Партыя бальшэвікоў у першыя дні другой рускай лютаўскай рэвалюцыі.

Прыезд Сталіна з ссылкі ў Петраград (12/III). Выхад партыі бальшэвікоў з падполля і ўмацаванне мясцовых бальшэвіцкіх арганізацый. Барацьба бальшэвікоў за далейшае развіццё рэвалюцыі, за паўсямесную арганізацыю Советаў і масавых пралетарскіх арганізацый (фабзаўкомы, прафсаюзы і інш.). Барацьба партыі за ўзброенне пралетарыята і стварэнне рабочай міліцыі. Барацьба бальшэвікоў пад кіраўніцтвам Сталіна супроць здрадніцкай палітыкі меншавікоў і эсэраў. Барацьба супроць імперыялістычнай вайны. Барацьба супроць апартунізма Каменева.

Лютаўская рэвалюцыя—пачатак ператварэння імперыялістычнай вайны ў грамадзянскую.

# Тэма VII

**Партыя бальшэвікоў у перыяд падрыхтоўкі і правядзення Кастрычніцкай соцыялістычнай рэвалюцыі (красавік 1917—1918 гг.**

## КРАСАВІЦКАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ РСДРП (БОЛЬШЭВІКОЎ). БАРАЦЬБА БОЛЬШЭВІКОЎ ЗА МАСЫ. ЛІПЕНЬСКІЯ ДН

Працяг Часовым урадам імперыялістычнай палітыкі царызма. Працяг імперыялістычнай вайны і далейшая разруха народнай гаспадаркі. Разгортванне нацыянальнага руху (Украіна, Закаўказзе і т. д.). Выступленні сялян супроць памешчыкаў і барацьба Часовага ўрада супроць сялянскага руху.

Расстаноўка класавых сіл пасля перамогі другой рускай лютаўскай

рэвалюцыі. Буржуазныя партыі. Кадэты—партыя імперыялістычнай буржуазіі. Падтрымка меншавікамі і эсэрамі Часовага ўрада. Меншавікі і эсэры —левая фракцыя імперыялістычнай буржуазіі, левае дробнабуржуазнае крыло буржуазнай дэмакратыі, якое стаіць за захаванне і «палепшанне» капіталізма. Прычыны ўплыву эсэраў і меншавікоў у масах у пачатку рэвалюцыі.

Прыезд Леніна з-за мяжы. Красавіцкія тэзісы Леніна, іх сутнасць і сусветна-гістарычнае значэнне. Курс партыі большэвікоў на перарастанне буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў соцыялістычную. Лозунгі большэвіцкай партыі: «Уся ўлада советам», Ніякай падтрымкі Часоваму ўраду», «рабочы кантроль над вытворчасцю», «Зямля сялянам». Лінія большэвікоў у пытанні аб вайне пасля перамогі буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў Расіі. Барацьба большэвікоў за спыненне імперыялістычнай вайны. Палітыка партыі ў адносінах да розных слаёў сялянства ў перыяд падрыхтоўкі і правядзення Кастрычніцкай соцыялістычнай рэвалюцыі.

Дэманстрацыя 20—21 красавіка 1917 г. пад кіраўніцтвам большэвікоў і першы крызіс улады Часовага ўрада. Выкрыццё «лева»-апартуністычнай авантурысцкай лініі Багдацьева. Стварэнне кааліцыйнага ўрада—адкрыты саюз меншавікоў і эсэраў з буржуазіяй.

VII (красавіцкая) канферэнцыя большэвікоў (Петраград, 24—29 красавіка 1917 г.) і яе гістарычнае значэнне. Даклад Леніна аб бягучым момание. Прынящце канферэнцыяй ленінскага плана перарастання буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў соцыялістычную.

Барацьба Леніна і Сталіна на канферэнцыі з выступіўшымі супроць соцыялістычнай рэвалюцыі правымі (Каменеў, Рыкаў і інш.). Даклад Сталіна па нацыянальнаму пытанню (выкрыццё пазіцыі Пятакова і інш.).

Барацьба большэвікоў за безраздзельны ўплыў у масавых арганізацыях і партыйная работа ў іх. Галоўная задача дня—пазбавіць згодніцкія партыі (меншавікоў і эсэраў) усякага ўплыву на масы. Роля большэвіцкіх газет («Правда», «Солдатская Правда», «Окопная правда» і інш.). Бурны рост партыі і вырошчванне новых партыйных кадраў.

I Усерасійскі з'езд Советаў. Дэманстрацыя 18 чэрвеня 1917 г. Чэрвеньскае наступленне на фронце і яго паражэнне. Дэманстрацыя 3—5 ліпеня і яе расстрэл Часовым урадам пры прамым удзеле меншавікоў і эсэраў. Адкрыты пераход меншавікоў і эсэраў на бок контррэвалюцыі. Тэрор супроць большэвікоў. Ленін у падполлі.

Канец двоеўладства. Змена тактыкі партыі. Часовае зняцце лозунга «Уся ўлада советам».

## КУРС ПАРТЫІ БОЛЬШЭВІКОЎ НА НЕПАСРЭДНУЮ ПАДРЫХТОЎКУ ЎЗБРОЕНАГА ПАЎСТАННЯ

VI з'езд партыі большэвікоў (Петраград, 26 ліпеня—3 жніўня 1917 г.) і курс на непасрэдную падрыхтоўку ўзброенага паўстання. Ленінскія дырэктывы з'езду. Сталін—непасрэдны кіраўнік з'езда. Даклады Сталіна на з'ездзе. Выступленне Сталіна на з'ездзе ў абарону ленінскай тэорыі аб магчымасці пабудовы соцыялізма ў нашай, асобна ўзятай краіне. Барацьба Сталіна на з'ездзе супроць апартуністаў (Ногін, Прэабражэнскі, Бухарын і інш.). Арганізацыйныя пытанні на з'ездзе. Прынящце ў партыю міжраёнцаў (Троцкі і інш.).

Мабілізацыя сіл рэвалюцыі і контррэвалюцыі. Дзяржаўная нарада ў Маскве. Усеагульная забастоўка маскоўскіх рабочых. Карнілаўшчына і разгром яе. Кіруючая роля большэвікоў у барацьбе з карнілаўшчынай. Выкрыццё большэвікамі контррэвалюцыйнай ролі керааншчыны.

Узбраенне рабочых, умацаванне Чырвонай Гвардыі. Пераход рабочых мас на бок большэвікоў. Заваёва большэвікамі большасці ў советах і іншых масавых арганізацыях. Аднаўленне лозунга «Уся ўлада советам» і яго значэнне ў гэты перыяд.

Дэмакратычная нарада (12 верасня 1917 г.) і «Прадпарламент»—ачагі контррэвалюцыі. Байкот большэвікамі «Прадпарламента». Меншавіцкая пазіцыя Каменева, Рыкава і інш. у адносінах да Дэмакратычнай нарады і «Прадпарламенту».

Рост стачачнага руху. Разгортванне сялянскага руху супроць памешчыкаў і вясковай буржуазіі. Ізаляцыя меншавікоў і эсэраў ад мас, развал дробнабуржуазных партый. Міжнародная абстаноўка перад Кастрычнікам.

Пісьмы Леніна аб падрыхтоўцы ўзброенага паўстання. Рашэнні ЦК партыі аб узброеным паўстанні (10/23 і 16/29 кастрычніка 1917 г.). Стварэнне практычнага цэнтра па кіраўніцтву паўстаннем («пяцёрка» на чале са Сталіным). Здрада Зіноўева і Каменева, выступленне іх супроць социялістычнай рэвалюцыі, здрадніцкае выступленне ў буржуазным друку супроць рашэнняў партыі аб паўстанні. Барацьба Леніна і Сталіна супроць штрэйкбрэхераў—Каменева і Зіноўева і супроць Троцкага напярэдадні паўстання. Мабілізацыя Часовым урадам контррэвалюцыйных сіл для разгрому рэвалюцыі.

## ПЕРАМОГА ВЯЛІКАЙ КАСТРЫЧНІЦКАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭВАЛЮЦЫІ І ЯЕ МІЖНАРОДНАЕ ЗНАЧЭННЕ

Кастрычніцкае ўзброенае паўстанне 7 лістапада (25 кастрычніка) 1917 г. у Петраградзе. Перамога Вялікай пролетарскай соцыялістычнай рэвалюцыі. Звяржэнне Часовага ўрада і пераход усёй улады ў рукі Советаў. Падтрымка пролетарскай рэвалюцыі працоўным сялянствам.

Ленін і Сталін—непасрэдныя кіраўнікі паўстання.

II Усерасійскі з'езд советаў (7-8 лістапада 1917 г.). Пастанова з'езда аб пераходзе ўсёй улады советам. Дэкрэты аб міры і зямлі. Утварэнне Совета народных камісараў на чале з Леніным. Узброенае паўстанне ў Маскве і іншых гарадах.

Барацьба з сабатажам контррэвалюцыйных элементаў. Меншавікі і эсэры—арганізатары сабатажу. Разгром першых ачагоў контррэвалюцыі (Духонін, Красноў, Каледзін і інш.). Арганізацыя ВЧК на чале з Дзержынскім.

Барацьба партыі большэвікоў з правымі здраднікамі і штрэйкбрэхерамі (Зіноўеў, Каменеў, Рыкаў і інш.). Перагаворы правых з меншавікамі і эсэрамі аб звароце да ладу буржуазнай дэмакратыі.

Дэзертырства правых з адказных пастоў. Выкрыццё правых і зняцце іх з пастоў.

Трыумфальнае шэсце совецкай улады. Разрушэнне буржуазна-памешчыцкага дзяржаўнага апарата і арганізацыя совецкай улады на месцах.

Барацьба большэвікоў за захаванне і ўмацаванне пролетарскай дыктатуры ў першы перыяд яе існавання. Нацыяналізацыя банкаў, чыгунак, увядзенне манаполіі знешняга гандлю. Увядзенне рабочага кантролю над вытворчасцю і размеркаваннем і пачатак нацыяналізацыі прамысловасці. Ліквідацыя нацыянальнага прыгнечання. Пачатак стварэння Чырвонай Арміі.

Разгон Устаноўчага сходу. III з'езд советаў (студзень 1918 г.). «Дэкларацыя праў працоўнага і эксплаатуемага народу».

Характар і рухаючыя сілы Вялікай пролетарскай соцыялістычнай рэволюцыі. Пачатак пераходнага перыяду між капіталізмам і соцыялізмам у СССР. Кастрычніцкая рэволюцыя, як пачатак і прадпасылка сусветнай пролетарскай рэволюцыі.

## БАРАЦЬБА БОЛЬШЭВІЦКАЙ ПАРТЫІ ЗА СПЫНЕННЕ ІМПЕРЫЯЛІСТЫЧНАЙ ВАЙНЫ

Абстаноўка ў краіне. Брэсцкія мірныя перагаворы. Барацьба Леніна і Сталіна супроць дробнабуржуазных груп «левых» комуністаў (Бухарын, Пятакоў і інш.). «Левы» комунізм, як адлюстраванне дробнабуржуазнай стыхіі. Ленін аб Бухарыне і «левых» капітулянтах, як аб ашалелых дробных буржуа. Здрадніцкая роля Троцкага ў час брэсцкіх мірных перагавораў: парушэнне Троцкім указанняў Леніна і Сталіна аб заключэнні міру і наступленне германскіх імперыялістаў.

Перамога ленінскай лініі ў пытанні аб міры. Заключэнне Брэсцкага міру і пачатак перадышкі. VII з'езд партыі і пацвярджэнне ім ленінскай лініі па пытанню аб міры (Петраград, сакавік 1918 г.). Перайменаванне РСДРП(б) у РКП(б).

Ленінскі план соцыялістычнага будаўніцтва (вясна 1918 г.). Барацьба за ўлік і кантроль, за падняцце дысцыпліны, за падняцце прадукцыйнасці працы. Дробнабуржуазная платформа «левых» комуністаў у пытанні аб соцыялістычным будаўніцтве і барацьба Леніна і Сталіна супроць яе. Ленінская работа «Аб «левым» дзяцінстве і аб дробнабуржуазнасці». Ленін аб грамадска-эканамічных укладах у эканоміцы краіны і аб перавазе дробнатаварнага ўкладу, аб дробнабуржуазнай стыхіі ў краіне.

Стварэнне комбедаў, барацьба з кулацтвам і разгортванне соцыялістычнай рэволюцыі ў вёсцы.

V Усерасійскі з'езд советаў (ліпень 1918 г.). Прыняцце Канстытуцыі РСФСР.

# Тэма VIII

### Партыя большэвікоў у перыяд грамадзянскай вайны (1918—1920 г г.)

## ЗРЫЎ ПЕРАДЫШКІ, ПАЧАТАК ЗАМЕЖНАЙ ІНТЭРВЕНЦЫІ І РАЗГОРТВАННЕ ГРАМАДЗЯНСКАЙ ВАЙНЫ

Роля міжнароднага імперыялізма ў арганізацыі контррэволюцыйнай вайны і інтэрвенцыі.

Паўстанне чэхаславакаў, высадка англійскага дэсанта ў Мурманску, японскага—ва Владзівастоку. Заняцце немцамі Украіны. Эсэры і мен-

шавікі на службе ў інтэрвентаў. Кулацка-эсэраўскія контррэвалюцыйныя паўстанні летам 1918 г. Зрыў перадышкі. Пачатак грамадзянскай вайны.

*Мяцеж левых эсэраў у Маскве.* Белагвардзейска-эсэраўскі тэрор супроць большэвікоў. *Замах эсэраў на Леніна.*

Барацьба рабочых і сялян супроць рускай і міжнароднай белагвардзейшчыны. Партыя большэвікоў на чале абароны пролетарскай дзяржавы. Арганізацыя рэгулярнай Чырвонай Арміі. Увядзенне інстытута ваенных камісараў. Барацьба за хлеб—барацьба за соцыялізм. Сталін на чале харчовай справы на поўдні Расіі. Абарона Царыцына і роля ў ёй Сталіна і Варашылава. Стварэнне Совета абароны на чале з Леніным для кіраўніцтва ўсёй работай па арганізацыі абароны на фронце і ў тылу. Барацьба з контррэволюцыяй у тылу. Масавы чырвоны тэрор.

*Рэволюцыя ў Германіі і Аўстра-Венгрыі. Разрыў Брэсцкага мірнага дагавора. Вызваленне Украіны і Беларусі. Англійская інтэрвенцыя ў* Сярэдняй Азіі і Закаўказзі. Расстрэл англійскімі інтэрвентамі 26 бакінскіх камісараў.

Пачатак калчакоўшчыны—восень 1918 г.

I кангрэс Комінтэрна (сакавік 1919 г.).

## ПАРТЫЯ БОЛЬШЭВІКОЎ У БАРАЦЬБЕ З КАЛЧАКОЎШЧЫНАЙ І ДЗЕНІКІНШЧЫНАЙ

VIII з'езд партыі (Масква 18—23 сакавіка 1919 г.). Прынящце новай праграмы і барацьба Леніна супроць Бухарына і Пятакова па пытанню аб праграме партыі. Ваенна-палітычны саюз рабочых і сялян у грамадзянскай вайне. Рашэнне VIII з'езда аб пераходзе ад палітыкі нейтралізацыі серадняка да моцнага саюза з ім. Ваеннае пытанне на VIII з'ездзе.

Першы паход Антанты на Совецкую Расію (вясна 1919 г.)

Арганізацыя партыяй большэвікоў перамаглі над Калчаком. Разгром калчакоўшчыны (лета 1919 г.). Роля Сталіна ў разгроме калчакоўшчыны.

Другі паход Антанты (восень 1919 г.). Захоп палякамі Беларусі. Наступленне Дзенікіна і Юдзеніча. Захват Дзенікіным Харкава і Кіева. Барацьба супроць Дзенікіншчыны. Адхіленне плана Троцкага, адстраненне Леніным Троцкага ад кіраўніцтва аперацыямі Чырвонай Арміі. Даручэнне кіраўніцтва аперацыямі супроць Дзенікіна таварышу Сталіну. Сталінскі план разгрому Дзенікіна і яго ажыццяўленне Чырвонай Арміяй. Разгром Дзенікіна. Барацьба за Петраград і роля Сталіна ў разгроме Юдзеніча.

Харчовы крызіс у краіне. Выданне дэкрэта аб увядзенні харчовай развёрсткі (продразвёрстка). Нацыяналізацыя прамысловасці і мабілізацыя яе на патрэбы вайны.

Ваенны комунізм—эканамічная палітыка партыі ў гады грамадзянскай вайны.

Партыйная работа ў гады грамадзянскай вайны. «Партыйны тыдзень». Работа большэвікоў у калчакоўскім і дзенікінскім падполлі. Арганізацыя партызанскага руху ў тылу ў белых.

## БАРАЦЬБА З БЕЛАПАЛЯКАМІ І ВРАНГЕЛЕМ. ПЕРАМОЖНАЕ СКАНЧЭННЕ ГРАМАДЗЯНСКАЙ ВАЙНЫ

Часовая перадышка пасля разгрому дзенікіншчыны (пачатак 1920 г.). Барацьба з гаспадарчай разрухай.

IX з'езд партыі (29 сакавіка—5 красавіка 1920 г.). Рашэнне IX з'езда па гаспадарчых пытаннях і аб задачах партбудаўніцтва. Барацьба партыі з антыпартыйнай групай «дэмакратычнага цэнтралізма».

Рост міжнароднага рабочага і рэвалюцыйнага руху ў гэты перыяд. Расслаенне ў радах II Інтэрнацыянала і цяга соцыял-дэмакратычных рабочых у Комінтэрн. II кангрэс Комінтэрна (ліпень 1920 г.). Работа Леніна «Дзіцячая хвароба «левізны» ў комунізме».

Трэці паход Антанты супроць пралетарскай дзяржавы: белапалякі і Врангель (1920 г.). Наступленне палякаў і захват імі часткі Украіны. Контрнаступленне Чырвонай Арміі, разгром польскіх армій. Заключэнне міру з Польшчай. Разгром Врангеля. Пераможнае сканчэнне грамадзянскай вайны.

VIII з'езд советаў (снежань 1920 г.) і прыняцце ленінскага плана электрыфікацыі краіны.

Партыя бальшэвікоў—правадыр і арганізатар перамогі пралетарскай дыктатуры ў грамадзянскай вайне. Роля Леніна і Сталіна ў кіраўніцтве Чырвонай Арміяй і ў арганізацыі перамогі совецкай улады ў грамадзянскай вайне.

Варашылаў, Фрунзе, Кіраў, Куйбышэў, Орджанікідзе, Кагановіч на фронтах грамадзянскай вайны. Героі грамадзянскай вайны: Будзённы і яго Конная армія, Чапаеў, Шчорс і др.

Міжнародная салідарнасць і дапамога пралетарыяў усяго свету Совецкай рэспубліцы ў яе барацьбе супроць міжнароднай і рускай контррэволюцыі.

# Тэма IX

### Партыя бальшэвікоў у перыяд пераходу на мірную работу па аднаўленню народнай гаспадаркі (1921—1925 гг.)

## СТАНОВІШЧА Ў КРАІНЕ ПА СКАНЧЭННІ ГРАМАДЗЯНСКАЙ ВАЙНЫ. ДЫСКУСІЯ АБ ПРОФСАЮЗАХ. ПЕРАХОД ДА НОВАЙ ЭКАНАМІЧНАЙ ПАЛІТЫКІ

Эканамічнае і палітычнае становішча Совецкай рэспублікі пасля сканчэння грамадзянскай вайны. Заняпад прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Нездаволенасць сялянства сістэмай продразвёрсткі. Узмацненне дробнабуржуазнай стыхіі. Ажыўленне эсэраўска-меншавіцкай контррэволюцыйнай дзейнасці. Антонаўшчына і махноўшчына. Кранштацкі мяцеж.

Цяжкасці пераходу да мірнага гаспадарчага будаўніцтва. Ленін і Сталін аб новых задачах партыі, аб новых метадах кіраўніцтва масамі ў новай абстаноўцы.

Дыскусія аб профсаюзах і крызіс у партыі. Ленін і Сталін аб профсаюзах, як апоры дыктатуры пралетарыята і школе комунізма. Барацьба Леніна і Сталіна супроць трацкісцкай платформы па профсаюзнаму пытанню («огосударствление профсоюзов»). «Рабочая апазіцыя» (Шляпнікаў, Калантай і інш.)—выражэнне анарха-сіндыкалісцкага

ўхілу. Блок Бухарына з Троцкім супроць ленінскай лініі. Пазіцыя Троцкага і Бухарына—выражэнне іх нявер'я ў перамогу соцыялізма. Меншавіцка-эсэраўская платформа групы «дэмакратычнага цэнтралізма» (сапронаўшчына). Пазіцыя антыленінскіх груповак у профсаюзнай дыскусіі, як адлюстраванне даўлення дробнабуржуазнай стыхіі.

X з'езд партыі большэвікоў (8—16 сакавіка 1921 г.).

Замена продразвёрсткі продналогам. Пераход да новай эканамічнай палітыкі. Ленін і Сталін аб новай эканамічнай палітыцы, як адзіна правільнай палітыцы пролетарыята ў пераходны перыяд ад капіталізма к соцыялізму. Барацьба Леніна і Сталіна супроць скажэння прыроды нэпа трацкістамі і Бухарыным.

Рашэнне X з'езда аб адзінстве партыі і забароне фракцый і груповак. Рашэнне з'езда аб анарха-сіндыкалісцкім ухіле і несумяшчальнасці поглядаў «рабочай апазіцыі» з прыналежнасцю да партыі. Прыняцце ленінска-сталінскай лініі ў пытанні аб профсаюзах.

Даклад Сталіна па нацыянальнаму пытанню. X з'езд партыі ў барацьбе з вялікадзяржаўным шавінізмам, як галоўнай небяспекай, і з мясцовым нацыяналізмам.

Мабілізацыя дэлегатаў X з'езда для падаўлення кранштацкага мяцежу.

Міжнародная абстаноўка ў 1921 г. III кангрэс Комінтэрна (чэрвень—ліпень 1921 г.).

## ПАРТЫЯ БОЛЬШЭВІКОЎ У ПЕРШЫЯ ГАДЫ НЭП'а

Умацаванне ўнутранага і міжнароднага становішча Совецкай рэспублікі. Уздым сельскай гаспадаркі. Аднаўленне прамысловасці. Класавая барацьба ў краіне і спроба ажыўлення контррэволюцыйнай дзейнасці меншавікоў і эсэраў. Працэс эсэраў. Ліквідацыя контррэволюцыйных асколкаў «рабочай апазіцыі», «рабочай групы» і «рабочай праўды».

XI з'езд партыі (27 сакавіка—2 красавіка 1922 г.). Даклад Леніна. Канец адступлення. Лозунг «Вучыцеся гандляваць». Ленінская пастаноўка пытання «хто каго». Ленін аб падборы людзей, праверцы выканання. Роля профсаюзаў пры новай эканамічнай палітыцы.

Партыйнае будаўніцтва пасля пераходу к нэпу. Чыстка партыі і рэгуляванне складу партыі.

Абранне Сталіна генеральным сакратаром ЦК партыі (1922 г.).

I Усесаюзны з'езд советаў СССР (снежань 1922 г.). Даклад Сталіна аб стварэнні брацкага саюза соцыялістычных рэспублік на пачатках добраахвотнасці і поўнага роўнапраўя ўсіх народаў краіны Советаў. Утварэнне СССР. Значэнне ўтварэння СССР для гаспадарчага і культурнага росту паасобных нацыянальных рэспублік. Роля Сталіна ў стварэнні Саюза совецкіх соцыялістычных рэспублік.

Апошнія артыкулы Леніна («Аб кааперацыі», «Старонкі з дзенніка» і інш.).

XII з'езд партыі (7—25 красавіка 1923 г.). Рашэнне з'езда аб шляхах аднаўлення прамысловасці. Барацьба партыі са спробамі аслабіць ролю партыі ў кіраўніцтве дзяржаўным і гаспадарчым апаратам (Троцкі і інш.).

Даклад Сталіна па нацыянальнаму пытанню на з'ездзе. XII з'езд аб барацьбе на два фронты і галоўнай небяспецы ў нацыянальным пытанні.

# ГАСПАДАРЧЫЯ ЦЯЖКАСЦІ АДНАЎЛЕНЧАГА ПЕРЫЯДУ І БАРАЦЬБА ПАРТЫІ СУПРОЦЬ ТРАЦКІСТАЎ І ЗІНОЎЕЎЦАЎ У ПЕРЫЯД 1923—1925 гг.

Гаспадарчыя цяжкасці аднаўленчага перыяду. Разыходжанне цэн на прадукты сельскай гаспадаркі і прамысловасці (ножніцы). Мерапрыемствы партыі па ўмацаванню змычкі горада і вёскі. Палітыка зніжэння цэн. Грашовая рэформа. Барацьба за палепшанне работы дзяржаўнага апарата.

Абвастрэнне класавай барацьбы ў краіне. Спроба заходніх імперыялістаў арганізаваць вайну супроць Совецкай рэспублікі. Ультыматум Керзона (май 1923 г.). Забойства Вароўскага ў Лазанне (май 1923 г.).

Трацкісцкая атака на лінію большэвіцкай партыі. Курс трацкістаў на згортванне цяжкай індустрыі пад прадлогам яе нявыгаднасці, лінія на разрыў саюза з серадняком па пытанню аб цэнах на промтавары і па іншых пытаннях, барацьба за свабоду фракцый, супроць адзінства партыі.

Дыскусія 1923 г. Рашэнне ЦК партыі аб унутрыпартыйнай дэмакратыі 5 снежня 1923 г. Пераможная барацьба партыі большэвікоў пад кіраўніцтвам Сталіна супроць трацкізма, за ленінскую лінію, за адзінства партыі.

XIII партыйная канферэнцыя. Даклад Сталіна на XIII партканферэнцыі (16—18 студзеня 1924 г.). XIII партканферэнцыя аб трацкізме, як дробнабуржуазным ухіле.

Смерць Леніна (21 студзеня 1924 г.). Ленінскі заклік у партыю. Прысяга таварыша Сталіна над гробам Леніна. II з'езд Советаў СССР. Зацверджанне Канстытуцыі СССР.

XIII з'езд партыі (23—31 мая 1924 г.) аб арганізацыйнай рабоце партыі ў новых умовах. Асуджэнне трацкізма XIII з'ездам партыі і V кангрэс Комінтэрна (чэрвень 1924 г.).

Барацьба партыі большэвікоў супроць трацкісцкай спробы скажэння гісторыі большэвізма і падмены ленінізма трацкізмам («Урокі Кастрычніка» Троцкага). Ідэйны разгром трацкізма. Значэнне работы Сталіна «Аб асновах ленінізма» (1924 г.).

Міжнароднае становішча Совецкага Саюза на зыходзе аднаўленчага перыяду (1924—1925 гг.). Прызнанне СССР замежнымі дзяржавамі: Англіяй, Італіяй, Аўстрыяй, Грэцыяй, Швецыяй, Даніяй, Венгрыяй, Японіяй. Развіццё гандлёвых адносін з краінамі Захада. Удзел СССР ў работах камісіі па раззбраенню.

Становішча прамысловасці і сельскай гаспадаркі ў СССР на зыходзе аднаўленчага перыяду. XIV партканферэнцыя (27—29 красавіка 1925 г.). Даклад Дзяржынскага аб металапрамысловасці. Партканферэнцыя аб шляхах далейшага развіцця прамысловасці, умацавання змычкі рабочых і сялян і ўздыму сельскай гаспадаркі.

XIV партыйная канферэнцыя аб магчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне. Развіццё Сталіным ленінскага вучэння аб магчымасці перамогі соцыялізма ў адной краіне.

Частковая адносная стабілізацыя ў капіталістычных краінах. Абвастрэнне супярэчнасцей паміж СССР і капіталістычным светам. Абвастрэнне класавай барацьбы ў краіне. Гаспадарчыя затрудненні восенню 1925 г. Стварэнне Зіноўевым і Каменевым антыленінскай «ленінградскай апазіцыі» («новай апазіцыі») на платформе рэстаўратарскай

«тэорыі» трацкізма аб немагчымасці перамогі социялізма ў нашай краіне. Барацьба Зіноўева і Каменева супроць партыі большэвікоў і ленінскага ЦК партыі напярэдадні XIV з'езда.

XIV з'езд партыі (18—31 снежня 1925 г.)—з'езд індустрыялізацыі. Сталін аб соцыялістычнай індустрыялізацыі краіны як адзіна правільнай генеральнай лініі партыі ў барацьбе за пабудову соцыялізма. Цяжкая прамысловасць—аснова соцыялістычнай індустрыялізацыі. Задача ператварэння СССР з краіны аграрнай у краіну індустрыяльную. Развіццё знешняга гандлю і барацьба за эканамічную незалежнасць СССР. Палітыка моцнага саюза з серадняком.

Выкрыццё Сталіным меншавіцка-трацкісцкай сутнасці «новай апазіцыі». Выкрыццё рэстаўратарскай платформы Сакольнікава. Паражэнне зіноўеўскай апазіцыі на XIV з'ездзе партыі.

XIV з'езд партыі аб барацьбе на два фронты супроць ворагаў большэвіцкай партыі. Выкрыццё бухарынскага лозунга «ўзбагачайцеся». Галоўны ўдар—супроць трацкістаў-зіноўеўцаў. Перайменаванне РКП(б) у ВКП(б).

Роля Кірава, кіраўніка ленінградскіх большэвікоў, у барацьбе супроць трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі.

## Тэма X

### Партыя большэвікоў у барацьбе за соцыялістычную індустрыялізацыю краіны (1926—1929 гг.)

### ПЕРАХОД ПАРТЫІ К АЖЫЦЦЯЎЛЕННЮ ЛЕНІНСКАЙ ПАЛІТЫКІ ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫІ КРАІНЫ І БАРАЦЬБА З ТРАЦКІСЦКА-ЗІНОЎЕЎСКІМ БЛОКАМ

Цяжкасці соцыялістычнага будаўніцтва ва ўмовах адсталай дробнасялянскай краіны. Капіталістычнае акружэнне і барацьба імперыялістаў супроць будаўніцтва соцыялізма ў СССР. Частковая стабілізацыя капіталізма ў краінах капітала і поспехі соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР, абвастрэнне супярэчнасцей паміж капіталістычнымі краінамі і СССР. Узмацненне пагрозы вайны супроць Совецкага Саюза. Спробы міжнароднага імперыялізма справакаваць вайну супроць СССР. Антысовецкая кампанія англійскіх «цвёрдалобых». Напад на совецкае консульства ў Пекіне. Налёт англійскай паліцыі на гандлёвае прадстаўніцтва і Аркос. Ліквідацыя гандлёвага пагаднення і разрыў дыпламатычных адносін Англіі з СССР. Забойства совецкага поўпрэда ў Польшчы—Войкава. Падрыўная работа (забойствы, узрывы, падпалы) спецыяльна прысланых дыверсантаў і шпіёнаў унутры Совецкага Саюза.

Барацьба СССР за мір і раззбраенне. Прапанова совецкага ўрада прыступіць безадкладна да поўнага ўсеагульнага раззбраення.

Паспяховае вырашэнне праблемы соцыялістычнага накаплення для капітальнага будаўніцтва. Барацьба партыі за правільнае выкарыстанне накаплення, за рэжым эканоміі. Рост капітальных укладанняў у прамысловасць. Паскарэнне тэмпаў развіцця вытворчасці сродкаў вытворчасці ў мэтах паскарэння развіцця гаспадаркі ў цэлым. Пачатак будаўніцтва гігантаў буйнай прамысловасці (Днепрабуд, Турксіб, Сталінградскі трактарны і інш.).

Далейшы рост сельскай гаспадаркі. Умацаванне кааперацыі, як

асноўнай формы сувязі паміж прамысловасцю і сялянскай гаспадаркай. Узмацненне мер абмежавання і выцяснення кулацтва. Налагавая палітыка. Зніжэнне цэн. Мерапрыемствы партыі і ўрада па ажыўленню работы советаў. Перавыбары советаў. Барацьба партыі за захаванне і ўмацаванне саюза рабочых і сялян.

Утварэнне трацкісцка-зіноўеўскага блока на платформе трацкізма. Уступленне трацкістаў і зіноўеўцаў на шлях стварэння падпольнай антысовецкай партыі. Беспрынцыпная дэмагогія і двурушніцтва—метады барацьбы трацкісцка-зіноўеўскага блока супроць партыі.

XV партканферэнцыя (26 кастрычніка—3 лістапада 1926 г.) і VII пленум ВККІ (снежань 1926 г.) аб трацкісцка-зіноўеўскім блоку, як соцыял-дэмакратычным ухіле ў партыі.

Пераход трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі да адкрытай барацьбы супроць рэжыму пролетарскай дыктатуры. Выключэнне Троцкага і Зіноўева з партыі (лістападаўскі пленум ЦК і ЦКК 1927 г.).

XV з'езд (2—19 снежня 1927 г.)—з'езд калектывізацыі. Даклад Сталіна.

Сталін аб задачах партыі ў вёсцы ў справе стварэння аб'яднаных буйных гаспадарак на аснове грамадскай калектыўнай апрацоўкі зямлі і машынізацыі земляробства. Палітыка рашучага выцяснення капіталістычных элементаў. Дырэктывы з'езда па складанню пяцігадовага плана.

XV з'езд партыі аб несумяшчальнасці прыналежнасці да трацкісцкай апазіцыі з прабываннем у партыі. Выключэнне XV з'ездам главароў трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі з партыі. Трацкізм—перадавы атрад контррэволюцыйнай буржуазіі.

## СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫЯ І БАРАЦЬБА З ПРАВЫМ УХІЛАМ

Рост буйнай соцыялістычнай прамысловасці. Адставанне развіцця сельскай гаспадаркі ад развіцця прамысловасці. Зернавая праблема. Зверская барацьба кулацтва супроць калгаснага будаўніцтва ў вёсцы, спробы зрыву хлебанарыхтовак. Партыя на хлебным фронце. Значэнне зернавой праблемы і прычыны нарыхтоўчых затрудненняў. Арганізацыя хлебанарыхтовак і націск на кулацка-заможныя элементы. Надзвычайныя меры (1928 г). Дырэктывы ЦК (красавіцкі і чэрвеньскі пленумы 1928 г.) аб узмацненні калгаснага руху і соўгаснага будаўніцтва. Абвастрэнне класавай барацьбы. Шкодніцтва з боку старых буржуазных спецыялістаў, адкрыта палітычна варожых совецкай уладзе (шахцінская справа).

Лінія партыі на сістэматычнае зніжэнне сабекошту, умацаванне працоўнай дысцыпліны і разгортванне соцыялістычнага спаборніцтва. Лозунг аб аўладанні тэхнікай. Рашэнне ЦК аб падрыхтоўцы кадраў спецыялістаў. Мабілізацыя мас на выкананне гаспадарчага плана 1928—1929 г.—першага года першай пяцігодкі.

Сталін—арганізатар большэвіцкага наступлення. Барацьба за большэвіцкае перамаганне цяжкасцей. Зварот ЦК партыі аб самакрытыцы (чэрвень 1928 г.).

Выступленне правых супроць генеральнай лініі большэвіцкай партыі па пытаннях індустрыялізацыі краіны і калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Апартуністычная «тэорыя» Бухарына аб затуханні класавай барацьбы і ўрастанні капіталізма (кулак, канцэсійныя прадпры-

емствы і т. д.) у соцыялізм. Барацьба праваапартуністычных кіраўнікоў Маскоўскай арганізацыі і профсаюзаў супроць партыі і яе ЦК. Фактычная абарона правымі рэстаўратарскай трацкісцкай «тэорыі» аб немагчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне. Спробы зговару правых апартуністаў з трацкістамі (перагаворы Бухарына з Каменевым).

Выкрыццё апартуністаў, як кулацкай агентуры ў радах партыі. Лістападаўскі пленум ЦК (1928 г.) аб барацьбе на два фронты: супроць правых і «левых» апартуністаў і супроць прымірэнцтва. *Лістападаўскі пленум ЦК аб правай небяспецы, як галоўнай.*

*VI кангрэс Комінтэрна (ліпень 1928 г.).* Прыняцце праграмы Комінтэрна на VI кангрэсе Комуністычнага Інтэрнацыянала.

XVI партканферэнцыя (красавік 1929 г.) аб першым пяцігадовым плане народнай гаспадаркі. Мабілізацыя ўсіх сіл рабочага класа і працоўнага сялянства на ажыццяўленне задач першай пяцігодкі. Развіццё соцыялістычнага спаборніцтва. Роля соцыялістычнага спаборніцтва на буйнейшых будаўніцтвах гігантаў першай пяцігодкі (Кузнецк, Магнітабуд, Днепрабуд, Сталінградскі трактарны завод і т. д.). Мерапрыемствы партыі па барацьбе з бюракратызмам і перабудове работы масавых арганізацый. Чыстка партыі (1929 г.).

Высылка Троцкага за мяжу за контррэволюцыйную дзейнасць (1929 г.).Ператварэнне трацкізма ў беспрынцыпную безыдэйную банду заклятых ворагаў рабочага класа, дзеючых па найму разведвальных органаў замежных дзяржаў. Пастанова X пленума ВККІ (ліпень 1929 г.) аб вывадзе Бухарына са складу ВККІ. Лістападаўскі пленум ЦК 1929 г. Выключэнне Бухарына са складу Палітбюро ЦК ВКП(б). Папярэджанне Рыкаву і Томскаму. Рашэнне пленума аб несумяшчальнасці прапаганды поглядаў правага апартунізма з прабываннем ў партыі. Працяг двурушніцкай барацьбы правых апартуністаў супроць партыі.

Новая спроба з боку імперыялістаў арганізаваць антысовецкі блок і інтэрвенцыю. Правакацыя кітайскіх мілітарыстаў на Далёкім Усходзе (1929 г.). Перамога Асобай Далёкаўсходняй Чырвонай Арміі.

Барацьба за выкананне пяцігадовага плана. Выкананне і перавыкананне плана першага года пяцігодкі. Рашаючыя поспехі 1928—1929 гг. на ўсіх фронтах соцыялістычнага будаўніцтва СССР. Развіццё соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва. Уздым у рабочым класе. Паварот асноўных мас сялянства ад старога, капіталістычнага шляху развіцця на шлях соцыялізма. Масавы рост калгаснага руху: «У калгасы пашоў серадняк» **(Сталін)**. 1929 год—год вялікага пералому.

## Тэма XI

### Партыя большэвікоў у барацьбе за калектывізацыю сельскай гаспадаркі (1930—1934 г г.)

### БАРАЦЬБА БОЛЬШЭВІКОЎ ЗА РАЗГОРТВАННЕ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА НАСТУПЛЕННЯ

Сусветны эканамічны крызіс і абвастрэнне супярэчнасцей у краінах капіталізма. Спробы зговару капіталістаў супроць СССР. Узмацненне небяспекі ваеннага нападу на Совецкі Саюз.

Згуртоўванне партыяй беднаты і арганізацыя яе разам з серадня-

ком для барацьбы супроць кулацтва. Растлумачэнне працоўнаму сялянству выгад калгаснага жыцця. Аказанне ўрадам дапамогі калгасам крэдытамі і машынамі. Пачатак арганізацыі машына-трактарных станцый (МТС).

Магутны рост калгаснага руху. Лозунг суцэльнай калектывізацыі. Пераход ад палітыкі абмежавання і выцяснення капіталістычных элементаў вёскі да палітыкі ліквідацыі кулацтва як класа на аснове суцэльнай калектывізацыі.

Рашэнне ЦК ВКП(б) ад 5 студзеня 1930 г. аб тэмпах калектывізацыі.

Барацьба партыі з правым апартунізмам і з лявацкімі перагібамі ў калгасным будаўніцтве. Значэнне артыкулаў Сталіна «Галавакружэнне ад поспехаў» і «Адказ таварышам калгаснікам» (1930 г.). Разгром апартуністаў і перамога лініі партыі ў калгасным будаўніцтве.

Поспехі ў прамысловасці і ў сельскай гаспадарскі к XVI з'езду партыі.

XVI з'езд партыі (26 чэрвеня—13 ліпеня 1930 г.)—з'езд разгорнутага соцыялістычнага наступлення па ўсяму фронту. Даклад Сталіна на з'ездзе. Уступленне СССР у перыяд соцыялізма. «Лёс сельскай гаспадаркі і яго асноўных праблем будуць ад гэтага часу вызначаць не індывідуальныя сялянскія гаспадаркі, а калгасы і соўгасы» **(Сталін)**. Калгаснае сялянства—сапраўдная і моцная апора совецкай улады ў вёсцы. Барацьба за ажыццяўленне пяцігодкі ў чатыры гады. Рашэнне з'езда аб несумяшчальнасці поглядаў правага ўхілу з прыналежнасцю да ВКП(б). XVI з'езд аб барацьбе на два фронты і аб правай небяспецы, як галоўнай.

Раскрыццё і ліквідацыя контррэволюцыйных арганізацый, звязаных з імперыялістычнымі дзяржавамі («промпартыя», Саюзнае бюро меншавікоў, кулацкая партыя Кандрацьева—Чаянава). Выкрыццё двурушніцкага права-лявацкага блока Сырцова—Ламінадзе.

Пераход трацкісцка-зіноўеўскіх і права-рэстаўратарскіх бандытаў да падпольнай тэрарыстычнай, шкодніцка-шпіёнскай дзейнасці супроць партыі і совецкай дзяржавы.

Прамова Сталіна «Аб задачах гаспадарнікаў» (люты 1931 г.). Лозунг «Аўладаць тэхнікай». Сталін аб новай абстаноўцы і новых задачах соцыялістычнага будаўніцтва (чэрвень 1931 г.). Шэсць умоў таварыша Сталіна.

Поспехі калектывізацыі і барацьба партыі за ўмацаванне калгаснага будаўніцтва. Ачышчэнне калгасаў ад пралезшых у іх кулакоў. Умацаванне працоўнай дысцыпліны. Барацьба з ворагамі і раскрадвальнікамі грамадскай уласнасці ў калгасах. Работа партыі па выхаванню большэвіцкіх кадраў у калгасах.

XVII партканферэнцыя (30 студзеня—4 лютага 1932 г.) аб задачах чацвертага, завяршаючага года пяцігодкі. XVII партканферэнцыя аб асноўных установках другой пяцігодкі. Барацьба за ўмацаванне соцыялістычнай уласнасці.

Падпольная контррэволюцыйная барацьба правых і трацкістаў супроць партыі. Раскрыццё контррэволюцыйных груп Руціна, Эйсманта і інш.

# ПЕРАМОГА ПЕРШАЙ ПЯЦІГОДКІ. ПАЧАТАК ДРУГОЙ ПЯЦІГОДКІ

Выкананне першай пяцігодкі ў чатыры гады. Студзеньскі пленум ЦК і ЦКК (1933 г.). Даклад таварыша Сталіна аб выніках першай пяцігодкі. Канчатковае рашэнне пытання «хто каго» ў карысць соцыялізма ў горадзе і вёсцы. Пабудова буйнейшых гігантаў прамысловасці ў краіне. Стварэнне цэлага раду новых галін прамысловасці (чорная металургія, варштатабудаўніцтва, трактарная, аўтамабільная, авіяцыйная і інш.). Умацаванне эканамічнай незалежнасці СССР. Поспехі соцыялістычнага будаўніцтва і ўмацаванне абараназдольнасці СССР. Роля соцыялістычнай індустрыі ў справе стварэння тэхнічнай базы для соцыялістычнай пераробкі ўсёй народнай гаспадаркі. Стварэнне магутнага сельскагаспадарчага машынабудаўніцтва. Машынізацыя сельскай гаспадаркі (трактар, камбайні і інш.). Забяспечанне большэвіцкай партыяй вырашэння складанейшай задачы соцыялістычнай рэволюцыі—пераводу сельскай гаспадаркі на шлях соцыялізма. Пераўтварэнне СССР у краіну самага буйнага ў свеце соцыялістычнага земляробства. Міжнароднае значэнне перамогі першай пяцігодкі.

Студзеньскі пленум ЦК і ЦКК (1933 г.) аб задачах партыі ў першым годзе другой пяцігодкі. Сталін аб неабходнасці дапоўніць пафас будаўніцтва пафасам асваення. Сталін аб тэмпах развіцця прамысловасці ў другой пяцігодцы.

Поспехі будаўніцтва соцыялізма ў СССР, абвастрэнне класавай барацьбы з боку рэштак капіталістычных класаў унутры краіны. Прыход да ўлады фашызма ў Германіі. Арганізацыя падпольных трацкісцкіх і зіноўеўскіх контррэволюцыйных тэрарыстычных, шпіёнскіх, шкодніцкіх цэнтраў, дзеючых па заданню фашысцкіх разведак.

Разгортванне соцыялістычнага наступлення і абвастрэнне супраціўлення класавага ворага. Кулацкі сабатаж у вёсцы.

Сталін аб недахопах работы вясковых партарганізацый і вясковых комуністаў. Стварэнне палітаддзелаў у сельскай гаспадарцы. Першы з'езд калгаснікаў-ударнікаў (люты 1933 г.). Сталінскі лозунг—«Зрабіць калгасы большэвіцкімі і ўсіх калгаснікаў заможнымі». Разгром кулацкага сабатажу, карэнны пералом у рабоце калгасаў. Разгром контррэволюцыйных нацыяналістычных груповак на Украіне, у Беларусі і т. д. Барацьба за ўмацаванне радоў большэвіцкай партыі. Чыстка партыі (1933—1934 гг.).

XVII з'езд партыі большэвікоў—з'езд пераможцаў (26 студзеня—10 лютага 1934 г. Поспехі соцыялістычнага будаўніцтва к XVII з'езду. Даклад Сталіна на XVII з'ездзе—большэвіцкая праграма работы партыі ў другой пяцігодцы. Даклады тт. Молатава і Куйбышэва аб другой пяцігодцы. XVII з'езд аб асноўнай гаспадарчай і палітычнай задачы другой пяцігодкі.

Арганізацыйнае пытанне на XVII з'ездзе партыі. Даклад тав. Кагановіча. XVII з'езд аб неабходнасці «падняць арганізацыйнае кіраўніцтва да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва». Стварэнне Камісіі партыйнага кантроля і Камісіі совецкага кантроля. Новы статут партыі. Сталін аб галоўнай небяспецы ў галіне агульнай палітыкі і ў нацыянальным пытанні.

Магутны разварот соцыялістычнай прамысловасці. Барацьба партыі за палепшанне работы транспарту. Разгортванне совецкага гандлю. Разгортванне руху ўдарнікаў і выдатнікаў у прамысловасці і ў

сельскай гаспадарцы. Палепшанне матэрыяльнага становішча працоўных.

Лістападаўскі пленум ЦК 1934 г. Адмена картачнай сістэмы снабжэння. Рашэнне аб пераўтварэнні палітаддзелаў МТС у звычайныя парторганы.

Злачынскае забойства фашысцкай трацкісцка-зіноўеўскай бандай кіраўніка ленінградскіх рабочых сакратара ЦК ВКП(б) С. М. Кірава.

Барацьба партыі за прывядзенне ў парадак партыйнай гаспадаркі. Праверка партыйных дакументаў і выгнанне з партыі двурушнікаў, трацкістаў і прысасаўшыхся к партыі жулікаў—скрытых ворагаў партыі. Барацьба партыі за павышэнне большэвіцкай пільнасці на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва.

Згуртаванне працоўных мас вакол большэвіцкай партыі і правадыра народаў Совецкага Саюза і працоўных ўсяго свету—таварыша Сталіна.

# Тэма XII

### Партыя большэвікоў у барацьбе за завяршэнне будаўніцтва соцыялістычнага грамадства і правядзенне новай Канстытуцыі (1935—1937 г г.)

## БАРАЦЬБА ПАРТЫІ ЗА ЗАВЯРШЭННЕ БУДАЎНІЦТВА СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА ГРАМАДСТВА

Магутны ўздым прамысловасці. Ліквідацыя адставання транспарту. Роля тав. Кагановіча ў барацьбе за ўздым транспарту. Барацьба партыі за рэнтабельнасць цяжкай індустрыі. Умацаванне абароназдольнасці Совецкага Саюза, умацаванне магутнасці Чырвонай Арміі. Рост рабочага класа. Рост матэрыяльнага дабрабыту працоўных. Барацьба партыі за большэвіцкія калгасы і за заможнае жыццё калгаснікаў. II Усесаюзны з'езд калгаснікаў-ударнікаў (люты 1935 г.). Прыняцце Сталінскага статута калгаснага жыцця.

Пастанова пленума ЦК ВКП(б) (люты 1935 г.) аб унясенні ад імя ЦК ВКП(б) на Ўсесаюзны з'езд Советаў прапановы аб змяненні Канстытуцыі СССР. Утварэнне Канстытуцыйнай камісіі на чале з таварышом Сталіным.

Сталінскі лозунг «Кадры вырашаюць усё» (май 1935 г.). Сталін аб ўзмацненні ўвагі да чалавека—працоўнага грамадзяніна краіны Советаў. «З усіх каштоўных капіталаў, якія ёсць у свеце, самым каштоўным і самым рашаючым капіталам з'яўляюцца людзі, кадры» **(Сталін).**

VII кангрэс Комінтэрна (жнівень 1935 г.) аб канчатковай і беспаваротнай перамозе соцыялізма ў СССР. Барацьба большэвіцкай партыі за рэалізацыю ўказанняў Сталіна аб кадрах і аўладанні тэхнікай. Уздым творчай ініцыятывы мас. Стаханаўскі рух—новы, вышэйшы этап соцыялістычнага спаборніцтва і барацьбы за высокую прадукцыйнасць працы. I Усесаюзная нарада, рабочых і работніц-стаханаўцаў (лістапад 1935 г.). Лозунг Сталіна аб уздыме культурна-тэхнічнага ўзроўню рабочага класа да ўзроўню работнікаў інжынерна-тэхнічнай працы.

Снежаньскі пленум ЦК ВКП(б) 1935 г. Рашэнне пленума па пытаннях стаханаўскага руху. Перамога соцыялізма ў нацыянальных рэспубліках. Развіццё нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па

зместу культуры ў нацыянальных рэспубліках. Паспяховае выкананне другой пяцігодкі. Датэрміновае выкананне другога пяцігадовага плана прамысловасці і чыгуначнага транспарту. Поўная перамога калгаснага ладу.

Нарада камбайнераў і камбайнерак, трактарыстаў, ударнікаў і ўдарніц бурачных палёў, работнікаў жывёлагадоўлі, ударнікаў і перадавых людзей нацыянальных рэспублік, совецкіх жанчын—довад перамогі соцыялізма ў СССР, згуртавання шырокіх мас працоўных вакол партыі большэвікоў і вялікага правадыра народаў СССР і працоўных ўсяго свету—таварыша Сталіна.

## ПРЫНЯЦЦЕ СТАЛІНСКАЙ КАНСТЫТУЦЫІ. БАРАЦЬБА ПАРТЫІ ЗА ПРАВЯДЗЕННЕ НОВАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ КАНСТЫТУЦЫІ

Апублікаванне і ўсенароднае абмеркаванне праекта Сталінскай Канстытуцыі соцыялістычнай дзяржавы рабочых і сялян (чэрвень 1936 г.).

Выкрыццё банды трацкістаў—германа-японскіх шпіёнаў, дыверсантаў, шкоднікаў, тэрарыстаў (суд над Каменевым, Зіноўевым і інш. ў жніўні 1936 года; суд над удзельнікамі антысовецкага трацкісцкага цэнтра—Пятаковым і інш.—у студзені 1937 г.). Выкрыццё правых контррэволюцыянераў. Выключэнне з партыі Бухарына і Рыкава (люты 1937 г.).

Далейшая барацьба большэвіцкай партыі за ўмацаванне сваіх радоў, за павышэнне большэвіцкай пільнасці, за падаўленне і знішчэнне ўсіх ворагаў соцыялізма.

Пастанова ЦК ВКП(б) ад 29 верасня 1936 г. аб аднаўленні прыёму новых членаў у ВКП(б).

Надзвычайны VIII з'езд Советаў СССР (лістапад—снежань 1936 г.). Даклад Сталіна аб праекце новай Канстытуцыі. «Наша совецкае грамадства дабілася таго, што яно ўжо ажыццявіла ў асноўным соцыялізм, стварыла соцыялістычны лад, г. зн. ажыццявіла тое, што ў марксістаў называецца інакш першай або ніжэйшай фазай комунізма» **(Сталін). Сталін** аб канцы нэпа. Зацверджанне соцыялістычнай уласнасці ў яе двух формах: дзяржаўнай (усенародны набытак) і кааператыўна-калгаснай у якасці непахіснай асновы совецкага ладу. Знішчэнне эксплаататарскіх класаў і класавай эксплаатацыі. Росквіт у Совецкім Саюзе самага поўнага і самага паслядоўнага ў свеце соцыялістычнага совецкага дэмакратызма. Умацаванне і расшырэнне базы дыктатуры рабочага класа СССР. Аднагалоснае зацверджанне і прыняцце Надзвычайным VIII з'ездам Советаў СССР Сталінскай Канстытуцыі соцыялістычнай дзяржавы рабочых і сялян.

Пленум ЦК ВКП(б) (люты 1937 г.). Даклад таварыша Сталіна на Пленуме ЦК ВКП(б) «Аб недахопах партыйнай работы і мерах ліквідацыі трацкісцкіх і іншых двурушнікаў». Сталін аб значэнні абстаноўкі капіталістычнага акружэння для СССР. Патрабаванне ліквідацыі ратазейства, благадушша, «ідыёцкай хваробы» бяспечнасці і палітычнай блізарукасці, якая з'яўляецца прычынай недахопаў нашай гаспадарчай і партыйнай работы. Сталін аб задачах партыі на сучасным этапе.

Даклад тав. Жданава: «Падрыхтоўка партыйных арганізацый да выбараў у Вярхоўны Совет СССР па новай выбарчай сістэме і адпаведная перабудова партыйна-палітычнай работы». Разгортванне ўнутрыпартыйнай дэмакратыі і большэвіцкай самакрытыкі. Увядзенне закрытых (тайных) выбараў партыйных органаў. Разгортванне барацьбы за палітычнае выхаванне партыйных кадраў. Лозунг Сталіна аб аўладанні большэвізмам.

Сусветна-гістарычнае значэнне вялікіх перамог партыі большэвікоў, партыі Леніна—Сталіна.

---

# ПРЫКЛАДНЫ ВУЧЭБНЫ ПЛАН ДЛЯ ГУРТКА ПА ГІСТОРЫІ ВКП(б)

| №№ п/п | Назва перыядаў | Колькасць заняткаў на кожную тэму |
|---|---|---|
| I | Барацьба за стварэнне марксісцкай, соцыял-дэмакратычнай партыі ў Расіі (ад утварэння Плеханаўскай „Групы вызвалення працы"—1883 г. да з'яўлення першых нумароў „Искры"— 1900 — 1901 гг.) . . . . . . . . . . . | 2 |
| II | Утварэнне Расійскай Соцыял-Дэмакратычнай Рабочай Партыі і з'яўленне ўнутры партыі фракцый большэвікоў і меншавікоў (1901—1904 гг.) . . . . . . . . . . . . | 2 |
| III | Меншавікі і большэвікі ў перыяд руска-японскай вайны і першай рускай рэволюцыі (1904—1907 гг.) . . . . . | 4 |
| IV | Меншавікі і большэвікі ў перыяд Сталыпінскай рэакцыі і афармленне большэвікоў у самастойную Соцыял-Дэмакратычную Рабочую Партыю (1908—1912 гг.) . . . . . | 2 |
| V | Партыя большэвікоў у гады ўздыму рабочага руху перад першай імперыялістычнай вайной (1912—1914 гг.) . . . | 1 |
| VI | Партыя большэвікоў у перыяд імперыялістычнай вайны і другой рускай лютаўскай рэволюцыі (1914—сакавік 1917 гг.) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 2 |
| VII | Партыя большэвікоў у перыяд падрыхтоўкі і правядзення Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі (красавік 1917—1918 гг.) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 4 |
| VIII | Партыя большэвікоў у перыяд грамадзянскай вайны (1918—1920 гг.) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 3 |
| IX | Партыя большэвікоў у перыяд пераходу на мірную работу па аднаўленню народнай гаспадаркі (1921—1925 гг.) . . | 5 |
| X | Партыя большэвікоў у барацьбе за соцыялістычную індустрыялізацыю краіны (1926—1929 гг.) . . . . . . . . . | 3 |
| XI | Партыя большэвікоў у барацьбе за калектывізацыю сельскай гаспадаркі (1930—1934 гг.) . . . . . . . . . . . . | 3 |
| XII | Партыя большэвікоў у барацьбе за завяршэнне будаўніцтва соцыялістычнага грамадства і правядзенне новай Канстытуцыі (1935—1937 гг.) . . . . . . . . . . . . . . . . | 4 |
| | Разам . . . . . . . . . . . . . . . . | 35 |

# Інструкцыя аб членскіх узносах членаў і кандыдатаў партыі

*(Зацверджана ЦК ВКП(б) 29 красавіка 1937 г.)*

## І. Аб размерах членскіх узносаў

1. У адпаведнасці з параграфам 62-м статута партыі штомесячныя членскія ўзносы для членаў партыі і кандыдатаў устанаўліваюцца ў наступным размеры:

Атрымліваючыя зарплату

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | да 100 | р. плацяць | — р. | 20 к. | | |
| ад 101 р. | „ | 150 | „ | „ | — „ | 60 „ | |
| „ 151 „ | „ | 200 | „ | „ | 1 „ | — „ | |
| „ 201 „ | „ | 250 | „ | „ | 1 „ | 50 „ | |
| „ 251 „ | „ | 300 | „ | „ | 2 „ | — „ | |
| звыш 300 „ | „ | 500 | „ | „ | 2 % | | заработку |
| „ 500 | | | | „ | 3 % | | заработку |

2. Пры прыёме членскіх узносаў павінна ўлічвацца як асноўная зарплата комуніста, так і ўвесь яго дадатковы заработак (работа па сумяшчэнню, звыштэрміновая работа, літаратурны ганарар, лекцыйная, педагагічная і т. п. работа, надбаўкі да зарплаты за выслугу год, надбаўка да зарплаты комуністаў, якія працуюць у аддаленых мясцовасцях Саюза).

Да заработку членаў і кандыдатаў партыі не павінны прылічвацца атрымліваемыя комуністамі ўзнагароды, адначасовыя прэміі, дапамогі і выйгрышы па аблігацыях дзяржаўных пазык.

Ніякія другія адлічэнні ў партыйную касу з заработкаў членаў і кандыдатаў партыі, акрамя ўстаноўленых гэтай інструкцыяй членскіх узносаў, не павінны вытварацца.

3. Комуністы—навуковыя работнікі, пісьменнікі, архітэктары, вынаходцы і работнікі мастацтва (мастакі, скульптары, артысты, кіноработнікі) уплачваюць членскія ўзносы ў агульным парадку, г. зн. у адпаведнасці з пунктам 1-м і 2-м гэтай інструкцыі.

Комуністы-калгаснікі, якія атрымліваюць аплату за выпрацоўваемыя працадні грашмі і натурай, уплачваюць штомесячна членскія ўзносы ў размеры 50 кап.

Комуністы-калгаснікі, якія атрымліваюць, акрамя аплаты за пра-

цадні, заработную плату (старшыні калгасаў, бухгалтары-рахункаводы, аграномы, зоатэхнікі, трактарысты, камбайнеры, занятыя адыходным промыслам і інш.), дадаткова да 50 кап. уплачваюць членскія ўзносы з грашовай зарплаты ў адпаведнасці з пунктам 1-м і 2-м гэтай інструкцыі.

Комуністы—калгаснікі, члены промарцелей, якія атрымліваюць, акрамя аплаты за працадні, грашовую аплату за выпрацоўваемую і здаваемую прадукцыю, дадаткова да 50 кап. уплачваюць членскія ўзносы з разліку сярэдняга штомесячнага заработку, у адпаведнасці з пунктам 1-м і 2-м гэтай інструкцыі.

Комуністы—члены саматужна-прамысловых арцелей, якія атрымліваюць зарплату толькі грашмі, а не натурай, уносяць членскія ўзносы па фактычнаму заработку ў агульным парадку, г. зн. у адпаведнасці з пунктам 1-м і 2-м гэтай інструкцыі.

Чырвонаармейцы штомесячныя членскія ўзносы плацяць ў размеры 10 капеек і малодшыя камандзіры срочнай службы ў размеры 20 кап.

Навучаючыяся, пенсіянеры, часова непрацаздольныя, якія атрымліваюць дапамогі па соцстраху або кааперацыйнаму страхаванню, плацяць членскія ўзносы на агульных падставах у залежнасці ад памераў атрымліваемай стыпендыі, пенсіі, дапамогі і іншых пабочных заработкаў (гл. пункт 1-ы гэтай інструкцыі).

Хатнія гаспадыні штомесячныя членскія ўзносы плацяць у размеры 20 кап.

4. Уступныя ўзносы, у адпаведнасці з § 63 статута партыі, узымаюцца пры ўступленні ў кандыдаты партыі ў размеры 2 проц. атрымліваемай заработнай платы.

Калгаснікі, якія не атрымліваюць ніякай зарплаты, акрамя аплаты за выпрацаваныя працадні, уступаючы кандыдатамі ў члены ВКП(б), уплачваюць уступныя ўзносы ў размеры 1 рубля.

Чырвонаармейцы і малодшыя камандзіры срочнай службы, уступаючыя кандыдатамі ў члены ВКП(б), уплачваюць уступныя ўзносы ў размеры 50 кап.

Хатнія гаспадыні, уступаючыя кандыдатамі ў члены ВКП(б), уплачваюць уступныя ўзносы ў размеры 50 кап.

Уступныя ўзносы прымаюць асабіста сакратар райкома, гаркома ВКП(б) або начальнік палітаддзела, які выдае прынятаму ў партыю партыйныя дакументы.

## II. Аб парадку прыёму членскіх узносаў

5. Кожны член і кандыдат партыі асабіста ўносіць членскія ўзносы ў партыйны камітэт або парторгу пярвічнай партарганізацыі (кандыдацкай групы, партыйна-комсамольскай групы), на ўчоце ў каторай ён састаіць, і прыём узносаў вытвараецца асабіста сакратаром парткома (парторгам).

Члены і кандыдаты партыі, выбыўшыя часова з партарганізацыі на кароткатэрміновыя курсы, у службовую камандзіроўку і т. п., уплачваюць членскія ўзносы ў той пярвічнай партарганізацыі, дзе яны састаяць на часовым учоце.

Сакратары парткомаў і парторгі не маюць права прымаць членскія ўзносы ад новапрыбыўшых у арганізацыю комуністаў да прыняцця іх на сталы або часовы ўчот у райкоме ВКП(б).

У буйных пярвічных партарганізацыях з колькасцю комуністаў звыш 100 чалавек прыём членскіх узносаў можа быць дазволен парторгам цэхавых, участковых, факультэцкіх і т. п. партыйных арганізацый, у кожным паасобным выпадку асобай пастановай райкома, гаркома партыі.

Комуністы-адзіночкі ўплачваюць членскія ўзносы непасрэдна ў раённы, гарадскі камітэт партыі. Прыём узносаў у гэтых выпадках вытвараецца работнікамі райкома, гаркома партыі як па месцу работы комуніста, так і ў райкоме, гаркоме партыі.

6. Сакратар парткома (цэхпарткома), парторг пярвічнай партарганізацыі (кандыдацкай групы, партыйна-комсамольскай групы) пры прыёме членскіх узносаў абавязан у партбілеце або кандыдацкай картачцы членаў і кандыдатаў партыі ставіць штамп аб уплаце членскіх узносаў, свой подпіс і запісаць атрыманыя з кожнага члена і кандыдата ВКП(б) членскія ўзносы ў ведамасць уплаты членскіх узносаў (форма № 1).

Форма штампа для адзнакі аб уплаце членскіх узносаў устанаўляецца райкомам, гаркомам партыі, і штамп гэты павінен мець нумар пярвічнай партарганізацыі, прысвоены ёй адпаведна з інструкцыяй аб уліку членаў і кандыдатаў партыі.

7. У ведамасць уплаты членскіх узносаў перад пачаткам справаздачнага месяца заносяцца (па алфавіту) усе члены і кандыдаты партыі, якія састаяць на ўчоце данай партарганізацыі, з указаннем апошняга месяца, за які былі ўплачаны членскія ўзносы кожным комуністам. Наступныя графы запаўняюцца пры прыёме членскіх узносаў.

У адносінах членаў і кандыдатаў партыі, якія чаму-небудзь не ўплацілі ўзносаў у справаздачным месяцы, робіцца сакратаром парткома (парторгам) адпаведная адзнака з указаннем, за якія месяцы (акрамя справаздачнага) і ў якой суме асталася запазычанасць.

## III. Хаванне, здача і справаздачнасць за членскія ўзносы

8. Сакратары партыйных камітэтаў (цэхпарткомаў), парторгі пярвічных партарганізацый (кандыдацкіх і партыйна-комсамольскіх груп) паступіўшыя членскія ўзносы павінны поўнасцю здаваць не радзей аднаго разу ў дэкаду, разам з заявай (форма № 2), у бліжэйшае аддзяленне ашчадкасы аб пералічэнні ў дзяржбанк на бягучы рахунак абкома, крайкома, ЦК нацкомпартыі.

Сакратары парткомаў і парторгі сельскіх пярвічных партарганізацый (кандыдацкіх груп) здаюць сабраныя членскія ўзносы адзін раз у месяц у бліжэйшае аддзяленне ашчадкасы.

Ведамасць уплаты членскіх узносаў і дакументы аб узносе грошай у ашчадкасу застаюцца і захоўваюцца ў парткоме пярвічнай партарганізацыі або ў райкоме партыі.

Ведамасці аб уплаце членскіх узносаў цэхпарторгі абавязаны здаваць сакратару парткома не пазней 5-га чысла наступнага месяца разам з дакументамі аб здачы сабраных грошай у ашчадкасы.

У канцы кожнага справаздачнага месяца сакратары парткомаў, парторгі пярвічных партарганізацый складаюць зводную справаздачу (форма № 3) аб паступленні членскіх узносаў за мінулы справа-

здачны месяц і прадстаўляюць яго ў райком, гарком партыі не пазней 10-га чысла наступнага за справаздачным месяца.

Увага: а) У раёнах крайняй поўначы і іншых раёнах, дзе з прычыны дрэннай сувязі цяжка выконваць патрабаванне, паданае ў § 8, парадак і тэрміны здачы сабраных членскіх узносаў у пярвічных партарганізацыях вызначаюцца абкомамі, крайкомамі, ЦК нацкомпартый. б) Парторгі цэхавых, факультэцкіх, участковых і т. п. партарганізацый сабраныя членскія ўзносы не радзей аднаго разу ў дэкаду здаюць сакратару парткома або па рашэнню партыйнага камітэта непасрэдна ў ашчадкасы.

9. Райкомы, гаркомы партыі на падставе штомесячных справаздач пярвічных партарганізацый аб паступленні членскіх узносаў складаюць зводную справаздачу аб паступленні членскіх узносаў за мінулы месяц па раённай, гарадской партарганізацыі ў цэлым (форма № 3) і прадстаўляюць яго ў абком, крайком, ЦК нацкомпартый не пазней 15-га чысла наступнага за справаздачным месяца. Пры гэтым, акрамя звестак, атрыманых ад пярвічных партарганізацый, указваецца сума членскіх узносаў, якая паступіла на бягучы рахунак у раённае, гарадское аддзяленне Дзяржбанка ад ашчадных кас.

У райкомах, гаркомах партыі на кожную пярвічную партарганізацыю паасобку вядуцца картачкі ўліку ўплаты членскіх узносаў (форма № 4), якія рэгулярна, па сканчэнні кожнага месяца, запаўняюцца на падставе справаздач пярвічных партарганізацый аб паступленні членскіх узносаў.

## IV. Кіраўніцтва справай прыёму членскіх узносаў

10. Абкомы, крайкомы і ЦК нацкомпартый на падставе атрымліваемых справаздач райкомаў і гаркомаў партыі вядуць у сябе ўлік паступлення членскіх партузносаў (форма № 4) па кожнай раённай, гарадской партарганізацыі паасобку, звяраюць справаздачы райкомаў, гаркомаў з сумамі членскіх узносаў, паступіўшых на бягучы рахунак партыйнага бюджэта, складаюць зводную справаздачу па ўсёй абласной, краявой партарганізацыі і не пазней 20-га чысла наступнага за справаздачным месяца прадстаўляюць яго ў ЦК ВКП(б).

Абкомы, крайкомы, ЦК нацкомпартый абавязаны заслухоўваць справаздачы паасобных райкомаў, гаркомаў партыі аб іх рабоце па кіраўніцтву справай прыёму членскіх узносаў і не радзей аднаго разу ў поўгоддзе разглядваць справаздачу заг. фінгассектарам аб становішчы збору членскіх узносаў па вобласці, краю, рэспубліцы.

11. Райкомы, гаркомы партыі абавязаны сачыць за своечасовай уплатай членскіх узносаў комуністамі, своечасовай здачай пярвічнымі партарганізацыямі сабраных сум партузносаў у ашчадкасу і аказваць дапамогу пярвічным партарганізацыям у правільнай арганізацыі справы прыёму членскіх узносаў.

Вынікі паступлення членскіх узносаў не радзей аднаго разу ў тры месяцы павінны разглядацца і зацвярджацца ў пярвічных партарганізацыях партыйнымі камітэтамі, у партарганізацыях (кандыдацкіх групах), дзе няма парткомаў,—на агульных партыйных сходах, а ў раённых гарадскіх партарганізацыях—райкомамі, гаркомамі партыі.

12. Рэвізійныя камісіі раённыя, гарадскія, абласныя, краявыя і нацкомпартый абавязаны не радзей аднаго разу ў квартал правяраць

правільнасць узымання членскіх узносаў з членаў і кандыдатаў партыі, своечасовасць пералічэнняў у партыйную касу сабраных членскіх узносаў і правільнасць прадстаўлення справаздачнасці аб паступленні членскіх узносаў.

Акты рэвізійных камісій абавязкова павінны абмяркоўвацца райкомамі, гаркомамі, абкомамі, крайкомамі і ЦК нацкомпартый і пасля іх абмеркавання разам з рашэннем адпаведнага камітэта ВКП(б) павінны пасылацца ў вышэйстаячы партыйны камітэт.

Акты рэвізійных камісій абласных, краявых і рэспубліканскіх партарганізацый павінны прадстаўляцца ў Цэнтральную Рэвізійную Камісію.

---

*Форма № I.*

## ВЕДАМАСЦЬ

**уплаты членскіх узносаў, паступіўшых у.................... месяцы 193 г.**

ад членаў і кандыдатаў партыі па..........................................................
(назва арганізацыі)

| №№ па парадку | Прозвішча і ініцыялы | №№ партдакументаў | За які апошні месяц уплачаны ўзносы | За якія месяцы плаціцца ўзносы | Агульны заработак за месяц | Сума ўзносу | Запазычанасць па членскіх узносах на апошні дзень справаздачнага месяца | | | Распіска ва ўплаце членскіх узносаў, або адзнака аб хваробе, камандзіроўцы, выбыцці з партарганізацыі і т. п. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | За якія месяцы | Сума | | |
| | | | | | | | | Руб. | к. | |
| 1 | Іваноў І. І. . . | 0000000 | Чэрвень | Ліпень | 345— | 6.90 | — | — | — | Асабісты подпіс |
| 2 | Петроў П. П. . | 0000000 | Май | Чэрвень | 700— | 21.00 | — | — | — | Асабісты подпіс |
| | | | | Ліпень | 760— | 22.80 | — | — | — | |
| 3 | Сідараў С. С. . | 0000000 | Май | Чэрвень | 250— | 2.— | Ліпень | 2 | — | Асабісты подпіс |
| 4 | Цімафееў П. І. | 0000000 | Чэрвень | — | — | — | Ліпень | 5 | — | Укамандзіроўцы |
| 5 | Філіпаў А. Б. | 0000000 | Чэрвень | — | — | — | — | — | — | Знят з учоту |
| | Разам . . | — | — | — | 2055 | 52.70 | — | 7 | — | |

**Сакратар парткома**
**або парторг** *(подпіс)*

*Форма № 2.*

## ЗАЯВА

**У ашчадкасу №** ..........................................................
(назва раёна, горада)

**ад сакратара (парторга)** ..........................................................
(назва партарганізацыі)

..........................................................
(прозвішча, імя і па бацьку)

**Прашу прыняць для пералічэння ў Дзяржбанк на асобы бягучы рахунак**..........................................................

..........................................................
(назва ЦК нацкомпартыі, крайкома, абкома)

**членскія ўзносы, сабраныя ў**.................... **м-цы 193**...... **г. у суме**..........

.......................................................... **руб.**........ **кап.**
(пропісам)

„........“ .................... **мес. 193**...... **г.** *(подпіс)*

## АДЗНАКА АШЧАДКАСЫ

**Прынята ашчадкасай №**.............. **сума**.................... **руб.**.......... **кап.**

..........................................................
(пропісам)

**Кантралёр** *(подпіс)*
**Касір** *(подпіс)*

**Штамп ашчадкасы.**

Увага. Даная заява з адзнакай ашчадкасы ў атрыманні грошай прыкладваецца да ведамасці форма № 1 за адпаведны месяц.

*Форма № 3.*

## ЗВОДНАЯ СПРАВАЗДАЧА

**аб паступіўшых членскіх узносах у ........................................ м-цы 193....... г.**
**па ........................................................ вобласці, краю, рэспубліцы**
(назва партарганізацыі)

1. Састаяла ў арганізацыі членаў і кандыдатаў к пачатку справаздачнага месяца . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . ..........
2. Колькасць членаў і кандыдатаў, заплаціўшых узносы ў справаздачным месяцы . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . ..........
3. Агульная сума паступіўшых членскіх узносаў . . . . . . . . . . ..........
4. Здана ў ашчадкасу . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . ..........
5. Сума ўзносаў, паступіўшых на бягучы рахунак у Дзяржбанк . . . ..........
6. Састаіць у арганізацыі членаў і кандыдатаў к канцу справаздачнага месяца . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . ..........
7. З іх не ўплацілі членскіх узносаў:
   а) за 1 месяц . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . ..........
   б) за 2 месяцы . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . ..........
   в) за 3 месяцы і больш . . . . . . . . . . . . . . . . ..........
8. Сума запазычанасці членскіх узносаў . . . . . . . . . . . . . . . ..........

М. П. „..........“ ..............................

**Сакратар** *(подпіс)*

Увага. Зводная справаздача прадстаўляецца:
1. Парткомамі пярвічных партарганізацый у райком, гарком к 10 числу наступнага за справаздачным месяца.
2. Райкомамі, гаркомамі ў акружкомы, абкомы, крайкомы і ЦК нацкомпартый к 15 числу наступнага за справаздачным месяца.
3. Абкомамі, крайкомамі і ЦК нацкомпартый у ВКП(б) к 20 числу наступнага за справаздачным месяца.

---

*Форма № 4.*

## КАРТАЧКА ЎЧОТУ ЎПЛАТЫ ЧЛЕНСКІХ УЗНОСАЎ

**па ........................................................ на 193....... г.**
(назва партарганізацыі)

| МЕСЯЦЫ | Дата прадстаўлення справаздачы | Састаяла ў арганізац. членаў і кандыдат. к пачатку месяца | Паступленне ўзносаў за месяц: Членаў і кандыдат. уплац. узносы | Агульная сума паступлення ўзносаў | Сума пералічаных узносаў у ашчадкасу | Сума узносаў, паступ. на бяг. рах. Дзяржбанка | Састаіць у арган. членаў і кандыдат. к канцу месяца | З іх неўплаціўшых узносы: За 1 месяц | За 2 месяцы | За 3 месяцы | Прыкладная сума запазычанасці |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| Студзень . . | | | | | | | | | | | |
| Люты . . . | | | | | | | | | | | |
| Сакавік . . | | | | | | | | | | | |
| Красавік. . | | | | | | | | | | | |
| Май . . . . | | | | | | | | | | | |
| Чэрвень . . | | | | | | | | | | | |
| Ліпень. . . | | | | | | | | | | | |
| Жнівень . . | | | | | | | | | | | |
| Верасень. . | | | | | | | | | | | |
| Кастрычнік | | | | | | | | | | | |
| Лістапад. . | | | | | | | | | | | |
| Снежань . . | | | | | | | | | | | |
| Разам. . | | | | | | | | | | | |

Увага. Учотныя картачкі вядуцца:
1) у парткомах на кожную цэхавую арганізацыю і зводная па парткому;
2) у райкомах, гаркомах на кожную пярвічную партарганізацыю і зводная па раёну;
3) у акружкомах, абкомах, крайкомах і ЦК нацкомпартый на кожны гарком, райком і зводная па акружной, абласной, краявой партарганізацыі.

# У Цэнтральным Камітэце ВКП(б)

## Аб наборы слухачоў у Вышэйшую школу прапагандыстаў імя Я. М. Свердлова пры ЦК ВКП(б)

Цэнтральны Камітэт ВКП(б) прыняў рашэнне аб новым наборы слухачоў у Вышэйшую школу прапагандыстаў імя Я. М. Свердлова пры ЦК ВКП(б), вызначыўшы кантынгент прыёму слухачоў на 1937/38 г. у 300 чалавек.

ЦК ВКП(б) прапанаваў сакратарам абкомаў, крайкомаў і ЦК нацкомпартый выдзеліць кандыдатаў у Вышэйшую школу прапагандыстаў імя Я. М. Свердлова пры ЦК ВКП(б) з ліку лепшых прапагандыстаў, загадчыкаў культпропамі райкомаў і гаркомаў, інструктароў абкомаў, крайкомаў і ЦК нацкомпартый, сакратароў буйных парткомаў і загадчыкаў парткабінетамі, з тым, каб да 1 чэрвеня 1937 г. прадставіць кандыдатаў у Аддзел партыйнай прапаганды і агітацыі ЦК ВКП(б).

Паступаючыя ў Вышэйшую школу прапагандыстаў імя Я. М. Свердлова пры ЦК ВКП(б) павінны быць не старэй 32 год, мець агульнаадукацыйную падрыхтоўку ў аб'ёме няпоўнай сярэдняй школы і агульнатэарэтычную ў аб'ёме ўстаноўленага спісу літаратуры. Партыйны стаж для паступаючых у Вышэйшую школу прапагандыстаў устаноўлен сямігадовы; пры наяўнасці не менш 3-х год актыўнай (кіруючай) комсамольскай работы, патрабаванні партстажу могуць быць зніжаны на адзін год.

Канчатковы адбор кандыдатаў для паступлення ў Вышэйшую школу прапагандыстаў імя Я. М. Свердлова пры ЦК ВКП(б), унасімых на зацверджанне ЦК ВКП(б), даручан Аддзелу партыйнай прапаганды і агітацыі ЦК ВКП(б).

Таварышы, дапушчаныя к прыёму ў школу, атрымліваюць дадатковы месячны водпуск з захаваннем па месцу работы зарплаты, якая ім належыць.

Слухачы Вышэйшай школы прапагандыстаў імя Я. М. Свердлова пры ЦК ВКП(б) забяспечваюцца інтэрнатам і стыпендыяй у размеры 550 руб. Сем'і слухачоў інтэрнатам не забяспечваюцца.

Заняткі ў Вышэйшай школе прапагандыстаў імя Я. М. Свердлова пры ЦК ВКП(б) пачынаюцца 1 верасня 1937 года.

ЦК ВКП(б) даручыў ЦК ВЛКСМ безадкладна прыступіць да новага набору слухачоў на комсамольскае аддзяленне Вышэйшай школы прапагандыстаў імя Я. М. Свердлова пры ЦК ВКП(б). Кантынгент прыёму на комсамольскае аддзяленне ўстаноўлен у 200 чалавек. Тэрмін навучання на комсамольскім аддзяленні ўстаноўлен у 15 месяцаў.

Умовы прыёму на комсамольскае аддзяленне захаваны ранейшыя: на комсамольскае аддзяленне прымаюцца члены і кандыдаты ВКП(б) з вопытам прапагандысцкай і кіруючай работы не менш 2-х год, маючыя агульную асвету ў аб'ёме сярэдняй школы і палітычную падрыхтоўку ў аб'ёме соўпартшколы або вячэрняга комвуза. Узрост прымаемых на комсамольскае аддзяленне не павінен перавышаць 30 год. У матэрыяльна-бытавых адносінах слухачы комсамольскага аддзялення прыраўноўваюцца да слухачоў Вышэйшай школы прапагандыстаў імя Я. М. Свердлова пры ЦК ВКП(б).

---

***Ад рэдакцыі.*** *Працяг артыкула А. Зюзькова „Беларускія нацдэмы—ворагі народу", змешчанага ў № 5 журнала „Большэвік Беларусі" за 1937 год, будзе надрукован у № 7 журнала.*

## Папраўка.

У змешчаным у № 3 журнала „Большэвік Беларусі" за 1937 год артыкуле А. Зюзькова трэба чытаць:

На стар. 80, другі радок чацвертага абзаца знізу: „...у ліпені 1919 года..."

На стар. 84, першы радок трэцяга абзаца зверху: „Тав. Орджанікідзе быў прызначан членам Рэўваенсовета XIV арміі".

Галоўлітбел 2524.
Тыраж 6.250 экз.
404.800 друк. зн. (7½ арк.)
Здана ў набор 13/VI 37 г.
Падпісана да друку 4/VII-37 г.

*Рэдкалегія*: Г. Рубінштэйн (адк. рэдактар), Л. Готфрыд, Н. Казюк

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 915.

ЦАНА 40 кап.




# УВАГА!

Рэдакцыя журнала „Большэвік Беларусі" даводзіць да ведама ўсіх падпісчыкаў, што на падставе пастановы Бюро ЦК КП(б)Б журнал „Большэвік Беларусі" з палітыка-эканамічнага штомесячніка рэарганізован у журнал партыйнага будаўніцтва. Акрамя агульнага аддзела, у якім асвятляюцца пытанні арганізацыйна-партыйнага будаўніцтва, партыйнай прапаганды, палітагітацыі і пытанні большэвіцкага друку,—у журнале, пачынаючы з № 3, уведзены аддзелы: „У дапамогу прапагандысту", „У дапамогу парторгу і сакратару парткома", „Жыццё мясцовых партарганізацый" і „У Цэнтральным Камітэце КП(б)Б".

У аддзелах журнала „Большэвік Беларусі": „У дапамогу прапагандысту", „У дапамогу парторгу і сакратару парткома" сістэматычна будуць давацца кансультацыі па пытаннях партыйнай прапаганды, палітагітацыі і арганізацыйна-партыйнага будаўніцтва, а ў астатніх двух аддзелах будзе асвятляцца жыццё мясцовых партарганізацый і паведамленні аб важнейшых рашэннях ЦК КП(б)Б па пытаннях партыйнага будаўніцтва і ўнутрыпартыйнага жыцця.

Назва журнала застаецца ранейшай—
„Большэвік Беларусі"

## УМОВЫ ПАДПІСКІ РАНЕЙШЫЯ

| | | |
|---|---|---|
| На 1 мес. | — | 40 кап. |
| „ 3 „ | — | 1 р. 20 „ |
| „ 6 „ | — | 2 „ 40 „ |
| „ 9 „ | — | 3 „ 60 „ |

## ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:

штомесячна ўсімі райбюро „Саюздруку", упаўнаважанымі па друку на прадпрыемствах, усюды на пошце і пісьманосцамі.